ББК 63.3(4 Беи)
З-11
УДК 947.6(082)

Навуковы рэдактар
кандыдат гістарычных навук
А. К. Краўцэвіч

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук М. В. Біч,
доктар гістарычных навук Г. В. Штыхаў

Укладальнік
кандыдат гістарычных навук В. У. Шаблюк

З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг.
З-11 зб. Вып. 2. Навук. рэд. А. К. Краўцэвіч; Уклад. В. У. Шаблюк. — Мн.: Беларуская навука, 1997.— 240 с.: іл.
ISBN 985-08-0044-5.

Зборнік знаёміць чытачоў з новымі даследаваннямі навукоўцаў па праблемах гісторыі, археалогіі, эканамічнага і культурнага жыцця Беларусі. Археалагічная частка зборніка прадстаўлена матэрыяламі з раскопак старажытных гарадоў, гарадзішчаў, пахавальных помнікаў, а таксама новымі звесткамі пра культавыя камяні. У гістарычнай частцы зборніка ўпершыню публікуюцца акты XVI ст. пра здзелкі на сялян, гісторыя населеных пунктаў Беларусі, разглядаюцца эканамічныя ўмовы фарміравання беларускай нацыі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. Друкуецца карта Вялікага княства Літоўскага 1613 г.

Прызначана спецыялістам, усім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі.

ББК 63.3(4Беи)

ISBN 985-08-0044-5

## АД УКЛАДАЛЬНІКА

Працэс гістарычнага пазнання бясконцы і таму тыя факты, якія ўчора нам здаваліся бясспрэчнымі, сёння могуць атрымаць новае асэнсаванне. Пошукі ў архівах і музеях, адкрыцці археолагаў, арыгінальныя навуковыя інтэрпрэтацыі дапамагаюць нам паступова запаўняць фактамі тыя лакуны, што яшчэ захаваліся ў айчыннай гісторыі.

Гістарычна-культуралагічны зборнік "З глыбі вякоў" (выпуск 2) працягвае серыю публікацый, прысвечаных мінуламу нашай Бацькаўшчыны. Ён аб'яднаў спецыялістаў розных гістарычных дысцыплін — археолагаў, музеязнаўцаў, гісторыкаў-медыявістаў, картографаў, краязнаўцаў. Большасць даследаванняў з'яўляецца вынікам шматгадовых навуковых пошукаў аўтараў. Храналагічны дыяпазон выдання дастаткова шырокі — ад X да XX ст.

Хочацца спадзявацца, што гэты зборнік не заляжыцца на паліцах кнігарняў і прыцягне да сябе ўвагу як прафесійных гісторыкаў, так і настаўнікаў, студэнтаў, вучняў, усіх, хто неабыякавы да гістарычнай памяці беларускага народа.

*Валерый Шаблюк*

# АРТЫКУЛЫ

*Людміла Хмяльніцкая (Віцебск)*

## ВІЦЕБСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ

Царкоўна-археалагічныя музеі, або старажытнасховішчы, сталі актыўна з'яўляцца на Беларусі ў 1890—1910-х гадах. Гэта былі епархіяльныя музеі духоўнага ведамства праваслаўнага веравызнання, якія ствараліся з мэтаю збірання і захавання галоўным чынам прадметаў мясцовай рэлігійнай даўніны. Такія музеі дзейнічалі ва ўсіх епархіяльных гарадах Беларусі: Віцебску, Магілёве, Гродне, Мінску, Вільні. Першае старажытнасховішча было адчынена ў 1893 г. у Віцебску.

З ініцыятывай яго стварэння выступіў інспектар народных вучылішчаў Віцебскай губерні вядомы этнограф Еўдакім Раманаў. Яшчэ ў чэрвені 1892 г. ён накіраваў спецыяльную запіску архіепіскапу Полацкаму і Віцебскаму Антаніну, у якой выказаў думку аб неабходнасці збірання па цэрквах епархіі помнікаў царкоўнай даўніны, якія ўжо не ўжываліся падчас набажэнстваў, аднак уяўлялі "не толькі мясцовы, але і агульны царкоўна-археалагічны інтарэс". Мелася на ўвазе старажытнае царкоўнае адзенне, начынне, абразы, старадрукі і рукапісныя кнігі, званы, старадаўнія планы ўжо не існуючых храмаў — усё тое, што, на думку Е. Раманава, заслугоўвала "руплівага захавання ад знішчэння часам і нявопытнасцю асобаў, бліжэйшаму назіранню якіх яны былі давераны" [6, с. 222].

Запіска Е. Раманава была ўхвалена архіепіскапам, які на чарговым сходзе Віцебскага Свята-Уладзімірскага брацтва прапанаваў размясціць новы музей у адным з пустых пакояў архірэйскага дома. Арганізацыяй старажытнасховішча апроч Е. Раманава даручана было заняцца выкладчыку гімназіі, вядомаму мясцоваму краязнаўцу

Аляксею Сапунову і свяшчэнніку Мікалаеўскага кафедральнага сабора айцу Васілю Гаворскаму.

Праблема захавання прадметаў старасветчыны, руплівых адносін да помнікаў даўніны ў тагачасным грамадстве стаяла дастаткова востра і пастаянна прыцягвала да сябе ўвагу мясцовай інтэлігенцыі. А. Сапуноў з роспаччу адзначаў у сваіх нататках: "Шмат дагістарычных і гістарычных помнікаў на Беларусі знішчана часам, нямала загінула і ад святататнай, злой волі, аднак больш за ўсё загінула іх у выніку крайняга раўнадушша і невуцтва" [3, арк. 5]. Неразуменне гістарычнай і мастацкай каштоўнасці старажытных актавых матэрыялаў, кніг, абразоў, роспісаў і г. д. часта можна было сустрэць і з боку святароў, у рукі якіх гэтыя рэчы траплялі. Так, у тых жа нататках А. Сапуноў узгадваў наступны выпадак, які адбыўся ў 50-х гадах XIX ст. Пасля выхаду загада Сінода аб дастаўленні звестак пра манастырскія архівы з падрабязным апісаннем усіх дакументаў, што захоўваліся ў іх, настаяцель аднаго з манастыроў, які з цяжкасцю разбіраў друкаваныя тэксты, вельмі засумаваў — у архіве манастыра захоўвалася вялізная скрыня, бітком набітая старажытнымі дакументамі. Ціхмяны ігумен нават захварэў і зачыніўся ў келлі. Было лета, аднак з коміна келлі настаяцеля ўвесь час ішоў дым, таму ў манастыры лічылі, што святара калоціць моцная ліхаманка. Праз два тыдні здаровы і павесялелы ігумен выйшаў з келлі і са спакойным сумленнем данёс у Свяцейшы Сінод, што ў яго манастыры ніякіх старажытных актаў няма. Гэта была чыстая праўда, бо ўсе старыя дакументы ён уласнаручна спаліў [3, арк. 13—14].

Выпадак гэты, на жаль, не быў адзіным і выпадковым. Напрыклад, ужо ў канцы 1890-х гадоў настаяцель Віцебскага Маркава манастыра архімандрыт Іларыён пачаў перабудову драўлянай манастырскай Троіцкай царквы — помніка архітэктуры XVII ст. У сваёй стараннасці ён змяніў форму галовак купалаў, знішчыў шатровыя ганкі, зменшыў вышыню акаляючай храм галерэі, разам са старым ходам на хоры знішчыў і старажытны роспіс на ім. Ігумен меў таксама намер зафарбаваць увесь роспіс, што пакрываў сцены царквы ад самай падлогі да верхніх

кропак купала, ды яго ў час стрымалі А. Сапуноў і Е. Раманаў. "Невуцтва і безгустоўнасць заўсёды ўпэўнены ў сваёй праваце, і што для іх указанні спецыялістаў",— з горыччу пісаў з гэтай нагоды віцебскі краязнаўца Пётра Красавіцкі [8, арк. 35—38].

Першыя экспанаты для Віцебскага старажытнасховішча Е. Раманаў і А. Сапуноў сабралі ў час наведвання віцебскіх гарадскіх цэркваў: Благавешчанскай, Іллінскай, Петрапаўлаўскай і цэркваў Маркава манастыра. На жаль, да таго часу большасць царкоўных сховішчаў ужо "пачысціў" ахвотнік даўніны мінскі памешчык Татур. Заручыўшыся падтрымкаю мясцовых уладаў, за кароткі тэрмін ён літаральна абрабаваў усе тутэйшыя цэрквы. Таму пры наведванні храмаў на свае запыты А. Сапунову і Е. Раманаву ў большасці выпадкаў даводзілася чуць: "Узяў Татур..." "Канечне, — пісаў пазней А. Сапуноў, — гэта магло здарыцца толькі ў выніку поўнай абыякавасці да мясцовай даўніны нашых уладаў" [2, арк. 25].

Адкрыццё Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея адбылося 2 верасня 1893 г. Размясціўся ён у адным з пакояў памерам 10,5×8,5 метра ў архірэйскім доме пры Мікалаеўскім кафедральным саборы (комплекс пабудоў былога езуіцкага калегіума). У верасні 1893 г. праект статута старажытнасховішча быў накіраваны архіепіскапам Антанінам на зацвярджэнне ў Сінод. Службовае перамяшчэнне ў Пскоў у чэрвені 1894 г. правялебнага Антаніна затрымала на пэўны час зацвярджэнне палажэння аб музеі. Загад Сінода з дазволам на адкрыццё Віцебскага старажытнасховішча і зацвярджэннем яго статута выйшаў толькі 27 кастрычніка 1895 г. [6, с. 222—224].

У студзені 1895 г. Е. Раманаў вымушаны быў выехаць з Віцебска на новае месца службы ў Гродзенскую губерню. Клопаты па збіранні экспанатаў для музея цалкам ляглі на плечы А. Сапунова. У хуткім часе яму ў дапамогу членамі камісіі па загадванні старажытнасховішчам былі абраны выкладчык духоўнай семінарыі Дзмітры Даўгяла і настаўнік Віцебскай мужчынскай гімназіі Мікалай Нікіфароўскі. Яны заняліся апісаннем ужо сабраных экспанатаў і складаннем каталога. У жніўні 1897 г. А. Сапуноў адмовіўся ад загадвання старажытнасховішчам, бо з

1 верасня быў прызначаны на новую пасаду — памочніка інспектара студэнтаў Маскоўскага універсітэта — і выехаў з Віцебска на часовае жыхарства ў Маскву. На месца А. Сапунова членам камісіі па загадванні музеем быў абраны настаўнік мужчынскай гімназіі Іван Сабін-Гус [13, с. 14]. З 1903 г. у склад камісіі ўваходзіў выкладчык духоўнай семінарыі Дзмітры Нікіфароўскі, а пасля яго з 5 лістапада 1904 г. — выкладчык той жа семінарыі Мікалай Багародскі [6, с. 222—224]. Свае абавязкі па загадванні музеем члены камісіі выконвалі бясплатна.

Старажытнасховішча мела трох ганаровых членаў, якія атрымалі гэтае званне "за асаблівую любоў да мясцовых старажытнасцей", — А. Сапунова, М. Нікіфароўскага і Е. Раманава.

А. Сапуноў атрымаў званне ганаровага члена Віцебскага старажытнасховішча 4 кастрычніка 1897 г. [15]. Гэта было праяўленне ўдзячнасці і адначасова прызнанне той ролі, якую краязнаўца адыграў у стварэнні музея. Яго асабісты ўклад у фарміраванне калекцый пачаўся першым уступным ахвяраваннем з некалькіх дзесяткаў прадметаў, сярод якіх былі старадаўняя пергаментная грамата, 22 фотаздымкі цэркваў Полацкай епархіі і іншыя рэчы [12, с. 657]. Дзякуючы намаганням А. Сапунова сховішча прыдбала калекцыю з 10 партрэтаў уніяцкіх архіепіскапаў і мітрапалітаў. Гэтыя партрэты, напісаныя алеем, некалі віселі ў сталовай зале Віцебскай духоўнай семінарыі, якая размяшчалася ў былых базыльянскіх мурах. Адным з правяраючых была зроблена заўвага семінарскаму кіраўніцтву, у выніку чаго партрэты перамясціліся ў бібліятэку. Наступнаму правяраючаму і гэта здалося недапушчальным, пасля чаго старыя палотны ўвогуле выкінулі ў пуню. Там іх і знайшоў А. Сапуноў, адабраў ацалелыя і перадаў у царкоўна-археалагічны музей [3, арк. 15—16; 14, с. 118]. Увогуле адмоўна ставячыся да уніі, краязнаўца бачыў у партрэтах уніяцкіх іерархаў перш за ўсё помнікі даўніны, якія трэба было ўратаваць і захаваць для нашчадкаў.

Адной з каштоўнасцей музея з'яўляліся рукапісы. Тут у асобнай скрыні захоўваўся архіў Полацкай духоўнай кансісторыі, разабраны А. Сапуновым з дапамогай

архіварыуса Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў Міхаіла Вяроўкіна і апісаны ім у асобнай брашуры [1]. Праўда, у нядбайных адносінах да царкоўнай даўніны можна было абвінавачваць не толькі тагачасныя свецкія ўлады: аднойчы кансісторыя запатрабавала дакументы архіва да сябе, а калі яны зноў былі вернуты ў музей, то вязкі з асобнымі справамі аказаліся папсаванымі, а дакументы пераблытанымі. "Каб зноў прывесці гэтыя дакументы ў парадак,— пісаў А. Сапуноў у 1913 г.,— спатрэбіцца шмат часу і працы, і зробіць гэта, канечне, не кансісторыя" [3, арк. 9].

Росквіт Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея прыпадае на першае дзесяцігоддзе яго існавання. У гэты час ён асабліва актыўна папаўняўся новымі матэрыяламі, чаму спрыялі афіцыйныя распараджэнні епархіяльных уладаў. Так, яшчэ ў кастрычніку 1893 г. епіскап Полацкі і Віцебскі звярнуўся да настаяцеляў усіх цэркваў Віцебска з прадпісаннем "Аб перадачы прадметаў, што не ўжываюцца падчас набажэнстваў і маюць царкоўна-археалагічную каштоўнасць, у Віцебскі царкоўна-археалагічны музей" [9, арк. 7]. Да таго ж члены камісіі па загадванні музеем самі актыўна праводзілі агляд маёмасці цэркваў і адбор экспанатаў як у самім Віцебску, так і за яго межамі. Напрыклад, у 1898 г. Дз. Даўгяла агледзеў 17 цэркваў Лепельскага павета, а М. Нікіфароўскі — 4 царквы і 3 капліцы ў Гарадоцкім павеце. Сумесна гэтыя краязнаўцы абследавалі тры храмы ў Віцебску, а таксама зрабілі апісанне Нікольскай царквы ў мястэчку Бешанковічы. Вынікі апошняй працы былі надрукаваны спачатку ў "Полоцких епархиальных ведомостях", а пазней — у выглядзе асобнай брашуры [10]. Абразы з былога іканастаса Нікольскай царквы былі перавезены ў музей.

З самага пачатку свайго існавання музей знаходзіўся ў падпарадкаванні Віцебскага епархіяльнага Свята-Уладзімірскага брацтва, са скарбонкі якога пакрываліся ўсе яго фінансавыя выдаткі. У кастрычніку 1897 г. пры Брацтве быў створаны асобны камітэт для царкоўна-гістарычнага і статыстычнага апісання цэркваў і прыходаў Полацкай епархіі. У склад камітэта ўвайшлі таксама

Дз. Даўгяла і М. Нікіфароўскі. Згодна з загадам кансісторыі, камітэт разаслаў ва ўсе цэрквы спецыяльныя анкеты, пытанні якіх тычыліся не толькі сучаснага стану храмаў, але і іх гісторыі, засяроджвалі ўвагу святароў на помніках мясцовай даўніны. К канцу 1899 г. камітэт меў ужо 278 апісанняў цэркваў, рэдагаваў іх і рыхтаваў да друку [15, с. 3]. На жаль, выдадзены яны так і не былі.

На пачатку XX ст. Віцебскі царкоўна-археалагічны музей атрымаў новыя экспазіцыйныя плошчы і размяшчаўся ў трох невялікіх пакоях над дамавой царквой архірэйскага дома, куды меўся асобны ўваход. Аднак актыўны збор экспанатаў у гэты час ужо перапыніўся. Адбылося гэта таму, што ў музеі аказалася сканцэнтраваным шмат уніяцкіх царкоўных рэчаў, з-за чаго ён хутка страціў гарачую падтрымку епархіяльнага кіраўніцтва і, па трапнай заўвазе П. Красавіцкага, з'яўляўся "толькі цярпімым у сілу аднойчы дапушчанай і ўжо невыпраўнай памылкі, злом... якое адымала лішняе памяшканне ў і без таго недастаткова прасторнага архірэйскага дома" [8, с. 55]. "Крамольная" тэндэнцыя збірання рэчаў уніяцкага ўжытку выразна выявілася ўжо ў першыя гады існавання музея. Колькасць уніяцкіх рэчаў тут у некалькі разоў перавышала колькасць прадметаў, што належалі праваслаўнай царкве. У кароткім апісанні збору старажытнасховішча за 1896 г. чытаем наступнае: "Святых абразоў на сценах — 5, складаных абразоў і абразоў на метале — 2, драўляных статуй і маляваных выяў, чужых праваслаўнай царкве, — 14" [12, с. 657]. У музеі захоўваўся нават "абраз Іасафата Кунцэвіча, маляваны алейнымі фарбамі на палатне" [11, с. 116]. Вядома ж, большасць абразоў XVII—XVIII стст., перавезеная з розных прыходскіх цэркваў у Віцебск, таксама была уніяцкай.

Як адзначалася ў справаздачы, у 1910 г. "старажытнасховішча ўзбагацілася вельмі невялікай колькасцю прадметаў... Музей мае патрэбу ў папаўненні начыннем: многія прадметы псуюцца таму, што няма належных вітрын" [18, с. 83]. Памяшканні музея ўзімку не ацяпляліся, для наведвальнікаў яго дзверы адчыняліся толькі на

адну гадзіну раз у тыдзень. За год музей наведвала каля 300 чалавек [17, с. 397—398].

П. Красавіцкі ў сваіх нататках за 1912 г. так апісваў заняпалы стан Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея: "Ідзяце Вы паглядзець сховішча даўніны Полацка-Віцебскага краю. Ужо самі дзверы, што вядуць з архірэйскага кветніка ў музей, больш падыходзячыя для чорнага хода на кухню, пакажуць Вам адразу, што гэтая ўстанова не належыць да ліку тых, што карыстаюцца павагай. Мінуўшы гэтыя дзверы, Вы трапляеце ў напаўцёмныя, халодныя і не асабліва чыстыя сені з лесвіцай на другі паверх. У сенях, на пляцоўцы лесвіцы і ўверсе перад уваходам у музей навалены нейкія скрыні. Вы даведваецеся, што гэта тавар брацкай лаўкі. У самім музеі абразы, статуі, вітрыны пакрыты пылам, як бы паглыбляючы ўражанне даўніны і нагадваючы "пыл стагоддзяў". У зімовы час у памяшканні музея страшэнная сцюжа... Наўрад ці хто зараз, бачачы сучасны стан музея, будзе ўскладаць спадзяванні на павелічэнне і росквіт гэтай установы ў будучым [8, с. 56—57].

Занядбанне Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея на пачатку XX ст. паспрыяла пэўнаму заняпаду так званай царкоўнай археалогіі як асобнага накірунку тагачаснага мясцовага краязнаўчага руху. Справа заключалася ў тым, што вышэйшая духоўная ўлада дазваляла перадаваць старажытнасці з цэркваў толькі ў музеі духоўнага ведамства. Пазбавіўшыся падтрымкі епархіяльных уладаў, Віцебскае старажытнасховішча не мела месца для прыёму новых экспанатаў, новастворанія музеі (напрыклад, Віцебскай навуковай архіўнай камісіі) не мелі права прымаць на захаванне рэчы такога кшталту. Такім чынам, царкоўныя старажытнасці зноў былі пакінуты на волю лёсу ў тых храмах, дзе яны ўжо не выкарыстоўваліся падчас набажэнстваў. Між тым прыхільнае стаўленне ўладаў да царкоўна-археалагічнага музея магло б паспрыяць развіццю самых разнастайных формаў яго дзейнасці па вывучэнні гісторыі і культуры краю: падрабязнае апісанне і абмеры помнікаў культавага дойлідства, каталагізацыя і ўлік царкоўных архіваў і бібліятэк, фотафіксацыя і перамалёўка абразоў і г. д. На



Мал. 1. Латыголіцкі майстар. Нараджэнне Хрыстова. 1764 г. Абраз са збору Віцебскага старажытнасховішча

жаль, у гэтых накірунках дзейнасць музея больш не развівалася.

За час дзейнасці Віцебскага старажытнасховішча ў 1897 г. быў выдадзены яго каталог [5]. Ён ахопліваў

паступленні, зробленыя да лістапада 1897 г., пасля чаго збор яшчэ неаднаразова папаўняўся. Спіс новых паступленняў рэгулярна друкаваўся на старонках “Полоцких епархиальных ведомостей”. У 1905 г. у музеі налічвалася 1247 экспанатаў [6, с. 222—224], сярод якіх было шмат вельмі каштоўных для нашай гісторыі і культуры рэчаў. Так, з Віцебскай Благавешчанскай царквы тут захоўвалася Евангелле XVI ст., а таксама некалькі зборнікаў малітоўных спеваў, занатаваных спосабам старажытнага друкавага нотнага пісьма; з Бешанковіцкай царквы — напрастольные Евангелле, выдадзенае ў Вільні ў 1575 г. Сярод прадметаў нецаркоўнага ўжытку варта было б адзначыць калекцыю манет, медалёў, фотаздымкаў, некалькі дзесяткаў драўляных формаў для вырабу крашаніны.

Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г. зборы царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча былі перададзены ў 1919 г. Віцебскаму губернскаму музею, які пастановай СНК БССР у 1924 г. быў ператвораны ў Віцебскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага музея [4, арк. 5—6] (зараз Віцебскі абласны краязнаўчы музей). На жаль, цэльнасць збору старажытнасховішча ў хуткім часе была парушана: частку экспанатаў перавезлі ў Дзяржаўны музей у Мінск.

Большасць рэчаў былога старажытнасховішча сёння знаходзіцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, аднак пэўная частка іх застаецца рассыпанай па свеце, лёс некаторых увогуле невядомы. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь зараз захоўваюцца 6 цудоўных абразоў сярэдзіны XVIII ст., якія паходзяць з вёскі Латыголічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці [7, с. 97—102; 19, с. 107—110] (мал. 1, 2). Усе яны былі выкананы мясцовым майстрам і першапачаткова належалі Віцебскаму старажытнасховішчу, куды былі перавезены ў 1898 г. пасля абследавання Латыголіцкай царквы М. Нікіфароўскім. Паводле тагачаснага вопісу, з царквы ў музей было перададзена 19 абразоў з іканастаса, царскія вароты, а таксама розныя прадметы царкоўнага ўжытку “уніяцкай формы” [14, с. 117—118]. Далейшы лёс гэтай маленькай калекцыі ў пэўнай ступені адлюстроўвае лёс большасці экспанатаў са

збору старажытнасховішча. У хуткім часе пасля падзей 1917 г. латыголіцкія абразы былі перавезены ў Мінск, аднак у калекцыі Белдзяржмузея іх аказалася ўжо толькі 14 адзінак. Абразы вывучаў мастацтвазнаўца М. Шчакаці-



Мал. 2. Латыголіцкі майстар. Пакроў. 1740-я гады. Абраз са збору Віцебскага старажытнасховішча

хін [20, т. 1, с. 26—36; т. 2, с. 152—153], частка з іх экспанавалася на 1-й Усебеларускай мастацкай выставе 1926 г. Да нашага часу ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея захавалася толькі 6 абразоў, яшчэ адна работа знаходзіцца ў Казанскай царкве былога Маркава манастыра ў Віцебску, астатнія пакуль адшукаць не ўдалося. Куды трапілі іншыя рэчы з Латыголіцкай царквы, сёння таксама невядома.

Такім чынам, Віцебскі епархіяльны царкоўна-археалагічны музей за чвэрць стагоддзя свайго існавання адыграў значную ролю ў справе захавання прадметаў мясцовай даўніны рэлігійнага прызначэння, збірання звестак пра найбольш значныя помнікі культавага дойлідства, пашырэння ведаў па гісторыі краю, прыцягнення ўвагі шырокай грамадскасці да пытанняў аховы культурнай спадчыны. Музей аб'ядноўваў вакол сябе дастаткова шырокае кола краязнаўцаў, руплівцаў мясцовай даўніны. У сілу аб'ектыўных абставін музей быў сховішчам твораў сакральнага мастацтва пераважна уніяцкага веравызнання, што на пачатку XX ст. зрабілася прычынай немагчымасці яго далейшага пашырэння і развіцця за кошт праваслаўнага духоўнага ведамства.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Архив Полоцкой духовной консистории. М., 1902.
2. Віцебскі абласны краязнаўчы музей (далей — ВАКМ), КП 7295/11.
3. ВАКМ, КП 7295/14.
4. Дзяржархіў Віцебскай вобласці, ф. 1947, воп. 1, спр. 16.
5. Довгялло Д. И., Никифоровский Н. Я. Описание предметов древности, поступивших в Витебское епархиальное церковно-археологическое древнехранилище по ноябрь 1897 года. Вып. 1. Витебск, 1897.
6. Записки Северо-Западного отдела Императорского Русского географического общества. Кн. 1. Вильно, 1910.
7. Іканапіс Беларусі XV—XVIII стагоддзяў. Мн., 1992.
8. Красавицкий П. М. Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их хранение // Полоцко-Витебская старина. Вып. 1. Витебск, 1911.
9. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 2502, воп. 1, спр. 797.
10. Никифоровский Н. Я. Никольская церковь в Задвинской слободе м. Бешенковичи Лепельского уезда. Витебск, 1899. Отд. отт. из "Полоцких епархиальных ведомостей". 1899.
11. Полоцкие епархиальные ведомости. 1896. № 3.

12. Там жа. 1896. № 14.
13. Там жа. 1897. № 24.
14. Там жа. 1899. № 3.
15. Там жа. 1900. № 1.
16. Там жа. 1907. № 32.
17. Там жа. 1908. № 40—41.
18. Там жа. 1912. № 6.
19. Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV—XVIII стагоддзя ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР: Каталог. Мн., 1986.
20. Шчакаціхін М. М. Матар'ялы да гісторыі беларускага малярства XVIII сталецьця / Збор Віцебскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю // Віцебшчына / Пад рэд. М. У. Касьпяровіча. Т. 1. Віцебск, 1925; Т. 2. Віцебск, 1928.

*Леанід Побаль*

## ІНДАЕЎРАПЕЙСКІЯ І РАННЕХРЫСЦІЯНСКІЯ СІМВАЛЫ НА КРЫЖЫ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

У 1161 г. полацкі майстар-ювелір эмальерных спраў Лазар Богша, як гэта добра вядома, па заказу полацкай княгіні Еўфрасінні (Прадславы), дачкі князя Грыгорыя-Святаслава Усяславіча, зрабіў высокамастацкі крыж прыкладнога назначэння; золата, серабро, каштоўныя камяні, жэмчуг каштавалі 100 грыўняў, а плата майстру за працу — 40 грыўняў (па Б. А. Рыбакову). Крыж з'яўляўся настольным у храме заснаванага княгіняй манастыра недалёка ад горада Полацка (старажытнага "Полтеска"), на правым беразе рэчкі Палаты, у мясціне пад назвай Сяльцо. Без перабольшання можна сказаць, што гэты крыж павінен разглядацца як адзін з выдатных мастацкіх твораў Старажытнай Русі. Яму прысвечаны многія працы, малюнкі, фатаграфіі яго з'яўляліся ў розных выданнях дарэвалюцыйнага перыяду і нашага часу [1—6, 8, 16].

У даваенныя гады гэты мастацкі твор знаходзіўся ў Магілёве (у музеі) і падчас нямецкай акупацыі Беларусі знік. Зараз праз міжнародную арганізацыю Інтэрпол прымаюцца ўсе магчымыя захады для яго адшукання і вяртання ў рэспубліку. Ставіцца задача разгледзець дадзены шэдэўр нацыянальнай культуры ў аспекце некаторых гістарычных рэалій і паказаць, што акрамя

раннехрысціянскіх на ім захаваліся індаеўрапейскія культава-міфалагічныя сімвалы. Маюцца пэўныя народныя традыцыі далёкай мінуўшчыны, агульныя для многіх старажытных народаў, графічныя знакі, якія адлюстроўваюць светапогляды людзей, абшчын і родаў ад заходнееўрапейскіх абшараў да Індыі на ўсходзе. Па форме і ў плане крыж шасціканцовы. Заключэнні аўтара аб ім робяцца на падставе надрукаваных даных і па ілюстрацыйнаму матэрыялу. На жаль, не ўсе мастацка-культавыя дэталі на крыжы маюць дакладныя выявы. Вядома, што яго даўжыня 51,5 см. Лічыцца, што ён выкананы з кіпарыснага дрэва. Зверху і знізу да драўляных частак прымацавана 21 залатая пласціна культавага зместу з эмальернымі вобразамі малых памераў. На пласцінах 8 дарагіх каменняў. З усіх бакоў былі прымацаваны сярэбраныя пласціны, з іх захавалася 20, маецца жэмчуг. На пласцінах надпіс на старажытнаславянскай мове (на салунскім дыялекце Кірыла і Мяфодзія), вядомай як царкоўнаславянская, і на мясцовым дыялекце старажытнабеларускай мовы.

Аналізуемы мастацкі выраб зроблены з трох брусоў, розных па даўжыні: аснова і дзве перакладзіны — кароткая верхняя і даўжэйшая ніжняя. Аналагічная раннехрысціянская сімволіка ў навуковай літаратуры мае адпаведную назву: "патрыяршы крыж". Па свайму вобліку полацкі з'яўляецца менавіта такім. Акрамя гэтага, дадаткова на правым баку, на скрыжаванні з даўжэйшай перакладзінай, змешчаны другі сімвал "патрыяршага крыжа" адносна меншых памераў. Тут дарэчы сказаць, што пры археалагічных працах у Полацку з аналагічным сімвалам "патрыяршага крыжа" знойдзена каменная іконка невялікіх памераў з абліччамі святых Канстанціна і Алены. Праўда, апошняя ўжо з вызначэннем праваслаўя: унізе невялічкая касая перакладзіна злева направа і зверху ўніз. З літаратурных крыніц добра вядома, што "патрыяршы крыж" як раннехрысціянскі сімвал маецца на візантыйскіх імператарскіх манетах, напрыклад, IX—XII стст., вядомы на папскіх — XV—XVII стст. і многіх іншых. Шасціканцовыя аналагічныя крыжы сустракаюцца і на многіх культавых камянях — вялікіх валунах у

Падзвінні і іншых мясцінах Беларусі [2]. Можна таксама сказаць, што чатыры такія знакі ёсць на іконе, якая храналагічна адносіцца да 1377—1382 гг. (Аўстрыя) [18]. Вельмі блізкі да аналізуемай рэліквіі бронзавы "патрыяршы крыж" з Яксманыч (Заходняя Украіна), які датуецца 1181 г. і надрукаваны ў 1913 г. [7].

На зваротным баку крыжа Еўфрасінні Полацкай зроблены сімвалічныя выявы ў розных узаемаадносінах паміж сабой: не менш 28 малых памераў роўнастаронніх крыжыкаў і вялікая колькасць частак такіх сімвалаў. На правым баку маецца не менш 7 роўнастаронніх крыжыкаў, з іх адзін досыць вялікі ў месцы злучэння верхняй, меншай перакладзіны з падоўжаным брусам (асновай). Такім чынам, на верхняй частцы крыжа ёсць дзве выявы адна над другой: у скрыжаванні з меншай перакладзінай агульнаіндаеўрапейская з роўнастароннім крыжыкам, а з большай — "патрыяршы крыж". Па свайму паходжанню першы з іх — вельмі старажытны сімвал, абазначае культ Сонца, Святла, Жыцця. Яму ў старажытнасці пакланяліся вернікі як аднаму з галоўнейшых міфалагічных культаў. Напрыклад, у першых стагоддзях нашай эры ў Рыме была спроба ўвесці культ Непераможнага Сонца. Такія крыжы чаканіліся на рымскіх манетах у якасці самастойных семантычных знакаў у вызначэнні дадатковых міфалагічных сімвалічных атрыбутаў у руцэ імператара ці багіні Перамогі Вікторыі (Нікі).

Пачынаючы з III ст. нашай эры крыжы індаеўрапейскай формы, як свяшчэнныя атрыбуты, пачалі выкарыстоўвацца ў хрысціянстве. Вядома, што з 313 г. н. э. яно стала дзяржаўнай рэлігіяй Рымскай імперыі пры ўладарстве Канстанціна I (час праўлення з 25.07.306 па 22.05.337 г., па ліку 84-ы імператар, поўнае імя — Флавіус Валерыус Канстанцінус). У той час імперыя дзялілася на дзве часткі: Усходняя (Візантыя) і Заходняя, з іх апошняя ў канцы V ст. у пэўных гістарычных абставінах знікла, а Візантыя праіснавала да сярэдзіны XV ст. і была разбіта туркамі.

У геральдыцы спецыялісты налічваюць звыш двухсот формаў і відаў крыжоў, сярод апошніх і свастыку [13]. Пры археалагічных даследаваннях на Беларусі, у Прыбал-

тыцы, практычна на ўсёй тэрыторыі лакалізацыі старажытных індаеўрапейцаў высвятляецца, што пасля іх рассялення са стэпавых прастораў і пераходу да аседлага ладу жыцця на многіх катэгорыях рэчаў матэрыяльнай культуры маюцца розных формаў і варыянтаў такія міфалагічныя сімвалы, часам у спалучэнні з іншымі геаметрычнымі фігурамі (ромбамі, квадратамі, кругамі). Сказанае адносіцца і да сучаснай этнаграфіі, ткацтва, народнага мастацтва практычна ўсіх народаў Еўропы, у тым ліку і Беларусі. І ніхто цяпер не задумваецца аб генезісе гэтых знакаў, іх старажытным значэнні. Усё гэта называецца арнаментам. Усе формы крыжоў лічыліся носьбітамі магічнай сілы, з'яўляліся своеасаблівымі фетышамі. Магічнай сілай валодала і замова, заклінанне, змешчанае на сярэбраных пласцінах крыжа Еўфрасінні Полацкай: вялікая кара чакае ўсіх тых, хто дадзены свяшчэнны выраб вынясе за межы Еўфрасіннеўскага манастыра (гэтая кара і цяпер застаецца ў сіле).

Гісторыя кожнага з еўрапейскіх народаў, у тым ліку і Беларусі, па светапоглядах можа быць умоўна раздзелена на дзве вялікія эпохі: язычніцкая, індаеўрапейская, і хрысціянская (у адносінах да ўсходніх славян з 988 г.). Менавіта сінтэз гэтых поглядаў і знайшоў сваё адлюстраванне на аналізуемым шэдэўры старажытнага мастацтва. Ён адносіцца да пераходнай пары: ад першай эпохі да другой. З гісторыі вядома таксама, што ў межах Рымскай імперыі ў ідэалогіі адбывалася змяшэнне элементаў хрысціянства з язычніцтвам. Напрыклад, імператар Аляксандр Север (па ліку 30-ы імператар, час праўлення з 10.07.221 па 9.03.235 г. н. э., поўнае імя — Маркус Аўрэліус Северус Аляксандр) у сваім хатнім свяцілішчы побач з выявамі антычных боствау меў і выяву Хрыста [11, 14].

Неабходна адзначыць, што славянскае насельніцтва індаеўрапейскай агульнасці, якое пасялілася на ўсіх землях сучаснай Беларусі, было разрозненым, складалася з рода-абшчынных структур. У сваім развіцці прайшло перыяды неаліту, бронзавага, жалезнага вякоў. У выніку розных гаспадарчых адносін паміж абшчынамі ("старажытнымі вёскамі") і родамі на працягу тысячагоддзяў

сярод апошніх на берагах водных артэрый складваліся тэрытарыяльна-эканамічныя цэнтры. Пры розных гаспадарча-палітычных абставінах, пры разлажэнні першабытнаабшчынных адносін роды аб'ядноўваліся вакол пэўных эканамічна-тэрытарыяльных і культава-міфалагічных цэнтраў у княствы, першапачатковыя "дзяржавы". Хаця такімі "дзяржаўнымі" мініцэнтрамі могуць лічыцца і родавыя больш ранейшыя гарадзішчы жалезнага веку.

Так, у межах Беларусі ў IX—XIII стст. утварыўся і функцыяніраваў шэраг такіх палітычных, тэрытарыяльна-гаспадарчых аб'яднанняў адной усходнеславянскай агульнасці, напрыклад раннефеадальныя класавыя княствы Тураўскае, Полацкае, а пазней Гарадзейскае, Новагародскае, Берасцейскае, Менескае і многія іншыя. Па словах летапісца, да ўтварэння такіх княстваў тут былі вядомы дрыгавічы, крывічы (сярод іх і палачане), радзімічы, бужане і іншыя, якія карысталіся адной славянскай мовай [10]. А з гэтага вынікае, што дадзеныя аб'яднанні не племянныя, не рознаэтнічныя, а тэрытарыяльныя. Вялікай аб'ядноўваючай сілай з'яўлялася хрысціянства. Богаслужэнне адбывалася на старажытнай славянскай мове (царкоўнаславянскай). Практычна гэта была мова ўсіх славян, прыняўшых хрысціянства па грэчаскаму абраду ад Візантыі. Яе разумелі славяне Паўднёвай, Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, на ўсёй тэрыторыі рассялення славянскай галіны індаеўрапейцаў.

Перад прыняццем хрысціянства, у перыяд язычніцтва, усе культава-міфалагічныя абрады славян, насельнікаў "старажытных вёсак", адбываліся на абшчынна-родавых гарадзішчах, якіх толькі ў Беларусі мелася да дзвюх тысяч. Навокал земляных умацаваных цэнтраў, на берагах вадаёмаў, на адлегласці ад некалькіх дзесяткаў метраў да 10—20 км лакалізаваліся абшчыннікі на паселішчах (селішчах), лік якіх у Беларусі, на жаль, не ўстаноўлены, хаця з матэрыяламі жалезнага веку адкрыта звыш тысячы такіх мясцін з абшчыннымі могільнікамі ля іх [9]. Пры дэталёвых доследах гарадзішчаў і іх наваколляў выяўляецца да дзесятка і больш паселішчаў і могільнікаў з крэмацыяй ля апошніх па агульнаіндаеўрапейскаму пахавальнаму звычаю.

Есць падставы меркаваць, што эмальерная справа ў Полацку ў эпоху ранняга феадалізму сваімі каранямі ўваходзіць у мясцовую традыцыю такіх вырабаў жалезнага веку Беларусі. Дарэчы, вырабы з эмаллю ў Полацку былі знойдзены і падчас палявых археалагічных прац. Аўтар гэтых радкоў валодае шырокай крыніцазнаўчай інфармацыяй аб вырабах з эмаллю не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі, вывучаў такія вырабы ў музеях Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, Расіі, Украіны, Германіі, краін Балканскага паўвострава, Каўказскага рэгіёна. Устаноўлена, што ў розныя часы жалезнага веку, першай паловы I тыс. н. э. у Беларусі, на іншых тэрыторыях мясцовыя спецыялісты эмальерных спраў умелі выраб-ляць для сваіх культавых патрэб розныя атрыбуты язычніцкіх сімвалаў. Для гэтай мэты выкарыстоўвалі каляровыя матэрыялы і рымскае шкло. Некаторыя з мясцовых вырабаў па форме нагадвалі рымскія арыгіналы. Варта сказаць, што археолаг В. В. Сядоў [12] беспадстаўна лічыць, што вырабы з эмаллю — галоўныя этнавызначальныя атрыбуты "балцкага субстрату ў фарміраванні беларусаў". Такое сцвярджэнне — вялікае навуковае непаразуменне; вырабы з эмаллю маюць вялікую гістарычную традыцыю і да этнасу наогул не адносяцца, а "ідэя" не адпавядае крыніцазнаўчым рэаліям. Вядома, што рэчы з эмаллю выраблялiся паўсюдна на Усходзе, знаходзяцца ў старажытнасцях Егіпта, былі распаўсюджаны ў пачатку жалезнага веку ў Цэнтральнай і Заходняй Еўропе сярод кельтаў і іншых народаў. Яны не маглі не выконваць пэўныя функцыі ў мясцовых культаваміфалагічных абрадах.

Адзін з выдатных комплексаў рэчаў мясцовых вырабаў з эмалямі рымскага часу — сярэбрана-бронзавыя рэшткі пяці паясоў выяўлены ля сучаснай вёскі Чырвоны Бор Лагойскага раёна. Яны былі знойдзены выпадкова пры земляных працах яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, уведзены ў навуковы зварот аўтарам. Ля названага населенага пункта было выяўлена адпаведнае паселішча позняга этапу зарубінецкай культуры. Дэкаратыўныя паясы з эмалямі маюць магічны культава-земляробчы індаеўрапейскі змест, у пэўнай ступені пераклікаюцца з

адпаведнымі дахрысціянскімі выявамі (розных формаў індаеўрапейскія крыжы, а таксама з тэхнікай выемачных эмаляў, характэрных для крыжа Еўфрасінні Полацкай). І яшчэ тут варта сказаць, што ў многіх мясцінах Беларусі знойдзены розныя іншыя культавыя язычніцкія вырабы з эмаллю (лунніцы, ажурныя круглыя і ромбападобныя фібулы), у тым ліку і пры археалагічных працах аўтара на помніках I тыс. н. э. у Тайманаве, Абідні Магілёўскай вобласці.

Па тэхналогіі вырабы з эмаллю на ўсёй тэрыторыі Еўропы, у тым ліку і Беларусі, дзеляцца на дзве вялікія групы: імпартныя рымскія і мясцовыя з выкарыстаннем каляровых металаў і рымскага шкла. Некаторыя звесткі аб вырабах з эмаллю, як творах мастацтва старажытнай Беларусі, маюцца ў абагульняючай працы М. Шчакаціхіна [17], хаця да шэрагу яго заключэнняў неабходна адносіцца крытычна. Першапачатковыя вырабы з эмаллю ў Беларусі звязаны са старажытнаэтнаграфічнымі, археалагічнымі помнікамі ўмоўна выдзеленага позняга этапу зарубінецкай культуры, аб якім гаварылася вышэй, у храналагічных межах II—V стст. н. э. Такія "старажытныя вёскі" і ля іх некропалі (могільнікі з крэмацыяй, бескурганныя) лакалізаваліся ў межах басейнаў рэк Дняпра, Нёмана, Заходняй Дзвіны. У Полацкім Падзвінні знойдзены аналагічныя помнікі: селішча на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада Полацка, на беразе невялікай рэчкі Бяльчанкі (у эпоху ранняга феадалізму тут насыпаны курганы), а таксама селішча ля в. Рудня, на правым беразе р. Уша, селішча ў горадзе, на беразе р. Палаты. Кераміка названай культуры выяўлена ў ніжніх слаях Верхняга Замка ў Полацку. Г. В. Штыхаў аналагічныя матэрыялы у Падзвінні выявіў у кургане ля в. Янкавічы, фрагмент жалезнай шпоры рымскага тыпу ў Дарахах. Усяго ў Беларусі вядомы звыш шасцісот пунктаў з такімі знаходкамі [15, 16]. Далейшыя археалагічныя працы будуць раскрываць невядомыя старонкі старажытнай гісторыі славянскай галіны індаеўрапейцаў на землях Беларусі.

У заключэнне неабходна сказаць, што высокамастацкі ювелірна-эмальерны твор — крыж Еўфрасінні

Полацкай — не выпадковы выраб. Ён звязаны з далёкай народнай, абшчынна-родавай традыцыяй Беларусі па апрацоўцы каляровых матэрыялаў для рэлігійных, культавых патрэб. Пагэтаму ён і нясе на сабе пэўныя рысы сінтэзу раннехрысціянскіх візантыйскіх традыцый з агульнаіндаеўрапейскімі светапоглядамі ад часоў вандроўнага пастухоўства і паступовага пераходу апошніх да аседлага ладу жыцця, земляробча-жывёлагадоўчага занятку людзей эпох неаліту—бронзы—жалезнага веку ранняга феадалізму. Да вывучэння дадзенага шэдэўра спецыялісты розных галін ведаў будуць звяртацца неаднаразова.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Алексеев Л. В. Лазарь Богша — мастер ювелир XII в. // Советская археология. 1957. № 2.
2. Алексеев Л. В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 221—236.
3. Грыгаровіч І. І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 93—95.
4. Дучыц Л. Самая трывалая вера // Навіны Акадэміі навук Беларусі. № 37. 1993. С. 3.
5. Дучыц Л. Культавыя камяні Беларусі як гістарычная крыніца // Час, помнікі, людзі. Тэз. дакл. міжнар. канф. Мн., 1993. С. 33—36.
6. Зайкоўскі Э. М. Язычніцкія ідалы Беларусі / Тэз. дакл. міжнар. канф. Мн., 1993. С. 45—47.
7. Ілюстрований Провідник по Національнім Музеэви у Львові. Зладив Д-р І. Свенціцкий кустос Нац. Муз. Жовква. Печатня ОО. Василиян. 1913. С. 16. (З публікацыяй азнаёміўся ў бібліятэцы А. І. Мальдзіса, выражаю яму сваю падзяку.)
8. Мельников А. А. Путь непечален. Мн., 1992.
9. Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Мн., 1983. С. 6 і інш.
10. Полное собрание русских летописей. СПб., 1908. Том II. С. 7 і інш.
11. Свентицкая И. С. Раннее христианство: страницы истории. М., 1987. С. 137, 170 і інш.
12. Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 35 і далей па ўсяму тэксту.
13. Фенглер Х., Гиров Г., Унгер В. Словарь нумизмата. М., 1983. С. 122—125, 205 і інш.
14. Шамякіна Т. Міфалогія. Вытокі нашай самасвядомасці // Роднае слова. № 8. 1993. С. 58—65.
15. Штыхаў Г. В. Крывічы. Мн., 1992. С. 29, мал. 16; С. 30, мал. 17—16 і інш.
16. Штыхов Г. В. Древний Полоцк. Мн., 1975. С. 110 і інш.
17. Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1933. С. 27—33. Першапачаткова праца была выдадзена ў 1928 г. Вырабы з эмаллю датуюцца вельмі позна — VI—VIII стст. н. э., хаця рэальна яны адносяцца да першай паловы I тыс. н. э.

18 Andela Harvat. Osvzt na sliku u Medumuzju koja sjeća na Onžuvinca Ludovika I Velikod // Razprave dissertationes. V. Hauptmanov zbornik. Ljubljana, 1966. S. 272.

*Валерый Пазнякоў, Тацяна Бубенька*

## ФІБУЛЫ СТАРАЖЫТНАГА КЛЕЦКА

Горад Клечаск (Клецк), цэнтр удзельнага княства Тураўскай зямлі, упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127 г. [13, стб. 298; 14, стб. 292]. Археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў Клецку ў 1986—1991 гг., дазволілі паставіць пытанне аб узнікненні і развіцці горада ўжо ў X—XI стст. Сярод шматлікіх матэрыялаў гэтага часу асабліва вылучаецца адна катэгорыя добра датаваных знаходак — падкowападобныя фібулы, якія маюць важнае значэнне пры ўдакладненні даты ўзнікнення Клецка.

Фібулы выкарыстоўваліся для зашпільвання галоўным чынам верхняй вопраткі, у тым ліку і мужчынскай. Іх старажытнаруская назва не атрымала пашырэння ў сучаснай археалагічнай навуцы, і нават такі ўважлівы да старажытных назваў даследчык, як М. Р. Рабіновіч, вымушаны карыстацца звыклым лацінскім тэрмінам "фібула" [16, с. 180]. Гэта можна тлумачыць тым, што ў старажытнарускіх крыніцах зашпількі-фібулы названы толькі адзін раз, пад 945 г., як "сустугі" [12, с. 41]. Слова "сустуг" у значэнні "металічная нагрудная спражка, зашпілька" вызначыў І. І. Сразнеўскі [18, стб. 628].

Падчас выратавальных раскопак у Клецку ў 1986 г. было знойдзена восем фібул-сустугаў. У параўнанні з іншымі гарадамі Паўднёвай Беларусі гэта даволі вялікая калекцыя. У Брэсце іх выяўлена, напрыклад, толькі чатыры [9, с. 265, рис. 177, 178], у Тураве і Пінску — па аднаму экземпляру, у Давыд-Гарадку, Слуцку, Рагачове, Мазыры фібулы не знойдзены [10, с. 54, 108, рис. 9:*21*, *30*]. Тры клецкія фібулы зроблены з жалеза, пяць — з бронзы. Яны адносяцца да розных, у тым ліку старажытнейшых, тыпаў і з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для асвятлення ранняй гісторыі горада.




**Фібулы старажытнага Клецка**

Тры жалезныя фібулы адносяцца да аднаго тыпу — падкавападобных са спіральназагнутымі канцамі і рамбічнай у сячэнні дужкай (мал.: *1—3*). Іх дыяметр 4,5—6 см. Дзве паходзяць з перакопаў, адна знойдзена ў пласце з керамікай X—XI стст. Жалезныя фібулы ўяўляюць сабой даволі рэдкую знаходку для старажытнарускіх гарадоў. Яны характэрны для старажытнейшых гарадскіх пластоў і ў цэлым датуюцца X—XI стст. У якасці аналагаў перадусім трэба прывесці жалезныя

фібулы Ноўгарада, якія датуюцца пачаткам X — сярэдзінай XI ст. [7, с. 164, рис. 4]. Адна жалезная рамбічная ў сячэнні фібула была знойдзена ў Старой Ладазе, у старажытнейшым гарызонце $E_3$, які датуецца 60-мі гадамі VIII — 30-мі гадамі IX ст. [4, с. 102]. Жалезная фібула знойдзена ў Маскве, на жаль, у перакопе. Аўтар раскопак М. Р. Рабіновіч суадносіць яе з наўгародскімі знаходкамі X—XI стст. і лічыць адной са старажытнейшых знаходак у Маскве [15, с. 85].

Гэтым жа часам датуецца жалезная фібула з могільніка Гарадзілаўка ў Панямонні [3, с. 100]. Адзіная фібула, знойдзеная ў Пінску, таксама адносіцца да тыпу рамбічных у сячэнні. Яна паходзіць з перадмацерыковага пласта раскопу 10 і датуецца XI ст. [10, с. 108, рис. 30:*2*]. Дзве жалезныя фібулы з Навагрудка датаваны Ф. Д. Гурэвіч першай паловай XI — рубяжом XII—XIII стст. [2, с. 23, 28, рис. 12:*9*, 19:*13*]. Такія ж фібулы сустрэты ў пахаваннях Гнёздаўскага могільніка, ва ўладзімірскіх і прыладажскіх курганах, у Цімяроўскім і Міхайлаўскім могільніках, дзе датуюцца ў асноўным X — пачаткам XI ст. [11, с. 156]. За межы XI ст. выходзіць адна з двух жалезных фібул Мінска, аднак у адрозненне ад клецкіх яна мае дужку трохвугольнага сячэння [5, с. 250]. У выніку раскопак 1975 г. на селішчы каля гарадзішча на р. Менка было знойдзена 11 жалезных фібул [19, с. 68]. Падсумоўваючы даныя аналагаў, можна адзначыць, што жалезныя фібулы найбольш характэрныя для X—XI стст., пры гэтым наўгародскія ўзоры застаюцца самым надзейна датаваным матэрыялам.

Яшчэ тры клецкія фібулы адносяцца да таго ж тыпу спіралеканцовых рамбічных у сячэнні, але зроблены яны ўжо з бронзы. Дзве фібулы маюць памер каля 4 см, адна з іх упрыгожана на канцах насечкай (мал.: *4, 5*). Буйная фібула дыяметрам 5 см упрыгожана дзвюма хвалістымі лініямі па дузе і двума радамі кропак на спіральных канцах (мал.: *6*). Дадзены тып фібул з'яўляецца старажытнейшым. У Ноўгарадзе іх знойдзена толькі чатыры, усе ў пластах X ст. [17, с. 84]. М. У. Сядова ўслед за В. А. Мальм лічыць, што іх радзімай з'яўляецца Швецыя, дзе яны датуюцца таксама X ст. Дакладны аналаг вялікай клецкай

фібулы знойдзены ў пахаванні 110 кіеўскага дружыннага некропаля, дзе былі і два дырхемы 911—912 гг. [6, с. 176, табл. XVI:7]. На жаль, толькі адна клецкая фібула паходзіць з непатрывожанага культурнага пласта X—XI стст., дзве астатнія не маюць сваёй стратыграфічнай даты. Таму нельга выключыць і больш позняга датавання гэтых упрыгожанняў, якое ў прынцыпе мажліва [11, с. 156; 1, с. 66, рис. 31: *5*].

Клецкая бронзавая фібула са спіральнымі канцамі і трохвугольнай у сячэнні дужкай паходзіць з пласта X—XIII стст. (мал.: *8*). Гэта звычайная знаходка для старажытнарускіх помнікаў X— пачатку XIII ст. [11, с. 153; 7, рис. 8]. Не мае аналагаў фібула на мал.: *7*. Яе трохвугольная ў сячэнні дужка ўпрыгожана невялікімі выступамі, канцы маюць форму ўсечаных пірамід. Ад жалезнай іглы на дужцы збярогся толькі камяк іржы. Цікава, што фібула зроблена са свінцова-алавяністай бронзы, якая завозілася на Русь са Швецыі [8, с. 10, 21]. Паводле паўколькаснага металаграфічнага мікразондавага аналізу, зробленага інжынерам лабараторыі фізіка-хімічных метадаў даследавання БелРПІ І. Е. Раханскім, аснову сплава, з якога зроблена фібула, складаюць медзь і свінец (па 40—60%), прымесі — волава і фосфар (па 5—10%), малая прымесь — жалеза (1—3%).

Такім чынам, знаходкі фібул разам з іншымі матэрыяламі, атрыманымі падчас археалагічных раскопак, дазваляюць датаваць узнікненне Клецка X ст.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Воронин Н. Н. Древнее Гродно // Материалы и исследования по археологии СССР. 1954. № 41.
2. Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок (посад — окольный город). Л., 1981.
3. Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962.
4. Давидан О. И. Этнокультурные контакты Старой Ладоги VIII—IX веков // Археологический сборник Государственного Эрмитажа. 1986. Вып. 27.
5. Загорульский Э. М. Возникновение Минска. Мн., 1982.
6. Каргер М. К. Древний Киев. М.; Л., 1958. Т. 1.
7. Колчин Б. А. Хронология новгородских древностей // Новгородский сборник. М., 1982.
8. Коновалов А. А. Цветной металл (медь и ее сплавы) в изделиях Новгорода X—XV вв.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1974.

9. Лысенко П. Ф. Берестье. Мн., 1985.
10. Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Мн., 1974.
11. Мальм А. В. Подковообразные и кольцевидные застежки-фибулы // Труды Государственного исторического музея. М., 1967. Вып. 43.
12. Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1.
13. Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 1.
14. Там жа. Т. 2.
15. Рабинович М. Г. Культурный слой центральных районов Москвы // Материалы и исследования по археологии СССР. 1971. № 167.
16. Рабинович М. Г. Очерки материальной культуры русского феодального города. М., 1988.
17. Седова М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода. М., 1981.
18. Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка. М., 1956.
19. Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли. Мн., 1975.

*Валерый Шаблюк*

## ЗАМАК У СВЕРЖНІ

Неад'емнай рысай сярэднявечнага пейзажу Беларусі з'яўляліся замкі. Найбольшая колькасць замкаў узнікла на працягу XIV—XVI стст. Частка з іх была пабудавана на месцы даўнейшых усходнеславянскіх гарадзішчаў, якія сталі ядром фарміравання гарадоў і патрабавалі новай фартыфікацыі (Гародня, Наваградак, Віцебск, Брагін, Клецк, Слуцк і інш.). Другія сфарміраваліся на новых месцах як абарончыя пункты ва ўладаннях вялікіх князёў літоўскіх ці буйных феадалаў (Ліда, Крэва, Мір, Любча, Нясвіж, Іказнь, Езярышча і інш.). Гістарычны лёс замкаў быў неаднолькавым. Адны з іх аказаліся звязанымі з важнымі палітычнымі ці ваеннымі падзеямі мінулага і знайшлі сваё месца на старонках летапісаў, хронік, дзяржаўных актаў. Другія па розных прычынах апынуліся ў забыцці і памяць пра іх засталася толькі ў народных паданнях ды назвах урочышчаў. Да ліку апошніх адносіцца і замак у Свержні.

Першыя пісьмовыя звесткі пра Свержань датуюцца 1428 г., калі ён у ліку іншых двароў Наваградскага павета быў перададзены вялікім князем літоўскім Вітаўтам сваёй жонцы Ульяне [2, с. 127—128]. Пры вялікім князю літоўскім Казіміры (1447—1492) Свержань належаў князю Андрэю Мажайскаму, потым некаторы час быў уладаннем

вялікага князя літоўскага Аляксандра, а ў 1495 г. яго ўласнікам з'яўляўся маршалак Вялікага княства Літоўскага Ян Літавор Храптовіч. У другой палове XV ст. Свержань быў цэнтрам павета. Сваю назву двор атрымаў ад рэчкі Свержанка, якая працякала побач. Каля двара існавала вёска Свержань (цяпер Стары Свержань у Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці). Мястэчка Свержань (з XVIII ст. Новы Свержань) сфарміравалася ўжо пазней, у сярэдзіне XVI ст., у 3 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе Нёмана.

Свержанскі замак размяшчаўся на правым беразе Нёмана, якраз насупраць мястэчка. Найбольш раннія звесткі пра яго паходзяць з 1568 г. [3, арк. 45 адв.]. У гэтым годзе пані Ганна Мікалаевая Осцікава Любецкая прадала частку маёнтка і замка Свержань падканцлеру і маршалку дворнаму Вялікага княства Літоўскага, старосце берасцейскаму і кобрынскаму Астафею Валовічу. У дакуменце адзначана, што "замочок Сержно над ракою Немнам, а з другой стороны обышла залука з Немна, і засе у Немон увошла, которую залуку называют рэчкою Міранкою, а аколо тое Міранкі балота прышлі". Замак у той час належаў тром гаспадарам — адной часткай валодаў Астафей Валовіч, а другой — сумесна паны Мікалай Служка і Андрэй Урэлеўскі. "Будованя того замочка на часці Его мілосці Пана Подканцлера... Светліца над вороты, і над тою светліцэю вежа, од тое вежы городень* ест. До другое вежы, которая на часці Его ж Мілосці Пана Подканцлераго, под тою вежою также светліца, ніжлі в тых светліцах печэй, лаў, оконніц і дверэй нет, также і городні вельмі опалі, а на часці Пана Урэлевскаго і Пана Мікалая Слушчыной, ешчэ горшэ тое будоване все опалэ і спустошоное" [3, арк. 45 адв.].

Як бачна з апісання, замак быў пабудаваны ў цяжкадаступнай мясцовасці, на своеасаблівым востраве, утвораным Нёманам і яго залукай. Тут адсутнічалі якія-небудзь сталыя жыллёвыя ці гаспадарчыя пабудовы. У 1568 г. замак, як вынікае з дакумента, быў напаўразбураны і, відавочна, ужо не мог выкарыстоўвацца для абароны.

---

* Гародні — злучаныя паміж сабой зрубы пад агульнай страхой баявой галерэі.

Узнікненне замка, верагодна, трэба аднесці да таго часу, калі Свержань з'яўляўся ўласнасцю Вітаўта і яго жонкі. Улічваючы месцазнаходжанне замка, ён павінен быў ахоўваць паўночную, правабярэжную частку іх маёнтка, дзе размяшчалася старадаўняя пераправа праз Нёман. На процілеглым, больш высокім левым беразе ракі паступова сфарміравалася мястэчка. Падобную тапаграфічную сувязь можна назіраць і ў размяшчэнні замка і мястэчка ў Магільнай (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці), што прыкладна ў 16 км уверх па цячэнню Нёмана ад Новага Свержня. Замкі ў Свержні і Магільнай былі пабудаваны на качагоравых узвышшах нізкага поплава правага берага Нёмана, а мястэчкі займалі больш зручныя для жыцця тэрасы процілеглага берага ракі. Узнікненне замка ў Магільнай адносіцца да часоў праўлення Вітаўта (першая траціна XV ст.), таму можна дапусціць, што і Свержанскі замак паўстаў у гэты ж перыяд.

У 1571 г. палову мястэчка і замка набыў у Урэлеўскага з даплатай 4 тысячы коп грошаў літоўскіх Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка), а ў 1578 г. ён становіцца ўладальнікам усяго мястэчка і замка [4, арк. 82—83 адв.]. Апошні раз пра замак у Свержні нагадваецца ў 1582 г., калі адбывалася размежаванне маёнткаў Свержань (уладанне Радзівілаў) і Кавалеўшчына (уладанне Служкаў) [5, арк. 1]. У дакументах XVII—XVIII стст. звестак пра замак намі не знойдзена. Хутчэй за ўсё, у гэты час ён ужо не існаваў. Аднак вуліца ў мястэчку, якая вяла ў напрамку да пераправы і замка, яшчэ доўгі час называлася Замкавай.

Сёння ўрочышча "Замак", альбо "Замак Чартарыйскага"*, уяўляе сабой шэраг моцна "раздзьмутых" пясчаных пагоркаў, на якіх сустракаюцца матэрыялы розных эпох — ад мезаліту да позняга феадалізму. Праз тэрыторыю замчышча да пераправы на Нёмане праходзіць насып старажытнай дарогі. У літаратуры першыя паведамленні пра замчышча адносяцца да другой паловы

---

* Чартарыйскія валодалі суседнім маёнткам Стоўбцы з 30-х гадоў XVIII ст. да 1831 г.

XIX ст. [6, с. 157]. У 1885 г. гэта месца прыцягнула ўвагу вядомага археолага У. Завітневіча [1, с. 593—596]. Ён зрабіў даволі падрабязнае апісанне помніка і правёў "пробную раскопку". Аўтар адзначаў, што падковападобная азярына ("залука" ў згаданых вышэй дакументах) мае штучнае паходжанне. На плошчы замчышча У. Завітневіч заўважыў мноства крамянёў, чарапкі посуду, кавалкі цэглы, косткі жывёл і рыб, жалезны ключ. Магутнасць культурнага пласта на замчышчы, па яго назіраннях, вагалася прыкладна ад 30 да 70 см. Насып дарогі даследчык памылкова прыняў за валы гарадзішча. У. Завітневіч пісаў, што яшчэ параўнаўча нядаўна навакольныя жыхары бралі на замчышчы для сваіх патрэб дошкі і цэглу. Па мясцоваму паданню, тут знаходзіўся заклятьі замак, які праваліўся пад зямлю.

Трэба адзначыць, што вядомы даследчык беларускіх замкаў М. Ткачоў лічыў, што замак у Свержні размяшчаўся на левым беразе Нёмана, пры ўпадзенні ў яго ракі Жацераўка, і прымыкаў да рынзчнай плошчы [7, с. 57]. Аднак вывучэнне пісьмовых крыніц, мікратапаніміка мясцовасці, натурныя назіранні і археалагічныя даследаванні сведчаць, што Свержанскі замак існаваў менавіта ва ўрочышчы "Замак".

Падчас даследавання помніка ў 1992 г. культурны пласт быў выяўлены аўтарам на трох участках помніка, дзе праводзілася шурфоўка. Магутнасць пласта вагаецца ад 0,2 да 0,7 м. Ён уяўляе сабой шэрую ці цёмна-шэрую супесь з праслойкамі гліны, дробных вугалькоў і цэглы-пальчаткі. На паверхні і ў шурфах былі знойдзены шматлікія прамянёвыя вырабы (два скобелі, нож, наканечнік свідэрскага тыпу, скрабок-рэтушор і інш.), фрагменты гаршкоў XV—XVI стст., тэракотавыя пласцінчатыя і гаршковыя кафлі гэтага ж перыяду, каваныя цвікі, заклёпка, падкова [8, арк. 7—11].

Па выніках вывучэння пісьмовых крыніц і археалагічных даследаванняў можна зрабіць наступныя высновы. Недзе на працягу першай паловы XV ст. прыродныя пясчаныя ўзвышшы былі выкарыстаны для пабудовы замка. Яго ўмацаванні размяшчаліся, прынамсі, на двух пагорках урочышча. Наяўнасць побач Нёмана, якія вясной затапляў

торыторыю вакол замчышча, мала спрыяла жыццядзейнасці замка, але затое садзейнічала яго недаступнасці. Для умацнення абарончых функцый быў выкапаны роў да Нёмана ("залука"), які перапыніў падыход да замка і ў сухія часы года. Такім чынам, трапіць на галоўную (самую высокую) пляцоўку замка можна было толькі з паўночнага боку. Тут прасочваецца ледзь прыўзняты над мясцовасцю насып шырынёй 4—5 м, уздоўж якога відаць сляды рова. Магчыма, у гэтым месцы існаваў перакідны мост. Помнік быў значна пашкоджаны ў выніку ўзвядзення насыпу дарогі. Для гэтай мэты выкарыстоўваўся і культурны пласт замчышча. Да 1568 г. замак ужо страціў свае стратэгічныя функцыі і ў далейшым не адняўляўся, пра што сведчаць і пісьмовыя крыніцы. Мяркуючы па тапаграфічнаму размяшчэнню і апісанню замка, ён быў пабудаваны выключна з абарончымі мэтамі.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Завитневич В. Область Дреговичей, как предмет археологического исследования // Труды Киевской духовной Академии. 1886. Т. 2. № 8.
2. Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892.
3. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ), ф. 694, воп. 2, спр. 7710.
4. НАРБ, ф. 694, воп. 3, спр. 1.
5. НАРБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1198.
6. Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1879.
7. Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
8. Шаблюк В. У. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Мінскай і Гродзенскай абласцях у 1992 г. // Архіў Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 1421.


*Людміла Дучыц*

# КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ

Часта пры старых шляхах, каля храмаў, па краях вёсак, на могілках і ў іншых мясцінах можна сустрэць крыжы, высечаныя з валуноў. На многіх з іх бываюць літары, надпісы, знакі і нават малюнкі. Да некаторых каменных крыжоў яшчэ і сёння носяць ахвяры — манеты, ручнікі, кветкі. У народзе аб такіх крыжах расказваюць паданні.

Падобныя крыжы вядомы амаль па ўсёй Еўропе. Шмат іх у Чэхіі, Польшчы, Англіі, на Пскоўшчыне, але больш за ўсё такіх помнікаў менавіта ў Беларусі, што неаднаразова падкрэслівалася даследчыкамі. На жаль, у нас, як нідзе, шмат каменных крыжоў было знішчана ў савецкія часы з



Формы каменных крыжоў

мэтай барацьбы супраць рэлігіі. Крыжы разбівалі, скідвалі ў вадаёмы, засыпалі пры будаўніцтве дарог. Пасля пагрому беларускага адраджэння ў 30-я гады вывучэнне культавых камянёў было спынена, загінула і шмат сабранага матэрыялу, у тым ліку фотаздымкі [19; 42]. Звесткі аб каменных крыжах сталі зноў збіраць ўжо толькі пачынаючы з канца 50-х гадоў [2; 60]. Між тым гэта каштоўнейшыя помнікі не толькі гісторыі і этнаграфіі, але таксама палеаграфіі, мастацтва і духоўнай культуры.

У наш час аб большасці каменных крыжоў можна скласці ўяўленне толькі па архіўных крыніцах і шматлікай краязнаўчай літаратуры XIX — пачатку XX ст. [7; 9; 13; 15; 27; 28; 32; 34; 40; 44; 46; 47; 49; 51; 52; 53; 55; 57; 59; 63; 64 і інш.] Усяго на тэрыторыі Беларусі на сённяшні дзень улічана больш за 200 месцазнаходжанняў каменных крыжоў. Форма і памеры іх самыя разнастайныя (малюнак).

Ва ўсёй Еўропе каменныя крыжы звычайна ставіліся на перакрыжаваннях сухапутных і водных шляхоў, на пераправах, на ўскраінах вёсак і гарадоў для абароны ад эпідэмій і ворагаў, на месцах знамянальных падзей, пры пабудове храмаў, на могілках [39]. Крыжы пачалі з'яўляцца ў часы распаўсюджвання хрысціянства. Іх ставілі яшчэ княгіня Вольга і князь Уладзімір. Як знаменне новай веры ў першую чаргу крыжы ўстанаўлівалі на месцах знішчаных язычніцкіх капішчаў. Да самых старажытных каменных крыжоў на тэрыторыі Беларусі можна аднесці так званыя тураўскія крыжы, пад якімі разумеюцца ўсе каменныя крыжы ў самім Тураве і яго наваколлі. Гэта больш за 10 каменных крыжоў (Тураў, Пагост, Хлупін, Перароў, Верасніца, Аздамічы і інш.). Згодна з паданнямі, тураўскія крыжы прыплылі з Кіева ўверх па Прыпяці і затым аказаліся сярод палёў; яны нібыта ахоўваюць ад розных хваробаў. Па адным з паданняў, у вёсцы Рычаў нейкая жанчына аслепла і ўбачыла ў сне, што ёй трэба ісці да каменнага крыжа, ачысціць яго і выпіць крошкі з вадой. Калі яна прачнулася, адразу ж так зрабіла і хутка выздаравела [8, с. 277; 35, с. 281—282]. Вышыня тураўскіх крыжоў ад 1 да 2 м, шырыня ад 0,6 да 1 м. Яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя

на крыжы вешалі стужкі, лампадкі, пакрывалі іх хусткамі, прыносілі ахвяры — манеты, палатно, мяса, рыбу. Да крыжоў накіроўваліся хрэсныя ходы. Асабліва шмат людзей збіралася на Узвіжанне [28, с. 379:21, с. 21; 30, с. 51—55; 33, с. 34—35]. Па даных Ю. Віцьбіча, адзін з вялікіх тураўскіх крыжоў каля в. Семурадцы знаходзіўся ў рэчышчы Прыпяці. Яго некалькі разоў спрабавалі выцягнуць на бераг і нібыта адразу ж уся рака пакрывалася крывёй [14, с. 38]. Пра адзін з тураўскіх крыжоў яшчэ і сёння расказваюць, што калі бацькі прасілі паслаць выздараўленне іх сыну, то ў небе з'явілася велічная агністая постаць жанчыны, якая сказала, што дапаможа. Хлопчык выздаравеў, і на наступны дзень у Прыпяці знайшлі каменны крыж. Яго выцягнулі на бераг і ўстанавілі на высокім месцы [43]. Самым знакамітым лічыўся "святы" тураўскі крыж, які да 1979 г. стаяў на могілках на беразе Прыпяці каля в. Пагост Жыткавіцкага раёна. Потым яго перавезлі ў Гомельскі абласны краязнаўчы музей. Вышыня крыжа 2 м, шырыня 0,7 м [43]. Акрамя гэтага крыжа ў Гомельскім музеі знаходзяцца і два каменныя крыжы з Барысаглебскіх могілак у Тураве. Адзін з крыжоў зараз захоўваецца ў Тураўскай царкве [33, с. 34—35]. У літаратуры згадваецца пра каменны крыж у Жыткавіцкай царкве, што на могілках. Па павер'ях, гэты крыж штогод павялічваецца ў памерах [8, с. 80]. У в. Вільча Жыткавіцкага раёна каменны крыж стаіць на курганным могільніку. У паданні пра яго гаворыцца, што крыж пастаўлены на магіле нейкага шведскага князя ці военачальніка, забітага падчас вайны, а побач у невялікіх курганах пахаваны шведскія воіны [56, с. 37—44].

Даволі старадаўнімі трэба лічыць і большасць каменных крыжоў каля вадаёмаў. Некаторыя з іх маглі быць пастаўлены яшчэ ў першыя стагоддзі пасля хрысціянізацыі Усходняй Еўропы ў памяць аб прыняцці новай веры. Да нядаўняга часу стаяў каменны крыж у лесе каля возера паблізу в. Калюга Капыльскага раёна. Гэта быў груба абсечаны крыж, якому пакланяліся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Запісана паданне, паводле якога на месцы крыжа калісьці існаваў горад, які потым затануў разам з

царквой [36, с. 13—23]. Свяшчэнным лічыўся крыж на правым беразе ракі Пціч каля в. Парэчча Пухавіцкага раёна. Над крыжам была пабудавана капліца [41, с. 28]. На востраве Дрысвяцкага возера (Браслаўскі раён) тры крыжы былі пастаўлены ў час пабудовы храма ў імя трох святіцеляў — Васіля, Грыгорыя Багаслова і Іаана Златавуста [40, с. 12]. Крыжы на берагах рэк вядомы ў Віцебску пры ўпадзенні ракі Віцьбы ў Заходнюю Дзвіну (Іасафатаў крыж), Азярцы, Пількавічах і Аланцьеве Аршанскага, Янаве Гарадоцкага раёнаў, каля Светлагорска і ў шэрагу іншых мясцін.

Каменны крыж з пастаментам знаходзіцца каля гарадзішча пад назвай Царкоўка (або Рагнедзін курган, ці Гара Рагвалода і Рагнеды) на востраве возера Дрыса паблізу в. Перавоз Расонскага раёна [22].

У ранні перыяд хрысціянізацыі з'явіліся крыжы, якія былі перароблены з язычніцкіх ідалаў і нагадваюць чалавечыя фігуры. Да такіх крыжоў можна аднесці тры найбольш выразныя — крыжы каля вёсак Даўгінава Вілейскага, Грабаўцы Жабінкаўскага і Галошава Талачынскага раёнаў. Асаблівую цікавасць ўяўляе даўгінаўскі крыж. Раней ён знаходзіўся каля хутара Мягчылы, што паміж вёскамі Даўгінава і Жары. Зараз крыж перавезены ў Музей валуноў у Мінску. Верхні канец крыжа падобны на галаву, а адыходзячыя ў бакі канцы — на расстаўленыя рукі. У сяродкрыжжы два невялікія выступы — "грудзі". На месцы жывата выпуклая фігура — дзіця. На думку даследчыкаў, гэты крыж калісьці быў скульптурнай выявай нейкай язычніцкай багіні — Лады (багіні шлюбу), Мокашы (багіні ўрадлівасці) або Мары (заступніцы жанчын) [38, с. 95—99; 58, с. 168—169]. У народзе два паданні пра гэты помнік. Згодна з адным, крыж паставіў кароль Стэфан Баторы, з другім — крыж паказваў Кацярынінскі шлях.

Верхняя частка крыжа-ідала каля в. Грабаўцы нагадвае галаву ў капюшоне, пад падбародкам у яго высечаны крыж [29, с. 22]. Раней ён стаяў на перасячэнні дарог, а ў 70-я гады быў перавезены ў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей.

Каменны крыж каля в. Галошава вядомы пад назвамі Баба ці Кацярынінскі крыж, або Крыж-Баба. Ён таксама

нагадвае жаночую фігуру. Яшчэ ў нядаўнія часы вернікі неслі да крыжа кавалкі тканіны, манеты, маліліся каля яго. У адным з паданняў пра гэты помнік гаворыцца, што калі Хрыстос хадзіў па зямлі, то зайшоў у тую вёску, на месцы якой зараз возера Глухое. Жыхары яе не пусцілі Госпада пераначаваць і толькі адна бедная жанчына дала яму прытулак. Раніцай Хрыстос сказаў жанчыне ісці за ім і не аглядвацца, што б яна ні пачула. Калі яны пайшлі, жанчына пачула ззаду гул, азірнулася і ўбачыла, як праваліласл вёска і на яе месцы ўтварылася возера. За тое, што жанчына не паслухалася, Хрыстос ператварыў яе ў каменны крыж [57, с. 83—85]. Па некаторых звестках, было два крыжы — маці і дачка. Меншы крыж яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя быў пакладзены ў падмурак маёнтка. Па даных Э. А. Ляўкова, пра галошаўскі крыж вядомы яшчэ 4 паданні, якія маглі ўзнікнуць ужо толькі ў апошнія стагоддзі. У адным з іх, дзе фігуруюць два крыжы — вялікі і маленькі, расказваюць, што дачка памешчыка закахалася ў конюха. Памешчык, калі даведаўся пра гэта, забіў юнака і сказаў дачцы, якая чакала дзіця. Дзяўчына села і стала плакаць. Ад яе слёз утварылася возера, і на наступны дзень яна знікла. У памяць дачкі і ненароджанага ўнука памешчык нібыта і паставіў два крыжы — вялікі і маленькі. Па адным з паданняў, галошаўскі крыж застаўся ад затопленага паселішча. Яшчэ расказваюць, што каля крыжа закапаны скарбы, вывезеныя ў 1812 г. французамі з Масквы, і што крыж азначаў граніцу паміж Друцкім і Мсціслаўскім княствамі.

Да даволі ранніх (XII—XIII стст.) можна аднесці крыжы, якія стаяць на курганах. Так, каменныя крыжы зафіксаваны на курганных могільніках каля вёсак Зяленка Глускага, Рэўча Талачынскага, Гарані Аршанскага, Дакучына Крупскага, Слідцы Чашніцкага, Слабада Віцебскага, Харчычы і Дулебы Бярэзінскага, Вільча Жыткавіцкага раёнаў і ў іншых мясцінах. Адсюль не выпадкова і з'яўленне такіх мікратапонімаў, як Крэст, Перахрэсце.

Як вядома, курганны абрад пахавання ў XIII ст. пачаў саступаць месца грунтавым бескурганным могільнікам. На такіх магілах рабіліся невялікія насыпы і ставіліся крыжы, як драўляныя, так і каменныя. З цягам часу

насыпы расплываліся, драўляныя крыжы перагнівалі, а каменныя заставаліся. Многія з іх дайшлі да нашага часу, а некаторыя можна знайсці і ў зямлі. На беразе Заходняй Дзвіны каля в. Вята Міёрскага раёна В. І. Шадырам выяўлены сляды такіх старажытных могілак. На адным з крыжоў у сяродкрыжжы высечаны крыжык на падстаўцы. Ён нагадвае крыжы на шырокавядомых Барысавых камянях XII ст. [51; 52]. Яшчэ ў мінулым стагоддзі каля в. Лукомль Чашніцкага раёна сяляне знайшлі ў зямлі на полі каменны крыж. Хутчэй за ўсё ён таксама застаўся ад старажытных могілак. Яго выкапалі і паклалі на падводу, але коні нібыта не маглі крануцца з месца. Запрасілі святара, ён адслужыў набажэнства і акрапіў крыж святой вадой. Тады ў адно імгненне быццам бы коні давезлі крыж да царквы, а пры пабудове новай царквы крыж быў пакладзены ў падлогу [13, с. 218]. У дадзеным выпадку можна бачыць прыклад нараджэння падання пра каменны крыж.

У пачатку XX ст. каля г. Дзісна Міёрскага раёна на беразе Заходняй Дзвіны яшчэ налічвалася 16 вялікіх каменных крыжоў са стараславянскімі надпісамі [31, с. 53]. Вядомы былі і каменныя крыжы на месцы старажытных могілак у в. Дрэколле паблізу Віцебска [44]. 12 каменных крыжоў ў 20-я гады XX ст. стаялі на ўзвышшы каля Віцебска [1]. Усё гэта, несумненна, рэшткі сярэдневяковых могілак. Сёння такія помнікі можна ўбачыць каля вёсак Слабада Докшыцкага, Дубраўка Гарадоцкага, Гапанавічы, Шынкі, Клішына і Худава Крупскага, Кукарава Чэрвеньскага, Лeравоз, Кішы, Бабруйшчына Глыбоцкага, каля былой в. Рыбакоўшчына Сенненскага, вёсак Панара Смаргонскага, Касцяшы Любанскага, Стары Лепель і Юркоўшчына Лепельскага, Глушкавічы Лельчыцкага раёнаў і ў шэрагу іншых мясцін. Каменныя крыжы ад старажытных могілак захаваліся таксама ў Мінску на схіле Траецкай гары, зараз яны — на тэрыторыі 2-й гарадской бальніцы.

Як адзначалася, на многіх крыжах захаваліся надпісы, знакі, малюнкі. Так, напрыклад, каля в. Лубяны Бялыніцкага раёна вядомы надпіс “Дарька”, каля в. Шынкі Крупскага раёна “ИИСУСЕ ВО ХРИСТЕ СПАСИ

МЯ...", каля в. Пабокавічы Бабруйскага раёна "ЕСТОПОМЕТ" і ўнізе "ВОИНЕ". Каля в. Ксты на Полаччыне, згодна з данымі К. Гаворскага сярэдзіны XIX ст., на адным з крыжоў надпіс: "СТО ВЪХРЬ СТАНЬКО...", а ў Екімані — "ВО МЫ. ЦАИСЫА И СВЯТОГО ДУХА АМИНЬ. СИЙ ПАМЕТЬ ПОСТАВЛЕНА ПО РАБЕ БОЖІИЫ... ХАУУ СТАВ... А ПОСТАВИЛЬ СЫНЪ ПО ТШ... АХЛ", а на другім крыжы "ІОАНКО НЪМАНУШКЕВИЧЬ" [15, с. 98—103]. Цікава, што ў нашы дні, асабліва на поўначы Беларусі, паверх старых надпісаў на каменных крыжах высякаюцца новыя. Вядомы і выпадкі абнаўлення старых надпісаў фарбай. Некаторыя крыжы проста беляць. Такі звычай асабліва распаўсюджаны ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. Старажытнаславянскія надпісы акрамя Дзісны вядомы яшчэ каля вёсак Рудня Гарадоцкага, Заполле Бялыніцкага, Азярок Аршанскага раёнаў. На адным з крыжоў каля в. Пабокавічы Бабруйскага раёна ёсць лацінскі надпіс [10, с. 37]. Лацінскі надпіс на каменным крыжы вядомы і на месцы старых могілак у Валожыне.

На месцы сярэдневяковых могілак каменны крыж са схематычнай выявай чалавека знаходзіўся каля в. Вітунічы Докшыцкага раёна, ва ўрочышчы Каралёў Стан (паміж Докшыцамі і Бягомлем). Упершыню гэты помнік згадаў Я. Тышкевіч у 1847 г. Ён так апісваў крыж: "...У 715 кроках ад фальварка, з паўночна-заходняга боку, на схіле гары, у полі, фасадам на поўнач, у доле, выкладзеным камянямі, стаіць шэры камень цвёрдай пароды, высечаны ў форме крыжа. Называюць яго Каралеўскім каменем: ён мае два локці... На ім пасярэдзіне выбіты рыцар з мячом у правай руцэ і са шчытом у левай руцэ. З двух бакоў маленькія крыжыкі. Над галавой рыцара высечана каралеўская карона. Каля ног літары RSB, а ніжэй яшчэ два кругі (адзін ў адным). Унутры выбіта накшталт місы..." У гэтай жа публікацыі прыведзена і паданне, што тут ва ўрочышчы Стан-Круль спыняўся кароль і абедаў на гэтым камені. Выява чалавека адлюстроўвае караля-воіна, а літары азначаюць Rex Stehanus Batoreus. Кругі абазначаюць міску [64, с. 52]. Другое паданне пра гэты крыж надрукаваў П. Шпілеўскі таксама

у сярэдзіне XIX ст. Згодна з гэтым варыянтам падання, войска Стэфана Баторыя размясцілася каля хутара аднаго беднага шляхціца. Разгуляўшыся, салдаты перарэзалі ўсіх гаспадарскіх кароў, бараноў, абабралі сховішчы. Няшчасны шляхціц пакінуў хату, узяў жонку і малых дзяцей і адправіўся на дарогу, па якой павінен быў ехаць кароль. Убачыўшы караля, шляхціц спыніў яго каня і сказаў: "Стань, Круль!" Здзіўлены кароль запытаў, што трэба ад яго. Шляхціц, абкружаны плачучым сямействам, расказаў пра тое, што нарабілі салдаты, і папрасіў кампенсацыі.

"Чым жа мне цябе ўзнагародзіць?" — спытаў кароль. Шляхціц адказаў: "Кароль! Зямля, на якой ты стаіш, належыць табе. Падаруй яе мне!" "Бяры і маўчы!" — адказаў кароль. На гэтай зямлі шляхціц пабудаваў два хутары. Адзін назваў Каралеўскім Станам, ці Стан-Крулем, а другі — Мільчам [59, с. 186—187]. Мяркуючы па такіх сюжэтах паданняў, узвядзенне крыжа можна адносіць да XVI ст. Трэба адзначыць, што падобная выява вядома таксама на надмагільным каменным крыжы на тэрыторыі Сербіі [12]. Хутчэй за ўсё гэта не выпадкова. Як вядома, Стэфан Баторый паходзіў са старажытнага венгерскага роду Баторыяў Шомліо. Магчыма, калі ён быў каралём Рэчы Паспалітай, то у яго акружэнні служылі людзі, якія былі родам з блізкіх яго радзіме земель. Можа, помнік у Вітунічах і быў пастаўлены на магіле нейкага прыбліжанага да Стэфана Баторыя чалавека?

У краязнаўчай літаратуры шырока вядомы і так званы сокараўскі крыж, што стаяў на беразе возера Пола каля дарогі, якая ішла з Улы ў Сушу, паблізу маёнтка Сокарава на Полаччыне. Надпіс на крыжы быў наступнага зместу: "1569. ТУТ ПОЛОЖЕНО В ПОЛЕ 200 ВОИНОВ /ЖОВНЕР/ ВО ХРИСТЕ ПОСТАВИЛ ПОСЛЕ БИТВЫ ПО..." Далей разабраць немагчыма [32, с. 92—93]. Да памятных крыжоў на месцы бітвы адносяць і каменны крыж каля в. Неплы Пружанскага раёна. Лічыцца, што ён быў пастаўлены ў памяць аб бітве Серакоўскага ў 1794 г.

XVI ст. датуюцца каменныя крыжы ў вёсках Вендараж Магілёўскага і Купяцічы Пінскага раёнаў. На вендаражскім крыжы ў верхняй частцы быў высечаны маленькі чатырохканцовы крыжык, а ніжэй славянскія літары

АФЧИ (1598) і пад імі надпіс ИВАНЪ. Народнае паданне звязвае гэты крыж з забойствам, якое адбылося менавіта на гэтым месцы [49, с. 3—4].

Каменны крыж у Купяцічах стаяў побач з надмагільным каменем. Надпіс на ім сведчыў: "...ПРЕСТАВІЛСЯ РАБ БОЖИЙ КИРИЛЛ СЕМЕН ТЕРЛЕЦКИЙ... ЕПИСКОП ПИНСКИЙ И ТУРОВСКИЙ, А ПОЛОЖЕН БЫЛ ЗДЕСЬ... ЛЕТА БОЖИЯ... МЕСЯЦА МАЯ..." Вядома, што Цярлецкі быў апантаным прыхільнікам уніі і запомніўся сваёй дзейнасцю. Захавалася павер'е, паводле якога маланка сотні разоў біла ў гэты крыж за тое, што нябожчык пры жыцці ганьбіў праваслаўную веру [43].

Наогул з месцам забойства або ўстаноўкай крыжа на магіле забітага звязана шмат паданняў. Дарэчы, такі сюжэт паданняў вельмі распаўсюджаны ў Беларусі. Так, пра тры крыжы недалёка ад возера Сялява Крупскага раёна расказваюць, што яны пастаўлены на магілах двух рускіх генералаў (Макараўскі крыж, Маісееўскі крыж) і аднаго французскага (крыж Скарпіён) [5, с. 11—13]. Крыж з надпісам каля дарогі паблізу в. Шылавічы Слонімскага раёна нібыта пастаўлены на магіле веліканарабаўніка Семака. Семаком разбойнік зваўся таму, што рабаваў у наваколлі сем год. Веліканa атруціў кухар, які напаіў яго віном, а потым апарыў кіпятком [47, с. 20]. Заслаўскі крыж (Мінскі раён) звязваецца з месцам забойства нейкага Федзькі. Лічыцца, што на гэтым месцы рабаўнікі забілі Федзьку, каб забраць грошы, якія ён атрымаў за прададзеную карову [37, с. 51—53]. У дадзеным выпадку мы маем ўжо яскравы прыклад позняга падання пра каменны крыж. Крыж жа стаяў паблізу курганнага могільніка, што дазваляе яго лічыць вельмі старажытным. Каля в. Азярок Аршанскага раёна крыж нібыта пастаўлены на магіле нейкага генерала, забітага ў час шведскай вайны [11, с. 40—41]. Лічыцца, што каменны крыж каля в. Пляцы Сенненскага раёна пры дарозе з Оршы ў Сянно ўстаноўлены на месцы пагібелі княгіні Сангушкі. Расказваюць, быццам бы княгіня бясследна правалілася на месце. Князь Сангушка пракляў гэтае месца і закрыў дарогу. Праз нейкі час тут з'явіўся крыж [5, с. 11—13]. У вёсках Сымонічы і Дуброва

Лельчыцкага раёна расказваюць аб каменным крыжы на магіле Івана, які глядзеў пчол, зваліўся з дрэва, забіўся і тут жа пахаваны [35, с. 344]. У Мішневічах Шумілінскага раёна расказваюць, што крыж стаіць на магіле закаханых [4].

Асаблівай увагі варты каменны крыж з могілак каля в. Стража Кіраўскага раёна. На ім з вонкавага боку барэльефная выява чалавека ў даўгаполым жупане з гузікамі і поясам. На галаве шапка, на нагах боты. Менавіта так апраналася беларуская шляхта ў XVII—XVIII стст. Рукі сагнуты ў локцях, далоні на поясе. Рысы твару выразныя. Трэба меркаваць, што гэта і ёсць партрэт нябожчыка. Па краях лопасцей крыжа высечаны раўнабокія крыжыкі. З тыльнага боку ў сяродкрыжжы таксама выбіты крыжык. Па баках крыжа барэльефныя выявы гепардаў [20, с. 169—172].

Надмагільнымі крыжамі былі і так званыя екіманскія крыжы каля Полацка. Назва "екіманскія" абагульняе каменныя крыжы каля самой Екімані, а таксама каля вёсак Бяздзедавічы, Ксты, Сітна, г. п. Ветрына і іншых месцаў. Аб гэтых помніках пісалі Е. Канкрын [3, с. 256—265], К. Гаворскі [15, с. 98—103], Н. Кайгародаў [27]. Каля аднаго з екіманскіх крыжоў даследавана пахаванне, дзе знойдзены какарда з сярэбранай парчы і манета рускага цара Міхаіла Фёдаравіча (першая палова XVII ст.). Раскапаны пахаванні і яшчэ каля некалькіх крыжоў паблізу Полацка. У в. Чаркасова Аршанскага раёна ў 20-я гады каля каменных крыжоў на глыбіні паўметра былі знойдзены касцякі і познасярэднявечны гліняны посуд [18, с. 71, 79]. Чалавечыя косткі знаходзілі таксама каля каменнага крыжа ва ўрочышчы Пяскі паблізу в. Ветча Ушацкага раёна [6, с. 193].

Паколькі могілкі звычайна мясціліся каля дарог, то з цягам часу каменныя крыжы ператвараліся ў прыдарожныя. Многія каменныя крыжы пераносіліся з аднаго месца на другое, што звычайна звязвалася з нейкімі падзеямі. Напрыклад, каменны крыж каля в. Ксты пад Полацкам раней стаяў на кургане, а потым быў перанесены бліжэй да дарогі. У народзе вядома наступнае тлумачэнне пераносу крыжа. Неяк конь станавога прыстава, які ехаў з Полацка ў Ксты, спужаўся крыжа, кінуўся ўбок, а станавы зляцеў у

канаву. Прыехаўшы потым у Ксты, ён патрабаваў ад сялян зняць крыж і закапаць. Сяляне на гэта не згадзіліся і заявілі, што іх бацькі, дзяды і прадзеды зберагалі гэты крыж і пакланяліся яму. Тады было прынята рашэнне каменны крыж пераставіць да бліжэйшага драўлянага — "халернага" крыжа, які быў пастаўлены з мэтай збаўлення ад эпідэміі халеры [27]. Наогул, у Беларусі вельмі часта ставіліся крыжы па краях вёсак для абароны ад эпідэмій, а таксама ад ворагаў. Па старых звычаях, да такіх крыжоў вяскоўцы праводзілі нябожчыка. Па павер'ях, нельга было пераносіць толькі крыжы з могілак, бо тады людзей чакалі розныя няшчасці. Напрыклад, у в. Забалоцце Асіповіцкага раёна расказвалі, што неяк адзін чалавек забраў крыж, што стаяў каля яўрэйскіх могілак, і надумаў прадаць яго. Але адразу ж ў яго сталі балець ногі. Ён выздаравеў толькі тады, калі адвёз крыж на месца [10, с. 87].

Да многіх каменных крыжоў ішлі хрэсныя ходы, а то і проста па пэўных днях збіралася шмат людзей. Так, да каменнага крыжа, што стаяў калісьці каля в. Пярэжар Пухавіцкага раёна, у мінулым стагоддзі хадзілі ва ўсе вясеннія і летнія маладзіковыя нядзелі. Асабліва шмат людзей ішло 30 лістапада (па старому стылю). Жаніхі і нявесты прыходзілі прасіць у крыжа добрага сямейнага жыцця [17, с. 423].

Вялікай папулярнасцю яшчэ і ў нашы дні карыстаецца крыж каля в. Палачаны Маладзечанскага раёна. Крыж упрыгожваюць фартушкамі, стужкамі, кветкамі, у маленькае паглыбленне наверсе кладуць манеты. Вядома паданне, паводле якога калісьці гэты крыж знаходзіўся на полі і на ім ляжалі тры яблыкі. Аднойчы адзін злы чалавек з'еў яблык і адразу ж аслеп. Збегліся людзі, давялі яго да вёскі, і ўсе дзівіліся такому выпадку. Раніцай чалавек папрасіў адвесці яго да крыжа. Ён паклаў ахвяры і ў адну хвіліну да яго вярнуўся зрок. З тых часоў каменны крыж стаў лічыцца цудадзейным. Яго спачатку перанеслі пад дубкі, якія раслі на шляху ў в. Кабылкі, а потым на перакрыжаванне Яхімаўшчына — Палачаны і Палачаны — Кабыльнікі [62, с. 112—114].

З вялікай пашанай у мінулым стагоддзі адносіліся мінчане да каменнага крыжа, што стаяў на Аляксандраўс-

кай плошчы. Існавала павер'е, што пакуль стаіць крыж, усе жыхары бліжэйшых дамоў застрахаваны ад усякіх эпідэмій, пажараў і іншых няшчасцяў [24, с. 21].

Часта ў паданнях каменныя крыжы выступаюць як арыенціры закапаных скарбаў. Звычайна ў якасці скарбаў называюць крамлёўскія багацці з Масквы, якія нарабавалі французы ў 1812 г. Аб гэтым расказваюць у вёсках Пабокавічы Бабруйскага раёна, Вялікія Споры на Пастаўшчыне, Палачаны Маладзечанскага, Галошава Талачынскага раёнаў. Звычайна такія паданні з'яўляюцца ўжо наслаеннямі на больш раннія.

Ёсць і паданні аб каменных крыжах як аб межавых адзнаках. Так, паданне аб двух каменных крыжах каля в. Зачысце Барысаўскага раёна звязваецца з абазначэннем мяжы ў часы вайны з Сігізмундам [6, с. 532], а ў в. Заполле Аршанскага раёна каменны крыж нібыта азначаў мяжу Літоўска-Полацкага княства. Але часта каменныя крыжы і на самой справе выступалі ў якасці адзнак зямельных уладанняў. Такія звесткі сустракаюцца ў дакументах XVI—XVII стст. Напрыклад, у "Гісторыка-юрыдычных матэрыялах" знаходзім наступнае: "...Го мху ў валатоўкі, у могільнікі, і ў крыж каменны, ад таго ў дуб, у рубяжы старыя, даўныя...", або "...Першае поле Плітніца, другое поле з курганамі, на каторых каменны крыж...", або "...Каторыя землі і ляда яго міласці Пішніцкіх прылеглыя паабапал дарогі вялікай, якая ідзе ад Віцебска да Ілемніцы, ад воласьці. Волак ад крыжа каменнага..." [25, с. 496; 26, с. 429].

Можна прывесці і яшчэ шэраг цікавых паданняў пра каменныя крыжы. Так, пра крыж у в. Пліса Глыбоцкага раёна, які яшчэ і сёння стаіць каля старажытнага Альгердавага шляху ("гасцінцу вялікага"), паведамляюць, што яго зрабілі жыхары суседняй вёскі Крывічы пасля таго, як дарэмна спалілі аднаго чалавека за чарадзейства. Дым пайшоў роўна ўгору, а гэта азначала, што чалавек быў святы і душа яго паляцела на неба [23, с. 4].

Цікавае паданне існуе і пра каменныя крыжы пад назвай "Два браты". У 20-я гады яно было запісана ў в. Радзілавічы (Дзяржынск) Лельчыцкага раёна. У паданні расказваецца, што калісьці было дзве вёскі: адна Радзі-

лавічы, а другая на іншым баку балота, на месцы, якое завецца Забалота або Селішча. Вёскі не ладзілі паміж сабой, і асабліва ўзнікалі спрэчкі з-за жывёлы. Пагоняць адны пасвіць жывёлу, а другія займуць, парэжуць і з'ядуць. Жылі ў цяперашняй вёсцы браты-асілкі. Раз пайшлі яны ў другую вёску ўначы і выразалі ўсіх людзей. Зазлаваў за гэта на іх пан і паклікаў да сябе на суд. Браты зрабілі па жалезнай булаве і пайшлі. Пан запытаў іх: "Навошта вы столькі народу парэзалі?" "Гэта не мы,— адказалі асілкі,— а нашы палачкі" — ды як стукнуць булавамі аб падлогу. Павысыпаліся ўсе шыбы ў вокнах хаты і праламілася падлога. Паглядзеў на іх пан дый кажа: "Шкада мне траціць такіх асілкаў, ідзіце сабе дадому..." і адпусціў іх. Браты, ідучы ад пана, захапілі сабе па вялізным каменным крыжы, якія пасля іх смерці паставілі на магілах. Адсюль і назва "Два браты" [48, с. 49].

Несумненна, у дадзеным артыкуле прыведзены не ўсе звесткі аб каменных крыжах. Шмат яшчэ такіх помнікаў не трапіла на вочы навукоўцам. Асаблівую цікавасць уяўляюць надпісы на крыжах, вывучэннем якіх яшчэ ніхто не займаўся. Каменныя крыжы застаюцца той катэгорыяй помнікаў, якія патрабуюць пошукаў і дасканалага ўсебаковага вывучэння.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Аврахов. Археологическая загадка // Заря Запада (Витебск). 1926. № 281.
2. Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины // Труды Прибалтийской комплексной экспедиции. Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. С. 273—315.
3. Алексеев Л. В. Е. Ф. Канкрин и история открытия "Борисовых камней" в Белоруссии // Советская археология. 1991. № 2. С. 256—265.
4. Анапрыенка Ф. Адзінокая сасна // Герой працы ( г. п. Шуміліна Віцебскай вобласці). 1982. 16 лют.
5. Аникиевич К. Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев. 1907.
6. Апытальныя лісты 1924 года па Мінскаму і Барысаўскаму ўездам // Архіў аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 71.
7. Апытальныя лісты 1924 года // Архіў аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 70.

8. Апытальныя лісты 1928 года // Архіў аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 72.
9. А. С. (Спицын). Заметка о каменных крестах, преимущественно новгородских // Записки Отделения русской и славянской археологии Императорского Русского археологического общества. Т. V. Вып. I. СПб., 1903. С. 203—234.
10. Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі (Краязнаўчае апісанне). Вып. II. Менск, 1928. С. 79—87.
11. Васілеўскі Д. Помнікі старасветчыны на Аршаншчыне // Наш край. 1927. № 2 (17). С. 40—41.
12. Велецкая Н. Н. Языческая символика славянских архаических ритуалов. М., 1978. Малюнкі.
13. Веревкин М. Записка об археологических памятниках Витебской губернии // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна. 1893. С. 187—224.
14. Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Неман // Спадчына. 1991. № 5. С. 34—44.
15. Говорский К. Археологические изыскания в окрестностях Полоцка // Записки Императорского археологического общества. Т. 5. СПб., 1853. С. 98—103.
16. Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. Л., 1962.
17. Довнар-Запольский М. Заметка по этнографии белорусов // Живая старина. Вып. III. СПб., 1893. С. 422—423.
18. Дубінскі С. А. Чаркасоўскае гарадзішча пад Воршай // Запіскі аддзела гуманітарных навук: Працы. Кн. II. Т. 2. М., 1930. С. 71—79.
19. Дубінскі С. А. Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін. Мн. 1933.
20. Дучыц Л. У. Культавыя камяні Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989. С. 169—172.
21. Завитневич В. Археологическая экскурсия в Полесье // Чтения в историческом обществе Нестора Летописца. Кн. 4. Киев, 1890. С. 21.
22. Зайкоўскі Э. М. Справаздача аб палявых даследаваннях 1979 года // Архіў аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 647.
23. Зайкоўскі Э. М. Справаздача аб палявых даследаваннях 1981 года // Архіў аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі. Справа № 771. Ліст. 4.
24. Зянькевіч Рамуальд. Стары Мінск у беларускіх успамінах // Пачынальнікі. Мн., 1977.
25. Историко-юридические материалы. Вып. 22. 1891.
26. Там жа. Вып. 25, 1894.
27. Кайгородов Н. Н. Екиманские древности (Из поездок по Витебской Белоруссии. Археологическая заметка). СПб., 1912.
28. Киркор А. Поселения в Белорусском Полесье // Живописная Россия. СПб., М., 1882. Т. III. С. 357—428.
29. Короткевич В. Б. Памятники истории и культуры. Мн., 1978.
30. Крукоўскі А. Старадаўні Тураў і яго наваколіцы // Наш край. 1928. № 8—9 (11—12). С. 51—55.

31. Крывіч. 1923. № 2. С. 53.
32. Кустинский М. Ф. Надгробный камень над павшими в сражении 1568 года // Древности. Труды Московского археологического общества. Т. IV. М., 1874. С. 92—93.
33. Лабынцев Ю. А. В глубинном Полесье. М., 1989.
34. Лазаревич-Шепелевич Л. Ю. Извлечение из отчета об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901 году в Витебской губернии // Известия Археологической Комиссии. Вып. VI. СПб., 1904. С. 1—15.
35. Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 344.
36. Летопись Талядовичской Троицкой церкви Слуцкого уезда // Минские епархиальные ведомости. 1878. № 1. С. 13—23.
37. Ляўданскі А. Н. Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўль Менскай акругі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. V: Працы катэдры археалогіі. Т. 1. Мн., 1928. С. 1—92.
38. Ляўкоў Э. А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.
39. Малышевский Ив. О придорожных крестах // Труды Киевской духовной академии. 1865. Т. III. С. 323—429.
40. Мельников М. Новые вести из Браславской окраины. Ковна, 1908.
41. Мікіцкі Усевалад. Дванаццаць дзён краязнаўчага вандравання // Наш край. 1929. № 3 (42). С. 28.
42. Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 4: Працы катэдры этнаграфіі. Т. 1. Мн., 1928. С. 155—182.
43. Ненадавец А. Каменныя крыжы // Голас Радзімы. 1989. 13 ліп.
44. Н. Ф. Старинное кладбище // Витебский вестник. 1914. № 172.
45. Об обычае ставить кресты при дорогах, площадях, на полях и других открытых местах северо-западного края России // Литовские епархиальные ведомости. Вильно, 1870. № 21. С. 877—891.
46. Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильно, 1893.
47. Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильно, 1895.
48. Радзілавічы (Букчанскі с/с, Тураўскі раён, Мазырская акруга) // Наш край. 1928. № 8—9 (35—36). С. 49.
49. Романов Е. Каменный крест 1598 года // Сборник статей "Могилевских губернских ведомостей". Вып. I. 1898 и 1899 гг. Могилев-губернский, 1900. С. 3—4.
50. Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пцічы // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы катэдры археалогіі. Т. III. Мн., 1932. С. 197—214.
51. Сапунов А. Памятники времени древних и новейших в Витебской губернии. Витебск, 1903.
52. Сапунов А., Друцкий-Любецкий В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896.
53. Сведения 1873 года о городищах и курганах // Известия Императорской Археологической комиссии. СПб., 1903.
54. Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.

55. Семенов-Тянь-Шанский А. Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. IX. СПб., 1905.
56. Тарановіч В. Старасветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках // Наш край. 1928. № 8—9 (35—36). С. 37—44.
57. Турбин Н. М. Раскопки 1885 года // Древности. Труды Московского археологического общества. Т. XI. 1886. Вып. II. С. 83—85.
58. Чарняўскі М. М., Звярута Я. Г. Каменная выява з-пад Даўгінава // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 168—169.
59. Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 186—187 (факсімільнае выданне).
60. Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Мн., 1971.
61. Hołub-Pacewiczowa Z. Z geografii Prużańszczyzny // Ziemia. 1935. № 6—7. S. 117.
62. Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Cz. II. P-g, 1897.
63. Jarocki St. Głaz w Jachimowczyznie i tajemnicze cmentarzysko // Ziemia. 1933. N 12. S. 241—242.
64. Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

*Эрнст Ляўкоў, Аляксандр Карабанаў, Людміла Дучыц, Эдвард Зайкоўскі, Валерый Вінакураў*

# КУЛЬТАВЫЯ КАМЯНІ БЕЛАРУСІ

На большай тэрыторыі Беларусі, найперш за ўсё на яе поўначы і ў цэнтральнай частцы, шырока распаўсюджаны валуны. Іх з'яўленне тут абумоўлена мацерыковымі зледзяненнямі, цэнтрам якіх была Фенаскандыя. Звычайна памер валуноў не перавышае 0,7 м, радзей сустракаюцца глыбы да 1—1,5 м і зусім зрэдку — камлыгі да 3—5 м і болей. Самы вялікі з зарэгістраваных у рэспубліцы валуноў (Вялікі Камень) ляжыць каля в. Горкі Шумілінскага раёна. Яго даўжыня 11 м. Памеры камянёў змяншаюцца з поўначы на поўдзень Беларусі.

З'яўляючыся адметнай часткай ландшафту, валуны здаўна ўвайшлі не толькі ў матэрыяльную, але і духоўную культуру беларускага народа. У значнай ступені культавыя валуны звязаны з першабытнымі вераваннямі: шанаваннем аб'ектаў прыроды (камянёў, крыніц, дрэў), якія быццам бы маюць звышнатуральныя якасці (фетышызм), верай у тое, што асобныя камяні з'яўляюцца або раней былі жывымі істотамі (анімізм), а таксама з больш познімі рэлігійнымі

вераваннямі (культам продкаў, язычніцтвам з яго шматлікімі антрапаморфнымі боствамі, хрысціянствам).

Звесткі аб культавых камянях Беларусі сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах пачынаючы з XVI ст. (Хроніка Літоўская і Жамойцкая, Хроніка Мацея Стрыйкоўскага, Літоўская Метрыка). Так, пад 1557 годам каля в. Тарасава паблізу Мінска згадваецца Чортаў камень [1, с. 22]. Дакументы XVII ст. часта называюць камяні з высечанымі на іх крыжамі ў якасці пагранічных знакаў [4]. У канцы XVII ст. рускі падарожнік П. А. Талстой адзначыў камень з выявай ступні чалавека (следавік) у Барысаўскім касцёле [12, с. 17]. У 1751 г. пры размежаванні зямель жыровіцкіх базыльянаў і маёмасці в. Шыдловіцы (Шылавічы) архіўныя крыніцы называюць капцы з камянямі, на якіх высечаны гербы ўладальнікаў маёнткаў Бжастоўскіх ("стрэмя") і базыльянаў ("калона") [14, с. 71]. У 1773 г. вывучэннем Барысавых камянёў займалася экспедыцыя акадэміка І. І. Ляпёхіна. У пачатку XIX ст. пошукі камянёў з надпісамі і знакамі вяліся па ініцыятыве графа М. П. Румянцава. Па яго хадайніцтву расійскі ўрад прыняў рашэнне аб захаванні манументальных помнікаў эпіграфікі — "Барысавых камянёў" — у рэчышчы Заходняй Дзвіны [5, с. 90—91].

Асаблівая ўвага на культавыя камяні стала звяртацца з сярэдзіны XIX ст. Аб іх шмат пісалі вядомыя даследчыкі А. Плятар, А. Кіркор, Я. Тышкевіч, К. Гаворскі, П. Шпілеўскі, М. Кусцінскі, П. В. Шэйн, А. Я. Багдановіч, Ф. В. Пакроўскі, Е. Р. Раманаў, М. В. Доўнар-Запольскі і іншыя даследчыкі [2; 6, с. 92—93; 7; 10; 11; 13, с. 98—107; 15; 17]. Шмат артыкулаў, прысвечаных культавым валунам, друкавалася ў газетах, асабліва "Минских губернских ведомостях". Вялікая праца па вывучэнні культавых камянёў была разгорнута Інбелкультам ў 20-я гады XX ст. [9, с. 155—182]. У пасляваенныя гады звесткі аб культавых камянях збіралі археолагі Л. В. Аляксееў, Г. В. Штыхаў, Л. Д. Побаль. Некаторыя даныя трапілі ў "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі". Зараз вывучэннем культавых камянёў займаюцца аўтары артыкула [8].

На сённяшні дзень на тэрыторыі Беларусі налічваецца больш за 300 культавых валуноў, больш за 100 месцазна-

Т а б л і ц а. **Класіфікацыя культавых камянёў Беларусі**

| Тып | Клас | Від | Прыблізная колькасць |
|---|---|---|---|
| Культавыя валуны | Магічныя валуны (фетышы) | Абярэгі | 10 |
| | | Гойбіты | 20 |
| | | Следавікі | 100 |
| | | Цудадзейныя | 10 |
| | | Скарбнікі | 10 |
| | Анімістычныя валуны (пярэваратні) | Акамянелыя людзі | 20 |
| | | Акамянелыя жывёлы | 10 |
| | | Акамянелыя будынкі і азёры | 15 |
| | Авістычныя валуны (дзедавікі) | Абагаўлёныя продкі | 30 |
| | | Мемарыяльныя валуны | 10 |
| | Дэістычныя валуны (багавікі) | Валуны з імёнамі язычніцкіх боствau | 10 |
| | | Ахвярнікі | 15 |
| | | Чортавы камяні | 30 |
| | | Божыя (святыя) камяні | 10 |
| | | Барысавы камяні | 7 |
| | Крыптагенныя валуны | Валуны з выемкамі і ямкамі | 20 |
| | | Валуны з малюнкамі, знакамі, надпісамі | 10 |
| Культавыя вырабы з валуноў | Культавыя збудаванні з валуноў | Пахавальныя збудаванні | сотні |
| | | Капішчы | дзесяткі |
| | | Культавыя будынкі з валуноў | дзесяткі |
| | Ідалы (стоды) | Асобныя галовы | 10 |
| | | Фігуры | 20 |
| | Каменныя крыжы | Мемарыяльныя (памятныя) | 10 |
| | | Абярэгі | 20 |
| | | Надмагільныя | сотні |

ходжанняў каменных крыжоў і каля 30 каменных язычніцкіх ідалаў.

Усе культавыя камяні можна падзяліць на два асноўныя тыпы: культавыя валуны і культавыя вырабы з валуноў. Першы з гэтых тыпаў складаецца з наступных пяці класаў: магічныя валуны (фетышы), анімістычныя валуны (пярэваратні), авістычныя валуны (дзедавікі), дэістычныя

валуны (багавікі), крыптагенныя валуны (валуны з ямкамі і выемкамі і валуны з малюнкамі, надпісамі, знакамі). Культавыя вырабы з валуноў падраздзяляюцца на культавыя збудаванні з валуноў, ідалы і каменныя крыжы. Усе гэтыя класы ў сваю чаргу дзеляцца яшчэ на віды (гл. табліцу).

### Культавыя валуны (I тып)

**Магічныя валуны (фетышы).** Да класа магічных валуноў, або валуноў-фетышаў, належаць валуны-абярэгі, валуны-гойбіты, следавікі, цудадзейныя валуны і скарбнікі.

В а л у н ы - а б я р э г і вядомы ў вёсках Мількавічы (Мількановічы) Навагрудскага, Крынкі Асіповіцкага раёнаў і ў іншых мясцінах. У в. Мількавічы магічнай сілай валодаюць часткі, адбітыя ад валуна. У Крынках магічнымі лічыліся камяні ў форме птушак. У Крэве Смаргонскага раёна ў якасці абароны ад халеры ў 1871 г. на кожным баку вёскі было пастаўлена па валуну-абярэгу. З іх захаваўся толькі адзін камень вышынёй каля 1 м. На яго трох гранях выбіты шасціканцовыя крыжы.

В а л у н ы - г о й б і т ы. Па паданнях, дапамагаюць ад розных хваробаў. Дажджавая вада з валуноў лічылася лекавай і выкарыстоўвалася ў многіх вёсках, напрыклад, у в. Гостбішчы Уздзенскага і Мардвілавічы Любанскага раёнаў. Ад усіх хвароб дапамагаў камень фальварка Масікаўшчызна Свіслачскага раёна. У якасці лекаў ужываўся мох, які рвалі з каменя і сушылі. Ад хвароб вачэй нібыта дапамагала вада з каменя Кадрыль каля в. Камяное Бярэзінскага раёна, з валуноў каля вёсак Старадварэц на Гродзеншчыне, Кудзінавічы Капыльскага, Засімавічы Пружанскага, Воўкаўшчына Міёрскага раёнаў, г. п. Акцябрскі (Рудабелка). У Рудабелцы над каменем была пабудавана капліца, служыліся малебны, людзі прыносілі дары — лён, палатно, масла. Ад галаўных боляў дапамагаў камень, што ў в. Засімавічы Пружанскага раёна (ён дапамагаў яшчэ і ад хвароб вачэй), камень каля в. Шылавічы Слонімскага раёна. Ад ліхарадкі вылечваў камень у в. Півачына Пружанскага раёна. Дзяцей, хворых коклюшам, лячыў камень у в. Шылавічы Пружанскага раёна. У в.

Пярэжары Пухавіцкага раёна камень вылечваў паралітыкаў, кульгавых і глухіх. У выглядзе парашка камень каля в. Раменікі Іўеўскага раёна дапамагаў ад вар'яцтва. У Навіцкавічах Камянецкага раёна вада са слядка лячыла барадаўкі ў людзей і жывёл. Жывёл лячылі яшчэ камень каля в. Заснуддзе Браслаўскага раёна (коней) і камень Волас у Крыжоўцы каля Мінска (усіх хатніх жывёл).

Камянёў-следавікоў налічваецца каля сотні. Звычайна гэта невялікія (да 1,5—2 м) глыбы з ксеналітамі — уключэннямі іншароднага рэчыва ў асноўнай масе горнай магматычнай пароды. У групу следавікоў уваходзяць два віды: антрапаморфныя следавікі-адбіткі нагі (Божая Стопка, След Хрыста, След Багародзіцы, След Святой Панны, След Святога Мікалая, Стапа Багамацеры, След Чорта, След Д'ябла, След Валатоўны і інш.), адбіткі далоні (адзін са Змеевых валуноў у Сенненскім раёне, камень на беразе Сажа, камень пад алтаром Жыровіцкай царквы ў Слонімскім раёне) і зааморфныя следавікі — адбіткі капыт ці лап жывёл. Да найбольш старажытных можна аднесці камяні пад назвай След Валатоўны на беразе Свіслачы і каля в. Забежжа пад Віцебскам і пад назвай След Лебедзі каля в. Лукава Маларыцкага раёна. Такія назвы захаваліся з язычніцкіх часоў. Большасць жа следавікоў дайшлі да нас ў хрысціянскай інтэрпрэтацыі. Гэта След Маткі Боскай (Пружаны), След Багародзіцы (вёскі Касцяшы Любанскага, Дзераўная Лагойскага, Азярок Сенненскага, Шылава Пружанскага, Сянежычы Навагрудскага (мал. 1), Смілавічы Пухавіцкага раёнаў), Стапа Багамацеры (вёскі Засімавічы Пружанскага, Грандзічы Гродзенскага раёнаў, г. п. Акцябрскі), Ступень Прасвятой Багародзіцы або Ступень Багамацеры (в. Мэйры Лідскага раёна), След Багамацеры з Прадвечным Немаўляткам (Дзятлавічы), След Святой Панны (в. Масікаўшчызна Свіслацкага раёна), След Святой Дзевы (в.Ківачына Пружанскага раёна) і інш.

Сярод следавікоў з мужчынскімі назвамі ёсць камяні са слядамі Св. Мікалая (вёскі Куцаўшчына і Грозава Капыльскага раёна), Св. Антонія (в. Плябанаўцы Мастоўскага раёна). Вядомы Божы Слядок (вёскі Утрылава Сенненскага, Глыбачка Ушацкага, Астроўна Бешанковіцкага,

Бароўцы Вілейскага, Акулавічы Капыльскага, Мардвілавічы Любанскага, Гостбішчы Уздзенскага раёнаў), Божая Ножка (в. Чырвоная Слабада, або Вызна Салігорскага раёна). Некаторыя камяні-следавікі звязваюцца са следам Хрыста (вёскі Кудзінавічы Капыльскага, Кадка Глускага, Воўкаўшчына Міёрскага раёнаў). Мінскі следавік, што калісьці ляжаў на Траецкай гары, вядомы пад назвай Нага Пятра.



Мал. 1. Следавік (граніт) каля в. Сянежычы Навагрудскага раёна. Злева след чорта, справа — Божай Маці. Фота В. Вінакурава

Сярод зааморфных следавікоў два звязаны з конямі (Конь-Камень каля в. Заснуддзе і в. Краснагорка Браслаўскага раёна, конскі капыт на камені каля в. Пупелічы Барысаўскага раёна). Ёсць адзін камень са следам зайца (в. Чурылава Міёрскага раёна), адзін са следам бычка (Валожынскі раён), адзін са следам аленя (г. п. Радашковічы Маладзечанскага раёна). На валуне каля в. Журавец Асіповіцкага раёна маюцца слядкі чатырох жывёл — мядзведзя, ваўка, зайца і лісіцы. Па паданнях, слядкі быццам бы пакінулі звяры ў тыя часы, калі камяні былі мяккімі. След аленя яшчэ звязваюць са следам Залатога аленя шчасця.

Камяні з назвамі След Чорта (Чортаў след, Чортаў ступень) вядомыя каля вёсак Булавішкі-Якубянцы

Браслаўскага, Гальшаны Ашмянскага, Сянежычы Наваградскага раёнаў і ў іншых месцах. Каля в. Расальшчызна Іўеўскага раёна камень завецца Следам Д'ябла-абжоры.

Цудадзейныя валуны, або валуны-цудавікі, не маюць функцый абярэгаў або лекавых камянёў, але з імі паданні звязваюць прывіды і іншыя незвычайныя з'явы. Такія валуны вядомы ў вёсках Наўгароды Міёрскага, Камень Уздзенскага, Масцішчы, Сташэлішкі і Багданава Браслаўскага раёнаў. Напрыклад, мясцовыя жыхары апавядаюць, што ў в. Сташэлішкі каля валуна часам з'яўляюцца тры вершнікі і пужаюць людзей, а ў в. Багданава на валуне бывае агонь і бачаць старую з вялізным мехам.

Аб камянях-скарбніках у большасці выпадкаў звычайна гавораць, што пад імі закапаны скарбы. Часцей за ўсё гэта грошы (вёскі Пупелічы Барысаўскага, Масцішча Браслаўскага раёнаў), золата (вёскі Сташэлішкі Браслаўскага, Чурылава Міёрскага раёнаў), золата і срэбра (Расоншчына), золата і зброя (в. Дрычын Пухавіцкага раёна), брычкі з золатам (в. Мікулкі Пастаўскага раёна), багацце, нарабаванае французамі ў 1812 годзе (в. Бушавічы Глыбоцкага раёна) і г. д.

**Анімістычныя валуны, або пярэваратні.** Гэты клас адлюстроўвае рэшткі архаічных вераванняў у тое, што валуны, як і некаторыя іншыя прыродныя аб'екты (напрыклад, дрэвы), з'яўляюцца або маглі раней быць жывымі істотамі. Сярод звестак аб валунах як акамянелых істотах, будынках і рэчах вылучаецца 6 сюжэтаў: акамянелыя аратыя разам з валамі за працу на Вялікдзень, акамянелыя вяселлі, акамянелыя краўцы ці шаўцы, акамянелыя людзі за розныя правіннасці, акамянелыя жывёлы і акамянелыя будынкі (часцей разам з людзьмі).

Найбольш распаўсюджаны паданні аб акамянелых аратых разам з валамі за працу на Вялікдзень. Звычайна гавораць аб аратым і двух валах (вёскі Гурыны Мазырскага, Крынка Асіповіцкага, Галаўлі Дзятлаўскага, Быкавічы Бярэзінскага раёнаў). У некаторых паданнях яшчэ фігуруе жонка аратага, якая прынесла яму снеданне ці абед, сабака, гаршкі і ручнік. Так, у паданні аб валунах каля в. Мсціж Барысаўскага раёна жонка прынесла

аратаму абед і сказала: "Памагай Бог!" Адразу ж араты, ягоная жонка, быкі і сабака, які прыбег за жанчынай у поле, акамянелі. У паданні пра камень каля в. Бібікі Мазырскага раёна спляліся два сюжэты — біблейскі сюжэт пра акамянелую жанчыну і сюжэт пра аратага.

Паданні пра а к а м я н е л ы я в я с е л л і пераклікаюцца з падобнымі паданнямі пра курганы, дзе магільныя насыпы — гэта пахаванні ўдзельнікаў вяселля, якое сустрэлася з лютым змеем, або на месцы курганоў адбылася бойка паміж двума вяселлямі — адно ехала з царквы, а другое ў царкву і не хацелі саступаць адно другому дарогу (вёскі Збляны Лідскага, Дзярэчын Слонімскага раёнаў).

Большасць паданняў пра акамянелых людзей ідзе яшчэ ад часоў хрысціянізацыі. Гэта, напрыклад, Сцёп-Камень — акамянелы Сцяпан, які ў першы дзень Вялікадня выехаў араць (в. Краснікі Докшыцкага раёна). Гавораць, што калісьці камень быў з галавой, рукамі і нагамі. У Бялынічах і в. Дзераўной Слонімскага раёна камяні лічацца акамянелымі жанчынамі. У Дзераўной жанчына была з дзіцем і з пацеркамі на шыі.

У в. Іканы на Барысаўшчыне, згодна з паданнем, быў дрэнны князь, людзі праклялі яго, ён акамянеў і ўвайшоў у зямлю. Засталася толькі галава. У в. Горкі Чэрвеньскага раёна вялікі камень лічыцца акамянелым волатам, а каля в. Пярэжар Пухавіцкага раёна два валуны зваліся акамянелымі Дзям'янам і Мар'яй.

З валуноў, у якія ператварыліся жывёлы, вядомы Воўк, Гусак, Мядзведзь, Быкі, Карова, Кот, а таксама Змеевы і Вужыныя камяні. Паданні аб такіх камянях можна лічыць самымі архаічнымі. Даволі распаўсюджана назва *Змееў камень*. Каля в. Віркаў Чашніцкага раёна вядомы Змей-Кравец, у валуне паблізу в. Валэйкішкі Астравецкага раёна быццам бы жыў змей (цмок) Вяль. На Расоншчыне існуе наступнае паданне. Цмок ляцеў з золатам і срэбрам да грэшнікаў. Раптам неба раскалолася, цмок упаў і ператварыўся ў камень, а скарбы апынуліся ў зямлі пад каменем.

Даволі распаўсюджаны паданні пра а к а м я н е л ы я в ё с к і, а з ё р ы, х р а м ы. Так, у Ружанах

Слуцкага раёна на месцы камянёў нібыта раней была вёска. У паданні гаворыцца, што дзядок, якога не пусцілі пераначаваць, усю вёску ператварыў у камяні, а дзяўчыну, што прынесла дзядку хлеба, але не паслухалася яго і аглянулася, перавярнуў у зязюлю. Камень паблізу в. Галынка каля дарогі з Падросі ў Ваўкавыск ляжыць нібыта на месцы былога возера. Згодна з паданнем, тут некалі праязджала багатая пані з любімым сабачкам. Яна хацела выкупаць сабачку, але той утапіўся. Пані пракляла возера, яно ўвайшло ў зямлю і на паверхні замест возера застаўся толькі камень. Пра валун каля в. Старадварэц на Гродзеншчыне гаворыць, што на яго месцы раней стаяў касцёл.

Сярод анімістычных валуноў асобна стаяць камяні-краўцы і шаўцы. З іх сем шылі адзенне, тры боты, прычым сярод тых валуноў, што шылі адзенне, два камяні называюць Сцяпанамі, адзін Чортавым, адзін — Змеевым, а сярод камянёў, што шылі боты, адзін завецца Гомсіным. Усе камяні-краўцы лічацца акамянелымі хатамі. Паданні пра такія камяні амаль аднолькавыя. Напрыклад, у Высокім Гарадцы Талачынскага раёна да каменя вечарам прыносілі тканіну і прасілі: "Сцяпан, сшый мне жупан", а раніцай атрымлівалі адзенне. Аднойчы ўвечары нейкая баба прынесла сукно, паклала на камень і папрасіла: "Сцяпан, сшый мне ні тое, ні сёе". Раніцай яна прыйшла і ўбачыла, што адзін рукаў на месцы, а другі прышыты да падолу. З тых часоў камень перастаў шыць. У в. Стары Пагост Міёрскага раёна расказваюць, што ў камені было акенца, праз якое клалі тканіну і гаварылі, што пашыць. На наступны дзень адзенне было гатова. Камень каля в. Віркава (Змееў камень) усім шыў адзенне бясплатна, але толькі нельга было яго аб гэтым прасіць, а калі папрасіць, то ён зробіць наадварот, парэжа тканіну і выкіне. Камень ні з кім не размаўляў. За працу яму прыносілі есці і піць. Той момант у паданні, што прыносілі есці і піць, можна лічыць адгалоскам старажытнейшых ахвярапрынашэнняў камяням.

Аб камені каля Бабруйска вядома паданне, паводле якога тут быў такі кравец, што нельга было яго ні прасіць, ні паказваць, як шыць. Адзін раз прынесла да яго тканіну на шлюбны ўбор дзяўчына-чараўніца і стала

тлумачыць, як зрабіць. Кравец раззлаваўся і не пашыў усяго патрэбнага. Чараўніца за гэта ператварыла хату разам з краўцом у камень.

Пра камень паблізу в. Вароніна Сенненскага раёна (мал. 2) існуе некалькі паданняў. Напрыклад, згодна з адным з іх, камень доўга шыў адзенне, пакуль адна баба не папрасіла: "Сшый мне ні тое, ні сёе". Камень адзін рукаў ушыў у плячо, а другі прышыў ззаду. З тых часоў камень і перастаў шыць. Па другому паданню, на камені сядзеў чорт і шыў адзенне.



Мал. 2. Кравец, ці Чортаў камень (граніт рапаківі) каля в. Вароніна Сенненскага раёна. Другі па памерах валун Беларусі (даўжыня 10,2 м). Фота В. Вінакурава

**Авістычныя культавыя валуны.** Гэты клас аб'ядноўвае неапрацаваныя прыродныя валуны, якія маюць дачыненне да культу продкаў. Адны з іх увасабляюць непасрэдна продкаў, другія звязваюцца з гістарычнымі асобамі і падзеямі.

Сярод валуноў, якія увасабляюць абагаўлёных продкаў, можна вылучыць камяні з назвамі Стары, Дзед, Дзедаў камень (в. Жыдомля Гродзенскага раёна, г. Мінск). Напрыклад, у Мінску на капішчы, якое праіснавала да пачатку XX ст., валун Дзед (мал. 3) займаў цэнтральнае месца. Яму ахвяравалі мёд, малако,

віно, апраналі на яго фартухі, абвязвалі ручнікамі, спавівалі палатном. Паблізу ад каменя гарэў свяшчэнны агонь і рос вялізны дуб.



Мал. 3. Валун Дзед, ці Стары, з былога Мінскага капішча на беразе Свіслачы ў Мінску. Фота В. Вінакурава

Больш вядома валуноў, звязаных з гістарычнымі асобамі і месцамі гістарычных падзей. Так, з Напалеонам суадносяць камяні каля воз. Укля і г. Друі на Браслаўшчыне, каля в. Язна на Міёршчыне, а са Стэфанам Баторыем — камяні (каменныя крыжы) каля вёсак Вітунічы Докшыцкага і Даўгінава Вілейскага раёнаў. Ёсць камяні А. Міцкевіча, Ф. Багушэвіча, Марыны Мнішак, Іасафата Кунцэвіча. Каля каменя-следавіка паблізу в. Плябанаўцы Мастоўскага раёна нібыта малілася каралева Бона і г. д.

Пералічаныя назвы — гэта ўжо пазнейшыя наслаенні на больш раннія накшталт Дзедаў камень, Стары.

**Дэістычныя валуны (багавікі).** Значную частку гэтага класа культавых валуноў займаюць валуны, якія звязаны з язычніцкімі боствамі. Найбольшай увагі заслугоўваюць валуны з і м ё н а м і я з ы ч н і ц к і х б о с т в а ў. Так, камень каля в. Крамянец Лагойскага раёна завецца Даждзьбогаў камень (Святы камень), тры камяні маюць назву Пярун (вёскі Папялы Глыбоцкага, Расходна Сенненскага раёнаў (мал. 4), на беразе воз. Дрывяты каля Браслава). Камяні з назвамі Волас вядомы ў Крыжоўцы Мінскага раёна, каля в. Волас на Браслаўшчыне. Камень Воласень згадваецца на Ушаччыне. Два камяні вядомы пад назвамі Пястун (Чэрвеньшчына і па дарозе з Себежа ў Люцын). Да гэтай групы камянёў можна далучыць і Лешы камень каля в. Еляшоўка Чашніцкага раёна.



Мал. 4. Пярун-камень (граніт рапаківі) каля в. Расходна Сенненскага раёна. Фота В. Вінакурава

З я з ы ч н і ц к і м і а х в я р н і к а м і (к а п і ш ч а м і) былі звязаны валуны, якія маюць назву Капішча (в. Мосар Ушацкага раёна), Алтар (вёскі Жыровіцы Слонімс-

кага, Мсцібава Ваўкавыскага, Верасніца Столінскага, Хвінявічы Дзятлаўскага раёнаў), а таксама камяні, дзе, па паданнях, гарэў нязгасны агонь (хутар Тупальшчызна Смаргонскага раёна), або камяні, паблізу якіх адбываліся гулянні (Мар'іна Горка Пухавіцкага, Язна Міёрскага, Казлоў Бераг Бярэзінскага, Гародня Чэрвеньскага раёнаў). Дачыненне да былых язычніцкіх ахвярнікаў, верагодна, маюць і валуны, на якіх адбываліся пакаранні смерцю (вёскі Суткава Смаргонскага, Жырмуны Лідскага, Воўкаўшчына Міёрскага раёнаў).

Шырока распаўсюджаны ў Беларусі валуны, якія, па паданнях, звязаны з чортам або д'ябалам. У адносінах да Чортавых валуноў можна вылучыць 5 сюжэтаў паданняў. Найбольш распаўсюджаны паданні, ў якіх чорт нёс камень, але праспяваў певень і чорт выпусціў камень. Звычайна каменем чорт хацеў заваліць дзверы храма. Такія паданні маглі ўзнікнуць у часы супрацьстаяння язычніцтва і хрысціянства. Персанаж жа пеўня хутчэй за ўсё захаваўся яшчэ з дахрысціянскіх часоў. Да найбольш ранніх з гэтай серыі можна аднесці нарачанскае паданне, паводле якога чорт будаваў грэблю і хацеў злучыць вёскі, якія знаходзіліся на супрацьлеглых берагах, але праспяваў певень і чорт быў вымушаны скончыць працу. З храмам звязаны паданні пра камяні каля вёсак Ратынцы і Камень Валожынскага, Вялец Глыбоцкага, Стары Пагост Міёрскага раёнаў. Першыя тры паданні аднолькавыя па сюжэтах. Згодна з імі, чорт нёс камень, каб заваліць дзверы храма. У паданні пра старапагосцкі камень гаворыцца, што людзі ўдзень звозілі камяні на будаўніцтва царквы, а чорт за ноч перакідаў іх на другі бераг. Тады камень Кравец ператварыўся ў волата і колькі камянёў чорт перакіне праз раку, то волат яму назад удвая больш. Ад гэтага сабралася столькі камянёў, што хапіла пабудаваць царкву.

Шмат паданняў існуе пра Чортавы слядкі (камяні-следавікі), (Чортаў ступень у Гальшанах Ашмянскага, Дзераўной Лагойскага раёнаў і інш.). Пра камень Чортаў след каля в. Булавішкі-Якубянцы кажуць, што ў камені жыў чорт і здзекаваўся з праходзячых міма людзей. У паданні пра камень каля в. Расальшчызна Іўеўскага раёна

замест чорта фігуруе д'ябал. Ён пакінуў на камені след, калі прарок Ілля гнаў яго з зямлі.

Часта чорт выступае ў якасці краўца ці шаўца. Адлюстраваннем язычніцкіх святаў дайшлі да нас паданні пра тыя камяні, каля якіх нібыта збіраліся чэрці і таньчылі, а ў поўнач чуліся піск і грукат. Так, пра камень Чортавы дучкі на Гродзеншчыне гаворыцца, што там у поўнач збіраліся чэрці і каталі па ямках каменьчыкі. У паданні пра камень каля в. Вялец Глыбоцкага раёна чорт таньчыў і ад яго пятак засталіся дзіркі. Хутчэй за ўсё з язычніцкімі абрадамі звязаны і тыя камяні, паданні аб якіх гавораць, што чэрці распраналі выпіўшых і ўкладвалі спаць на камені.

Цікавае паданне пра камень з адтулінай каля в. Жукаўка Вілейскага раёна. Пакуль чорт быў маладым, то мала думаў пра сваю гаспадарку, а пад старасць ніхто не захацеў яго карміць і прыйшлося яму самому здабываць ежу. Зрабіў ён з каменя жорны і паклаў іх на воз. У дарозе конь стаміўся і не мог больш цягнуць воз. Чорт пачаў біць каня і той скінуў камень у канаву.

Ёсць камяні з назвамі Божы або Святы камень (вёскі Дубнікі Любанскага, Крамянец Лагойскага раёнаў). Хутчэй за ўсё гэтую назву атрымалі язычніцкія ахвярнікі ў часы хрысціянізацыі.

Да былых язычніцкіх святынь адносяцца і шырока вядомыя Барысавы камяні з надпісамі XII ст. Вядомы 7 помнікаў з такой назвай. Яны маюць характэрныя выявы крыжа і надпісы тыпу "Господі, помозі рабу своему Борису". Пяць такіх камянёў знаходзяцца ў рэчышчы Заходняй Дзвіны — адзін каля Полацка, два каля г. Дзісны, адзін у г. п. Друі, і два на водападзеле Дняпра і Заходняй Дзвіны каля вёсак Дзятлава Аршанскага і Высокі Гарадзец Сенненскага раёнаў. Адзін з Барысавых камянёў (Сулібор Хрэст), што быў каля Дзісны, у канцы мінулага стагоддзя перавезены ў Маскву і зараз знаходзіцца ў Музеі-запаведніку "Каломенскае". Камень, што ляжаў каля в. Падкасцельцы, у 1981 г. перавезены да Сафійскага сабора ў Полацку. Друйскі камень зараз поўнасцю пакрыты вадой (вусце р. Друйкі пры ўпадзенні яе ў Заходнюю Дзвіну). Астатнія Барысавы камяні былі знішчаны.

**Крыптагенныя валуны** — гэта аб'екты, якія пакуль што нельга з ўпэўненасцю аднесці да якога-небудзь з вышэйназваных класаў. Да крыптагенных аднесены валуны з выемкамі рознай формы, ямкамі, нерасшыфраванымі малюнкамі, знакамі, надпісамі.

В а л у н ы з в ы е м к а м і і я м к а м і зафіксаваны ў вёсках Воўкаўшчына і Бертаўшчына Міёрскага, Махірова Полацкага, Палашкі Ваўкавыскага (Дзева Блюдас), Асавец Любанскага, Волма Смалявіцкага, Лебедзева Маладзечанскага, Вялец Глыбоцкага, Вялічкі і Каптаруны Пастаўскага раёнаў і інш. Паданні аб іх самыя разнастайныя. Частка такіх аб'ектаў можа быць звязана з культам продкаў.



Мал. 5. Камень са старажытнымі малюнкамі з в. Стайкі Лагойскага раёна. Фота В. Вінакурава

В а л у н ы з в ы с е ч а н ы м і н а і х з а г а д к а в ы м і м а л ю н к а м і адзначаны ва ўрочышчы Мачулішчы на Віліі, каля в. Альшэва паблізу воз. Свір, вёсак Стайкі Лагойскага (мал. 5), Пнеўшчына Горацкага, Машчонава Пухавіцкага, Ліпск Докшыцкага, Веравая Слаўгарадскага раёнаў і г. д. У в. Шайбакі Шчучынскага раёна быў камень з выявай галавы чалавека, галавы каня,

лука, стралы і нейкі надпіс. Паданне гаворыць, што гэты помнік устаноўлены ў гонар перамогі князя Эрдвіла над палкаводцам хана Батыя Шэйбакам у 1242 г.

Сярод камянёў з надпісамі цікавасць уяўляе камень, знойдзены ў 1977 г. пры расчыстцы паўднёвай сцяны ў Полацкім Сафійскім саборы. На ім некалькі надпісаў рознага часу. Большасць з іх — уласныя імёны [3, с. 7—12].

### Культавыя вырабы з валуноў (II тып)

Гэты тып культавых камянёў уключае культавыя збудаванні з валуноў, ідалы і каменныя крыжы.

**Культавыя збудаванні з валуноў** у сваю чаргу падзяляюцца на пахавальныя збудаванні, капішчы і культавыя будынкі з валуноў.

Да пахавальных збудаванняў адносяцца грунтовыя магілы часоў эпохі бронзы і жалезнага веку з камянямі, выкладзенымі ў выглядзе невялікіх скрыняў, каменныя курганы, каменныя магілы і надмагіллі розных часоў. Каменныя курганы ўяўляюць сабой збудаванні, цалкам складзеныя з камянёў ці ўзведзеныя з камянёў і зямлі. Звычайна вышыня такіх курганоў 0,5—0,8 м. Пашыраны яны ў Верхнім і Сярэднім Панямонні, сярэднім цячэнні Заходняга Буга. Такія помнікі датуюцца канцом I — пачаткам II тысячагоддзяў. Выбрукоўкі або аградкі з камянёў сустракаюцца і ў земляных курганах.

Каменныя магілы вызначаюцца наяўнасцю каменных выбруковак у адзін ці два рады над магіламі і датуюцца X—XVII стст. Асноўная колькасць каменных могільнікаў знаходзіцца на тэрыторыі Гродзенскай вобласці. Адзінкавыя помнікі ёсць у Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях і на паўднёвым усходзе Літвы. У народзе такія помнікі вядомы пад назвамі Татарскія магілы, Шведскія магілы, Паганскія магілы, Баярскія магілы і інш. Пазней каменныя магілы пераходзяць у грунтовыя магілы з камянямі толькі ў галавах і нагах, ці магілы з каменнымі крыжамі. Пазнейшыя надмагільныя каменныя збудаванні прадстаўлены таксама помнікамі, зробленымі з валуноў у выглядзе дрэў з абсечанымі галінкамі, а таксама пахавальныя склепы, складзеныя з

валуноў, і валунныя агароджы могілак. Гістарычную цікавасць ўяўляюць таксама надмагіллі на старых яўрэйскіх і татарскіх могілках. Некаторыя татарскія магілы маюць яшчэ абкладкі з валуноў.



Мал. 6. Ідал (базальт) ва ўрочышчы Рэкшаты на беразе возера Павулле (в. Цётча) Ушацкага раёна. Фота В. Вінакурава

К а п і ш ч ы з састаўленых валуноў існавалі каля вёсак Цётча (мал. 6) Ушацкага і Воўкаўшчына Міёрскага раёнаў. Некаторыя комплексы валуноў выкарыстоўваліся ў якасці старажытных астранамічных абсерваторый. Найбольш вядомы беларускі *Стоўнхендж* на беразе Янава возера каля в. Бікульнічы (мал. 7) у Полацкім раёне, пабудаваны з некалькіх валуноў, якія выкладзены ў форме літары "П". Кожны бок фігуры меў даўжыню каля 15 м і быў арыентаваны на паўночны захад — на месца заходу сонца ў момант сонцавароту. Такая пабудова хутчэй за ўсё прызначалася для святкавання летняга сонцастаяння і з'яўлялася капішчам.



Мал. 7. Рэшткі капішча з валуноў граніта і гнейса ва ўрочышчы Камяні *каля в. Бікульнічы Полацкага раёна на березе Янава возера. Фота* В. Вінакурава

Да культавых будынкаў з валуноў адносяцца многія храмы, званіцы і капліцы: званіца Пакроўскай царквы ў Асінгарадку Пастаўскага раёна (пач. XX ст.), Расонская царква (другая палова XIX ст.), касцёл у Браславе (канец XIX ст.), царква ў в. Слабада Мядзельскага раёна (канец XIX ст.), храм XII ст. з Менскага замчышча і інш.

**Ідалы (стоды).** Па археалагічных і пісьмовых крыніцах вядома, што выраб манументальнай скульптуры ва Усходняй Еўропе распаўсюджаны ў асноўным з III—IV да XII—XIII стст. Выявы рабіліся ў гонар памерлых правадыроў. Пасля прыняцця хрысціянства драўляных ідалаў спальвалі, а каменных разбівалі, скідвалі ў рэкі, азёры, балоты. Заступнікі старой веры часта закопвалі сваіх куміраў. З цягам часу царква стала больш цярпіма адносіцца да язычніцтва, і раней звергнутых ідалаў пачалі ставіць на ростанях, у капліцах замест хрысціянскіх святых або на могілках (вёскі Ульянавічы Сенненскага, Залуззе Жабінкаўскага, Алізаравічы Рэчыцкага, Богіна Браслаўскага раёнаў).

Сярод ідалаў, знойдзеных у Беларусі (больш за 30), можна вылучыць асобныя каменныя галовы (каля 10), якія ўстаўляліся ў драўляныя ці каменныя пастаменты (г. Слонім [18], в. Астрамечава Брэсцкага раёна, г. Шклоў [16, с. 66], па цячэнню рэк Случы, Бярэзіны і Прыпяці, Цар Давыд на Чэрвеншчыне), і фігуры. Сярод фігурных ідалаў ёсць выразныя чалавекападобныя (в. Богіна Браслаўскага раёна) і ў рознай ступені стылізаваныя формы (в. Залуззе Жабінкаўскага раёна, Лепель, Чаплі каля Брэста, вёскі Юхнавічы Слонімскага, Хожава Маладзечанскага, Алізаравічы Рэчыцкага, Даўгінава (мал. 8) Вілейскага, Буцькі Пружанскага раёнаў і інш.).



Мал. 8. Стод-крыж (гнейс) з-пад Даўгінава Вілейскага раёна (Стод Мары). Фота В. Вінакурава

**Каменныя крыжы** сталі з'яўляцца з распаўсюджваннем хрысціянства і ў першыя часы ставіліся на месцах знішчаных язычніцкіх капішчаў, каля вадаёмаў у гонар хрышчэння, пры будаўніцтве храмаў (мал. 9), як абярэгі ад ворагаў і эпідэмій на ростанях ці па краях вёсак і гарадоў. Пазней крыжы пачалі ставіць на могілках.



Мал. 9. Крыж (граніт рапаківі) вышынёй 2,5 м з в. Камаі Пастаўскага раёна. Фота В. Вінакурава

Па прызначэнню вылучаюцца мемарыяльныя (памятныя) каменныя крыжы (тураўскія крыжы, вёскі Сокарава Бешанковіцкага, Дрысвяты Брас-

лаўскага, г. п. Заслаўль Мінскага, Неплы Пружанскага раёнаў), а б я р э г і (г. Мінск, вёскі Пупелічы Барысаўскага, Грабаўцы Жабінкаўскага, Пліса Глыбоцкага раёнаў) і н а д м а г і л ь н ы я к р ы ж ы (вёскі Вільча Жыткавіцкага, Стража Кіраўскага, Вітунічы і Слабада Докшыцкага, Перавоз і Бабруйшчына Глыбоцкага раёнаў).

Такім чынам, культавыя валуны шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. Яны прадстаўлены рознымі тыпамі, класамі, відамі. Вывучэнне гэтай адметнай групы помнікаў дазваляе глыбей зразумець асаблівасці культуры і гістарычнага мінулага.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Беларускі архіў. Т. III: Менскія акты. Менск, 1930.
2. Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.
3. Булкин В. А., Рождественская Т. В. Надпись на камне из Полоцкого Софийского собора // Памятники культуры: Новые открытия. Ежегодник. 1982. Л., 1984. С. 7—12.
4. Историко-юридические материалы. Вып. 22. 1891; Вып. 25. 1894; Вып. 26. 1895.
5. Козлов В. П. Колумбы российских древностей. М., 1981.
6. Кустинский М. Ф. Надгробный камень над павшими в сражении в 1568 году, найденный в Лепельском уезде Витебской губернии // Древности. Т. IV. М., 1874.
7. Легенды і паданні. Мн., 1983.
8. Ляўкоў Э. А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.
9. Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 4: Працы кафедры этнаграфіі. Т. 1. Менск, 1928.
10. Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893.
11. Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии // Труды IX Археологического съезда в Вильне. Т. 1. М., 1895.
12. Путевые заметки стольника П. А. Толстого о Могилевской губернии в 1697—1699 гг. // Сборник статей "Могилевских губернских ведомостей". Вып. 1. 1898 и 1899. Могилев, 1900.
13. Рассадин С. Е. Неизданная книга "(Евдоким Романович Романов). Археологическая карта Могилевской губернии" // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986.
14. Шаблюк Валерый. Што ні знак, то гісторыя // Мастацтва Беларусі. 1990. № 7.
15. Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. II. СПб., 1893.

16. Штыхов Г. В. Интересная находка // Искусство. 1964. № 7.
17. Baruch M. Boże Stopki. Warszawa, 1907.
18. Stabrowski J. Odnalezienie głowy starosławiańskiego bostwa w Słonimie // Ziemia Lidzka. Z. IV. N 1. Lida, 1937.

*Юрый Гардзееў (Гродна)*

## ДА ПЫТАННЯ ФАРМІРАВАННЯ ГРОДЗЕНСКАЙ УРБАНАНІМІКІ (КАНЕЦ X — 30-я ГАДЫ XX ст.)

Працэс фарміравання урбананімікі адлюстроўвае розныя аспекты жыцця горада: развіццё рамяства і гандлю, асаблівасці ландшафту, знешнегарадскіх кантактаў, культурна-нацыянальных адносін. Спецыфічнае становішча сярод беларускіх гарадоў займае г. Гродна, планіроўка гістарычнага цэнтра якога захавалася да нашых дзён. Праблема з'яўлення і змен назваў гродзенскіх гадонімаў (лінейных гарадскіх аб'ектаў) і агаронімаў (плошчаў, рынкаў і г. д.) на сённяшні дзень фактычна не распрацавана. Яе ўскосна закранаюць толькі некалькі прац XIX — пачатку XX ст. Першыя працы па сістэматызацыі гродзенскага урбананімічнага фонду з'явіліся ў 30-я гады XX ст. Іх аўтарам быў гродзенскі гісторык і археолаг Ю. Ядкоўскі [20; 21]. Нягледзячы на адсутнасць грунтоўнага аналізу эвалюцыі гарадской тапанімікі Гродна, публікацыі Ю. Ядкоўскага і сёння маюць пэўную краязнаўчую вартасць.

У гэтым артыкуле ўвага звернута на наступныя аспекты праблемы: а) аналіз прычын і фактараў фарміравання гродзенскай урбананімікі; б) тыпалогія гадонімаў і агаронімаў Гродна на асобных этапах развіцця горада.

База крыніц праблемы даволі багатая. Акрамя апублікаваных матэрыялаў (гарадскіх інвентароў, каралеўскіх прывілеяў, земскіх і гродскіх актаў і г. д.) пры напісанні артыкула выкарыстаны дакументы XVI—XIX стст. з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы, а таксама картаграфічныя матэрыялы (асабліва легенды планаў г. Гродна

XVIII—XIX стст.) Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве.

Паводле даных археалагічных раскопак, Гродна быў заснаваны ўжо ў канцы X — пачатку XI ст. [14, с. 18]. Побач з дзядзінцам узнікаюць рамесна-гандлёвыя пасады. Можна дапусціць, што ўжо з XI—XII стст. пачынаецца фарміраванне вулічнай сеткі на пасадах, размешчаных на поўнач і ўсход ад замка, а таксама на Падоле (не выключана, што сучасная вуліца Падольная [6, с. 70] сфарміравалася менавіта ў азначаны час).

Развіццё гэтага першапачатковага гарадскога арганізма было перапынена пастаяннымі крыжацкімі нападамі з 80-х гадоў XIII ст. [15, с. 876], у выніку якіх адзначаецца урбаністычны застой.

Першую спробу рэканструкцыі планіровачнай структуры Гродна XIII—XV стст. зрабіў Ю. Ядкоўскі [19; 23, с. 11], у якой ён накідаў верагодныя межы горада, сетку вуліц і плошчаў і г. д. Рэканструкцыя Ю. Ядкоўскага ахоплівае таксама назвы агаронімаў і гадонімаў. Яна была апрацавана на падставе матэрыялаў XVI, а не XIII—XV стст. з прычыны адсутнасці апошніх, што выклікае сумненне ў дакладнасці гэтай рэканструкцыі. Гарадская урбананіміка XIII—XV стст. пакуль што застаецца нявысветленай.

Першыя ўпамінанні ў пісьмовых крыніцах назваў вуліц і плошчаў Гродна адносяцца да першай паловы XVI ст. Трэба заўважыць, што XV — пачатак XVI ст. былі часам уздыму гарадскога жыцця. Пачынаецца фарміраванне новага архітэктурна-планіровачнага комплексу на ўсход і поўнач ад замка і падзамча. У адрозненне ад падзамча са шчыльнай забудовай новая аддаленая ад замка планіровачная структура мела характар рэгулярнай сістэмы з Рынкам і вуліцамі. Атрыманне горадам ў сярэдзіне XVI ст. няпоўнага, а потым і поўнага магдэбургскага права спрыяла яго ўздыму, паскорыла развіццё планіровачнай сістэмы [5, с. 15—16; 18, с. 9, 11].

Аб вуліцах і плошчах Гродна ўпершыню ўпамінаецца ў прывілеях (пачатак XVI ст.) і земскіх актах (30—40-я гады XVI ст.). Назва "Рынак" сустракаецца ўжо ў 1507 г. у прывілеі Жыгімонта II яўрэям. У ёй гаворыцца аб

неабходнасці "им вернути домы их, и клетки на рынку и месте Городенском..." [2, с. 29].

У 30—40-я гады XVI ст. у актах земскага суда называюцца Рынак, вуліцы Азёрская [1, с. 77, 277; 11, с. 33] і Жыдоўская [1, с. 94—95; 11, с. 40]. Вуліца Азёрская бегла з усходняга боку Рынка і была галоўнай усходняй артэрыяй Гродна, якая ішла ў накірунку мястэчка Азёры. Вуліца Жыдоўская злучала замак з Рынкам. Гэта назва вызначала тэрыторыю, на якой жылі яўрэі. Яўрэйская абшчына адыгрывала не апошнюю ролю ў жыцці Гродна на працягу XV — 30-х гадоў XX ст. У XVI ст. гродзенскія яўрэі гандлявалі з Коўнам, Вільняй, Крулеўцам і Познанню [1, с. 21, 104, 334, 394; 22, с. 91, 236]. Час верагоднага іх пасялення ў Гродне дакладна не вызначаны. Не выключана, што гэта адбылося ў часы фарміравання першапачатковай (падзамкавай) вулічнай сеткі. Факт сфальсіфікавання яўрэямі прывілея, нібыта дадзенага ім вялікім князем Вітаўтам ў 1389 г., ускладняе вырашэнне гэтага пытання [29, с. 180—181]. Магчымай прычынай фальсіфікату (хутчэй за ўсё ў першай палове XVI ст.) магло быць выгнанне яўрэяў з горада вялікім князем Аляксандрам у 1495 г.

Як бачна, асобныя тапанімічныя згадкі ў дакументах робяць немагчымым поўны тапанімічны аналіз Гродна тых часоў.

Першым дэталёвым спісам тапанімічнага фонду Гродна XVI ст. з'яўляецца "валочная памера", выкананая спраўцам гродзенскага староства Себасцянам Дыбоўскім і гаспадарскім дваранінам Лаўрынам Войнам у 1560—1561 гг. [11, с. 23—64]. Аналіз інвентара сведчыць аб існаванні ў горадзе трох рынкаў і 37 вуліц. На фарміраванне гродзенскай вулічнай сеткі ўплывалі знешнія і ўнутраныя гаспадарчыя кантакты, тапаграфічнае палажэнне горада. Вынікам гэтых фактараў, а таксама і развіцця планіровачнай структуры Гродна было з'яўленне пэўных тыпаў назваў вуліц і плошчаў. Упершыню тыпалагічны аналіз гродзенскіх агаронімаў і гадонімаў XVI ст. на падставе інвентара 1560—1561 гг. зрабіла А. Квітніцкая [5, с. 15—16]. На тыпалогію назваў вуліц і плошчаў Гродна звяртае ўвагу А. Краўцэвіч [6, с. 70, 80—82].

1. Шэраг вуліц атрымалі назву згодна з назвамі дарог, якія вялі да канкрэтных населеных пунктаў, напрыклад

Віленская і Азёрская [11, с. 27, 33]. Яны адыгрывалі галоўную ролю ў фарміраванні гарадской планіровачнай структуры [6, с. 81; 28, с. 243]. У занёманскай частцы горада да вуліц-дарог можна аднесці Кузніцкую (на Кузніцу), Навадворскую (на Новы Двор) [11, с. 60], якія ішлі на захад.

2. Назвы вуліц звязаны і з характарам занятkaў іх жыхароў. З невялікай колькасці назваў гэтага тыпу звяртае на сябе ўвагу вуліца Златарская [11, с. 38]. З'яўленне падобнай назвы было абумоўлена высокім узроўнем ювелірнага рамяства ў Гродне. У земскіх актах горада 30—50-х гадоў XVI ст. упамінаецца аб злотніках Дамяніку, Паўлу, аб існаванні ювелірнай крамы, вырабах з золата і срэбра: пярсцёнках, ланцужках, дэкаратыўных кольцах шпораў [1, с. 53, 62, 224, 252; 24].

Да гэтага тыпу назваў адносяцца таксама вуліцы Мясніцкая (Рэзніцкая) і Садоўніцкая. На апошняй жылі садоўнікі. Інвентар адзначае "дом Хаіма Садоўніцкі", "Марціна і Мікіты Пашковічаў садоўнікаў" [11, с. 54].

3. Назвы вуліц паказвалі на месца іх знаходжання, напрыклад Замкавая (бясспрэчна, адна з самых старажытных у горадзе, паралельнай яе назвай была Жыдоўская) [11, с. 39, 41].

4. Назвы ўказвалі на значэнне вуліцы ў планіровачнай структуры горада: Вялікая (Маставая) [6, с. 80], якая пераходзіла ў важны гандлёвы шлях на захад.

5. Назвы адлюстроўвалі камунікатыўную функцыю вуліцы ў межах горада, напрыклад:

*вуліца з Рынку на Падол* (звязвала галоўныя элементы планіроўкі горада Рынак і Падол, які размяшчаўся на ніжняй нёманскай тэрасе);

*вуліца з боку Нямецкага Рынку да вуліцы Віленскай* (таксама звязвала дзве важныя гарадскія артэрыі);

*вуліца ад Нёмана да Царквы Чэснага Крыжа* [11, с. 50].

6. Шэраг вуліц атрымалі свае назвы згодна з імёнамі і прозвішчамі ўладальнікаў пляцаў і нерухомасці. Так была названа вуліца Калючынская, якая ішла паралельна Віленскай. Інвентар аб гэтым сведчыць: "Калючына мае дом зямяньскі"; вуліца міма дома Яна Хайноўскага да

вады (г. зн. да рэчкі Гараднічанкі ля паўночнай мяжы Гродна).

Вуліцы атрымоўваюць назвы як ад шляхецкіх прозвішчаў, так і мяшчанскіх славянскіх і яўрэйскіх:

*вуліца Навікоўская, дзе жыў Давід Навіковіч;*

*вуліца Дзям'янаўская* [11, с. 30—34, 36—38, 45]. Гэтую назву Ю. Ядкоўскі тлумачыў фактам знаходжання тут царквы Казьмы і Дзям'яна [21], хаця гэтае меркаванне дакументальна не пацвярджаецца. Хутчэй за ўсё з'яўленне гэтай назвы звязана з прозвішчам Дзем'яновічаў, што жылі на гэтай вуліцы [11, с. 38].

Доўгія назвы вуліц звяртаюць асаблівую ўвагу. Можна меркаваць, што рэвізоры Дыбоўскі і Война, жыхары горада, выкарыстоўвалі падчас складання інвентара назвы, замацаваныя сярод жыхароў, ці іменавалі раней безыменныя вуліцы.

7. Рэлігійны і этнічны фактар прычыніўся да з'яўлення на карце Гродна наступных назваў (А. Квітніцкая не выдзяляе гэты тып, называючы яго "па распалажэнню вуліц"):

*вуліца Плябанская* [11, с. 42]. Ішла ўздоўж першага каталіцкага касцёла Фары Вітаўта, які быў фундаваны праз гэтага вялікага князя [29, с. 52];

*вуліца Жыдоўская з Рынку да Замка;*

*вуліца Жыдоўская Цесная;*

*вуліца Школьная Жыдоўская* [11, с. 39—41]. На апошнюю назву трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Яна сведчыць аб існаванні ў гэтым раёне горада яўрэйскай сінагогі, якая ўпамінаецца ўжо ў першай палове XVI ст. [1, с. 104, 359].

Аб нямецкіх жыхарах Гродна сведчыць назва *Рынак Нямецкі Старадаўні* [11, с. 42, 45]. Нямецкі ўплыў адлюстроўваўся на архітэктурна-будаўнічым вобліку горада (шматлікія фахверкавыя забудовы) [17; 28, с. 248].

XVII ст. не ўнесла істотных змен у гарадскую тапаніміку. Пасля вайны з Масквой і Швецыяй і акупацыі горада рускімі і шведскімі войскамі ў другой палове стагоддзя развіццё горада запаволілася. У інвентары Гродна 1680 г. пералічана толькі 18 вуліц і Рынак [12, с. 185, 197]. Захаваліся традыцыйна доўгія назвы, з'яўляюцца другія, дублетныя назвы вуліц:

*Мясніцкая — Рэзніцкая;*

*Вялікая — Маставая,*

*вуліца міма дома Яна Хайноўскага да вады — Скальманаўская* [4, арк. 12 адв., 16 адв.; 11, с. 185, 193, 194]. Тлумачэнне апошняй назвы з'яўляецца пакуль што гіпатэтычным і, магчыма, звязана са шведскай прысутнасцю ў Гродне. У тлумачэнні са шведскай мовы слова "skalm" азначае "аглобля" [27, с. 763]. Гэтая версія ў пэўным сэнсе можа быць звязана з верагодным размяшчэннем на вуліцы шведскай стайні, чаму спрыяла блізкасць да вады і вадапою (рэчка Гараднічанка).

Наступная тэндэнцыя была звязана з заснаваннем значнай колькасці каталіцкіх кляштараў у Гродне ў XVII ст. Інвентар 1680 г. упамінае:

*вулачка ад айцоў бернардынаў да вулачкі на Курган;*

*вулачка з Рынку міма касцёл фарскі* [4, арк. 16 адв. 17; 11, с. 194, 195].

XVIII ст. у пэўнай ступені было падобна на XVI ст. у сэнсе адсутнасці істотных змен у тапанімічным укладзе Гродна. Новыя назвы на карце горада з'яўляюцца толькі ў сувязі з фарміраваннем новых вуліц каля паўночна-ўсходняй мяжы Гродна. Планы г. Гродна 1780—1783 і 1795 гг. змяшчаюць грунтоўную інфармацыю, якая датычыцца тэндэнцый ці змен, што адбыліся на працягу XVIII ст.

План 1780—1783 гг., складзены Ю. Маркевічам, змяшчае інфармацыю аб вуліцах, колькасць якіх амаль што адпавядае колькасці вуліц у інвентары 1560—1561 гг. У тлумачэнні плана адзначаюцца тры Рынкі і 32 вуліцы [13]. Звяртае на сябе ўвагу факт названня Рынка горада Ратушавым Рынкам. Назва гэта, магчыма, адказвае на вельмі важнае пытанне яго архітэктурна-планіровачнага развіцця. Дапаўненне назвы словам "Ратушавы", якое раней не сустракалася і не выкарыстоўвалася, тлумачыцца фактам аднаўлення зруйнаванай у XVII ст. рэнесансавай ратушы, канчаткова адбудаванай у 1784 г. [16, с. 750]. Назва другога Рынку — Нямецкі — была ўжо толькі традыцыйнай і не адпавядала рэчаіснасці.

Пэўная група назваў вуліц сведчыць аб мясцовых тапаграфічных асаблівасцях Гродна, яго межах і значнай ролі водных артэрый у жыцці горада:

*вуліца над ірвом Гарадніцы;*

*вуліца ад ірву вядзе да неравозу;*

*вуліца да перавозу.*

Звяртае ўвагу нязначная колькасць назваў, звязаных з новай рэлігійнай сітуацыяй у горадзе, г. зн. пераважнай роллю каталіцкага фактару. Легенда плана ўпамінае толькі аб вуліцах Плябанскай і Падгужу Бернардынскім.

Вялікая частка назваў вуліц адпавядае назвам XVI ст.: Віленская, Калючынская, Златарская, Дзям'янаўская і г. д. [13].

Планы г. Гродна 1793—1795, 1798 гг., якія захаваліся ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве (ф. 846, воп. 16, спр. 21528, ч. 6; 21873, 21874), яшчэ больш удакладняюць новую планіровачную сітуацыю, г. зн. пашырэнне гарадскіх межаў на ўсход. Тут фарміруюцца вуліцы Польная, Ерусалімская і "пад акопамі". Асаблівую ўвагу звяртаюць дзве апошнія назвы. З'яўленне назвы "Ерусалімская" магло мець сувязь з заснаваннем каля ўсходняй гарадской мяжы могілак. Другая назва — "пад акопамі" магла мець непасрэднае дачыненне да ранейшай старонкі гродзенскай гісторыі, а менавіта існавання абарончых валоў падчас вайны з Масквой у XVII ст.

Такім чынам, аналіз розных матэрыялаў (земскіх актаў, гарадскіх інвентароў, легенд планаў і г. д.) дазваляе рабіць вывад аб фарміраванні пэўнага тапанімічнага фонду. Нягледзячы на з'яўленне паралельных назваў шэрагу вуліц, першапачатковыя назвы XVI ст. пераважна не змяняюцца і на працягу XVII—XVIII стст.

XIX ст. у гісторыі тапанімікі вуліц і плошчаў Гродна было вельмі разнапланавым. Да 60-х гадоў XIX ст. расійскі ўрад не займаецца рэарганізацыяй гарадской тапанімікі, а ў другой палове XIX ст. яна становіцца аб'ектам афіцыйнай рэакцыі, выкліканай палітычнымі выступленнямі.

У першай палове XIX ст., нягледзячы на актывізацыю грамадска-палітычнага руху (студэнцкія таварыствы, дзейнасць масонаў, паўстанне 1830—1831 гг., агульны

антыўрадавы настрой), улады не зрабілі ніякіх крокаў у справе радыкальных змен у пытаннях гарадской тапанімікі. Хутчэй за ўсё, праблема палітычных настрояў і гістарычна-культурных традыцый у адзін шэраг уладай не ставілася.

У пачатку XIX ст. горад пашырае свае межы. І. Ляхніцкі ў сваёй "Статыстыцы..." адзначае існаванне ў горадзе каля 40 вуліц і завулкаў, тры рынкі [25, с. 37].

На пытанне аб зменах назваў вуліц і плошчаў горада Гродна першай паловы XIX ст. даюць адказ як легенды планаў горада, так і акты будаўнічай камісіі Гродзенскага губернскага праўлення. План Гродна 1823 г. [12] у гэтым выпадку з'яўляецца паказальным. Ён адзначае наступныя змены:

1) знікненне доўгіх назваў;

2) захаванне значнай колькасці першапачатковых назваў вуліц з XVI ст.: Замкавая, Златарская, Навікоўская, Садоўніцкая;

3) з'яўленне групы вуліц, назвы якіх сведчылі аб размяшчэнні тут архітэктурных акцэнтаў (каталіцкіх касцёлаў і кляштараў): Дамініканская (раней Віленская), Брыгітская (Азерская), Бернардынская, Пад Бернардынамі, Кароткая да Бернардынаў і г. д.;

4) фарміраванне некаторых назваў (Магілковая, Ерусалімская) было звязана з размяшчэннем месцаў пахавання (могілак);

5) са спісу плана знікаюць нямецкія тапонімы, яўрэйскія ж назвы захоўваюцца;

6) шэраг назваў вуліц усходняй часткі горада сведчыць аб існаванні шматколавай сістэмы валавых умацаванняў ля ўсходняй гарадской мяжы;

7) характэрнай рысай тапанімічнага фонду Гродна было выкарыстанне і суіснаванне паралельных вулічных назваў. Матэрыялы губернскіх установаў 20—50-х гадоў XIX ст. часта адзначаюць гэтае падвойнае выкарыстанне: Дамініканская — Віленская, Дзям'янаўская — Баніфратэрская, Скальманоўская — Гараднічанская.

На працягу першай паловы XIX ст. у гарадскую мяжу было ўключана прадмесце Гарадніцы, якое было збудавана ў 60—80-я гады XVIII ст. Легенда плана Гродна 1823 г.

упамінае аб Гарадніцы, але не інфармуе аб назвах яе вуліц і плошчаў. Легенда паведамляе толькі назву вуліцы, якая была мяжой Старога горада XVI—XVIII стст. і вёскі Гарадніца, — вуліца Верцялішская [12].

У 60-я гады XIX ст. праблема гарадской тапанімікі перастае быць другараднай і становіцца пунктам палітычнай увагі і карэктываў расійскіх улад. Агульнагарадская культурная, асабліва каталіцкая традыцыя ўжо не бярэцца пад увагу. Палітычны фактар адыгрывае ролю каталізатара рэзкіх радыкальных змен тапанімікі Гродна, хоць у афіцыйных дакументах аб гэтым адкрыта не гаворыцца.

24 лютага 1864 г. Гродзенскае губернскае праўленне на сваім пасяджэнні загадвае зрабіць спіс усіх вуліц Гродна з іх новымі назвамі. Рашэнне было прынята на падставе рапарта гродзенскага паліцмайстра. Змены ў назвах улады тлумачылі “адсутнасцю назваў некаторых вуліц увогуле” ці “неадпаведнасцю існуючых у адносінах да мясцовасцяў”. Аб значэнні гэтых змен сведчыць інфармацыя ўскоснага характару, а менавіта выдзяленне на іх сумы з надзвычайнага фундушу гарадскога бюджэту. У спісе, складзеным гарадскім паліцмайстрам, прыводзіцца 65 вуліц, завулкаў, плошчаў, а таксама так званых гарадскіх мастоў [7, арк. 689—693]. Са спісу вынікае, што нешматлікія нейтральныя назвы не былі зменены: Замкавая, Маставая, Сенны Рынак, Ерусалімская, Беластоцкая і інш. Знікаюць назвы Дамініканская, Брыгіцкая, Златарская, Баніфратэрская, якія былі заменены Саборнай, Купецкай, Палацкай, Татарскай. Замяняюцца назвы з польскамоўным гучаннем: Магілковая — на Крывую, Падгурная — на Падгорную, Падвальская — на Кузнечную.

Галоўным вынікам гэтай акцыі, якая мела палітычную афарбоўку, было знішчэнне большай часткі назваў, звязаных з гарадской гістарычнай традыцыяй, асабліва каталіцкай.

Акрамя палітычнага, пэўную ролю ў працэсе тапанімічнага развіцця Гродна адыграў таксама гаспадарчы фактар, асабліва пабудова Варшаўска-Пецярбургскай чыгункі. Да канца XIX ст. на працягу 30-х гадоў пасля пачатку рэформ колькасць прамысловых прадпрыемстваў у

Гродне павялічылася ў два разы, крамаў — у тры. Адзначаецца трохразовы прырост гарадскога насельніцтва. Вынікам гэтых змен было хуткае горадабудаўнічае развіццё Гродна і пашырэнне яго межаў у паўночнаўсходнім накірунку. Пэўная колькасць вуліц фарміруецца ўздоўж ці каля чыгункі: Санкт-Пецярбургская, Аляксандраўская, Парахавая, Артылерыйская, у паўночнай частцы горада — Пушкіна, Суворава, Нікольская і г. д. [3, с. 18; 8]. Такім чынам, з'яўляюцца назвы, звязаныя выключна з расійскай гісторыяй і культурай. На пачатку XX ст. у паўднёвай, занёманскай частцы горада адбываюцца таксама значныя горадабудаўнічыя змены пасля ўзвядзення ў 1909 г. новага маста праз Нёман. Галоўнай артэрыяй новай рэгулярнай сеткі вуліц становіцца вуліца Ліпавая [9, арк. 381; 10, с. 340].

У колькасных адносінах тапанімічныя змены на пачатку XX ст. былі фактычна нязначнымі, хаця іх характар з'яўляецца адлюстраваннем актуальнай палітычнай сітуацыі. Дзве галоўныя вуліцы змяняюць назву: Купецкая (раней Азёрская і Брыгіцкая) на Кутузаўскую, Садовая (раней Верцялішская) — на вуліцу графа Мураўёва [8].

У час першай сусветнай вайны нямецкія ўлады горада не змяняюць назвы вуліц, даючы іх у нямецкамоўным тлумачэнні: Маставая — Bruckenstrasse; Сафійская — Sophienstrasse; Мяшчанская — Bürgerstrasse [17].

Апошняя фаза развіцця тапанімікі горада звязана з міжваенным дваццацігоддзем, калі рэзкае павелічэнне колькасці вуліц да 300 прывяло да ўпарадкавання назваў вуліц і плошчаў Гродна. На пачатку 20-х гадоў XX ст. некаторым вуліцам былі вернуты іх ранейшыя назвы: Дамініканская, Брыгіцкая, Баніфратэрская і г. д. У 1931 г. адбываюцца змены, якія мелі агульнагарадскі характар. Дзякуючы гэтай праграме былі ўвекавечаны імёны Зана, Міцкевіча, Чачота, Сыракомлі, паўстанцаў 1863—1864 гг. Каліноўскага, Траўгута, Лянкевіча, вялікіх князёў літоўскіх Вітаўта і Ягайлы. На Гарадніцы, забудаванай А. Тызенгаўзам, з'яўляюцца назвы Акадэміцкая і Батанічная, якія нагадвалі аб асветніцкай і культурнай дзейнасці падскарбія [20; 21].

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. АВАК. Т. XVII. Вильна, 1890.
2. АЗР. Т. 2. СПб., 1848.
3. Гродно. Мн., 1989.
4. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 110, воп. 1, спр. 3.
5. Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1964. № 17.
6. Краўцэвіч А. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1991.
7. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей — НГАБ у Гродне), ф. 2, воп. 30, спр. 608.
8. НГАБ у Гродне, ф. 11, воп. 11, спр. 49.
9. НГАБ у Гродне, ф. 304, воп. 1, спр. 43.
10. Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродно, 1910.
11. Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями. Т. 2. Вильна, 1882.
12. Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (далей — РДВГА), ф. 349, воп. 12, спр. 1486.
13. РДВГА, ф. 846, воп. 16, спр. 21872.
14. Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст. Мн., 1993.
15. Baliński M. Starożytna Polska. T. 3. Warszawa, 1846.
16. Encyklopedia powszechna. T. 10. Warszawa, 1862.
17. Grodno. Eine Sammlung von Artikeln aus der Grodnoer Zeitung und anderes. Grodno, 1916.
18. Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923.
19. Jodkowski J. Grodno i okolice. Wilno, 1928.
20. Jodkowski J. Nazwy placów i ulic grodzieńskich. Dawne i dzisiejsze. Grodno, 1932.
21. Jodkowski J. Ulice grodzieńskie w świetle historii i topologii. Grodno, 1931.
22. Koczy L. Handel Poznania do połowy wieku XVI. Poznań, 1930.
23. Kronika m. Grodna. Z. 1. Grodno, 1928.
24. Łopaciński E. Materiały do dziejów rzemiosła artystycznego w Wielkim księstwie Litewskim (XV—XIX w.) // Materiały do dziejów sztuki i kultury. N 5. Warszawa, 1946.
25. Lachnicki J. E. Statystyka gubernii Litewsko—Grodzieńskiej. Wilno, 1817.
26. Niewodniczański T. Grodno — Bemerkungen zur panorama vedute von Adelhauzer / Zündt 1568. Lüneburg, 1983.
27. Svensk — rysk ordbok. Helsingfors, 1905.
28. Szymański S. Urbanistyczno-architektoniczne formowanie się Grodna w okresie od XIV do XVIII wieku // Rocznik Białostocki T. IX. 1970.
29. Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi magni Ducis Lithuaniae 1386—1430. Warszawa; Poznań, 1986.

*Андрэй Кіштымаў*

# ЭКАНАМІЧНЫЯ ЎМОВЫ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ Ў КАНЦЫ XVIII—50-х ГАДАХ XIX ст.

Даследаванні гаспадарчага жыцця дарэформеннай Беларусі дазваляюць раскрыць тыя эканамічныя рэаліі, у якіх ішло фарміраванне беларускай нацыі. Дзеля гэтага важна прасачыць культурна-гістарычныя і псіхалагічныя асновы ўспрыняцця рынычных адносін у розным сацыяльным асяроддзі і сярод розных нацыянальнасцяў. Асобна варта адзначыць перадачу традыцый як адзін з асноўных фактараў фарміравання нацыі.

Дамінантай сацыяльна-эканамічнага жыцця беларусаў у канцы XVIII — першай палове XIX ст. па-ранейшаму заставалася феадальная сістэма землеўладання.

Расійская дваранская імперыя, захоўваючы сваю класавую накіраванасць, пацвердзіла ўсе ранейшыя саслоўныя правы мясцовага дваранства, уключаючы феадальнае землеўладанне і прыгонніцтва. Абавязковай умовай захавання шляхтай правоў на нерухомую маёмасць была прысяга на вернасць расійскаму імператарскаму дому. Акрамя гэтага, кожнаму саслоўю жыхароў далучаных земляў гарантаваліся правы, якімі адпаведныя саслоўі карысталіся ў Расіі.

Гэта азначала распаўсюджанне на магнатаў і шляхту правоў рускага дваранства. Былі пакінуты ў сіле Статут ВКЛ у рэдакцыі 1588 г., каморніцкія суды для разгляду межавых спрэчак землеўладальнікаў, захаваны шляхецкія выбары ў суды [27, с. 65].

З канца XVIII ст. да сярэдзіны 20-х гадоў XIX ст. самадзяржаўе імкнулася прыстасаваць мясцовае зямельнае права Беларусі да дзяржаўных патрэб. З сярэдзіны 20-х і да пачатку 30-х гадоў рабіліся захады да стварэння сімбіёзу мясцовага і агульнарасійскага права. Нарэшце, у 30—40-я гады XIX ст. дзейнасць мясцовага права была спынена [14, с. 28].

Галоўнымі відамі землеўладання ў дарэформеннай Беларусі па-ранейшаму заставалася прыватнафеадальнае і

дзяржаўнае. Што ж датычыцца сялян, то, па сцвярджэнню П. Р. Казлоўскага, у разглядаемы перыяд варта гаварыць толькі пра сялянскае землекарыстанне, а не валоданне [14, с. 13, 112].

Масавыя перадачы ў беларускіх губернях дзяржаўных маёнткаў дваранству ў якасці ўзнагароды за службу, якія нярэдка здараліся ў канцы XVIII ст., былі спынены пасля 1801 г. Перададзеныя маёнткі захавалі не ўсе рускія памешчыкі. Не здолеўшы ўпарадкаваць гаспадарку ў новых маёнтках, яны прадавалі іх іншым асобам, у тым ліку і мясцовай шляхце.

Па падліках В. П. Панюціча, к 1863 г. плошча землеўладання "асоб рускага паходжання" ў Беларусі складала 2,1 млн дзесяцін, а яе ўдзельная вага ў прыватнай зямельнай уласнасці — 21,6% [18, с. 57].

Здача ў арэнду буйнымі памешчыкамі сваіх маёнткаў і фальваркаў з'яўлялася эканамічнай асаблівасцю беларускіх земляў у параўнанні з карэннымі расійскімі губернямі. Арандатарамі па-ранейшаму часцей за ўсё станавілася мясцовая шляхта, хаця паступова іх састаў папаўняўся чыноўнікамі і афіцэрамі, якія прыбылі з усходніх губерняў імперыі і арандавалі маёнткі на дзяржаўных землях. Больш таго, звычай здаваць маёнткі ў арэнду быў засвоены і некаторымі новымі рускімі памешчыкамі.

Арэнда з'яўлялася адным з самых распаўсюджаных відаў дваранскага прадпрымальніцтва. Сродкі, назапашаныя дзякуючы арэндзе, у большасці выпадкаў ішлі на набыццё зямлі. Тэрміны здачы маёнткаў у арэнду былі розныя, часцей за ўсё ад 3 да 12 гадоў [22, с. 209]. Шырокае распаўсюджанне арэнды ніведіруючым чынам дзейнічала на абкладанне беларускіх сялян плацяжамі і павіннасцямі — не на карысць сялян [9, с. 285].

Характэрнай рысай аграрнага ладу Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. была шматаблічнасць формаў уласнасці і землеўладання. У адрозненне ад дваранскага саслоўя ў Расіі ў шляхецкае саслоўе Рэчы Паспалітай уваходзіла і дробная шляхта, якую П. Р. Казлоўскі прапанаваў не прылічаць да класа феадалаў, паколькі яны не атрымлівалі феадальную рэнту, а самі былі непасрэднымі вытворцамі матэрыяльных даброт [14,

с. 36]. Менавіта дробная і малазямельная шляхта з'яўлялася найменш спаланізаваным слоем беларускага дваранства. Яна ж уяўляла сабой і найбольш радыкальныя слаі грамадства, з яе асяроддзя выйшлі, напрыклад, Т. Касцюшка, А. Міцкевіч. На гэта звяртала ўвагу і самадзяржаўе. Ва ўказе 19 кастрычніка 1831 г. адзначана, што многія шляхціцы "па недахопу аседласці і ўласнасці і па ладу жыцця... найбольш схільныя былі да паўстання і злачынных дзеянняў супраць законнай улады" [19].

Дваранская манаполія на зямлю на працягу першай паловы XIX ст. захоўвалася, аднак паступова ўрэзанае права на валоданне зямельнай уласнасцю давалася гарадской і сельскай буржуазіі, якая пачынала фарміравацца, пры гэтым не дапускалася іх валоданне прыгоннымі сялянамі. Панаванне дваранскага саслоўя на зямельным рынку стрымлівала развіццё капіталістычных адносін. У ліку прадаўцоў і пакупнікоў зямлі абсалютна пераважалі дваране, у той час як асноўныя працаўнікі на зямлі — прыгонныя сяляне — цалкам выключаліся з удзелу ў фарміраванні зямельнага рынку.

Асноўнымі прычынамі змяненняў у грамадска-саслоўнай структуры землеўладання на беларускіх землях стала секулярызацыя духоўных уладанняў, канфіскацыя маёнткаў шляхты і магнатаў за ўдзел у антыцарскіх паўстаннях і перадача земляў царскім вяльможам, ваенным і цывільным чыноўнікам.

Двума ўказамі ад 25 снежня 1841 г. самадзяржаўе секулярызавала на сваю карысць духоўнае землеўладанне ў Беларусі (акрамя земляў прыходскіх цэркваў). Праз два гады пасля гэтага пад апеку Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў былі перададзены маёнткі прыходскіх цэркваў, і царкоўнае валоданне населенымі землямі ў Беларусі фактычна было ліквідавана.

Па матэрыялах 9-й рэвізіі 1851 г., у пяці заходніх губернях памешчыкам належала 67,4% усіх сялян. Удзельная вага дзяржаўнага землеўладання дасягала 30,2% [14, с. 119]. Працэнт памешчыцкіх сялян у Беларусі быў значна вышэй, чым у цэлым па Расіі. Як сведчаць матэрыялы 10-й рэвізіі 1857 г., па Беларусі іх было 52,6% ад усіх сялян, а ў Расіі — 36,3% [26, с. 114]. Яшчэ

дарэвалюцыйныя даследчыкі адзначалі, што царызм садзейнічаў фактычнаму аб'яднанню на беларускай глебе неспрыяльных для сялянства рысаў як ранейшага, так і рускага прыгоннага права. У прававым палажэнні становішча беларускіх сялян пры Кацярыне II нават пагоршылася (продаж без зямлі) [9, с. 272, 294].

Асноўная маса прыгонных беларускіх сялян мела надзел, на якім вяла сваю гаспадарку. Толькі невялікая частка сялян — бабылі, кутнікі, каморнікі, як правіла, не мелі зямлі. Яны альбо займаліся рамяством, альбо наймаліся на працу. Надзельная зямля сялян з'яўлялася ўласнасцю феадальнага землеўладальніка і, такім чынам, яны знаходзіліся ў двайной залежнасці — пазямельнай і асабістай. Гэта і складала сутнасць прыгоннага права. З'яўляючыся дваранскай уласнасцю, фактычна надзел заставаўся ў карыстанні селяніна на працягу ўсяго яго жыцця, а пасля смерці пераходзіў да яго нашчадкаў.

На падліках П. Р. Казлоўскага, у перадрэформенныя гады ўдзельная вага сялянскай надзельнай ворнай зямлі ў адносінах да ўсёй памешчыцкай зямлі ў чатырох беларускіх губернях (акрамя Гродзенскай) склала ад 77% у Віленскай да 60% у Віцебскай губернях, а ворнай зямлі на мужчынскую душу — адпаведна ад 3,2 дзесяцін у Мінскай да 1,9 дзесяцін у Віцебскай губернях [14, с. 183].

Аснову эканомікі тагачаснай Беларусі складала земляробства, асновай жа земляробства была вытворчасць збожжа, у першую чаргу жыта. Другой па значнасці культурай быў авёс, трэцяе месца па зборах займаў ячмень.

Шырокае распаўсюджанне бульбы стала найбольш значнай з'явай у сельскай гаспадарцы таго часу. Еўрапейская "бульбяная рэвалюцыя" XIX ст. [5, с. 188] ахапіла Беларусь амаль што без спазнення. Пачынаючы з першай трэці XIX ст. бульба заняла адно з найбольш важных месцаў сярод сельскагаспадарчых культур. Гэта на многія дзесяцігоддзі вызначыла прыкметнае адрозненне беларускіх губерняў сярод іншых губерняў Расійскай імперыі. Бульба была культурай, аднолькава прывабнай і для памешчыкаў, і для сялян. Як тэхнічная сыравіна для вінакурства, яна прыносіла вялікія прыбыткі памешчыкам. Дзесяціна, засаджаная бульбай, пры перапрацоўцы

яе на гарэлку давала прыкладна ў 4 разы больш даходу, чым тая ж дзесяціна, засееная жытам [22, с. 162—163]. Што ж датычыцца сялян, то для іх бульба стала літаральна "сялянскім хлебам", неаднаразова ратуючы іх ад галоднай смерці ў неўраджайныя гады [11, с. 27, 33].

З развіццём рыначных адносін звязана пашырэнне пасеваў тэхнічных культур: лёну і канапель. Новай справай стала вырошчванне цукровых буракоў. У першую чаргу ім займаліся самі памешчыкі — уладальнікі цукровых заводаў. А рост піваварэння падняў попыт на хмель. Следам за памешчыкамі развядзеннем хмелю заняліся і некаторыя сяляне [2, с. 199—203]. Развіццё тытунёвай прамысловасці прывяло да таго, што шэраг памешчыкаў пачаў вопыты па вырошчванню тытуню.

Відавочна саступала земляробству жывёлагадоўля. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з адсутнасцю дастатковых рынкаў збыту яе прадукцыі ў Беларусі і цяжкасцямі ў дастаўцы прадуктаў жывёлагадоўлі на іншыя рынкі. Выключэннем з'явілася танкарунная авечкагадоўля. Займаліся ёю толькі ў памешчыцкіх гаспадарках, буйных і сярэдніх. Найбольшых памераў пагалоўе танкарунных авечак у Беларусі дасягнула к пачатку 40-х гадоў.

Адзначым, што шляхам многавяковага адбору склалася мясцовая чырвоная парода буйной рагатай жывёлы. Яе звычайна называлі літоўскай, але, мяркуючы па раёну распаўсюджання (Віленская, Гродзенская, Ковенская і Мінская губ.), больш дакладна будзе называць гэту пароду беларуска-літоўскай. Яна была невялікая ростам, несамавітага выгляду, але мела цэлы шэраг вельмі каштоўных якасцяў: лёгка выкармлівалася, была здатная да работы (валы), давала мяккае мяса і тлустае малако. Гэта жывёла была надзвычай непатрабавальная і ўстойлівая супраць эпізаотый. Натуральна, што перш за ўсё яе трымалі тыя, хто не меў ні добрых кармоў, ні добрых пашаў, ні добраўпарадкаваных хлявоў, г. зн. сяляне і аднадворцы [11, с. 171; 22, с. 195—196].

У моцных памешчыцкіх гаспадарках заводзілі парадзістых кароў, якіх прывозілі з-за мяжы. Але гэта з'ява ў той перыяд не насіла масавага характару.

На сялянскі двор беларуса, па падліках М. М. Улашчыка, прыпадала 3—4 галавы рагатай жывёлы, звычайна два валы, карова і цялушка. Калі на гаспадарку прыпадала адна жывёліна, то амаль заўсёды гэта быў вол, калі ж пара — то вол і карова ці вол і цялушка [22, с. 197].

Усюды пераважала трохполле, хаця ў развітых памешчыцкіх гаспадарках сустракаліся і шматпольныя севазвароты. Сельскагаспадарчыя работы пераважна вяліся, як і сотні гадоў назад, традыцыйнымі сялянскімі прыладамі працы. Сярод іх вылучалася "літоўская" саха, якую больш правільна было б назваць беларускай, таму што карысталіся ёю пераважна не ў Літве, а ў Беларусі. Мяркуючы па выказваннях сучаснікаў, гэта саха была найбольш дасканалай з усіх відаў тагачасных сохаў у Расіі. Гэта меркаванне было падтрымана ўрадавай камісіяй у час выпрабаванняў расійскіх сохаў і імпартных плугоў у 50-я гады. З-за высокіх канструкцыйных якасцяў беларуская (літоўская) саха атрымала распаўсюджанне і ў рускіх губернях [22, с. 235—236]. Яшчэ лепшай за саху беларускую была саха навагрудская, якой аралі ў Шчорсах і ўвогуле ў Навагрудскім павеце.

З дапамогай машын паўсюдна сталі праводзіць малацьбу. У 40-я гады малацілкі меліся амаль у кожнага памешчыка. Вельмі важнай прычынай хуткага распаўсюджання малацілак быў недахоп рабочых рук [14, с. 124; 22, с. 240].

Адной з важнейшых прывілеяў шляхты Рэчы Паспалітай было права прапінацыі, г. зн. вольнага вырабу і продажу спіртных напояў. Царскае заканадаўства толькі часткова абмежавала гэта права. У 1801 г. толькі ў Віленскай і Гродзенскай губернях налічвалася 7717 бровараў [12, с. 310]. З 1796 па 1859 г. вытворчасць вінакурняў у Беларусі ўзрасла больш чым у 3,5 раза [3, с. 108].

Тэхнічная рэвалюцыя закранула і вінакурства. Паравыя катлы замянілі стары агнявы спосаб вінакурства і павялічылі на 1/3 выхад спірта. Паравы спосаб вінакурства і новая сыравіна — бульба прывялі да рэзкага павелічэння колькасці буйных вінакурняў з 40-х гадоў XIX ст. Як правіла, тут працавалі прыгонныя ў залік паншчыны.

Вінакурства стабілізавала эканамічнае становішча памешчыцкіх гаспадарак, давала гарантаваную крыніцу пастаяннага даходу. Маючы мажлівасць утылізаваць асноўную прадукцыю земляробства — зерне і бульбу, памешчыкі менш залежалі ад хістанняў кан'юнктуры рынку. Аднак, з другога боку, ішло масавае спойванне насельніцтва. Спажывец меўся побач. У карчме сыходзіліся эканамічныя інтарэсы польскага памешчыка і яўрэяшынкара з адчайнай беднасцю селяніна-беларуса. Па даных І. Зяленскага, спажыванне гарэлкі складала адну з самых важных крыніц расходаў для сялянскіх сем'яў. Напрыклад, у Мінскай губерні ў 1860 г. павіннасці насельніцтва складалі 3 837 544 руб., а яго расходы на гарэлку — 3 254 885 руб. [11, с. 268, 269].

Захоўвалася і традыцыя піваварства, хаця яно і адставала ад вінакурства па аб'ёмах вытворчасці і прыбытковасці. Шырока было вядома так званае шчорсаўскае піва буйнейшага півапарнага завода графа Храптовіча. На ім штогод выраблялася некалькі дзесяткаў тысяч бочак піва, ад 10 да 15 вёдраў кожная. Півапарні для ўласнага карыстання меліся амаль што пры кожным маёнтку [2, с. 200, 201].

У пачатку мінулага стагоддзя прафесар Санкт-Пецярбургскага педагагічнага інстытута Еўдакім Зяблоўскі, гаворачы пра Магілёўскую губерню, адзначаў: "Тут штогадова бываюць немалыя астаткі ў хлебе за народным харчаваннем... Ураджаі супраць пасеву больш шчодрыя бываюць, чымсьці ў Смаленскай губерні" [12, с. 93—94]. Прыкладна так жа ён ацаніў дастатак і іншых беларускіх земляў.

Да сярэдзіны XIX ст. становішча значна перамянілася. З развіццём рыначных адносін лішкі сельскагаспадарчай прадукцыі больш лёгка знаходзілі збыт. Сялянам жа, па надзвычайнай беднасці і патрэбе ў грошах, даводзілася прадаваць не столькі лішкі, колькі самае неабходнае. Яны самі харчаваліся сурагатамі, а прадукты збывалі на рынку [22, с. 378].

Сялянскія гаспадаркі мелі вельмі малы запас эканамічнай трываласці. Страта кармільца, неўраджаі, падзеж жывёлы, пажар хутка маглі разарыць нават параўнаўча моцныя сялянскія двары.

Агульнай тэндэнцыяй дарэформеннай Беларусі стала пагаршэнне эканамічнага стану сялянскіх гаспадарак. Адсутнасць асабістай свабоды і саслоўныя абмежаванні рэзка звужалі эканамічныя магчымасці селяніна. Толькі ў 1848 г. самадзяржаўе дазволіла прыгонным сялянам набываць нерухомую ўласнасць, але са згоды сваіх памешчыкаў. Звычайнай з'явай былі неўраджаі. Жабрацтва, голад, збядненне, растучыя нядоімкі літаральна праследавалі многія сялянскія гаспадаркі. Сучаснікі адзначалі: "Будзем лепш здзіўляцца цярплівасці і працалюбівасці нашага селяніна, які пакорліва цярпеў і церпіць увесь цяжар, які ідзе ад прыгоннай залежнасці. Ён гатовы працаваць, але, на жаль, яго праца паралізавана празмернымі запатрабаваннямі памешчыкаў" [11, с. 196].

Самадзяржаўе спрабавала ўрэгуляваць прыгонніцкія адносіны шляхам увядзення інвентароў. "І вось, — пісаў І. Зяленскі, — інвентары складзены, але яны складзены так, як гэтага хацелі самі памешчыкі" [11, с. 197]. Інвентарная рэформа ў Беларусі (1844—1857) так і не была завершана. Яна, па сутнасці, не прынесла ніякай палёгкі памешчыцкім сялянам [26, с. 152—153]. Сялянская гаспадарка перад рэформай відавочна ішла да заняпаду [22, с. 388].

У больш спрыяльных умовах развіваліся гаспадаркі дзяржаўных сялян. Акрамя сельскай гаспадаркі яны складалі большую частку занятых на дапаможных промыслах: лясным, рыбным, бурлачным, займаліся і рамёствамі. Рэформы па кіраванню дзяржаўнымі сялянамі, нягледзячы на іх палавінчатасць, усё ж прывялі да прыкметнага паляпшэння эканамічнага становішча дзяржаўных сялян [26, с. 177].

Сярод перамен у быце беларускага селяніна адзначым памяншэнне колькасці курных хатаў, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе перад адменай прыгоннага права.

Даследчыкі менталітэту рускага селяніна адзначалі, што "смерць уладальніка, продаж і ўсе іншыя выпадкі пераходу прыгонных з рук у рукі стымулявалі барацьбу за асабістую свабоду. Тут выяўлялася сялянскае ўяўленне аб асабістай залежнасці, якая заканчвалася разам са знікненнем пэўнага пана" [13, с. 12]. У адносінах да беларускага

селяніна гэтае меркаванне яшчэ больш справядлівае. Яго гаспадар мяняўся нярэдка хутчэй, чым у велікарускіх губернях — з прычыны шырокага распаўсюджання арэнды, секвестраў, раздачы земляў рускім памешчыкам, праведзенай секулярызацыі царкоўных земляў. У беларускага селяніна барацьба за асабістую свабоду рэдка набывала масавы характар вострых класавых сутыкненняў. Аднак ужо першыя пасляpэформенныя гады паказалі, што ў дарэформенны час быў выпрацаваны адметны ад сялян велікарускіх губерняў своеасаблівы тып селяніна-беларуса: "прасякнуты пачуццём непераадольнай прадузятасці да свайго былога пана", з прытворнай пакорлівасцю і лагоднасцю і адначасова з усведамленнем сваёй вартасці [6, с. 270, 277—279].

Пры гэтым беларускі селянін хутчэй быў схільны давяраць яўрэю-пасрэдніку, чым памешчыку. Гэта часта скарыстоўвалася яўрэямі ў карыслівых мэтах [11, с. 377].

Аднак без яўрэя-пасрэдніка не абыходзіліся і памешчыкі. "Тут нават большая частка памешчыкаў не толькі зрабіць што-небудзь, але, здаецца, і падумаць не можа без яўрэя. Яўрэй у памешчыка ў доме і ў справах роўны з ім. Памешчык ніколі амаль справы не вырашыць без свайго яўрэя-паверанага, насупроць, павераны-яўрэй заўсёды скончыць з вамі без свайго даверніка" [20, с. 283—284].

Фарміраванне беларускай нацыі адбывалася на фоне пераходу ад традыцыйнага, аграрнага грамадства да індустрыяльнага, заснаванага на панаванні капіталістычных адносін. Капіталізм падрывае адзінства і уніфікацыю феадальнага эканамічнага жыцця, пашырае эканамічную прастору, дае магчымасць для эканамічных ініцыятыў. Першыя крокі такога пераходу намячаліся яшчэ пры Рэчы Паспалітай, аднак гаспадарчыя рэформы А. Тызенгаўза не атрымалі развіцця.

У Беларусі атрымаў распаўсюджанне тып памешчыка-прадпрымальніка. Далёка не ўсе дваране станавіліся такімі буйнымі прамыслоўцамі, як Пуслоўскія альбо Скірмунты, але нямала беларускіх памешчыкаў і арандатараў адначасова з традыцыйнай сельскагаспадарчай вытворчасцю мелі броварныя, шкіпідарныя, смалакурныя,

паташныя заводы, піваварні, сукнавальні і млыны. Часцей за ўсё гэта былі дробныя прадпрыемствы з колькасцю работнікаў ў некалькі чалавек, але аб'ектыўна яны ўзломлівалі стары традыцыйны феадальны лад вытворчасці, заснаваны на татальнай перавазе сельскагаспадарчай працы. Накіроўваючы сваіх прыгонных для работы на прамысловых прадпрыемствах, памешчыкі парушалі іх звычны вясковы ўклад жыцця. Перамена прафесійнай арыентацыі сялянства вяла да пашырэння прафесійных заняткаў беларусаў, адкрывала магчымасці для набыцця новага статуса і ў канчатковым выніку садзейнічала стварэнню паўнацэннай сацыяльнай базы для фарміравання беларускай нацыі.

У першай палове XIX ст. у розных рэгіёнах Беларусі ў сельскай мясцовасці сталі ўзнікаць прамысловыя пасяленні, якія ўяўлялі сабой суцэльныя комплексы вытворчых прадпрыемстваў: броварных і цукровых заводаў, папяровых і тэкстыльных фабрык, млыноў, лесапільняў і іншых промыслаў. Такімі месцамі былі, напрыклад, Крычаў і Шклоў у Магілёўскай губерні, Альберцін у Слонімскім, Парэчча ў Пінскім, Добруш у Гомельскім паветах. Па вобразнаму выказванню М. М. Улашчыка, уладанні Пуслоўскага ўяўлялі сабою своеасаблівы камбінат, дзе сыравіна (зерне, бульба, воўна, руда) перараблялася ў гатовую прадукцыю, якая збывалася за межамі губерні [22, с. 273—274].

Эканамічны патэнцыял вясковых прамысловых цэнтраў нярэдка быў больш высокі, чым у павятовых і нават губернскіх гарадах. На чале такіх начынанняў стаялі памешчыкі, якія па-новаму арганізавалі сваю гаспадарку.

Такія пасяленні карэнным чынам адрозніваліся ад мястэчковых прамысловых цэнтраў, дзе яўрэйскія прадпрымальнікі выкарыстоўвалі працу яўрэяў-рабочых. У гэтых цэнтрах панавала амаль павальная спецыялізацыя на якой-небудзь асобнай вытворчасці, напрыклад: Ружаны і Дуброўна — суконная, Свіслач і Смаргонь — гарбарная, Капысь — сілікатная.

Значную частку рабочай сілы ў вясковых прамысловых цэнтрах складалі беларускія сяляне. Тым самым быў пакладзены пачатак другой асаблівасці Беларусі

мінулага стагоддзя: наяўнасці праслойкі беларусаў-рабочых з надзелам. Галоўная роля ў працэсе вытворчасці належала не прыгонным. Майстроў нярэдка запрашалі з-за мяжы, вольнанаёмных — з велікарускіх губерняў. З цягам часу, ростам прафесійнага майстэрства, зменай пакаленняў катэгорыя беларусаў-рабочых з зямельным надзелам набыла ўстойлівы характар і стала тыповай не толькі для вясковых прамысловых цэнтраў, але і, напрыклад, у сферы шляхоў зносін. Гэта тэндэнцыя мела працяг у парэформеннай Беларусі.

З развіццём беларускай прамысловасці пры захаванні старых феадальных формаў эксплуатацыі змянялася форма і сэнс працы прыгонных.

Развіццё капіталізму ў Беларусі і яго ўплыў на фарміраванне беларускай нацыі не можа быць зразумелым без вывучэння таго новага, што з'явілася ў гэты перыяд у навуцы і тэхніцы. Капіталізм развіваўся не толькі і не столькі як новая форма эксплуатацыі, а як працэс з'яўлення і ўкаранення ў масавую таварную вытворчасць новых тэхналогій. Аграрнае грамадства паступова саступала месца грамадству індустрыяльнаму.

Новыя тэхналогіі садзейнічалі стварэнню новых галін прамысловасці і з'яўленню новых тавараў. Даволі цікавая раскладка ў Беларусі новых тэхналогій і новых вытворчасцяў па "нацыянальнай" прыкмеце. Тыя з іх, што базіраваліся на прывазной сыравіне, сканцэнтраваліся ў руках яўрэяў. Гэта адбылося з тытунёвай прамысловасцю і яе спадарожнымі вытворчасцямі — гільзавай і г. д. Першае беларускае тытунёвае прадпрыемства зарэгістравана ў Віцебску ў 1818 г. [3, с. 118]. Затым назіраецца бурны рост гэтай галіны. Толькі ў Мінску ў 1849 г. налічвалася 18 яўрэйскіх тытунёвых "фабрык" з гадавой вытворчасцю ад 1 руб. 75 кап. да 116 руб. 90 кап. [16].

Прадпрыемствы, якія скарыстоўвалі мясцовую сельскагаспадарчую сыравіну, напрыклад цукровая і стэарынавая вытворчасць, засноўваліся памешчыкамі-прадпрымальнікамі, радзей купцамі, і базіраваліся на выкарыстанні працы сялян-прыгонных і часткова вольнанаёмных рабочых.

Па-за сферай яўрэйскага ўплыву заставаліся старыя, традыцыйныя для Беларусі галіны вытворчасцяў: шкля-

ная, лесахімічная, папяровая, металургія. Гэта звязана з тым, што ў руках памешчыкаў па-ранейшаму быў асноўны сыравінны рэсурс — лес і асноўная рабочая сіла — сяляне. Нават пры наяўнасці невялікага стартавага капітала гэта дазваляла наладзіць вытворчасць. Часцей за ўсё яна вялася ў невялікіх маштабах. Межы росту такіх прадпрыемстваў у большай меры дыктаваліся станам рынку, шляхоў зносін, недасканаласцю тэхналогій.

Патрэбы мясцовай сельскай гаспадаркі, прамысловасці і будаўніцтва прывялі да даволі значнага для таго часу росквіту беларускай чорнай металургіі. Безумоўна, тут адбілася і аддаленасць беларускіх губерняў ад польскіх і расійскіх цэнтраў вытворчасці жалеза і чыгуну, памножаная на неразвітасць транспартных шляхоў.

Беларуская металургія была прадстаўлена выключна памешчыкамі-прадпрымальнікамі. Найбольш стабільна працавалі металургічныя прадпрыемствы Храптовіча ў Вішневе (Ашмянскі павет), Вітгенштэйна ў Налібоках (Ашмянскі павет), Старынкоўскі чыгунаплавільны і машынабудаўнічы завод памешчыка Бенкендорфа (Чэрыкаўскі павет) [3, с. 146—150].

Тэкстыльная прамысловасць знаходзілася ў руках альбо памешчыкаў-прадпрымальнікаў, альбо яўрэйскіх купцоў. Якой-небудзь канкурэнцыі між імі не назіралася. Былі выпадкі і атрымання яўрэямі сукнавальняў у арэнду. На прадпрыемствах, што належалі яўрэям, працавалі выключна яўрэі. Мелася тэндэнцыя да скарачэння колькасці невялікіх сукнавальняў і канцэнтрацыі вытворчасці на буйных і сярэдніх прадпрыемствах.

На пачатку XVIII ст. у Беларусі з'явіліся буйныя рускія землеўладальнікі. Нярэдка ў іх руках аказвалася немалая колькасць прыгонных і значныя зямельныя ўгоддзі. Такія памесці іншы раз ператвараліся ў своеасаблівыя "эканамічныя палігоны", дзе рабіліся спробы весці гаспадарку па-новаму. Часта на гэта ішлі прадстаўнікі царскай адміністрацыі ў беларускіх губернях, якія, арыентуючыся на заклікі да "народнага дабрабыту" і развіцця "сельскай прамысловасці", што дэклараваліся вышэйшай уладай, валявым шляхам насаджалі прамысловыя прадпрыемствы

ў сваіх уладаннях, спрабуючы ўласным прыкладам пацвердзіць дзяржаўныя дэкларацыі.

Так, граф Р. Пацёмкін, запрасіўшы з Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў П. Нардштэйна, шведа па паходжанню, заснаваў гадзіннікавую мануфактуру ў Дубровенскім старостве. Узорныя суконныя мануфактуры трымалі правадзейны тайны саветнік М. М. Навасільцаў у Слоніме і граф Д. Талстой у вёсцы Грудзінаўка Старабыхаўскага павета. М. Навасільцаў меў у Слоніме і дывановую мануфактуру. Граф І. І. Чарнышоў-Круглікаў у Чачэрскім маяратным маёнтку (Рагачоўскі павет) пабудаваў буйны шкляны завод [21, с. 86].

Гомельскі маёнтак Румянцава, прададзены ў 1835 г. Паскевічу, налічваў 13 фальваркаў, 28 тыс. прыгонных, 60 тыс. дзес. ворнай зямлі і больш 50 тыс. дзес. лесу, 6 невялікіх цагельных заводаў, 6 смалакурняў, 7 бровараў, піваварню, маслабойню, гарбарны, свечачна-тлушчавы, медзеплавільны заводы, ткацкую мануфактуру на 15 станаў, шкляны завод, а з канца 30-х гадоў — вялікі цукровы завод (больш за 200 наёмных рабочых) [26, с. 13, 52, 53].

Насільнае ўключэнне Беларусі ў склад Расійскай імперыі, паўстанні 1794 і 1830—1831 гг., ваенныя падзеі 1812 г., актыўная еўрапейская палітыка Расіі прыводзілі да пастаяннага знаходжання на беларускай зямлі вялікай колькасці войск, а іншы раз да вядзення баявых дзеянняў. Гэта па-свойму ўплывала на развіццё эканомікі Беларусі, аблічча яе гарадоў, фарміраванне шляхоў зносін. Дадзенае пытанне слаба распрацавана ў айчыннай гістарыяграфіі. Адзначым як стойкую рысу беларускага рынку арыентацыю на патрэбы расквартараваных войск. Прычым попытам карысталася прадукцыя не толькі сельскагаспадарчай вытворчасці, але і прамысловасці: сукно, скуры. У сваю чаргу інтэнсіўнае крапаснoе будаўніцтва (Бабруйск, пачата ў 1807 г.; Брэст, пачата ў 1833 г.) давала работу беларусам на казённых і прыватных цагельных заводах.

Развіццё шляхоў зносін ў дарэформеннай Беларусі адзначана інтэнсіўным будаўніцтвам і паляпшэннем водных артэрый. У пэўным сэнсе гэта было працягам эканамічнай палітыкі апошняга перыяду існавання Рэчы

Паспалітай. Царскі ўрад пры пошукавых і праектных распрацоўках і пры пракладцы водных шляхоў зносін шырока выкарыстоўваў папярэднія даследаванні і ўжо праведзеныя работы.

У 1804 г. было завершана будаўніцтва Агінскага канала, пачатае ў 1770 г. Ён злучыў водныя сістэмы Нёмана і Дняпра [8, с. 35]. У 1775 г. пачалося і ў 1843 г. закончылася будаўніцтва Днепра-Бугскага (Каралеўскага) канала. У аснову збудавання Бярэзінскай воднай сістэмы (Бярэзіна — Заходняя Дзвіна, будавалася з 1797 г.) быў пакладзены праект, створаны яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай [1, с. 14—15]. Спрэчкі з прускім урадам аб мытным тарыфе прывялі да стварэння ў 1824—1839 гг. Аўгустоўскай сістэмы каналаў (Нёман — Вісла) на стыку беларускіх і польскіх зямель [8, с. 109—110; 7, с. 70].

Работы па пракладцы новых водных шляхоў у Беларусі вяліся з вялікім размахам. На іх будаўніцтве было занята нямала беларусаў.

Дзякуючы гэтаму ў дарэформенны час беларускія губерні атрымалі выхад буйных партый сваіх тавараў у польскія, ліфляндскія і ўкраінскія губерні, а таксама за мяжу. Праўда, у яшчэ большых памерах цераз Беларусь праходзілі патокі транзітнага гандлю.

Тэхнічныя цяжкасці і адсутнасць дастатковага фінансавання не дазволілі давесці беларускія водныя шляхі да поўнай дасканаласці. Найбольш тэхнічна бездакорнай была Аўгустоўская сістэма (цагляныя і каменныя шлюзы) [7, с. 70], найменш — Бярэзінская (дазваляла весці лесасплаў, і то з вялікімі цяжкасцямі) [17, с. 34].

Сухапутныя шляхі зносін развіваліся слабей. На іх паступова ўводзіліся расійскія стандарты ўтрымання. Адзначым пракладку па беларускай тэрыторыі часткі дарог Пецярбург — Кіеў і Масква — Варшава [3, с. 25, 27].

Заканчэнне дарэформеннага перыяду азнаменавалася з'яўленнем тэхнічнай навінкі ў сферы сувязі. У канцы 40-х гадоў XIX ст. цераз Беларусь былі пракладзены першыя тэлеграфныя лініі [3, с. 29].

Агульнай асаблівасцю шляхоў зносін і ўсёй інфраструктуры дарэформеннай Беларусі, якая захавалася і ў

пазнейшы час, была падпарадкаванасць іх развіцця не столькі эканамічным, колькі ваенна-стратэгічным мэтам.

У межах Расійскай імперыі бесперашкодна аднавілася адна з самых даўніх традыцый беларускага рынку, якая існавала яшчэ з часоў Полацкай зямлі: гандаль па Заходняй Дзвіне з арыентацыяй на Рыгу. 4 лютага 1773 г. у адным са сваіх першых указаў, што меў адносіны да беларускіх земляў, Кацярына II загадала "бяспошлінна і без усялякіх перашкод" прапускаць у Рыгу тавары з Беларускай губерні [24]. Аднак у першай палове XIX ст. гэты накірунак рыначнага гандлю стрымліваўся наяўнасцю сярэдневяковых архаічных формаў рынку ў Рызе. Асабліва гэта выяўлялася на гандлі лёнам [10, с. 163].

Паступова арыентацыя беларускага знешняга гандлю змянялася. Так, у пачатку XIX ст. яна па-ранейшаму захоўвала паўночна-заходні накірунак: магілёўскае купецтва вяло гандаль з Данцыгам, Мемелем і Рыгай (юхт, скуры, тлушч, воск, мёд, паташ, пянька, алей з канапель і збожжа); віцебскія купцы гандлявалі ў Гданьску і Рызе (штогадова адпраўляючы па Дзвіне да 100 берлін); збожжа, лён, пянька, мёд, воск, воўна, тлушч, лес і прадукцыя вінакурства з Віленскай губерні ішлі ў Прусію, Лібаву і Рыгу; тавары з Гродзенскай губерні — у Данцыг і Кенігсберг; збожжа, лён і пянька з Мінскай губерні — у Рыжскі порт [12, с. 100, 123, 309, 325, 345]. Аднак ужо ў той час гандаль лесам акрамя традыцыйнай паўночна-заходняй накіраванасці стаў арыентавацца і на паўднёвы накірунак: па Дняпры на Украіну і ў порты Чорнага мора [12, с. 347].

К канцу разглядаемага перыяду новыя шляхі беларускага гандлю абазначыліся яшчэ больш выразна. Так, у басейне Нёмана кошт на сельскагаспадарчыя прадукты заўсёды залежаў ад кошту кенігсбергскіх, а ў басейне Дняпра яны арыентаваліся на цэны маларасійскія [11, с. 47].

Сплаў лесу на поўдзень павялічыўся з 1804 г. У перадрэформенныя гады асноўным пунктам збыту лесу зрабіўся Крамянчуг, а Рыга і прыбалтыйскія гарады — толькі дадатковымі. У балтыйскія порты ішоў толькі адборны лес; паўднёвы лясны рынак быў больш універсальны — бралі ўсе гатункі лесу. Праз паўднёвы

накірунак беларускі лясны тавар ішоў нават у Сардзінію, на Мальту, у Марсель [11, с. 115].

Крытэрыем эканамічнай "дэмакратыі" быў рынак. Менавіта ён здымаў саслоўныя абмежаванні вытворцаў і называў рэальны кошт іх эканамічным намаганням. Праз найбольш простыя рынкі праходзіць граніца, якая адзначае ніжні ўзровень эканомікі. На верхнім узроўні знаходзяцца кірмашы і біржы [4, с. 28].

Кірмашы, базары і таржкі складалі цэлую сістэму, пра што ясна сведчыць той факт, што каляндар кірмашовых дзён у розных сёлах, мястэчках і гарадах быў складзены такім чынам, каб іх даты не супадалі. Гэта быў цэлы ланцуг разнастайных рынкаў, якія адрозніваліся маштабам, спецыялізацыяй і сумай гандлёвых абарачэнняў. Аднак па меры станаўлення стабільных рыначных сувязяў стала неабходнай арганізацыя формаў пастаяннага гандлю.

У арганізацыі гандлю ў дарэформеннай Беларусі ў параўнанні з другой паловай XVIII ст. істотных зрухаў не адбылося. Працягвалі функцыяніраваць старыя, традыцыйныя кірмашы: у Зэльве, Свіслачы, Петрапаўлаўскі ў Бешанковічах, Троіцкі і Васільеўскі ў Гомелі, Мінскі кантрактавы і іншыя. Па колькасці кірмашоў вылучаліся Магілёўская, Мінская і Гродзенская губерні. Віцебская губерня адставала па колькасці кірмашоў, але па суме прададзеных тавараў стаяла нароўні з іншымі губернямі [15, с. 106].

Да сярэдзіны XIX ст. кірмашовы гандаль стаў прыкметна згортвацца, замяняючыся пастаянным магазінным [22, с. 413]. Хаця колькасць крамаў рэзка ўзрасла, развіццё дробнааптовага і рознічнага гандлю па-ранейшаму заставалася слабым. На наш погляд, гэта звязана з нізкім узроўнем урбанізацыі Беларусі першай паловы XIX ст.

У беларускім гандлі, як мясцовым, так і транзітным, дамінавалі яўрэйскія купцы і гандляры. Усё больш сканцэнтраваўся ў руках яўрэяў-перакупшчыкаў продаж будаўнічага лесу. У дарэформеннай Беларусі яны паступова пашыралі сферу свайго ўплыву на ўвесь цыкл гандлю лясным таварам, пачаўшы займацца не толькі арганізацыяй сплаву і продажу лесу, але і яго высечкай і першаснай апрацоўкай лесаматэрыялаў. У якасці рабочых-лесарубаў і

плытагонаў працавалі беларусы. Усяго па Беларусі ў канцы 40—50-х гадоў XIX ст. на сплаўных работах было занята ў сярэднім 100—150 тыс. сялян [26, с. 188].

Гандаль і ў меншай ступені рамяство ў Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. імкліва манапалізаваліся ў руках яўрэйскага насельніцтва. Немалую ролю ў гэтым адыграла ўвядзенне ў 1794 г. мяжы яўрэйскай аседласці. Гэта мера яшчэ ў большай ступені сканцэнтравала яўрэйскае насельніцтва ў гарадах і мястэчках і ўзмацніла іх уціск на пэўныя бакі эканамічнага жыцця, што ў сваю чаргу прывяло да далейшай дэфармацыі сацыяльнага складу беларускага этнасу. Так, у Мінскай губерні ў 1803 г. сярод насельніцтва мужчынскага полу купцоў-хрысціян налічвалася 297 чал., купцоў-яўрэяў — 247 чал., мяшчан і цэхавых — адпаведна 9367 і 13989 [25]. А па 10-й рэвізіі 1857 г. у гэтай губерні з 2946 асобаў купецкага звання 2627 яўрэяў. У 1860 г. у дзесяці павятовых гарадах Мінскай губерні з 395 купецкіх крамаў яўрэі валодалі 377, з 1325 мяшчанскіх крамаў — 1249 [11, с. 289]. Падобная карціна назіралася і ў іншых беларускіх губернях. Гэты працэс не змог затармазіць і ўказ ад 24 снежня 1841 г., які даваў даволі значныя льготы купцам хрысціянскага веравызнання з велікарускіх і маларасійскіх губерняў пры перасяленні іх на беларускія землі. Указ не меў ніякіх прыкметных вынікаў.

Уніфікацыі беларускага і расійскага рынкаў садзейнічала ўвядзенне адзіных мераў і вагаў. У Расійскай імперыі такая стандартызацыя была праведзена па ўказу 29 красавіка 1797 г. Кабінет міністраў 28 лістапада 1824 г. па дакладу міністра фінансаў прыняў рашэнне "аб невыкарыстанні ў губернях: Падольскай, Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Валынскай і Беластоцкай воласці іншых мераў і вагаў акрамя тых, якія ўстаноўлены для ўсёй дзяржавы". Аб гэтым загадана было паведаміць па губернях, нават да аб'яўлення з амвонаў цэркваў і касцёлаў [23]. Хаця атрыманне ўзорных мераў і вагаў зацягнулася аж да пачатку 30-х гадоў, агульнарасійскія адзіныя меры вымярэння паступова ўвайшлі ў побыт і беларускіх губерняў.

Дарэформенныя гарады Беларусі не адыгрывалі істотнай ролі ў працэсе фарміравання беларускай нацыі. Па асноўнай сваёй функцыі ў гэты перыяд яны з'яўляліся цэнтрамі адміністрацыйнай улады — губернскай і павятовай. Гаварыць пра іх паўнацэнную ролю як эканамічных і культурных цэнтраў у дарэформенны перыяд не даводзіцца. Далёка не заўсёды яны былі і асноўнымі рыначнымі цэнтрамі.

Працягваўся пачаты яшчэ ў перыяд канца Рэчы Паспалітай заняпад некаторых старабеларускіх гарадоў, звязаны з выцясненнем іх на перыферыю грамадскага жыцця. Зніжаючы свой статус ад цэнтра ваяводства альбо губерні да цэнтра павета (Браслаў, Мсціслаў, Навагрудак, Полацк, Слонім) альбо ад павятовага цэнтра да мястэчка (Бабінавічы, Копысь, Паставы), старыя беларускія гарады гублялі адміністрацыйныя стымулы да развіцця.

Да тых жа вынікаў прыводзіла страта статуса магнацкай "сталіцы" для ўласнапрыватніцкіх гарадоў. З распадам Рэчы Паспалітай, паражэннем шляхецкіх паўстанняў 1794 і 1830—1831 гг. і ўзмацненнем жорсткіх адміністрацыйных рамак Расійскай імперыі былая магутнасць магнатаў і становішча іх уладанняў як "дзяржавы ў дзяржаве" сышлі на нуль.

Перамены ў ваеннай справе, уніфікацыя арміі і безнадзейнае адставанне з ваеннага пункту погляду беларускіх крэпасцяў і замкаў пазбавілі іх горадаўтваральнай ролі. Пасля вайны з Напалеонам беларускія гарады-крэпасці канчаткова апынуліся далёка ад мяжы дзяржавы. Толькі Брэст і Бабруйск (а ў далейшым і Гродна), атрымаўшы статус стратэгічных крэпасцяў, захавалі магутны ваенны стымул свайго развіцця.

Развіццё эканомікі, шляхоў зносін і гандлю мала адбілася на змяненні аблічча дарэформенных беларускіх гарадоў. Да ліку выключэнняў можна, на наш погляд, аднесці Пінск і Гомель.

Хаця з канца XVIII ст. да канца 50-х гадоў XIX ст. у Беларусі і назіраецца значны рост колькасці гараджан (з 82 да 320 тыс. чалавек, г. зн. амаль у 4 разы), асноўнай крыніцай папаўнення колькасці гарадскога насельніцтва было гвалтоўнае перасяленне ў гарады жыхароў яўрэй-

скай нацыянальнасці з мястэчак і сельскай мясцовасці [15, с. 161—162].

Менавіта дарэформенны перыяд даследчыкі вызначаюць як пачатак прамысловага перавароту ў Беларусі. У 1855 г. паравыя машыны меліся амаль што ва ўсіх галінах беларускай прамысловасці (за выключэннем сілікатнай) [3, с. 87]. Гэты ж працэс праходзіў і ў межах ўсёй Расійскай імперыі. Але вынікі яго былі розныя. Імперыя складвалася як нацыянальная дзяржава рускіх. Прамысловая ж вытворчасць з першых дзён свайго існавання была накіравана на пераадоленне нацыянальных межаў: на ўвоз сыравіны, што падлягала індустрыяльнай перапрацоўцы, і на продаж гатовых вырабаў акрамя ўнутранага рынку, па магчымасці, і за мяжой. Заснаваная на навуцы і тэхналогіі прамысловая форма вытворчасці аддзяляецца ад нацыянальнай дзяржавы, яе ранейшыя сувязі з ёй слабеюць. Прамысловыя прадпрыемствы вырываюцца са сваіх традыцыйных палітычных і сацыяльных рамак. Дамінуючы ў эканоміцы, яны ўтвараюць аўтаномную сістэму, развіццё якой ідзе па яе ўласных законах. У гэтай акалічнасці закладзена аснова глыбокай супярэчнасці прамысловай і рыначнай сістэм, якія з'яўляюцца працягам адна адной, з палітычнай сістэмай нацыянальнай дзяржавы. Прамысловасць і рынак размывалі мононацыянальныя межы Расійскай імперыі і аб'ектыўна садзейнічалі станаўленню ў іх іншых нацый, у тым ліку і беларускай.

Сацыяльна-эканамічныя ўмовы канца XVIII — першай паловы XIX ст. стрымлівалі працэс фарміравання беларускай нацыі. Традыцыйнае беларускае грамадства па-ранейшаму заставалася аграрным з перавагай феадальных адносін. Беларуская нацыянальная дзяржаўнасць адсутнічала. Феадальную анархію апошніх гадоў Рэчы Паспалітай замяніла Расійская імперыя. Аднак гэта не было аднаразовым актам: працэс ліквідацыі адміністрацыйных і прававых асноў Рэчы Паспалітай зацягнуўся на некалькі дзесяцігоддзяў.

Асаблівасцю народнай гаспадаркі Беларусі тых гадоў было і тое, што ў яе развіццё неаднаразова і непасрэдна ўмешваліся пазаэканамічныя прычыны: паўстанні 1794 і 1830—1831 гг., вайна 1812 г. Гэта адмоўна адбівалася на яго прагрэсе.

Прыгонніцтва стала адчувальным тормазам эканомікі. Развіццё рынку стрымлівалася нізкай таварнасцю пераважнай большасці прыгонных гаспадарак. Але найбольш адмоўную ролю прыгонніцтва адыграла, дэфармуючы развіццё рынку рабочай сілы. Беларускі прыгонны селянін, скаваны паншчынай і саслоўнымі рамкамі, мог прымяніць свае сілы і здольнасці на абмежаванай эканамічнай прасторы.

Шэраг адміністрацыйных актаў самадзяржаўя, у прыватнасці ўвядзенне мяжы яўрэйскай аседласці, працягнуў гістарычную традыцыю "вымывання" беларусаў з гарадскога жыцця. Слабая прадстаўленасць беларусаў у гарадскіх саслоўях звужала сацыяльную базу фарміравання беларускай нацыі.

Разам з тым у сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі таго перыяду прасочваецца шэраг устойлівых прыкмет, якія сталі ў далейшым тыповымі беларускімі нацыянальнымі эканамічнымі рысамі: пачатак спецыялізацыі рэгіёна на бульбаводстве — нацыянальнай сельскагаспадарчай культуры беларусаў; маёнткі-прадпрыемствы і разгрупаванне вытворчасці па-за межамі вялікіх гарадоў; этнічная арыентацыя шэрагу галін прамысловасці. Часовыя эканамічныя захапленні: танкарунная авечкагадоўля, цукровыя заводы — сімвалізавалі пошукі далейшай спецыялізацыі беларускай нацыянальнай эканамічнай гаспадаркі.

У межах Расійскай імперыі былі зняты перашкоды для руху беларускіх тавараў не толькі на ўсход, але і па лініі поўнач — поўдзень. Аднавіўся гандаль па Заходняй Дзвіне і Дняпры. Водныя сістэмы аб'ядналі Беларусь з басейнам Віслы.

Як адзначае Ф. Брадэль, найбольш грунтоўнай рысай даіндустрыяльнай эканомікі з'яўляецца "суіснаванне жорсткага і нерухомага, цяжкога механізму ўсё яшчэ прымітыўнай эканомікі з лакальным і абмежаваным, але ў той жа час жывым і імклівым ростам сучасных эканамічных структур" [4, с. 11]. У поўнай меры гэта мае адносіны і да дарэформеннай Беларусі, дзе прыгонніцкія адносіны суседнічалі з парасткамі капіталізму.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Бахтурин. Краткое описание внутреннего Российской империи водоходства между Балтийским, Черным, Белым и Каспийским морями. СПб., 1802.
2. Башкевич Н. О разведении хмеля в Западной России, особенно в губерниях Виленской, Ковенской, Гродненской и Минской // Журнал сельского хозяйства и овцеводства. 1850. № 9.
3. Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
4. Бродель Ф. Динамика капитализма. Смоленск, 1993.
5. Бродель Ф. Структуры повседневности: возможное и невозможное. М., 1986.
6. В. Н. Из Белоруссии // Труды Императорского вольного экономического общества. 1865. Т. 2. Вып. 3.
7. Гершельман Э. Ф. Исторический очерк внутренних водяных сообщений. СПб., 1892.
8. Житков С. М. Исторический обзор устройства и содержания водных путей и портов России за столетний период. 1798—1898 гг. СПб., 1900.
9. Жукович П. Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // Журнал Министерства народного просвещения. 1915. № 2.
10. Журнал Министерства государственных имуществ. 1847. Ч. 24.
11. Зеленский И. Минская губерния. Ч. 2. СПб., 1864.
12. Зябловский Е. Землеописание Российской империи. Ч. VI. СПб., 1810.
13. Кабытов П. С., Козлов В. А., Литвак Б. Г. Русское крестьянство: Этапы духовного освобождения. М., 1988.
14. Козловский П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в. Мн., 1982.
15. Лютый А. М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX века. Мн., 1987.
16. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 295, воп. 1, спр. 1081, арк. 3.
17. Обозрение главных водяных сообщений в России. СПб., 1841.
18. Панютич В. П. К вопросу о поземельной политике царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. // Из истории крестьянства Белоруссии. Мн., 1978.
19. Полное собрание законов Российской империи. Собр. II. Т. 6, отд. 2. № 4869.
20. С. Л. Акцизный откуп и евреи-посредники в Минской губернии // Труды Императорского вольного экономического общества. 1860. Ноябрь. Т. 4.
21. Статистические сведения о фабриках и заводах экспонентов, получивших награды на мануфактурной выставке 1861 г. СПб., 1862.
22. Улащик Н. Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965.
23. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 2, воп. 11, спр. 387, арк. 4.

24. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 59, воп. 1, спр. 7070, арк. 2.
25. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 533, воп. 1, спр. 1676, арк. 3.
26. Чепко В. В. Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX века. Мн., 1966.
27. Четвертков А. М. К вопросу о правовом положении западных национальных районов в составе Российской империи в первой четверти XIX в. // Вестник Московского университета. Серия 11. Право. 1986. № 6.

*Андрэй Мяцельскі*

## ДА ПЫТАННЯ АБ ПРЫРОДНЫХ І АНТРАПАГЕННЫХ МЕЖАХ ВІЦЕБСКАЙ ЗЯМЛІ XII—XIII стст.

Пытанні гістарычнай геаграфіі Старажытнай Русі да сённяшняга часу прыцягваюць увагу даследчыкаў. У шэрагу абагульняючых прац вызначаны рубяжы ўсходнеславянскіх племянных аб'яднанняў і асобных зямель-княжанняў XI—XIII стст., аднак значна менш увагі надавалася пытанням узнікнення і фарміравання межаў удзельных княстваў, на якія з XII ст. пачынаюць драбіцца раней адзіныя землі.

Падобная карціна склалася і ў гістарыяграфіі Полацкай зямлі X—XIII стст. Калі ў адносінах да вонкавых межаў княства пытанне як быццам бы даўно вырашана [1; 4; 9; 10; 25; 37] і тут магчымы толькі некаторыя дапаўненні і дапрацоўкі, то адносна ўнутраных межаў Полацкай зямлі яно знаходзіцца яшчэ ў пачатковай стадыі вывучэння. Першым гэтую праблему паспрабаваў распрацаваць Л. В. Аляксееў, які зрабіў эскізныя замалёўкі падзелу Полацкай зямлі на ўдзелы [1, с. 74—77; 2]. Яго напрацоўкі ў адносінах вызначэння межаў Менскага ўдзела знайшлі далейшае развіццё ў даследаваннях Ю. А. Заяца [12], але астатнія буйныя цэнтры Полацкай зямлі XII—XIII стст. (Віцебск, Друцк, Лагойск, Ізяслаўль) так і застаюцца з нявызначанымі да канца межамі сваіх уладанняў.




Віцебская зямля ў XII—XIII стст.

Умоўныя абазначэнні: .——. межы Віцебскай зямлі XII—XIII стст.; — волакі; М — тапонімы тыпу *Мяжа*, Р — тапонімы тыпу *Рубеж*, П — тапонімы *Палачані*, *Палачанка*, С — тапонімы *Смаляны*, *Смаленцы*, С. Б. — *Смоленскі Брод*, Б — *Браслаўль*, Н — *Наўгародцава*

Адным з удзельных цэнтраў Полацкай зямлі быў Віцебск. Узнікшы на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў ранняга сярэднявечча дзякуючы зліццю некалькіх тэрытарыяльных абшчын IX—X стст. крывічоў у адзінае паселішча гарадскога тыпу [5, с. 105; 50, с. 41], ён ужо ў XI ст.

становіцца адным з буйнейшых гарадскіх цэнтраў Падзвіння [6, с. 10], а ў пачатку XII ст. — сталіцай удзельнага княства, якое прыцягвае да сябе ўвагу суседніх Полацка і Смаленска ў іх няспыннай барацьбе за волакавыя пераходы, кантралюемыя Віцебскам. У XII—XIII стст. апошні перыядычна пападаў у залежнасць то ад аднаго, то ад другога суседа, што прыводзіла да пэўных тэрытарыяльных змяненняў і ў расстаноўцы сіл на палітычнай карце Русі.

Якую ж тэрыторыю ахопліваў Віцебскі ўдзел, у барацьбе за які часам аказваліся ўцягнутымі сілы, размешчаныя далёка ад Падзвіння? Яшчэ ў канцы XIX ст. А. П. Сапуноў склаў 12 картаў, дзе зрабіў спробу вызначэння тэрыторыі Полацкага і Віцебскага княстваў X—XIV стст. [35, с. 551]. Потым да гэтай праблемы звярнуўся Л. В. Аляксееў. Выкарыстоўваючы для вызначэння межаў Полацкай зямлі тапонім *мяжа* і вытворныя ад яго, ён прапанаваў свой погляд на яе адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел і асвяціў некаторыя пытанні гісторыі яе ўсходніх удзелаў — Віцебскага і Друцкага [1, с. 74—77; 2]. Аднак, нягледзячы на зробленую ім вялікую працу ў распрацоўцы гістарычна-геаграфічнай праблематыкі Віцебскага княства, усё яшчэ застаецца шэраг пытанняў у вызначэнні яго межаў.

Непасрэдная інфармацыя аб рубяжах Віцебскага ўдзела XII—XIII стст. адсутнічае. Таму рэканструяваць іх межы можна толькі на падставе комплекснага аналізу пісьмовых крыніц XI—XVI стст., прыцягваючы даныя аб прыродных рубяжах, тапаніміі, археалогіі, лінгвістыцы і памятаючы, што вакол Віцебска ў XII—XIII стст. размяшчаліся іншыя ўдзельныя цэнтры — Полацк, Друцк, Смаленск, Таропец, Ноўгарад.

Віцебск упершыню трапляе на старонкі старажытнарускіх летапісаў у 1021 г., калі Яраслаў Мудры перадаў яго разам з Усвятамі Брачыславу Ізяславічу [32, с. 123]. Прыналежнасць гэтых двух цэнтраў да 1021 г. Кіеву сведчыць, што напярэдадні гэтай падзеі ўсходнія межы полацкіх уладанняў на Падзвінні праходзілі на захад ад Віцебска і Усвят. Адсутнасць якіх-небудзь звестак у пісьмовых крыніцах XI—XIII стст. аб гэтым памежжы вымушае нас у сваіх пошуках звярнуцца да крыніц

больш позняга часу. Найвялікшую цікавасць у гэтай сувязі ўяўляе апісанне Полацкага павета сярэдзіны XVI ст., якое было складзена адразу пасля далучэння Полацка да Маскоўскага княства [29]. Улічваючы той факт, што захаванне мясцовых традыцый, якія не ў апошнюю чаргу адносіліся і да адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Вялікага княства Літоўскага ("старины не рухати"), у XIII — першай палове XVI ст. было адным з вызначальных прынцыпаў дзейнасці вялікіх князёў у адносінах да "рускіх" зямель, што пацвярджалася граматамі і прывілеямі [28, с. 71], можна меркаваць, што і зафіксаваная ў сярэдзіне XVI ст. мяжа паміж Віцебскім і Полацкім паветамі мела больш ранняе паходжанне. Праўда, трэба мець на ўвазе, што ў нашым выпадку на паўночным усходзе сучаснай Беларусі неаднойчы мелі месца адміністрацыйна-тэрытарыяльныя перамены, якія адбываліся на працягу XIV—XV стст. Таму, рэканструюючы межы Віцебскага ўдзела XII—XIII стст. на падставе крыніц XVI ст., неабходна ўлічваць усе гэтыя перамены і ўносіць адпаведныя карэкцівы.

У апісанні Полацкага павета XVI ст. маюцца звесткі, што Усвяцкая і Езярышчанская воласці, якія раней уваходзілі ў склад Віцебскага павета, пры каралю Казіміру былі адарваны ад Віцебска і далучаны да Полацка [29, с. 433]. Можна меркаваць, што пасля 1021 г. і да перамен, якія распачаў Казімір у сярэдзіне XV ст., Усвяты з воласцю цягнуліся да Віцебска і складалі адно цэлае, што ў гаспадарчых адносінах прасочваецца і ў больш позні час.

Пытанне адносна прыналежнасці Езярышчанскай воласці раней сярэдзіны XV ст. некалькі больш складанае, чым у выпадку з Усвятамі. Першае ўпамінанне аб воласці з'яўляецца на старонках пісьмовых крыніц у канцы XIV ст. Да гэтага ж часу адносіцца і будаўніцтва крэпасці ў Езярышчах [18, с. 70—71; 21, с. 182]. Таму нельга выключаць, што да арганізацыі Езярышчанскай воласці землі, размешчаныя ўздоўж цячэння р. Обаль, уваходзілі ў склад Полацкага ўдзела, а яшчэ раней у княства Рагвалода і з'яўляліся памежнымі з кіеўскімі ўладаннямі ў Падзвінні. На карысць правядзення полацка-кіеўскай мяжы на Па-

дзвінні да 1021 г. менавіта тут, на наш погляд, сведчаць наступныя факты.

Па-першае, р. Обаль да выхаду Полацка на днепра-дзвінскія волакі мела для яго стратэгічнае значэнне. Па ёй ішоў прамы шлях з Полацка ў Ноўгарад: р. Зах. Дзвіна — р. Обаль — воз. Езярышча — р. Альшанка — волак 2 вярсты — воз. Замшанскае — руч. Замшанскі — р. Ловаць; другі варыянт гэтага шляху: р. Зах. Дзвіна — р. Обаль — воз. Езярышча — волак 8 вёрст — воз. Емянец — р. Еменка — р. Еменка — воз. Невельскае — р. Еменка — воз. Камшанскае — р. Ловаць [34, с. 14]. Такім чынам, нават без захавання панавання над днепра-дзвінскімі волакамі ў раёне Віцебска і Усвят Полацк меў выхад на шлях у Ноўгарад і быў абавязаны клапаціцца аб сваім кантролі над Обаллю. Значэнне р. Обаль як важнай гандлёвай артэрыі прасочваецца і ў больш позні час, сведчаннем чаго з'яўляецца прывілей караля Яна Казіміра 1659 г. на ўстанаўленне на р. Обаль мыта пры абавязацельстве ачысткі рэчышча ракі ад камянёў і клопатаў аб паляпшэнні праходу судоў [17, с. 150—153]. Па-другое, што больш істотна, падзел правабярэжжа Заходняй Дзвіны па цячэнні р. Обаль пачаў складвацца раней, яшчэ ў эпоху жалезнага веку. Мяжу ўздоўж р. Обаль паміж заходнедзвінскімі і смаленскім варыянтамі днепра-дзвінскай культуры праводзіць В. І. Шадыра, адзначаючы, што раён на ўсход ад р. Обаль характарызуецца пераходнымі рысамі да непасрэдна смаленскага варыянта культуры. Па р. Обаль праводзяць мяжу Б. С. Караткевіч і А. М. Мазуркевіч [19, мал. 1; 42, с. 111]. Раёны на ўсход ад р. Обаль — Віцебскае Падзвінне і Аршанскае Падняпроўе — адрозніваліся ад Полацкага Падзвіння ў археалагічным плане і ў больш позні час. Менавіта гэты раён стаў зонай фарміравання культуры тыпу Банцараўшчыны — Тушамлі [43, с. 76]. Практычна ўздоўж левабярэжжа р. Обаль праходзіць заходняя мяжа распаўсюджвання культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў [7, с. 222—223][1].

---

[1] На захад ад р. Обаль на правабярэжжы Заходняй Дзвіны (Полацкая нізіна) назіраецца лакуна ў распаўсюджванні помнікаў гэтай культуры.

Верагодна, гэтыя археалагічна прасочваемыя лакальныя асаблівасці днепра-дзвінскай і банцараўскай археалагічных культур адлюстраваліся ў прахаджэнні тут памежжа смаленскіх і полацкіх гаворак крывічоў, а ў больш позні час і памежжа паміж паўночнай і віцебска-магілёўскай групамі гаворак на дыялекталагічным атласе Беларусі [26, с. 187; 39, с. 115, карта 8; 43, с. 78]. Ужо сам факт цягі віцебскай групы крывічоў па сваіх гаворках да смаленскіх дазваляе меркаваць аб існаванні ў іх на пэўным этапе развіцця адзінага палітыка-адміністрацыйнага цэнтра. І такім цэнтрам да 1021 г. безумоўна быў Смаленск, прыгарад яго — Віцебск. Акрамя этнічнага Смаленск і Віцебск яшчэ больш істотна звязвала гаспадарчае адзінства. Размяшчэнне абодвух на лёсавызначальным для ўсходняй Еўропы скрыжаванні, значэнне якога асабліва ўзрасло ў IX—X стст. з пачаткам фарміравання Кіеўскай Русі, аб'ектыўна вымушала іх выступаць у якасці адзінага цэлага. Таму полацка-кіеўскі рубеж X — пачатку XI ст. на Падзвінні, які з часам стаў заходняй мяжой Віцебскага ўдзела, трэба шукаць уздоўж цячэння р. Обаль.

Магчыма, сведкамі полацка-кіеўскай і заходняй межаў Віцебскага ўдзела XII—XIII стст., а не толькі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу эпохі Вялікага княства Літоўскага з'яўляюцца тапонімы з асновай "мяжа" і "рубеж", якія сустракаюцца на левабярэжжы р. Обаль. Гэта Мяжуі ў Гарадоцкім, х. Межавое і Рубежнікі (2) у Шумілінскім раёнах [33, с. 260, 331]. І хаця іх агульны накірунак адпавядае мяжы Полацкага павета XVI ст., аб магчымасці выкарыстоўвання падобных тапонімаў у якасці маркёраў межаў XI—XIII стст. адзначалі яшчэ Л. В. Аляксееў і Г. Лаўмяньскі [1, с. 71; 51, 468]. Нельга выключыць, што межы XVI ст. паўтаралі межы X—XIII стст. і нават больш ранняга часу.

Такім чынам, сукупнасць археалагічных, лінгвістычных, гістарычных і тапанімічных даных дазваляе выказаць меркаванне, што заходняя мяжа Віцебскага ўдзела на правабярэжжы Заходняй Дзвіны вядзе свой пачатак з часоў полацка-кіеўскага процістаяння на Падзвінні і ў

цэлым адпавядае мяжы Езярышчанскай воласці Полацкага павета з Віцебскім паветам і Усвяцкай воласцю Полацкага павета.

На поўдзень ад Заходняй Дзвіны межы Віцебскага павета XII—XIII стст. рэканструююцца значна цяжэй. Першапачаткова Полацка-Віцебская мяжа XVI ст. таксама адпавядае агульнаму накіраванню падзелу днепра-дзвінскай культуры, смаленскіх і полацкіх гаворак крывічоў і размяшчэння "памежных" тапонімаў. Прычым тут пачынае прасочвацца адна асаблівасць. "Памежныя" тапонімы — вёскі Рубеж Бешанковіцкага, Рубежніца, Вялікі Межнік Сенненскага, Мяжыева Талачынскага раёнаў размяшчаюцца каля прыродных рубяжоў — межаў, якімі з'яўляліся балоты.

Аднак потым мяжа Полацкага павета адыходзіць на захад, захоўваючы агульны напрамак з мяжой падзелу днепра-дзвінскай культуры на варыянты, накіроўваецца па лініі падзелу смаленскіх і полацкіх гаворак крывічоў. У той жа час "памежныя" тапонімы, супадаючы з лініяй падзелу паўночна-беларускіх і віцебска-магілёўскіх груп гаворак, выводзяць нас у раёне Оршы на мяжу XVI ст. Аршанскага павета з Друцкім княствам, якая, у сваю чаргу, адлюстроўвае смаленска-полацкую мяжу XII—XIII стст. Прычым тут прасочваецца адпаведнасць размяшчэння "памежных" тапонімаў з прыблізнымі межамі Друцкага княства, вызначанымі для XIV—XV стст. [24, с. 94, мал. 6].

Верагодна, гэтыя "памежныя" тапонімы таксама адлюстроўваюць полацка-кіеўскае памежжа X — пачатку XI ст., якое потым стала заходняй мяжой Віцебскага ўдзела на поўдзень ад Заходняй Дзвіны, а ў часы знаходжання Віцебскага ўдзела ў складзе Смаленскай зямлі — заходняй мяжой апошняй. Ва ўсялякім выпадку, растлумачыць размяшчэнне гэтых тапонімаў больш познімі адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі межамі нельга. Такім чынам, заходняя мяжа Віцебскага ўдзела, пачынаючыся ў вярхоўях Обалі, ішла па яе левабярэжжы. На поўдзень ад Заходняй Дзвіны яна праходзіла ў міжрэччы Лучосы і Улы і выводзіла ў раёне Оршы на смаленска-полацкае памежжа XII—XIII стст.

Рэканструяваць паўднёвую і ўсходнюю мяжу Віцебскага княства XII—XIII стст. значна працей таму, што яна супадае з полацка-смаленскай, якая ўстанавілася пасля 1021 г. Пытанням яе фарміравання ў гістарыяграфіі Полацкай і Смаленскай зямель нададзена значная ўвага. Прыналежнасць Оршы Смаленску не выклікае сумненняў, што пацвярджаецца як пісьмовымі крыніцамі, так і данымі тапаніміі [23, с. 216—223; 25]. Са Статута 1136 г. Расціслава Мсціславіча Смаленскага мы ведаем аб існаванні на ўсход ад Оршы смаленскіх валасцей Мірацычы і Вітрына, якія лакалізаваліся на р. Мярэі (Мірацычы) — цэнтр, верагодна, гарадзішча Звяровічы, і ў раёне Вітрынскіх азёр (Вітрына) — цэнтр на гарадзішчы каля в. Мікуліна [3, с. 104; 36, с. 329—330; 45, с. 127; 46, с. 35—36]. На поўнач ад Оршы і на захад ад Вітрынскіх азёр сустракаюцца тапонімы, якія сведчаць аб іх прыналежнасці Полацкай (Віцебскай) зямлі, — *Палачані-Дыманава, Браслаўль*: апошні, верагодна, адлюстроўвае яго знаходжанне ва ўладаннях Брачыслава. Паміж смаленскімі валасцямі і "полацкімі" тапонімамі яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. існавалі прыродныя цяжкапраходныя рубяжы — густыя лясы і вялікая дрыгва Верацея, якая цягнулася ўздоўж Лучосы [9, с. 36—37] — безумоўна прыроднага рубяжа паміж Смаленскім і Полацкім (Віцебскім) княствам. Аб тым, што дрыгва Верацея магла ў XII—XIII стст. выконваць ролю смаленска-полацкага памежжа, сведчыць той факт, што і ў больш позні час, на працягу ўсяго XVI ст., менавіта яна служыла мяжой паміж Аршанскім і Віцебскім паветамі [18, с. 190—192, карты].

Далей мяжа паварочвала на поўнач і ішла, як адзначаў Л. В. Аляксееў, па густых лясах у міжрэччы Дняпра і Заходняй Дзвіны [1, с. 76] у паўночна-ўсходнім накірунку і выходзіла на Заходнюю Дзвіну на поўдзень ад вусця р. Мяжы. Гэты рубеж мы ўслед за А. М. Насонавым вызначаем па ланцугу тапонімаў і гідронімаў тыпу *Рубеж, Рубежнік, Рубежніца* [25, с. 156—157; 34, с. 107, 117, 121, 126, 131, 133, 156, 180, 192, 199], на ўсход ад якіх размяшчаюцца лакалізаваныя цэнтры смаленскіх валасцей — Вітрына, Жыдчыцы, Каспля, Вяржаўск [36, с. 324, 329—332]. У адну лінію з імі становяцца і іншыя памежныя смаленскія феадальныя замкі-крэпасці —

гарадзішчы Ольша, Кавалі, Рокат, а на захад ад іх — полацкі фарпост у вусці р. Каспі — Сураж і гарадзішча каля в. Кашэвічы на р. Каспі, на якіх ёсць матэрыялы XI—XIII стст. [20, с. 286; 40, с. 595; 46, с. 32, 39—40]. Размешчаныя на ўсход ад памежнай лініі смаленскія валасныя цэнтры і замкі бралі пад свой кантроль існаваўшы тут волакавы пераход з Заходняй Дзвіны ў Дняпро: р. Заходняя Дзвіна — р. Каспля — р. Рутавеч — воз. Вял. Рутавеч — волак — р. Бярэзіна — Дняпро [48, с. 85].

Гэтая мяжа, якая ўсталявалася паміж Полацкам і Кіевам пасля 1021 г., таксама мела ў сваёй аснове больш раннія карані: яна пачала складвацца яшчэ ў каменным веку, функцыяніравала ў эпоху жалезнага веку, у сярэднявеччы і ў пэўнай ступені існуе і сёння. Так, у гэтым накірунку праводзіць памежжа паміж культурамі эпохі неаліту У. Ф. Ісаенка [13, с. 199—301, карта], прыблізна тут жа праходзіла памежжа паміж археалагічнымі культурамі эпохі бронзы [41, с. 96—97, карта], тут жа праводзіць мяжу паміж дняпроўскім (смаленскім) і заходнедзвінскім варыянтамі днепра-дзвінскай культуры Я. А. Шмідт [47, с. 21]. Фактычна ў гэтым жа калідоры праходзіла мяжа паміж Смаленскім і Аршанскім паветамі Вялікага княства Літоўскага XV — пачатку XVI ст. У больш позні час, калі Смаленск уваходзіў у склад Маскоўскага княства і Расійскай імперыі сярэдзіны XVI—XVIII ст., мяжа таксама ўсталёўвалася тут [14, с. 219—444; 15, с. 293—390]. І сённяшняя граніца паміж Расіяй і Беларуссю з невялікімі адхіленнямі паўтарае гэты накірунак больш ранніх межаў[2].

---

[2] Безумоўна, у сярэднявеччы пэўныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя перамены адбываліся на гэтых землях, але яны не змаглі карэнным чынам змяніць агульны накірунак мяжы. Так, на месцы былой Вітрынскай воласці Смаленскага княства XII—XIII стст. у XV — пачатку XVI ст. добра вядомы Мікулінская і Любавіцкая воласці Смаленскага павета. Аднак пасля далучэння Смаленска да Маскоўскай дзяржавы (1514 г.) гэтыя дзве воласці засталіся за Вялікім княствам Літоўскім і былі далучаны да Аршанскага павета, у складзе якога яны заставаліся да пачатку XX ст. Мяжа хаця і змянілася, але не настолькі, каб карэнным чынам змяніць карціну, якая пачала вымалёўвацца з эпохі каменнага веку.

Траса мяжы, якая накіроўвалася з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, была абумоўлена наяўнасцю на яе краях вялікіх прыродных рубяжоў — дрыгвы Верацеі на Падняпроўі і вялікай паласы балот, якая цягнулася ўздоўж р. Мяжы ад яе вусця да горада Белага, і нават на пачатку нашага стагоддзя ўяўляла сабой істотную перашкоду [8, с. 10, 121]. Менавіта па паўднёва-ўсходняму краю гэтага масіву праходзіць частка "памежных" тапонімаў, што сведчыць аб ім як аб пэўным прыродным і адміністрацыйна-тэрытарыяльным рубяжы.

На Дзвіну мяжа, верагодна, выходзіла паміж вусцем р. Мяжы і горадам Веліжам. Менавіта тут тапонімы тыпу *Рубеж* пераходзяць на правы бераг Заходняй Дзвіны і размяшчаецца характэрны тапонім Смаленскі Брод, вядомы як мінімум з канца XVIII ст. і які, верагодна, указвае на яго прыналежнасць Смаленску [17, с. 327; 38, с. 57]. Нельга выключыць таго, што тут на месцы Веліжскай крэпасці XVI ст. існаваў полацкі памежны фарпост. Ва ўсялякім выпадку, сляды паселішча больш ранняга часу і, магчыма, "эпохи древнерусского государства" тут ёсць, ды і пісьмовыя крыніцы згадваюць Веліж ужо ў канцы XIV ст. [45, с. 24].

На правым беразе Заходняй Дзвіны размяшчалася Усвяцкая воласць, якая ўваходзіла ў склад Віцебскага ўдзела, межы якой XI—XIII стст. можна рэканструяваць, карыстаючыся апісаннем Усвяцкага староства 1573 г. і інвентарамі староства 1623 і 1670 гг. [16, с. 71—90; 29, с. 421—566].

Пры рэканструкцыі ўсходняй і паўночнай мяжы Усвяцкай воласці XI—XIII стст. мы бралі за аснову апісанне рубяжоў 1573 г., складзенае літоўскімі ваяводамі. Перавага была аддадзена літоўскаму варыянту таму, што, па-першае, ён абапіраўся на больш раннія рубяжы, а не з'яўляўся навадзелам сярэдзіны XVI ст. А па-другое, таму, што, па сведчаннях маскоўскіх ваявод, якія прапанавалі свае рубяжы, пры іх складанні яны ўвесь час сустракалі супрацьдзеянне з боку мясцовага насельніцтва, таму за дакладнасць самі не маглі паручыцца. Да таго ж даволі часта ім не было ў каго распытаць пра старыя межы —

"вспрашивати некого: люди, государь, все разошлись" [29, с. 421, 423, 434—437].

Усходнюю мяжу Усвяцкай воласці па апісанню маскоўскіх ваявод нельга рэканструяваць, бо яна не знаходзіць пацвярджэння сучаснымі сугучнымі тапонімамі. Рубеж, па апісанню літоўскіх ваявод, пачынаўся крыху ніжэй Веліжа, ішоў паміж селішчам Замошша і Іванава-Качалавым селішчам на балота Ліпавы мох ("промеж Давыдова палогу и селишча Замошья мох липой вдоль 10 вер., а поперек 5 вер") і выходзіў да Усвяцкай дарогі. Потым, апускаючы некаторыя спрэчныя ўчасткі мяжы, сэнс якіх зводзіцца да таго, па якім баку дрыгвы яе праводзіць, рубеж надзейна маркіруецца на поўнач ад Замошша на сучасным Удвяцкім возеры (воз. Двято), на адным баку якога было Усвяцкае селішча Манойлава, а на другім — Веліжскае Апамахава. Далей мяжа ішла па воз. Усвяты, уздоўж гарадскіх сцен Усвят, ракою Гарадзечнаю ў воз. Узмень і адтуль ў р. Малініцу. Адсюль мяжа ішла на р. Ловаць, па якой рубеж ішоў да ўпадзення ў яе р. Сенніцы (Синицы), а па апошняй выходзіў на аднайменнае возера [29, с. 443—445].

Паўночная і ўсходняя мяжа Усвяцкай воласці, апісаная маскоўскімі ваяводамі, размяшчаецца на поўнач і ўсход ад літоўскіх рубяжоў на 10—20 км. Але для нас гэта не істотна. Галоўнае тое, што агульны накірунак абодвух варыянтаў рубяжоў супадае з прыроднай мяжой — паласой балот. Розніца паміж літоўскім і маскоўскім варыянтамі памежжа заключаецца толькі ў тым, які бок балот браўся за аснову правядзення рубяжа.

На ўсход ад Усвят размешчана вялікая дрыгва Ліпавы мох, на поўнач і поўдзень ад якой цягнецца ланцужок балот і выводзіць як на Заходнюю Дзвіну, так і ў забалочаны басейн р. Комлі, прытока Ловаці [9, с. 59—60]. Менавіта гэтыя землі, размешчаныя пасярод балот, слаба альбо ўвогуле не заселеныя нават у сярэдзіне XVI ст.[3], служылі, верагодна, усходняй і паўночнай мяжой Віцебс-

---

[3] М. І. Аглобліну на гэтых землях не ўдалося лакалізаваць ніводнага населенага пункта (гл.: Оглоблин Н. И. Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во второй половине XVI века // Сборник Археологического института. Кн. 3—4. СПб., 1880).

кага ўдзела і Усвяцкай воласці ў XI—XIII стст. На паўночны ўсход ад іх мы бачым Жыжэцкую воласць Смаленскай зямлі, а на поўнач, у басейне р. Усвячы, у 30—40 км ад Усвят, за балотам Чысцік, знаходзім тапонім *Наўгародцава* [38, с. 68], які, верагодна, адлюстроўвае яго прыналежнасць Ноўгараду. Рубеж, што праходзіў тут у XVI ст., таксама меў пад сабой больш раннюю аснову. Тут, у міжрэччы р. Усвячы і Заходняй Дзвіны, па балоце Ліпавы мох праводзяць мяжу паміж верхнедзвінскім і заходнедзвінскім варыянтамі днепра-дзвінскай культуры Б. С. Караткевіч і А. І. Мазуркевіч [19, мал. 1]. З невялікімі адхіленнямі рубеж ранняга жалезнага веку і сярэднявечча ляжыць у аснове сучаснай беларуска-расійскай мяжы.

На захад ад комленскіх балот у якасці апорнай кропкі ў пошуках паўночнай мяжы Віцебскай (Полацкай) зямлі можа быць выкарыстана воз. Емянец. У 1185 г. наўгародскія летапісы зафіксавалі, што пасля замірэння Давыда Расціславіча з палачанамі яго дружыны "воротишася на Еменьцы" [27, с. 38]. Верагодна, на беразе воз. Емянец існаваў сугучны яму населены пункт Наўгародскай зямлі, а сама полацка-наўгародская мяжа праходзіла на поўдзень ад возера. Недалёка ад воз. Емянец размешчана воз. Езярышча, з якога бярэ пачатак р. Обаль, якая служыла заходняй мяжой Віцебскага княства XII—XIII стст.

У гістарычнай геаграфіі Полацкай зямлі прыцягвае ўвагу сучасны тапонім *Мяжа*, размешчаны на тэрыторыі Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. У свой час Л. У. Аляксееў выкарыстаў яго ў якасці маркёра мяжы Полацкага княства XI—XIII стст. [1, с. 76—82; 2]. Тапонім сапраўды старадаўні, вядомы як мінімум з сярэдзіны XVI ст.: ён згадваецца сярод сёл Усвяцкай воласці Полацкага павета, прычым размяшчалася вёска ў глыбіні воласці і, такім чынам, гэты тапонім не мог адлюстроўваць адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу таго часу. Ён безумоўна мае больш ранняе паходжанне. Наваколлі вёскі нават сёння багатыя на курганныя могільнікі [49, с. 48], што пацвярджае існаванне паселішча ў XI—XIII стст. Аднак выкарыстоўванне гэтага тапоніма ў

якасці маркёра полацка-наўгародскай мяжы, на наш погляд, не абгрунтавана.

Л. У. Аляксееў не заўважыў таго факта, што пры рэканструкцыі полацкіх зямель на падставе тапонімаў тыпу *мяжа* Усвяты засталіся па-за межамі полацкіх уладанняў. Дык якую ж мяжу мог адлюстроўваць дадзены тапонім, калі не полацка-смаленскую альбо полацка-наўгародскую? На наш погляд, адказ трэба шукаць у адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле Кіеўскай Русі раней 1021 г., калі Усвяты і Віцебск былі перададзены Полацку. Каму належалі гэтыя два гарады?

Віцебск і Смаленск, якія ў IX—X стст. уяўлялі ў этнічных і гаспадарчых адносінах адзінае цэлае, знаходзіліся з канца IX ст. у залежнасці ад Кіева. Яраслаў Мудры, аддаючы Віцебск Брачыславу ў 1021 г. у абмен на саюз, пакідаў у сваіх руках іншы вельмі важны пункт для кантролю над днепра-дзвінскімі валокамі — Смаленск. Але каму належалі да 1021 г. Усвяты? Адказу на гэтае пытанне мы ў крыніцах не знойдзем. Аднак, улічваючы, што перадачы Полацку Віцебска і Усвят папярэднічаў полацкі паход на Ноўгарад, можна меркаваць, што гэтыя гарады былі своеасаблівай платай Яраслава за такі неабходны яму ў той складанай сітуацыі мір. Але Яраслаў не быў адзінокім у сваіх пошуках міра. Яго шукаў і Ноўгарад, які баяўся застацца сам-насам з набіраючым моц Полацкам. Ці не адбыўся тут падзел платы за мір паміж Ноўгарадам і Кіевам? Нельга выключыць, што Яраслаў, саступаючы Віцебск, пакідаючы за сабой Смаленск, вымусіў Ноўгарад аддаць Полацку Усвяты.

Разглядаючы падзеі 1021 г. у такім кантэксце, становіцца зразумелым і размяшчэнне гарадоцкага тапоніма *Мяжа*. Ён размяшчаецца ў вярхоўях Ловаці і, верагодна, адлюстроўвае падзел зямель паміж Кіевам і Ноўгарадам у X ст., які ставіў пад кантроль апошняга ўвесь басейн Ловаці.

Рэканструяваўшы на падставе пісьмовых крыніц XVI ст. рубяжы Віцебскага ўдзела XII—XIII стст. і зрабіўшы назіранні аб тым, што ў іх аснове ляжаць межы больш ранняга часу, якія з'яўляюцца асновай для сучасных, паспрабуем разглядзець іх размяшчэнне ў сувязі з прыроднагеаграфічнымі ўмовамі.

Заходняя мяжа Віцебскай зямлі (павета) XII—XVI стст. на правабярэжжы Заходняй Дзвіны праходзіць па граніцы двух фізіка-геаграфічных раёнаў. На захад ад р. Обаль знаходзіцца Полацкая нізіна, на ўсход — Невельска-Гарадоцкае і Віцебскае ўзвышшы. На поўдзень ад Заходняй Дзвіны рубяжы Віцебскай зямлі XII—XIII стст. праходзяць па памежжы Віцебскага ўзвышша і Чашніцкай раўніны. Потым граніца паварочвала на ўсход, як і мяжа Віцебскага павета XVI ст., мяжа XII—XIII стст. праходзіла па балоту Верацея, якое цягнулася ўздоўж р. Лучосы, якая ў сваю чаргу выдзяляецца географамі ў самастойны фізіка-геаграфічны раён — нізіна Лучосы, што з'яўляецца рубяжом паміж двума ўзвышшамі — Віцебскім і Аршанскім [22, с. 13, 15—16].

На ўсход ад Віцебска, у міжрэччы Дняпра і Заходняй Дзвіны, Віцебскае ўзвышша плаўна паніжаецца і пераходзіць у раўніну. Але потым пасярод гэтай раўніны ўзнікаюць астраўныя ўзвышшы і грады, якія цягнуцца з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, — Бакланаўскае і Пржэвальскае ўзвышшы, на якіх і размешчаны памежныя смаленскія крэпасці. На захад ад іх, там, дзе адзначаецца канцэнтрацыя "памежных" тапонімаў, знаходзяцца нізіны, якія злучаюцца скразнымі лажбінамі і вельмі забалочаны [44, с. 98 — 100].

На поўнач ад Заходняй Дзвіны межы як жалезнага веку і сярэднявечча, з невялікімі зменамі, так і сучасныя праходзяць уздоўж р. Усвячы, па забалочанай Усвяцкай нізіне і выводзяць у такую ж перанасычаную вільгаццю Усмынскую азёрна-ледавіковую раўніну [30, с. 380; 31, с. 43], пакідаючы на захад і паўднёвы захад ад сябе Віцебскае і Невельска-Гарадоцкае ўзвышшы. Паўночная мяжа Віцебскага ўдзела XII—XIII стст. праходзіла па такому ж перанасычанаму вільгаццю раёну Невельскай раўніны [30, с. 399], на поўдзень ад якой знаходзіцца Невельска-Гарадоцкае ўзвышша.

Такім чынам, аналізуючы гістарычныя, лінгвістычныя, тапанімічныя і археалагічныя крыніцы, далучаючы даныя фізіка-геаграфічнага раяніравання рэгіёна, можна зрабіць выснову, што межы Віцебскага ўдзела XII—XIII стст. былі абумоўлены прыроднымі рубяжамі, у якасці якіх выступалі нізінныя забалочаныя масівы, што праходзілі

па межах сучасных фізіка-геаграфічных раёнаў. Узнікшы ўпершыню ў эпоху каменнага і жалезнага веку, гэтыя межы з невялікімі карэкціроўкамі змаглі праіснаваць да сённяшняга дня. Віцебскае княства XII—XIII стст. у фізіка-геаграфічным плане займала тэрыторыю Віцебскага і Невельска-Гарадоцкага ўзвышшаў.

Такая ж карціна назіраецца і ў размяшчэнні гарадоцкага тапоніма *Мяжа*. Як і іншыя "памежныя" тапонімы, ён размяшчаецца на краю нізіннага, забалочанага фізіка-геаграфічнага раёна — Суражскай нізіны, якая раздзяляе Віцебскае і Невельска-Гарадоцкае ўзвышшы. Па гэтай нізіне ў XVI ст. праходзіла граніца паміж Усвяцкай воласцю Полацкага павета і Віцебскім паветам. Нельга выключаць таго, што яна ў пэўнай ступені паўтарае кіеўска-наўгародскі рубеж на Падзвінні X — пачатку XI ст.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Алексеев Л. В. Полоцкая земля в IX—XIII вв. (Очерки истории северной Белоруссии). М., 1966.
2. Алексеев Л. В. О распространении топонимов "Межа" и "Рубеж" в Восточной Европе // Славяне и Русь. М., 1969.
3. Алексеев Л. В. Устав Ростислава Смоленского и процесс феодализации Смоленской земли // Słowianie w dziejach Europy. Poznań, 1974.
4. Беляев И. И. История Полоцка или северо-западной Руси от древнейших времен до Люблинской унии // Рассказы по истории. Кн. 4. М., 1872. Т. 1.
5. Бубенько Т. С. Территориальное развитие Витебска IX—XIV вв. (по материалам исследований посада) // 1-я Гомельская областная научная конференция по историческому краеведению: Тез. докл. Гомель, 1989.
6. Бубенько Т. С. Социотопографическая структура посада средневекового Витебска (X — первой половины XIV в.) // Тэз. дакл. і паведамленняў беларускай дэлегацыі на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі. Ноўгарад, 26—31 жніўня 1966 года. Мн., 1996.
7. Булкин Вас. А. Кривичи и словене в верховьях Днепра и Двины // Славяно-русские древности. Вып. 2. Древняя Русь: Новые исследования. СПб., 1995.
8. Военно-географический и военно-статистический очерк Западного военного округа. Смоленск, 1922.
9. Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3: Могилевская губерния. СПб., 1848.
10. Данилевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896.

11. Довнар-Запольский М. В. Очерк истории кривичской и дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891.
12. Заяц Ю. А. Менская зямля: этапы фармавання // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 4.
13. Ісаенка У. Ф. Каменны век // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
14. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске. Вып. 3. Витебск, 1872.
15. Там жа. Вып. 4. Витебск, 1873.
16. Там жа. Вып. 21. Витебск, 1891.
17. Там жа. Вып. 29. Витебск, 1901.
18. Камінскі М. І. Насевіч В. Л. Аршанскі павет // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1.
19. Короткевич Б. С., Мазуркевич А. И. Пять вариантов днепродвинской культуры // Петербургский археологический вестник. СПб., 1992. № 2.
20. Лявданский А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии // Научные известия Смоленского Государственного Университета. Т. 3, ч. 3. Смоленск, 1926.
21. Ляўко В. М. Замак Езярышча // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989.
22. Мельничук С. М. Витебская область. Географический очерк. Мн., 1962.
23. Мяцельскі А. А. Орша ў XII—XIII стст.: паміж Полацкам і Смаленскам // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1995. № 6.
24. Насевіч В. Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
25. Насонов А. Н. "Русская земля" и образование территории древнерусского государства. М., 1951.
26. Николаев С. В. Следы особенностей восточнославянских племенных диалектов в современных великорусских говорах. Кривичи (окончание) // Балто-славянские исследования 1987 года. М., 1989.
27. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950.
28. Пашуто В. Т., Флоря В. Н., Хорошкевич Б. Н. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982.
29. Писцовые книги Московского государства // Писцовые книги XVI века. Ч. 1, отд. 2. СПб., 1877.
30. Природа районов Псковской области // Ученые записки Ленинградского педагогического института им. А. И. Герцена. Т. 389. Л., 1971.
31. Природа Псковской области. Псков, 1974.
32. ПСРЛ. Т. V: Софийская первая летопись. Л., 1925. Вып. 1.
33. Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.
34. Романов Е. Р. Материалы по исторической топографии Витебской губернии: Велижский уезд. Могилев, 1898.

35. Сапунов А. П. Витебская старина. Витебск, 1883. Т. I.
36. Седов В. В. К исторической географии Смоленской земли // Материалы по изучению Смоленской области. Смоленск, 1961. Вып. IV.
37. Седов В. В. Смоленская земля. // Древнерусские княжества X—XII вв. М., 1975.
38. Список населенных мест Витебской губернии. Витебск, 1906.
39. Титов В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов XIX — начала XX в. Мн., 1983.
40. Ткачоў М. А. Сураж // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
41. Чарняўскі М. М., Крывальцэвіч М. М. Бронзавы век // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993.
42. Шадыро В. И. Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985.
43. Шадыро В. И. Этнокультурные и социальные процессы на севере Белоруссии в раннем средневековье // Тэз. дакл. і паведамленняў беларускай дэлегацыі на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі. Ноўгарад, 26—31 жніўня 1996 года. Мн., 1996.
44. Шевченко П. Г. Рельеф Смоленской области // Природа Смоленской области (геология, рельеф, почвы). Ч. 1. Смоленск, 1973.
45. Шмидт Е. А. Древнерусские археологические памятники Смоленской области. Ч. 1. М., 1982.
46. Ён жа. Ч. 2. М., 1983.
47. Ён жа. Племена верховьев Днепра до образования древнерусского государства. Днепродвинская культура (VIII вв. до н. э. — III в. н. э.). М., 1992.
48. Ён жа. Древние пути из Днепра в Западную Двину // Слов'янi і Русь у навуковій спадчині Д. Я. Самоквасова. Матеріали історико-археологічного семінару, присвяченого 150-річчю від дня нараджэння Д. Я. Самоквасова (14—16 верасня 1993 р. М. Новгород-Сіверський). Чернігів, 1993.
49. Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2: Памятники железного века и эпохи феодализма. Мн., 1971.
50. Ён жа. Города Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1978.
51. Łowmiański H. Geneza ziemi połockiej // Studia nad dziejami słowiańszczyzny, Polski, Rusi w wiekach średnich. Poznań, 1986.

*Генадзь Сагановіч*

## БЕЛАРУСЬ І НЯМЕЦКІ ОРДЭН
## (да Крэўскай уніі)

У айчыннай гістарычнай літаратуры апошнім часам стаў ужывацца тэрмін "крыжакі" ў дачыненні да членаў еўрапейскіх рыцарска-манаскіх ордэнаў наогул, незалеж-

на ад назвы і месцазнаходжання самога ордэна. Так называюцца і ўдзельнікі крыжовых паходаў у Палесціну, і рыцары Ордэна мечаносцаў (пазней вядомага як Інфлянцкі), і вайсковыя фарміраванні нямецкай ордэнскай дзяржавы, заснаванай у XIII ст. у Прусіі [1, с. 50—52; 2, с. 4 і далей; 3, с. 97 і інш.]. Аднак выкарыстанне гэтага слова ў такім сэнсе гістарычна неправамернае. "Крыжакі" — гэта калька з польскага "krzyżacy". У Польшчы так называлі рыцараў суседняга Нямецкага ордэна па выяве крыжа на іх плашчы. Беларускай жа гістарыяграфічнай традыцыі гэты тэрмін невядомы. У нашых летапісах фігуруюць не крыжакі, а "немцы", "немцы пpускіе", "Нямецкая зямля".

Варта заўважыць, што прускія тэўтоны з'явіліся ў вусці Дзвіны толькі ў 1237 г. Але Інфлянцкі ордэн нават пасля яго далучэння да Нямецкага, ці, як яго ўслед за польскімі гісторыкамі сталі называць і беларускія, Крыжацкага, не атаясамляўся з апошнім. З'яўляючыся філіялам ордэнскай дзяржавы на ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора, ён захоўваў пэўную адасобленасць не толькі ў назве, але і на ўзроўні знешняй палітыкі. А Тэўтонскі (у тагачасных крыніцах немцаў называлі тэўтонамі) ордэн, які пачаў свае заваёвы ў Прусіі з 1230-х гадоў, валодаў намнога мацнейшым ваенным патэнцыялам і ўяўляў значна большую небяспеку для Літвы і Беларусі, чым Інфлянцкі. Ён адразу выпаў з кантэксту агульнаеўрапейскага крыжовага руху і ўпісваўся больш ва ўласна нямецкую гісторыю. У XIV ст. гэта была ці не самая моцная ваенная сіла ў цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне, хоць ордэнскія ўладанні складалі тады ўсяго прыкладна 58000 км$^2$, а ўласна немцы — крыху больш за трэць насельніцтва дзяржавы.

Што да мяжы Вялікага княства Літоўскага (далей — ВКЛ) з Інфлянцкім ордэнам, значная частка якой пралягала па Полаччыне, дык да другой трэці XIV ст. яна заставалася адносна спакойнай. Канфлікты ўспыхвалі толькі вакол памежнай цвердзі Дзюнабург (побач з цяперашнім Даўгаўпілсам). У 1262 г. рыцары пабілі каля яе літоўскае войска, а ў 1277 г. гэты гарадок на Дзвіне быў наогул заняты інфлянцкімі немцамі. Па ім стала праходзіць мяжа з Полаччынай. Трайдзень доўга стараўся

выбіць рыцараў з фартэцыі, але беспаспяхова. Да 1305 г. Дзюнабург быў такі разбураны русінамі, найверагодней палачанамі, але прыкладна з 1313 г. ім ужо зноў валодалі інфлянцкія рыцары, і ландмагістр Гергард Ёрке хутка адбудаваў умацаванні. Адносна другой паловы XIII і першых дзесяцігоддзяў XIV ст. ні пра якія войны з немцамі ў Падзвінні гаварыць не даводзіцца.

Тым часам рыцары Нямецкага ордэна да канца 1230-х гадоў амаль падпарадкавалі прусаў (за выключэннем самбійскіх плямёнаў). Першае прускае паўстанне, узнятае дзякуючы падтрымцы паморскага князя Свентаполка, скончылася паражэннем, зафіксаваным Хрыстбургскай дамовай 1249 г., другое ў 1260—1261 г. таксама не дало станоўчых вынікаў. Урэшце да 1274 г. супраціўленне прусаў было канчаткова зломлена, а рэшткі непадпарадкаваных паўцякалі на землі Літвы. Яшчэ ў 1267 г. страцілі самастойнасць плямёны куршаў, а ў 1272 г. — земгалы. Да 1276 г. крыжаносцы заваявалі і Скалву, адкуль таксама многія карэнныя жыхары сышлі ў Літву. З 1277 г. рыцары павялі барацьбу з яцвягамі. Ужо праз паўтара дзесяцігоддзя іх землі былі захоплены, і ў 1283 г. апошні незалежны яцвяжскі князь Скурда пакінуў свой край і перайшоў за Нёман, на тэрыторыю ВКЛ.

Калі ў сярэдзіне XIII ст. у Літве дайшло да вострага ўнутранага канфлікту паміж Міндоўгам і яго апазіцыяй, галоўны праціўнік манарха Таўцівіл заручыўся дапамогай князя Данілы Галіцкага і інфлянцкіх немцаў. У той сітуацыі і Міндоўг, каб разарваць варожую кааліцыю, звярнуўся да Ордэна. Паразумеўшыся з інфлянцкім магістрам Андрэем Шцірляндам, у 1251 г. ён прыняў хрышчэнне, а летам 1253 г. у Наваградку, таксама дзякуючы падтрымцы немцаў, з блаславення рымскага папы быў абвешчаны каралём Літвы. Хрышчэнне і каранацыя Міндоўга прывялі да часовага прымірэння нямецкіх рыцараў з Літвою. Раздорваючы літоўскія воласці немцам, Міндоўг займеў у Ордэне саюзніка і ўмацаваў сваё становішча ў дзяржаве. Але, як пабачым, ягонае хрышчэнне ад самага пачатку было тактычным манеўрам. "Крещение же его льстиво бысть", — адзначыў пазней аўтар Іпацеўскага летапісу.

**Паходы нямецкіх рыцараў на Беларусь**
**у 1284—1385 гг.**

| Год | Сілы | Аб'ект нападу |
|---|---|---|
| 1284 | "моцнае войска" | Гродна |
| 1295 | | ваколіцы Гродна |
| 1296 | | Гродна |
| 1296 | | Гродна |
| 1305 | | "зямля Гарадзенская"* |
| 1306 | некалькі братоў і 400 чал. | Гродна |
| 1306 | 11 братоў і 6000 коннікаў | Гродна |
| 1311, люты | 5 братоў і 400 коннікаў | Гродна |
| 1311 | многа братоў і 5000 чал. | Гродна |
| 1314, верасень | больш за 1500 коннікаў | Наваградак |
| 1324 | 300 коннікаў | Паставы (?) |
| 1324 | 3 браты, 600 чал. | Уладанні Давыда Гарадзенскага |
| 1328 | 60 братоў з войскам | Гродна |
| 1330 | | "замак Гедыміна" |
| 1333 | "шматлікае войска" | Полацк |
| 1334 | | Полацк |
| 1361 | | Гродна |
| 1363 | | Гродна* |
| 1364 | | Гродна |
| 1365, жнівень | | Вільня |
| 1366 | | Полацк |
| 1367 | | "верхняя зямля русінаў" |
| 1370 | | Драгічын (?) |
| 1373, лета | | Камянец |
| 1375, 6—15 красавіка | | Полацк |
| 1375, лета | 300 чал. | Камянец |
| 1377, люты | | Вільня |
| 1377, 24 жніўня—5 верасня | | "новы замак русінаў" каля Дзюнабурга |
| 1377, 24—25 снежня | 600 чал. | Беліца |
| 1378 | | "аж да Вільні"* |
| 1379 | | Полацк |
| 1379, люты | | Камянец |
| 1379, жнівень | | Гродна, Брэст |
| 1381, люты | | Вільня |
| 1381, жнівень | | Полацк |
| 1383, ліпень — верасень | | Вільня |
| 1385, жнівень — верасень | | Вільня, Меднікі, Ашмяны |

Разгром рыцараў жамойтамі каля возера Дурбэ ў 1260 г. часова аслабіў ордэнскую дзяржаву. Супраць панавання рыцараў зноў паўсталі прусы, а ў Інфлянтах ад Ордэна адпалі куроны. У той сітуацыі літоўскі манарх выракся хрысціянства і заняў адкрыта антыордэнскую пазіцыю. Так і не скарысталі рыцары самы зручны момант, каб авалодаць Жамойцю і злучыць прускія ўладанні Ордэна з інфлянцкімі.

Затое Міндоўг заключыў саюз з ноўгарадскім князем Аляксандрам Яраславічам (Неўскім) для супольных дзеянняў супраць Ордэна. На 1262 г. быў запланаваны паход на Рыгу, у якім мусіла браць удзел і войска Русі. Але калі Міндоўг прывёў свае сілы пад Вендэн (Цэсіс), абяцанай дапамогі яшчэ не было. Толькі пасля адыходу літоўцаў у землях эстаў з'явілася вялікае войска, складзенае з ноўгарадцаў, цверцаў, віцябчан і палачан. Яно здабыло пасад горада Дэрпт (пазней Юр'еў, цяпер Тарту), але далей не пайшло, а са здабычай павярнула назад. Са смерцю ж Міндоўга антынямецкі саюз адразу развальіўся. Забойства літоўскага манарха сімвалізавала канец перыяду адносна мірных узаемаадносін паміж Літвой і Ордэнам.

Забеспячэнне хрысціянскай місіі ў Прыбалтыцы ад пачатку дорага каштавала Нямецкаму ордэну. Ужо ў 1258 г. рымскі папа Аляксандр IV паведамляў, што на той час у Прусіі ды Інфлянтах загінула 500 братоў-рыцараў [24, s. 617]. Гэта пры тым, што яшчэ не дайшло да сістэматычнай вайны з літоўцамі, у ваенным плане самым моцным балцкім народам.

І вось у 1283 г., скончыўшы 53-гадовую вайну з прусамі, нападам на літоўскі замак Бізэну Тэўтонскі ордэн распачаў вайну з Вялікім княствам Літоўскім, або, як яно тады фігуравала ў крыніцах, — з Літвой (пад словам "Літва" ў нямецкіх крыніцах разумелася дзяржава літоўскіх князёў, а не этнічная Літва). "Explicit bellum Prussie. Incipit bellum Lethowinorum", — занатаваў нямецкі храніст Пётр Дусбург [10, s. 146].

Нягледзячы на тое што агрэсія была скіравана галоўным чынам на Жамойць ды на замкі сярэдняга Нёмана, тэўтоны не пакінулі ў спакоі і Беларускае Панямонне. Ужо праз год

пасля пачатку вайны адбыўся першы паход нямецкіх рыцараў на Горадню, даволі поўна апісаны Дусбургам. Летам 1284 г. прускі ландмайстар Конрад фон Тырберг, пераправіўшыся цераз Нёман з "моцным войскам", аблажыў і стаў штурмаваць гарадзенскі замак. Абаронцы доўга паспяхова адбівалі атакі, так што "з абодвух бакоў было многа параненых". Аднак рыцары ўварваліся ў замак, "пабілі ўсіх або забралі ў палон", а ўмацаванні спалілі. Пасля таго, як "агнём і рабаваннем" былі спустошаны і ваколіцы Горадні, войска з вялікай здабычай вярнулася ў ордэнскія ўладанні [10, s. 147—148].

Поспеху першых акцый тэўтонаў спрыяла галоўным чынам раптоўнасць нападу, таму пасля адбудовы замкаў Бізэна і Горадня вялікі князь Віцень узяў іх пад сваю апеку і ўвёў тут сталую гарнізонную службу [19, s. 129]. На тыя часы гэта было новым крокам у ваеннай арганізацыі ВКЛ.

Згодна з прускімі хронікамі, наступнае ўварванне тэўтонцаў у Беларускае Панямонне адбылося ажно праз дзесяць гадоў. Выглядае, што Ордэн тады яшчэ не быў гатовы да рэгулярнай вайны з ВКЛ. Яго ваенную актыўнасць ва Усходняй Прыбалтыцы стрымлівала і тое, што палітычны цэнтр Ордэна да 1309 г. знаходзіўся ў Венецыі. Каб замацаваць сваю прысутнасць у рэгіёне, рыцары пачалі будаваць на памежжы свае апорныя базы ў выглядзе замкаў. Так яшчэ ў 1253 г. на марскім узбярэжжы паўстаў Мемель (цяпер Клайпеда). А ў 1289 г. рыцары ўзвялі свае замкі на Нёмане — Рагнет і Тыльзіт. Толькі пасля гэтага іх ваенныя акцыі пачасціліся.

Ужо ў маі 1295 г. немцы спустошылі вёску на правым беразе Нёмана каля Горадні і набралі палонных. Войска ВКЛ наладзіла пагоню, але ў выніку само панесла значныя страты. Пад 1296 г. Дусбург зафіксаваў ажно два паходы ў Беларускае Панямонне. Спачатку комтур Зігфрыд фон Рахверб з войскам моцна "спустошыў і спаліў" горад, вывеўшы ў Прусію 200 палонных, а потым пад Горадняй з'явіўся комтур Гайнрых Цукшверт, які для нападу спецыяльна вычакаў момант, калі Віцень з сваімі сіламі пайшоў на Інфлянты. Але супраціўленне абаронцаў было такім моцным, што браты-рыцары са стратамі мусілі павярнуць назад.

Тым часам абвастрыўся ўнутраны антаганізм у Інфлянтах, дзе ордэнскія ўлады варагавалі як з рыжскім біскупам, так і з самой Рыгай. Апошняя ахвотна пайшла на саюз з ВКЛ, паколькі эканамічна залежала ад гандлю з Полацкам па Дзвіне. У 1297 г., калі рыцары інспіравалі канфлікт з рыжанамі, апошнія паклікалі на дапамогу ВКЛ. І праз год войска вялікага князя Віценя нанесла паражэнне Ордэну пад Коркгаўзам, на тэрыторыі сучаснай Латвіі.

У канцы XIII — пачатку XIV ст., калі магутнасць Нямецкага ордэна ў Прусіі толькі нарошчвалася, вайна з "паганымі" ў форме так званых "Litauerreisen" (паходаў на Літву) яшчэ не набыла такіх маштабаў і напружання, як пазней, у часы Гедыміна. І Вялікае княства Літоўскае тады яшчэ, праўдападобна, пакуль недаацэньвала небяспеку з боку ордэнскай дзяржавы. Бо, напрыклад, паходы на Польшчу літоўскія князі арганізоўвалі часцей, чым на Прусію: у польскія землі яны хадзілі ў 1290, 1292, 1296, 1300 і 1303 гг., тады як супраць Ордэна — толькі ў 1299, 1300 і 1302 гг. Але перанос сталіцы Ордэна ў 1309 г. у Мальбарк азначаў, што яго ўлады адмовіліся ад ідэі вызвалення "Святой зямлі" і канчаткова аддалі прыярытэт сваім інтарэсам у Прыбалтыцы. Барацьба супраць ВКЛ актывізавалася, хоць галоўнай праблемай знешняй палітыкі нямецкай дзяржавы ў Прусіі яшчэ доўга (да 1343 г.) было саперніцтва з Польшчай.

Важнай вяхой нарошчвання ваеннага патэнцыялу Ордэна стаў 1304 год, калі ў Прусіі пасля трыццацігадовага перапынку з'явілася першая партыя "гасцей" — крыжовых рыцараў з розных зямель нямецкай дзяржавы — Святой Рымскай імперыі, што ехалі дапамагчы Ордэну ў яго барацьбе з новымі ворагамі хрысціянства — "Літвою", "ліцвінамі". Хронікі паведамляюць, што ўжо ў 1305 г. Гарадзеншчыну зноў паліў і рабаваў брандэнбургскі комтур Конрад Ліхтэнгайн, і толькі наяўнасць блізка сабраных узброеных сіл Вялікага княства прымусіла яго хутка пакінуць раён. Другое войска Нямецкага ордэна ў той самы час уварвалася ўглыб самой Літвы. Праз год, калі армія Віценя з Горадні рушыла на Польшчу, прускі магістр Конрад накіраваў спецыяльна на яе заваяванне

Альберта фон Гагена на чале чатырох сотняў. Авалодаўшы горадам, тыя пабілі мужчын, спалілі ўсе будынкі і, па словах Дусбурга, выйшлі з такой вялікай здабычай, з якой толькі маглі рухацца. Спадзеючыся, што пасля разбурэння горада лёгка можна будзе захапіць і замак, каралявецкі комтур Эбергардт неўзабаве выправіў на яго новае, намнога большае войска. Аднак Віцень паспеў прыслаць у фартэцыю значныя сілы з вопытнымі камандзірамі, якія з раніцы да вечара стрымлівалі націск крыжакоў, шматразова адганяючы іх ад умацаванняў, і змаглі адстаяць замак.

Чарговы раз нямецкія рыцары зноў спустошылі ваколіцы Горадні ў 1311 г. Віцень жа ў красавіку 1311 г. з літоўскім і беларускім войскам уварваўся ў Прусію, але рыцары дагналі і разграмілі яго сілы на зваротным шляху. У гонар гэтай перамогі ў Торуні немцы ўзвялі касцёл. Тады ж у Ордэне быў распрацаваны план захопу Гарадзенскай цвердзі пры дапамозе палоннага ліцвіна, аднак ён не здзейсніўся.

Даволі частыя напады на Горадню пацвярджаюць, што гэтая цвярдыня з'яўлялася важнай перашкодай на шляхах усходняй экспансіі Нямецкага ордэна. Ніводзін іншы замак сучаснай Беларусі не прыцягваў тады такой увагі крыжакоў, як гарадзенская фартэцыя, што выконвала функцыю асноўнай базы для ваенных рэйдаў ВКЛ на захад. Невыпадкова сама яна на працягу ўсяго XIV ст. заставалася пастаянным аб'ектам ордэнскіх экспедыцый [22, т. 2, s. 59].

У адрозненне ад класічных крыжовых паходаў у "Святую зямлю" выправы ў Прусію і потым на Літву ў XIV ст. ужо не мелі выразна рэлігійнага характару. Яны былі своеасаблівым выпрабаваннем высакароднага рыцарства, якое імкнулася паўдзельнічаць у барацьбе з "ворагамі хрысціянства", у якой бачыла свой хрысціянскі доўг (т. зв. "Heidenkampf"). У "рэйзах" супраць "паганых" брала ўдзел, як правіла, невялікая колькасць братоў-рыцараў (ад некалькіх чалавек да 100) і дапаможныя сілы, часцей конныя, якіх былі сотні ці нават тысячы. За перыяд, апісаны Дусбургам (да 1330 г.), найбольш вершнікаў з братамі-рыцарамі прыйшло, здаецца, у

1306 г. — 6000 коняў. Паходзілі яны галоўным чынам з Натангіі і Самбіі, хоць былі і з іншых, галоўным чынам нямецкіх зямель.

Найчасцей "рэйзы" арганізоўвалі апрача вялікага магістра комтур каралявецкі або рагнецкі. Звычайна не праходзіла і года, каб на які-небудзь раён Літвы ці Заходняй Беларусі не рабілася крыжацкіх пабегаў. Бывала ж, што іх прыпадала і па некалькі на год, а ў другой палове XIV ст. колькасць уварванняў дасягала васьмі. Рыцары найчасцей збіраліся ў Каралядцы і выпраўляліся ў паход паміж студзенем і лютым, калі можна было не баяцца топкіх багнаў, але практыкаваліся і летнія выправы. Аналіз хронікі Германа Вартберга паказвае, што інфлянцкія рыцары амаль палову сваіх паходаў правялі летам і ўвосень. Зімой рухаліся берагам ракі (Нёмана ці Дзвіны), а ўлетку плылі караблямі па самой рацэ. Усцяж Нёмана да самай Літвы стаялі ордэнскія замкі — апорныя пункты агрэсіі. За дзень звычайна праходзілі да 45 км. Уся "рэйза" з Каралядца ў "зямлю паганых" і назад займала каля 2 тыдняў. З прычыны вайны паміж уладаннямі Ордэна і ВКЛ стала ўтварацца пустка — шырокая, цяжкапраходная паласа дзікага лесу, зусім незаселеная.

У 1314 г. адбылося ажно тры спусташальныя паходы на ВКЛ: два першыя на этнічна літоўскія землі, а трэці, вераснёўскі, — на Наваградак, або, па азначэнні Пятра Дусбурга, у "зямлю Крывічоў" [10, s. 180]. Горад наезнікі захапілі, але замкам не авалодалі, а ў выніку ўдалых контракцый гарадзенскага старасты Давыда, які пазбавіў рыцараў правіянту і коняў, рыцары на зваротным шляху і самі панеслі вялікія страты.

Пасля смерці вялікага князя Віценя беларуска-літоўская дзяржава некалькі гадоў заставалася пасіўнай. Толькі пад 1319 г. хронікі зафіксавалі паход "кашталяна гарадзенскага" Давыда на Прусію. На чале 800 коннікаў ён ажыццявіў рэйд у Натангію, дзе ўчыніў шмат знішчэнняў і сабраў вялікую здабычу, але пры адыходзе быў разбіты. Наогул, Давыд Гарадзенскі псаваў тэўтонам многа крыві, таму яны трымалі яго на асаблівым рахунку і са свайго боку імкнуліся адпомсціць ваяўнічаму кашталяну. І ўжо ў 1324 г. невялікі прускі аддзел (600 чалавек) на чале з

трыма братамі-рыцарамі знішчыў яго ўладанні. У выніку 38 чалавек было забіта на месцы, а 100 коняў забрана ў Прусію.

Пасля таго, як у 1320 г. у бітве пад Меднікамі ордэнскае войска пацярпела паражэнне (загінулі ўсе 40 братоў-рыцараў і іх дапаможны кантынгент), ініцыятыва на нейкі час перайшла да Вялікага княства. Да 1323 г. яно ажыццявіла чатыры паходы ў Прусію і Інфлянты, тады як рыцары адказалі толькі адным паходам [19, s. 131]. Неўзабаве становішча Гедыміна істотна палепшылася дзякуючы падтрымцы палякаў.

Польшча стала натуральным саюзнікам ВКЛ, як толькі крыжакі сілай авалодалі Памор'ем і Гданьскам (1308/1309 г.). Ужо праз год пасля таго, як дзякуючы праекту хрышчэння Літвы, ініцыяванаму Гедымінам, Вялікаму княству ў 1324 г. удалося дасягнуць чатырохгадовага перамір'я з Тэўтонскім ордэнам (папа Ян XXII уступіўся за Літву і нават забараніў рыцарам чыніць выправы на яе тэрыторыю), быў заключаны і саюз з Польшчай. У выніку апошняга ў 1326 г. ваенны кантынгент ВКЛ (1200 коннікаў), узначалены Давыдам Гарадзенскім, браў удзел у спусташальным паходзе ўзброеных сіл Польшчы і Венгрыі на Брандэнбург (хоць Брандэнбургія тады і не была саюзнікам Ордэна). Гэты рабаўнічы рэйд, інспіраваны рымскім папам, адпавядаў толькі польскім інтарэсам і азначаў умяшанне ВКЛ у канфлікт імператара Людовіка і папы Іаана XXII на баку апошняга. Згодна з хронікай Ярошына, пры завяршэнні гэтай акцыі ад рук мазавецкага рыцара Анджэя Госта загінуў і сам Давыд.

У 1328 г. комтуры памежных замкаў ажыццявілі ажно тры паходы на ВКЛ, прычым два з іх — на Гарадню. Падчас апошняга 60 братоў-рыцараў з войскам падышлі да горада і на 6 міль вакол пустошылі наваколлі. У 1329 г. прускае войска ўварвалася ў Жамойць і хутка заняло там амаль усе ключавыя замкі. У тым жа годзе, калі рыжане, якія перажывалі чарговую аблогу, папрасілі дапамогі, ВКЛ зноў падтрымала саюзніка. Коннае войска літоўска-беларускай дзяржавы, узначаленае самім Гедымінам, увайшло ў ордэнскую вобласць Каркус і 6 дзён спуста-

шала яе. Колькасць забітых за адзін паход жыхароў разам з выведзенымі ў палон перасягала тысячу [6, s. 644]. Аднак гэтая акцыя ўжо не ўратавала Рыгу, якая пасля доўгай барацьбы (канфлікт цягнуўся з 1297 г.) мусіла капітуляваць перад інфлянцкімі рыцарамі.

У выніку падпарадкавання Рыгі і рыжскага арцыбіскупа Інфлянцкі ордэн зноў мог праводзіць ваенныя дзеянні супраць ВКЛ, хоць да 1330-х гг. ён практычна не выяўляў ніякай актыўнасці. Яго паходы аднавіліся ўжо ў 1331 г. Інфлянцкія кантынгенты дасягалі ваколіцаў самой Вільні (як у 1334 г., калі яны набліжаліся на 4 мілі да сталіцы). Цярпела ад іх і Беларускае Падзвінне. Згодна з паведамленнямі Германа Вартберга, "шматлікае войска" магістра Эвергарда ў 1333 і 1334 гг. падыходзіла да самага Полацка. Прускі ордэн таксама, скончыўшы ў 1332 г. "дэ факта" вайну з Польшчай і падпісаўшы з ёй замірэнне, стаў актыўней дзейнічаць супраць ВКЛ. У тыя гады на беразе Нёмана быў узведзены спачатку ордэнскі замак Марыенбург, а потым побач яшчэ Баербург, які меўся стаць сталіцай падпарадкаванага літоўскага краю. У 1337 г. Нямецкі ордэн атрымаў ад імператара Людовіка Баварскага новы данацыйны акт на Літву. Пры гэтым, як вынікае з тэксту, крыжакам перадавалася Літва як гістарычны рэгіён (так, як яна і разумелася), а не як этнічная тэрыторыя, — з Жамойцю і Руссю (г. зн. сучаснай Беларуссю) як яе састаўнымі часткамі [15, s. 203]. І вось у канцы 1330-х гг. націск рыцараў зусім неспадзявана аслаб. Прычынай гэтага найверагодней быў зварот вялікага князя Гедыміна з просьбай аб прыняцці хрысціянства, у выніку чаго вялікага князя атруцілі яго ж набліжаныя.

У першыя гады пасля смерці Гедыміна абарона беларуска-літоўскай дзяржавы ад крыжаносцаў значна аслабла. Між тым палітычная сітуацыя пагоршылася. Калішскі мір 1343 г. паміж Тэўтонскім ордэнам і Польшчай, які зафіксаваў часовы баланс сілаў паміж гэтымі дзяржавамі, даў крыжакам магчымасць усю сваю моц скіраваць на барацьбу з ВКЛ (пасля Каліша на працягу 66 гадоў крыжакі і Польшча захоўвалі мірныя адносіны). Наступіў перыяд найбольшай магутнасці Нямецкага ордэна, з якім салідарызавалася ўсё заходняе рыцарства.

У 1348 г. вялікае прускае войска, у складзе якога былі і французскія ды англійскія рыцары, на працягу тыдня бесперашкодна пустошыла панямонскія землі Літвы. 2 лютага каля Коўны, на берагах Стрэвы, перад крыжакамі з'явілася ўся армія Альгерда і Кейстута, у якую апрача ўласна літоўскіх сілаў уваходзілі палкі з Уладзіміра-Валынскага, Берасця, Віцебска, Смаленска і, напэўна, з Полацка ("...Ruteni de Lademar, de Brisik, Witenberge, de Smalentze") [26, s. 512]. Бітву пачаў Альгерд. Згодна з нямецкімі хронікамі, жорсткая сеча скончылася поўнай перамогай рыцараў, якія страцілі толькі 8 братоў і 42 воіна, тады як з боку ліцвінаў і русінаў загінулі тысячы, у тым ліку Альгердаў брат князь Нарымонт [4, с. 106]. Магчыма, нямецкія храністы перабольшвалі сваю перамогу, але ва ўсякім разе паражэнне ВКЛ было вельмі адчувальным. У Караляўцы ў гонар такога трыумфа воляю вялікага магістра быў узведзены касцёл імя патронкі Ордэна дзевы Марыі.

Пасля славутага паходу еўрапейскай эліты ў 1345 г., які сарваўся з прычыны недакладнай інфармаванасці кіраўнікоў акцыі і ранняй вясны, а таксама бітвы на Стрэве (1348 г.), у дачыненнях паміж Вялікім княствам і Нямецкім ордэнам больш чым на дзесяцігоддзе ўсталяваўся адносны спакой. З 1345 па 1360 г. Прускі ордэн правёў толькі 10 паходаў, Інфлянцкі — 6, а беларуска-літоўская дзяржава адказала ім 10 выправамі [20, s. 2]. Аслабленне ваенных дзеянняў было абумоўлена актыўнасцю дыпламатычнай, звязанай з чарговымі спробамі хрысціянізацыі літоўцаў, хоць не выключана, што пэўную ролю адыграла і "чорная смерць", якая ў 1349—1351 гг. бушавала ў Прусіі. Шукаючы выхаду з міжнароднай ізаляцыі, а магчыма проста дзеля перадышкі ў вайне, у 1348 г. Кейстут звярнуўся да нямецкага імператара і багемскага караля Карла IV з просьбай дапамагчы ахрысціць Літву. Праз тры гады з такой жа просьбай літоўскія князі звярталіся ўжо да вугорскага караля Людовіка, а ў 1358 г. зварот зноў быў скіраваны да Карла IV. Менавіта ў гэтым праекце ў якасці адной з умоў прыняцця хрысціянства — калі верыць нямецкаму храністу Герману Вартбергу — фігуравала патрабаванне: "каб уся Русь належала Літве" [26, s. 79].

Сам па сабе такі тэзіс хутчэй за ўсё дыктаваўся інтарэсамі дыпламатычнай кан'юнктуры, бо яго ажыццяўленне ў тых умовах было зусім нерэальным.

Перыяд актыўных перагавораў аб хрысціянізацыі Літвы стаў добрай перадышкай для беларуска-літоўскай дзяржавы. Паміж Нямецкім ордэнам і ВКЛ двойчы заключаўся мір — на 1349—1351 і 1355—1356 гг. Але няўдача праекту 1358 г. прывяла да таго, што імператар Карл IV канчаткова адвярнуўся ад Балтыйскага рэгіёна і Вялікае княства Літоўскае засталося адзін на адзін супраць Ордэна. У 1360 г. ваенныя дзеянні ўзнавіліся, і наступіў самы цяжкі для беларуска-літоўскай дзяржавы перыяд процістаяння тэўтонцам.

"Рэйзы" ў Прусію і адтуль у Літву ў гэты час сталі асабліва папулярныя сярод еўрапейскага рыцарства, таму Ордэн пастаянна атрымліваў прыток новых сілаў. У Еўропе нават было модна гаварыць: "Рыцарам стаў у Прусіі". Прусія як плацдарм для барацьбы з "паганымі" зрабілася вайсковай школай цэлай Еўропы. У "рэйзах" супраць няверных брала ўдзел рыцарства самых розных заходніх краін, у тым ліку польскае (Польшча знаходзілася ў стане міру з немцамі, і ў часы панавання Казіміра Вялікага ды Людовіка Венгерскага яе рыцарства ахвотна выпраўлялася на ВКЛ).

Дзеянні рыцарскіх фарміраванняў набылі цяпер шэраг новых асаблівасцяў. Рыцары сталі часцей практыкаваць паходы вялікага войска, і іх моцныя кантынгенты свабодна даходзілі да Вільні і Трок. Пры гэтым апрача самой Жамойці крыжакі сталі больш ахапляць іншыя землі Вялікага княства Літоўскага — Аўкштоту (сюды асабліва настойліва выпраўлялася інфлянцкае войска), а таксама Русь — як Полацкую, так і Чорную (ёсць паведамленні пра паходы на Дзяляцічы, Беліцу і інш.). Характар жа вайны, у параўнанні з першым перыядам барацьбы з "паганай Літвой", не змяніўся: яна па-ранейшаму грунтавалася не на сутыкненні вялікіх войскаў, а на лакальных аперацыях, на імкненні аслабіць непрыяцеля спусташэннем яго зямлі, вывадам насельніцтва. Коштам ваеннапалонных рыцары імкнуліся забяспечыць сябе рабочай

сілай. Колькасць дарослых і дзяцей, выведзеных з Літвы і Беларусі, налічвала 200 000 [21, s. 11].

Ужо ў 1362 г. рыцары захапілі Коўну, хоць гараджане і бараніліся да апошніх сіл. У 1366 г. ландмагістр Вільгельм "павёў войска супраць рускіх на Полацк". У 1367 г. быў заключаны мір Вялікага княства з Інфлянцкім ордэнам, што дазволіла Альгерду сканцэнтраваць сілы на ўсходнім напрамку і правесці тры паходы на Маскву. Праўда, мір з інфлянцкім ландмайстрам не перашкодзіў літоўскім князям у 1370 г. ажыццявіць рэйд углыб прускіх уладанняў Ордэна. Вайна з немцамі аднавілася. Альгерд і Кейстут хацелі дайсці да Караляўца, але пад вёскай Рудавай рыцары нанеслі паражэнне іх літоўска-беларускаму войску, хоць і самі панеслі значныя страты. Гэта была трэцяя вялікая перамога тэўтонаў над ВКЛ (пасля 1311 і 1348 гг.), у гонар якой вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ заклаў касцёл. А ў 1373 г. аднавілася поўнамаштабная вайна з немцамі, і поспех у зацятым ваенным супрацьстаянні ўсё больш спадарожнічаў Ордэну, які меў падтрымку Еўропы.

Абарону ад няспынных "рэйзаў" Альгерд і Кейстут ладзілі супольна. Нямецкі ордэн пачаў выкарыстоўваць так званую тактыку "абцугоў", калі кантынгенты інфлянцкіх і прускіх рыцараў дзейнічалі паралельна [6, s. 645—647]. Так, калі вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ ў 1371 г. атакаваў зямлю Расены, дык інфлянцкі ландмагістр Вільгельм фон Фрымерсгайм у той самы час уварваўся ў Літву з поўначы, рухаючыся ўздоўж Невяжы. Пры гэтым абодва кантынгенты менш чым на 20 км не збліжаліся. У наступным годзе тактычны манеўр паўтарыўся. Вялікі магістр рушыў ад нізоўяў Невяжы да Віліі, а інфлянцкія рыцары дзейнічалі паміж Верхняй Невяжай і Кейданамі.

Ваенныя акцыі ВКЛ у адказ ажыццяўляліся радзей і былі менш значныя. У 1373 г. Свідрыгайла, а потым Андрэй Альгердавіч з палачанамі рабілі набегі на Дзюнабург. Кейстут і Андрэй Полацкі ўрываліся ў падзвінскія ўладанні Інфлянцкага ордэна і ў 1375 г. За гэта ў красавіку таго ж года розіцкі фогт арганізаваў паход у Полацкую зямлю (адначасова з ім сваю выправу правяло і прускае рыцарства). Са спустошанага Падзвіння наезнікі вывялі 86 палонных і каля 100 коняў. Помсцячы, князь Андрэй з

конніцай і ладдзямі па Дзвіне спусціўся да Дзюнабурга і таксама захапіў палонных, папаліў сена і вывеў статак. Падобнымі ўварваннямі полацкі князь і інфлянцкія рыцары абменьваліся і ў наступным годзе.

Зімой 1377 г. крыжакі з Прусіі і Інфлянтаў зноў арганізавалі адначасовую акцыю. Прускае войска, узначаленае вялікім магістрам, перайшло каля Коўна Нёман і аблажыла Трокі. Не дамогшыся поспеху, ад Трок яно перайшло да Альгердавай сталіцы Вільні, у выніку частка горада была спалена [8, s. 25]. Літоўскія землі пустошыліся на працягу 11 сутак. У адказ Кейстут ажыццявіў паход у Курляндыю, павёўшы туды вялікае войска, у складзе якога храністы адзначалі русінаў [4, с. 131].

Вестка пра смерць Альгерда яшчэ больш актывізавала рыцараў, тады як з боку ВКЛ паходы ў адказ часова перапыніліся. У жніўні 1377 г. вялікае інфлянцкае войска на чале з ландмагістрам рушыла ўверх па Дзвіне да Полацкай зямлі. Яно аблажыла нейкі "новы замак русінаў, які ляжаў амаль у 12 мілях" за Дзюнабургам (найверагодней, гэта была Друя), і ўпершыню на абшарах сучаснай Беларусі выкарыстала артылерыю. Першыя ўзоры гарматаў меліся ўжо і ў ордэнскіх замках на мяжы з ВКЛ. Не дзіўна, што неўзабаве артылерыяй авалодала і войска ВКЛ, запазычыўшы новую зброю ў крыжакоў. Увосень таго ж года з Прусіі на Жамойць павёў войска граф Альбрэхт III Аўстрыйскі, які меў з сабой 2000 коннікаў (ягоны паход рамантычна апісаў паўднёваняменкі паэт Пётр Зухэнвірт), а ў снежні балгскі комтур ажыццявіў яшчэ напад на замак Беліца, што паміж Лідай і Горадняй. Некалькі паходаў крыжакі правялі таксама ў 1379 г. У прыватнасці, балгскі комтур у жніўні беспаспяхова штурмаваў замак Берасце, спустошыў раёны Мельніка, Драгічына, Бельска, Камянца, саму Горадню, пасля чаго з 400 палоннымі павярнуў назад [16, s. 103d].

У 1379 г. Ягайлу і Кейстуту ўдалося падпісаць дзесяцігадовае замірэнне з вялікім магістрам Вінрыхам фон Кніпродэ, але яно ахапляла толькі некаторыя землі па абодва бакі мяжы. З боку ВКЛ гэта былі якраз тыя пераважна беларускія раёны, якія так спустошыў комтур Балга: Ваўкавыск, Сураж, Драгічын, Камянец, Мельнік,

Бельск, Берасце, Горадня [8, s. 37]. Паводле пагаднення, жыхароў гэтых абшараў трэба было ўсяляк аберагаць ад ваенных знішчэнняў.

Магчыма, менавіта ціск з боку Ордэна ў тыя гады (дарэчы, у тых выправах удзельнічала шмат польскага рыцарства) і стаў адной з прычын таго, што Ягайла ў 1379 г. увайшоў у кантакт з крыжакамі і пачаў шукаць з імі сепаратнага паразумення. Ужо ў лютым 1380 г. ён падпісаў мірнае пагадненне з інфлянцкім ландмайстрам, якое зусім не тычылася Кейстутавага княства і Жамойці. Пасля гэтага ў траўні Ягайла заключыў сепаратны мір ужо з цэлым Тэўтонскім ордэнам, пакінуўшы немцам на здабычу ўладанні старога Кейстута. А браты-рыцары не перапынялі націску на заходнія землі ВКЛ. У 1381 г. вялікае войска з Прусіі, перайшоўшы каля ўпадзення Стрэвы Нёман, атакавала Наваполле, што знаходзілася недалёка ад Трокаў. Замак быў цалкам знішчаны, а 3000 палонных выведзена ў Прусію. Знішчэнне цвярдыні азначала пераход рыцараў, якія больш не задавальняліся спусташэннем зямель, да новай тактыкі вядзення вайны.

У той сітуацыі паміж Ягайлам і Кейстутам разгарэлася барацьба, якая дзякуючы дапамозе нямецкіх мяшчан Вільні скончылася перамогай Ягайлы. 31 кастрычніка 1382 г. ён падпісаў новае пагадненне з Ордэнам, у якім за чатырохгадовы мір адступаў рыцарам землі Жамойці па раку Дубісу і паабяцаў на працягу 4 гадоў хрысціцца. Аднак Вітаўт, збегшы ў 1382 г. у Прусію, наабяцаў уладам Ордэна яшчэ больш, чым Ягайла (абавязаўся аддаць усю Жамойць у якасці лена), і схіліў іх на свой бок. Карыстаючыся сур'ёзным унутраным канфліктам у ВКЛ, Ордэн дзейнічаў па прынцыпу "divide et impera". Парушыўшы мір, у верасні 1383 г. крыжакі супольна з Вітаўтам, які меў 3000 жамойтаў, арганізавалі вялікую выправу на абедзве сталіцы ВКЛ [12, s. 28]. Спачатку захапілі Трокі, потым спалілі частку Вільні. Але Трокі Ягайла хутка адваяваў, а летам 1384 г. і Вітаўт уцёк з Ордэна. Гэта стрымала братоў-рыцараў.

Ва ўмовах хісткай палітычнай сітуацыі Ягайла шукаў саюзніка супраць нямецкай агрэсіі. Варыянт саюзу з Масквой быў адхілены на карысць польскай Кароны і уніі з

Польшчай. Хрысціянізацыя Літвы ў выніку Крэўскай уніі азначала, што знікла апошняя паганская краіна Усходняй Еўропы, якая магла пагражаць хрысціянам і з якой Ордэн законна змагаўся. Для рыцарскай дзяржавы з гэтай сітуацыі мелася некалькі выхадаў: 1) лічыць сваю задачу выкананай і ліквідаваць Ордэн як дзяржаву; 2) змяніць задачы Ордэна адпаведна з новымі абставінамі; 3) не браць хрысціянізацыю Літвы пад увагу і гаварыць пра неабходнасць далейшай барацьбы з "паганымі". Сталася так, што крыжакі абралі трэці шлях — пачалі аспрэчваць сапраўднасць хрышчэння Ягайлы і тым больш Літвы. Ваенныя дзеянні працягваліся. Мяркуючы па "Wegeberichten", якія змяшчаюць каля ста апісанняў маршрутаў з Прусіі ў ВКЛ, і ў канцы XIV ст., пасля Крэўскай уніі, у якасці зоны сваіх ваенных аперацый Нямецкі ордэн разглядаў шырокія абшары ад Горадні да Жамойці з Навагрудкам, Крэвам і Ашмянамі ўключна [27, s. 662—708].

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Гісторыя Беларусі. Вучэбны дапаможнік / Пад рэд. А. Г. Каханоўскага і інш. Мн., 1996. С. 50—52.
2. Краўцэвіч А. Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда. Мн., 1993.
3. Нарысы гісторыі Беларусі. Частка 1. Мн., 1994.
4. Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. Т. 2. Рига, 1879.
5. Babendererde P. Nachrichtendienst und Reiseverkehr des deutschen Ordens um 1400 // Altpreussische Monatsschrift (далей — AM). Bd. 50. Königsberg, 1913.
6. Benninghoven F. Zur Technik spätmittelalterlicher Feldzüge im Ostbaltikum // Zeitschrift für Ostforschung. 10 (1970). Hf. 4.
7. Boockmann H. Der Deutsche Orden. Zwölf Kapiteln aus seiner Geschichte. München, 1994.
8. Boldt K. Der Deutsche Orden und Littauen: 1370—1386. Königsberg, 1873.
9. Conrad K. Der dritte Litauerzug König Johanns von Böhmen und der Rücktritt des Hochmeisters Ludolf König // Festschrift für Hermann Heimpel. Göttingen, 1972.
10. Dusburg P. Cronica Terre Prussie // Scriptores rerum Prussicarum (далей — SRP). Bd. 1. Leipzig, 1861.
11. Gorski K., Pakulski J. Udział polaków w krzyżackich rejzach na Litwie w latach sedemdziesiątych i osiemdziesiątych XIV st. // Zapiski Historyczne. 1987. T. 52. Z. 3.

12. Heinl K. Fürst Witold von Litauen in seinem Verhältnis zum Deutschen Orden in Preussen während der Zeit seines Kampfes um litauisches Erbe: 1382—1401. Berlin, 1925.
13. Jeroschin N. Kronike von Pruzilant // SRP. Bd. 1. Leipzig, 1861.
14. Livländische Reimchronik. Hg. Leo Meyer. Padeborn, 1876.
15. Łowmiański H. Prusy — Litwa — Krzyżacy. Warszawa, 1989.
16. Marburg W. Cronica nova Prutenica (1293—1394) // SRP. Bd. 2. Leipzig, 1863; Bd. 4. Leipzig, 1870.
17. Marinius M. Kronika mistrzów pruskich. Olsztyn, 1989.
18. Neitmann K. Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen, 1230—1449. Köln — Wien, 1986.
19. Nikžentaitis A. Litwa i Zakon krzyżacki w końcu XIII i w I połowie XIV w. (1283—1345) // Ekspansja niemieckich zakonów rycarskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI w. Toruń, 1990.
20. Nikžentaitis A. Die friedliche Periode in den Beziehungen zwischen dem Deutschen Ordens und dem Grossfürstentum Litauen (1345—1360) und das Problem der Christianisierung Litauens // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. NF. Bd. 41 (1993), Hf. 1.
21. Paravicini W. Edelleute, Hansen, Brügger, Bürger: Die Finanzierung der westeuropäischen Preussenreisen im XIV Jh. // Hansische Geschichtsblätter. 104 (1986).
22. Paravicini W. Die Preussenreisen des europäischen Adels. Teil 1. Sigmaringen, 1989; Teil 2. Sigmaringen, 1995.
23. Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1: Litwa a Moskwa w XIII—XIV w. Warszawa, 1935.
24. Perlbach M. (Hrsg.) Preussische Regesten bis zum Ausgänge des XIII. Jh. S // AM. Bd. 11 (1874). S. 617.
25. Posilge J. Chronik des Landes Preussen // SRP. Bd. 3. Leipzig, 1866.
26. Wartberge H. Chronicon Livoniae (1200—1378) // SRP. Bd. 2. Leipzig, 1864.
27. Wegeberichte // SRP. Bd. 2. Leipzig, 1863.

*Міхаіл Спірыдонаў*

## БЕЛАРУСЬ НА КАРЦЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА 1613 г.

Гісторыя населеных пунктаў — адна з актуальных праблем гістарычнай геаграфіі Беларусі*, асабліва "літоўскага" перыяду (другая палова XIII—XVIII ст.) яе гісторыі, калі яна знаходзілася ў складзе Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых (ВКЛ). Ступень вывучанасці гісторыі

* Тут і далей гэты тэрмін мы ўжываем у сэнсе *сучасная тэрыторыя Рэспублікі Беларусь.*

населеных пунктаў, перш за ўсё першапачатковай і ў асноўным сярэдніх і малых, асабліва сельскіх, не адпавядае патрабаванням нашага часу. Так, у шырока вядомых Беларускай савецкай энцыклапедыі (Мн., 1969—1975. Т. 1—12), слоўніках назваў населеных пунктаў Я. Н. Рапановіча [178—183], зборах помнікаў гісторыі і культуры [55—61] і выдадзеных кнігах-хроніках некалькіх раёнаў серыі "Памяць" [161—171] гісторыя населеных пунктаў, да таго ж далёка не ўсіх, асвятляецца, на жаль, вельмі скупа, фрагментарна, а іншы раз з істотнымі памылкамі. Напрыклад, гісторыя старажытнага мястэчка "Мосты" (цяпер вёскі Правыя Масты і Левыя Масты Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці) Гародзенскага павета прыпісана гораду Масты — паселішчу, што ўзнікла толькі ў пачатку XX ст. [187, 184; 172, 152; 206, 68; 207—208; 54, 234; 32, 75; 58, 248]. Першапачатковая ж гісторыя горада "Высокое" (цяпер Высокае Мазавецкае Ломжынскага ваяводства Рэспублікі Польшча) Дарагічынскага павета [21, 78; 22, 59; 186, 961—962, 972—976, 999—1000; 76, 188; 77; 78, 39, 58, 63; 238, 89, 221, 225] прыпісана мястэчку "Высокое" (цяпер горад Высокае Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці) Берасцейскага павета [79, 80 адв.—84 адв.; 188, 1199; 225, 92—93; 55, 202—204; 201, 84—85]. Мястэчка "Городец" (цяпер вёска Гарадзец — цэнтр сельсавета Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці) Аршанскага павета існавала ўжо ў XVI ст., але ў адпаведнай кнізе-хроніцы памылкова сцвярджаецца, што гэта вёска "вядома з 18 стагоддзя..." [81, 213 адв.— 214; 46, 687; 192; 31, 29].

Нездавальняючае асвятленне першапачатковай гісторыі населеных пунктаў, асабліва сельскіх, абумоўлена, на наш погляд, не толькі нігілізмам былой афіцыйнай гістарыяграфіі ў адносінах да гістарычнай геаграфіі, але і ігнараваннем аўтарамі адпаведных прац вялікага фонду разнастайных гістарычных крыніц ВКЛ XV—XVI стст. Менавіта ў гэтых крыніцах і адлюстравана першапачатковая пісьмовая гісторыя значнай колькасці населеных пунктаў Беларусі ўсіх тыпаў [196].

Адной з каштоўных крыніц па гісторыі населеных пунктаў Беларусі з'яўляецца славутая арыгінальная карта "Вялікае княства Літоўскае" (1:1 293 000). Яна была ство-

рана ў канцы XVI ст., упершыню надрукавана ў 1603 г. (перавыдадзена ў 1613 г.) на сродкі вядомага мецэната — магната пана Мікалая Крыштофа Радзівіла ("Радивила") Сіроткі (1549—1616 гг.), князя Свяшчэннай Рымскай імперыі, на Алыцы і Нясвіжы, графа на Шыдлаўцы і Міры [223, 349—361]. Яе стварэнню, перавыданням, аналізу зместу і некаторым іншым пытанням прысвечана шмат работ, але высветлены яны далёка не поўнасцю [220, 119; 75, 3—7; 225; 212, 47—51; 203; 205; 209, 75—136]. У прыватнасці, менш за іншыя пакуль што вывучана істотнае і складанае пытанне аб ступені адпаведнасці карты тагачаснай рэчаіснасці, г. зн. перш за ўсё яе рэпрэзентатыўнасці як гістарычнай крыніцы.

Адну з першых спроб аналізу яе зместу ў такім аспекце зрабіў польскі гісторык С. Александровіч. Аднак ён па сутнасці ўсё звёў толькі да параўнання колькасці мястэчак, якія абазначаны на карце, з адпаведнымі данымі іншых крыніц. Таму яго меркаванне, што карта дае "адносна дакладную карціну сеткі гарадскіх паселішчаў" ВКЛ [203, 61; 209, 114—125], з'яўляецца аднабаковым і недастатковым. Яно не закранае шэраг іншых істотных аспектаў зместу карты. Да таго ж многія закранутыя пытанні ён вырашаў апрыёрна і нярэдка памылкова. Не вытрымлівае навуковай крытыкі і прынятая ім традыцыйная для польскай гістарычнай картаграфіі схема адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ВКЛ пасля яго рэформы ў 1565 г. [206, 65—66]. Як сведчаць шматлікія крыніцы XVI ст., яна ў многіх месцах не адпавядае рэчаіснасці.

У дадзеным даследаванні высвятляецца праблема рэпрэзентатыўнасці звестак карты ВКЛ выдання 1613 г. аб населеных пунктах Беларусі. Мы карыстаемся шырока вядомай копіяй перавыдання карты ў 1631 г. [75, № 13—16]. Менавіта гэта копія або яе фрагменты ў апошні час шырока выкарыстоўваюцца ў якасці ілюстрацый у розных выданнях, аднак без крыніцазнаўчага аналізу яе зместу [200, дадатак; 201; 193, 30; 62, фарз.].

Адным з найбольш каштоўных для гісторыкаў і краязнаўцаў элементаў зместу карты 1613 г. з'яўляюцца звесткі аб значнай колькасці населеных пунктаў ВКЛ у яго граніцах не толькі ў канцы XVI ст., але і да Люблінскай уніі

1569 г. Акрамя таго, на ёй абазначана і шмат населеных пунктаў суседніх дзяржаў, асабліва каралеўства Польскага. Па падліках С. Александровіча, усяго на карце маецца 1020 населеных пунктаў. З іх 543 (53,2%) паказаны на тэрыторыі ВКЛ у граніцах канца XVI ст., у т. л. 357 такіх, якіх не было на розных папярэдніх картах, што адлюстроўвалі тэрыторыю ВКЛ, г. зн. упершыню [203, 42, 50—51; 209, 105—119]. На тэрыторыі ж Беларусі, абсалютна большая частка якой у канцы XVI ст. знаходзілася ў складзе ВКЛ, а невялікая — у складзе каралеўства Польскага і Рускай дзяржавы (гл. дадатак 2), па нашых падліках, абазначаны 341 (62,8% усіх населеных пунктаў ВКЛ) населены пункт, калі не ўлічваць мястэчак Юр'ева і Цімкавічы, якія паказаны на карце двойчы*. Сярод 341 паселішча Беларусі, умоўныя знакі якіх ёсць на карце, у пяці мястэчак, на жаль, няма подпісаў іх назваў. На розных падставах мы з пэўнай мерай верагоднасці ідэнтыфікавалі і лакалізавалі іх як Адэльск, Гайна, Лоск, Сакаўшчына і Хоўхлава. Калі ж улічыць, што паказаныя на карце "Мосты" цяпер лічацца двума населенымі пунктамі, то выявіцца, што на карце 1613 г. фігуруюць 342 населеныя пункты Беларусі**.

Каштоўнае само па сабе адлюстраванне на карце 1613 г. значнай колькасці населеных пунктаў Беларусі цікавае і тым, што пэўнымі ўмоўнымі знакамі на ёй вызначаны іх тып ("вялікі горад, "горад", "мястэчка", "сяло*** з панскім дваром", г. зн. адміністрацыйна-гаспадарчым цэнтрам маёнтка), адміністрацыйнае і іншае значэнне ("горад ваяводскі", "горад павятовы", "горад судовы", "рэзідэнцыя князя", "рэзідэнцыя грэчаскага епіскапа"). Пэўную цікавасць уяўляюць польскія подпісы назваў населеных пунктаў і форма іх напісання, а таксама абмежаваная

---

* Тут і далей нашы назіранні грунтуюцца на даных, якія згрупаваны ў дадатку 3.

** Адпаведныя падлікі З. Ю. Капыскага не вытрымліваюць навуковай крытыкі: ён налічыў на карце 1613 г. толькі 312 населеных пунктаў Беларусі і, акрамя таго, даў вельмі недакладныя падлікі розных тыпаў паселішчаў [74, 22; 204, 416].

*** Адпаведны лацінскі тэрмін карты мы пераклалі як "сяло", таму што ў крыніцах XVI ст. вёскі абазначаюцца выключна тэрмінам "село".

магчымасць па абазначаных на карце граніцах дзяржаў, ваяводстваў і паветаў, хаця і вельмі схематычна і недакладна, вызначыць адміністрацыйна-тэрытарыяльную прыналежнасць паселішчаў. Дзякуючы такому багаццю зместу карты ёю шырока карыстаюцца, нягледзячы на тое што да гэтага часу яе прыдатнасць як гістарычнай крыніцы не даследавана шляхам крыніцазнаўчага аналізу яе зместу.

Каштоўнасць гістарычнай крыніцы абумоўлена галоўным чынам ступенню яе адпаведнасці тагачаснай рэчаіснасці. Таму каштоўнасць карты ВКЛ 1613 г. як крыніцы па гісторыі населеных пунктаў Беларусі можна вызначыць толькі шляхам параўнання ўсіх яе істотных характарыстык населеных пунктаў (назва, тып паселішча, адміністрацыйнае і іншае значэнне, адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць) з адпаведнымі данымі іншых крыніц.

Неабходныя крыніцы збіраліся шмат гадоў у многіх фондах розных архівасховішчаў як Беларусі, так і іншых краін. Паколькі адна крыніца, як правіла, не мае ўсіх звестак для ўсебаковай характарыстыкі таго або іншага населенага пункта, для кожнага з 341 паселішча, што абазначаны на карце 1613 г., мы вымушаны былі шукаць па некалькі крыніц (да трох). Звычайна толькі сукупнасць даных менавіта некалькіх крыніц стварае магчымасць такой характарыстыкі. У выніку працяглых пошукаў сабраны фонд каля тысячы разнастайных па паходжанню, зместу і форме пісьмовых крыніц пераважна другой паловы XVI ст. Большасць іх выяўлена ў фондзе Метрыкі — архіва галоўным чынам канцылярыі вялікіх князёў літоўскіх, якая захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў ў Маскве. На жаль, поўнасцю задачу забеспячэння дадзенага даследавання адпаведнымі крыніцамі пакуль што вырашыць не ўдалося. Тым не менш сабраныя крыніцы дазволілі высветліць амаль усе асноўныя пытанні характарыстыкі большасці населеных пунктаў Беларусі, якія абазначаны на карце ВКЛ 1613 г. (гл. дадатак 3).

Адной з самых складаных задач пры вывучэнні карты 1613 г. з'яўляецца таксама ідэнтыфікацыя і лакалізацыя

часткі населеных пунктаў, асабліва тых, якіх няма ні на адной з існуючых тапаграфічных і гістарычных карт, ні ў адным з адпаведных слоўнікаў і спісаў населеных пунктаў ("Гарціслаў", "Інёў", "Сухадольцы" і інш.). Праблема ўскладняецца і тым, што назвы населеных пунктаў падпісаны на карце лацінскімі літарамі і, як правіла, значна скажоныя ("Багамеч" замест "Бобыничи", "Вюжэнне" — "Верхнее", "Дажаны" — "Домжеричи" і інш.). Тут, дарэчы, трэба падкрэсліць, што такая форма назваў вялікай часткі населеных пунктаў Беларусі наогул істотна адрозніваецца ад іх звычайных "рускіх" назваў, якія шырока ўжываліся ў афіцыйных і прыватных дакументах XVI ст. ("Ашмяны" замест "Ошмена", "Брэссіцы" — "Берестье", "Гродна" — "Городно", "Мінск" — "Менск" і г. д., гл. дадатак 4). Тым не менш пры дапамозе разнастайнай літаратуры і карт усе населеныя пункты карты, акрамя "Гарціслава", удалося ідэнтыфікаваць і лакалізаваць, хаця іншы раз і гіпатэтычна*.

Як ужо адзначалася, на Беларусі паказаны 341 тагачасны населены пункт. 24 (7%) з іх вызначаны як "гарады". Большую частку іх (14) складаюць цэнтры ваяводстваў і паветаў. Аднак сярод такіх гарадоў чамусьці няма цэнтра ваяводства Мсціслава, які памылкова значыцца як мястэчка. Не адпавядае рэчаіснасці і тое, што цэнтр павета Ашмена (Ашмяны) паказаны як цэнтр ваяводства, а павятовы цэнтр Пінск — толькі як "рэзідэнцыя грэчаскага епіскапа". Варта адзначыць, што гарадамі на карце паказаны таксама і некаторыя іншыя сапраўды буйныя прыватныя паселішчы, якія, аднак, не мелі дзяржаўных адміністрацыйных функцый: Клецк, Ляхавічы, Нясвіж, Слуцк і інш. Двум жа дзяржаўным гарадам (Барысаў і Магілёў), якія таксама не выконвалі такіх функцый, аўтары карты беспадстаўна прыпісалі іх.

Вельмі няпоўна і тэндэнцыйна на карце адлюстравана роля прыватных гарадоў як цэнтраў буйных уладанняў. Галоўная ўвага ўдзелена рэзідэнцыі самога М. К. Радзівіла — Нясвіжу, а таксама Слуцку — рэзідэнцыі князёў

---

* Аўтар шчыра ўдзячны Г. М. Брэгеру і В. Л. Насевічу за кансультацыі ў гэтай рабоце.

Слуцкіх, які ў 1600 г. у выніку шлюбу Я. М. Радзівіла з адзінай наследніцай гэтага роду князёўнай С. Ю. Алелькаўнай-Слуцкай таксама апынуўся ў складзе латыфундый біржанскай лініі роду Радзівілаў. З некалькіх рэзідэнцый праваслаўных епіскапаў на Беларусі паказаны толькі Пінск [203, 56—57; 209, 121—124, 128—129].

Такім чынам, гарады Беларусі канца XVI ст. на карце 1613 г. адлюстраваны з істотнымі памылкамі. Варта таксама дадаць, што ў сувязі з тым, што ў пісьмовых крыніцах XVI ст. тэрміны для абазначэння паселішчаў гарадскога тыпу, асабліва сярэдніх і малых па колькасці жыхароў, ужываюцца часта недакладна, альтэрнатыўна, праблема крытэрыяў вызначэння гарадоў, як і мястэчак, ВКЛ у гістарыяграфіі застаецца дыскусійнай [74, 14—28; 36, 32—41].

Асноўны змест карты ВКЛ 1613 г. складаюць мястэчкі — аграрна-рамесна-гандлёвыя паселішчы. На Беларусі іх паказана 291, г. зн. 85,4% усіх яе населеных пунктаў, што маюцца на карце. С. Александровіч мяркуе, што гэта толькі 70% усіх існаваўшых у той час мястэчак. На яго думку, на карце абазначаны "ўсе сярэднія і вялікія мястэчкі", а "малыя і дробныя ў многіх выпадках прапушчаны" [209, 119]. Аднак пры цяперашнім стане занядбанага крыніцазнаўства гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, калі абсалютную большасць крыніц не кранаді даследчыкі, такі вывад выклікае сур'ёзныя сумненні: ён пакуль што ў прынцыпе заўчасны, бо гіпатэтычны.

Звесткі карты 1613 г. пра мястэчкі Беларусі каштоўныя ў многіх адносінах. Перш за ўсё трэба адзначыць, што яна інфармуе аб шэрагу мястэчак Беларусі, пра якія да гэтага часу даных у іншых крыніцах адшукаць не ўдалося. Але ж большасць мястэчак карты вядома з папярэдніх крыніц і, такім чынам, карта дадаткова пацвярджае іх існаванне ў канцы XVI ст.

Аднак аднясенне складальнікамі карты часткі паселішчаў да мястэчак пярэчыць даным іншых крыніц адпаведнага часу: яны былі сёламі ("Городище", "Пуховичи", "Шацк" і інш.). Разам з тым варта падкрэсліць, што некалькі мястэчак, аб якіх маюцца звесткі ў іншых крыні-

цах, на карце памылкова абазначаны як сёлы ("Богушевичи", "Княжицы", "Шупени" і інш.).

Неабходна адзначыць, што частка існаваўшых мястэчак па невядомых прычынах не знайшла адлюстравання на карце ("Белавичи", "Голубичи", "Деречин" і інш.). Пакуль што па прычыне адсутнасці поўных даных меркаваць аб колькасці такіх мястэчак дакладна немагчыма.

Цікавым анахранізмам карты 1613 г. з'яўляецца тое, што на ёй абазначаны як мястэчкі некалькі замкаў ("городов"), якія былі пабудаваны на захопленых рускім войскам у гады Лівонскай вайны (1558—1583 гг.) землях ВКЛ. Аднак у 1579 г., калі апошнія вызваляліся ад акупантаў, некаторыя з гэтых замкаў былі разбураны. Да часу стварэння карты на месцы адных захаваліся толькі замчышчы ("Сокол"), на месцы іншых або каля іх працягвалі існаваць сёлы ("Козяны", "Нещерда", "Ситно", "Туровля"), а не мястэчкі.

Такім чынам, далёка не ўсе звесткі карты 1613 г. аб мястэчках Беларусі адпавядаюць тагачаснай рэчаіснасці і таму выкарыстоўваць іх неабходна крытычна.

На карце ВКЛ 1613 г. па невядомаму прынцыпу адбору з вялікай колькасці сёлаў з панскімі дварамі, аб існаванні якіх вядома са шматлікіх крыніц XVI ст., на Беларусі абазначаны толькі 26, або 7,6% усіх яе населеных пунктаў, што маюцца на гэтай карце. Як ужо адзначалася, некалькі з іх у сапраўднасці былі мястэчкамі.

Такім чынам, найбольш распаўсюджаная на Беларусі ў эпоху феадалізму форма паселішчаў — сяло — па прычыне шматлікасці і недастатковага маштабу карты адлюстравана на ёй у вельмі абмежаванай колькасці.

Адным з істотных элементаў зместу карты з'яўляюцца дзяржаўныя граніцы ВКЛ, а таксама граніцы яго ваяводстваў і паветаў. Гэта дазваляе вызначыць адміністрацыйна-тэрытарыяльную прыналежнасць населеных пунктаў. Аднак, улічваючы, што яны абазначаны схематычна, няпоўнасцю і ў значнай меры памылкова, паказаная на ёй адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць значнай колькасці населеных пунктаў Беларусі не адпавядае рэчаіснасці.

Такім чынам, карта ВКЛ 1613 г. з'яўляецца вельмі каштоўнай крыніцай па гісторыі населеных пунктаў Беларусі. Але, як было паказана, карыстацца ёю можна толькі з улікам адзначаных шматлікіх істотных недахопаў. Гэтыя недахопы ўлічаны ў складзенай намі карце "Беларусь в конце XVI в." (192).

Карта ВКЛ 1613 г. у якасці і ілюстрацыі, і крыніцы па гісторыі населеных пунктаў Беларусі можа і павінна шырока выкарыстоўвацца, хаця і асцярожна, пры асвятленні далёкага мінулага нашай Бацькаўшчыны.

Нашы назіранні ў пэўнай ступені маюць папярэдні характар, бо некаторыя пытанні рэпрэзентатыўнасці карты ВКЛ 1613 г. пакуль што высветліць канчаткова не ўдалося.

## Заўвагі да дадаткаў

Да артыкула ў якасці неабходных частак даследавання прыкладзены чатыры дадаткі: 1 — Карта Вялікага княства Літоўскага 1613 г. Копія. Фрагмент (укладыш); 2 — Карта: Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г.; 3 — Спіс населеных пунктаў Беларусі, што абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г., з дадатковымі гістарычнымі данымі; 4 — Табліца: Польскія назвы населеных пунктаў Беларусі, якія абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г.

На карце "Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г." (дадатак 2) тып усіх населеных пунктаў паказаны ў адпаведнасці з крыніцай — картай 1613 г., а ўсе астатнія элементы яе зместу даюцца на аснове вышэйназванай карты аўтара "Беларусь в конце XVI в".

У "Спісе населеных пунктаў Беларусі, што абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г., з дадатковымі гістарычнымі данымі" (дадатак 3) прыводзяцца наступныя звесткі.

I. Нумары па парадку: 1 — у адпаведнасці з беларускім алфавітам; 2 — у дужках — паводле табліцы "Польскія назвы населеных пунктаў Беларусі, што абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г." (дадатак 4).

II. Даныя аб сучасным стане населеных пунктаў паводле слоўнікаў Я. Н. Рапановіча [178—183]: 1 — назва на беларускай мове; 2 — назва на рускай мове; 3 — тып населенага пункта (в. — вёска, г. — горад, г. п. — гарадскі пасёлак, м. — мястэчка, п. — пасёлак, р. п. — рабочы пасёлак, с. — сяло); 4 — раён, на тэрыторыі якога знаходзіцца ці знаходзіўся населены пункт. У тых выпадках, калі ідэнтыфікаваць і лакалізаваць населены пункт дакладна пакуль што не ўдалося, г. зн. атаясамленне гістарычнага паселішча з сучасным выклікае пэўныя сумненні, гэтым даным папярэднічае заўвага "верагодна" (вер.).

III. Асноўныя даныя з адной або некалькіх пісьмовых крыніц пераважна другой паловы XVI ст. аб адпаведным населеным пункце: 1 — год; 2 — гістарычная назва на "рускай" мове, г. зн. у адпаведнасці з формай яе напісання ў крыніцы; 3 — тып населенага пункта, а пры адсутнасці такіх даных — заўвага "звестак няма"; 4 — адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць (ваяводства або павет); 5 — спасылка на крыніцу. Калі ж у крыніцах XVI ст. ніякіх звестак аб населеным пункце нам выявіць не ўдалося, замест гістарычных даных зроблена заўвага "даных у крыніцах XVI ст. мы пакуль што не знайшлі". Такімі паселішчамі з'яўляюцца, як мы мяркуем, сучасныя Асінагарадок, Балотнікі, Кішчына Слабада, Піеравоз, Старабарысаў, а таксама невядомы Гарцілаў.

IV. Асноўныя звесткі, калі яны ёсць, аб населеных пунктах паводле даследавання С. Александровіча [206, 67—89]: 1 — нумар паводле адпаведнай табліцы; 2 — год заснавання мястэчка (у такіх выпадках год пазначаны знакам "*") або першага ўпамінання населенага пункта як горада ці мястэчка ў крыніцах XV—XVI стст., 3 — абазначаны або не абазначаны населены пункт на яго адпаведных картах [207—208].

У неабходных выпадках у канцы артыкулаў робяцца крытычныя заўвагі наконт памылковых меркаванняў С. Александровіча.

У якасці дадатковых (спасылачных) артыкулаў у гэты спіс уключаны таксама тыя "рускія" назвы населеных пунктаў, якія прыводзяцца ў яго гістарычнай частцы (III), але ў выніку іх паланізацыі і русіфікацыі або перай-

менавання і іншых прычын прыкметна адрозніваюцца ад сучасных: “Дрыса”, “Менск”, “Новагородок” (“Новгородок”, “Новогородок”), “Пропойск”, “Рожаная”, “Свержень” і інш.

Каб пры азнаямленні з картай ВКЛ 1613 г. хутчэй высветліць, які менавіта населены пункт Беларусі на ёй абазначаны, да артыкула дадаецца таксама табліца “Польскія назвы населеных пунктаў Беларусі, што абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г.” (дадак 4). Тут маюцца: 1 — парадкавы нумар (па лацінскаму алфавіту); 2 — польская назва, падпісаная лацінскімі літарамі; 3 — тып населенага пункта паводле карты 1613 г.; 4 — сучасная беларуская назва; 5 — сучасная руская назва; 6 — сучасны раён; 7 — парадкавы нумар населенага пункта па папярэдняму спісу (дадатак 3).

Дадзены артыкул заканчваецца спісам “Крыніцы і даследаванні”. У ім у алфавітным парадку пералічаны ўсе тыя публікацыі крыніц, даследаванні, гістарычныя і тапаграфічныя карты, слоўнікі і спісы населеных пунктаў, а таксама розныя архівасховішчы, адпаведныя матэрыялы якіх мы выкарысталі ў аналізе карты ВКЛ 1613 г. На яго абапіраюцца нашы спасылкі ва ўсіх частках артыкула. Спасылкі на старонкі або стаўбцы розных выданняў, а таксама на лісты архіўных адзінак захавання спецыяльна не агаворваюцца. Але ў шэрагу выпадкаў больш мэтазгоднымі мы лічым спасылкі не на старонкі археаграфічных зборнікаў, а на нумары апублікаваных у іх крыніц; гэта адзначана ў канцы адпаведных пазіцый спіса.

Дадатак 2.




Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў

Карта: Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г.




Умоўныя абазначэнні. Населеныя пункты: а. Па тыпу паселішча (паводле карты 1613 г.): 1 -- гарады; 2 -- мястэчкі; 3 -- сёлы. б. Па адміністрацыйнаму значэнню: 4 -- сталіца Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ); 5 -- цэнтры ваяводстваў ВКЛ; 6 – цэнтры паветаў ВКЛ; 7 – цэнтры адміністрацыйна - тэрытарыяльных адзінак за граніцамі ВКЛ. Граніцы па стану на 1600 г.: 8 -- Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы; 9 – ВКЛ і каралеўства Польскага ў складзе Рэчы Паспалітай; 10 -- ваяводстваў ВКЛ; 11 -- паветаў ВКЛ. 12 -- Сучасныя дзяржаўныя граніцы.

Літарамі на карце абазначаны тэрыторыі: А -- Курляндскага і Земгальскага герцагстваў; Б -- Задзвінскага герцагства (Інфлянтаў); В -- Рускай дзяржавы; Г -- Прускага герцагства; Д -- Польскага каралеўства.

Дадатак 3

## Спіс населеных пунктаў Беларусі, што абазначаны на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г., з дадатковымі гістарычнымі данымі

1 (192). АБОЛЬЦЫ, ОБОЛЬЦЫ, в., Талачынскі. **1543**, Обольцы, звестак няма, Аршанскі (210, 276). **1556**, Обольцы, звестак няма (104, 641 адв.—642 адв.). **1571**, Обольцы, звестак няма, Аршанскі (48, 113—113 адв.). **1589**, Обольцы, м. (94, 88—88 адв.). № 242, **1539**, абазначаны.

2 (126). АБЧУГА, АБЧУГА, в., Крупскі. **1602**, Красны Стан, м., Аршанскі (53, 2). № 526, канец **XVI***, абазначаны.

3 (337). Вер., АДЭЛЬСК, ОДЕЛЬСК, м., Гродзенскі. **1580**, Одельск, м., Гародзенскі (173, 236). № 66, да **1492**, абазначаны.

4 (212). АЖУНЫ, ОЖУНЫ, в., Пастаўскі. **1575**, Ожуничи, звестак няма, Ашменскі (150, 429—430 адв.). № 607, **1613**, абазначаны.

5 (90). АЗЁРЫ, ОЗЁРЫ, в., Гродзенскі. **1597**, Озеры, м., Гародзенскі (115, 312). № 124, **1518**, абазначаны.

6 (89). АЗЯРНІЦА, ОЗЕРНИЦА, в., Слонімскі. **1584**, Озерница, м., Слонімскі (110, 229—240). № 307, **1559**, абазначаны.

7 (197). АМГОВІЧЫ, ОМГОВИЧИ, в., Слуцкі. **1559**, Омговичи, с., Ноўгародскі (123, 97). № 600, **1613**, абазначаны.

8 (1). АНТОНАЎ, АНТОНОВ, в. Нараўлянскі. **1595**, Антоновичы, вер., м., Мазырскі (97, 518).

9 (199). АРАВА, АРАВА, в., Круглянскі. **1600**, Орева, звестак няма, Аршанскі (25, 4). № 601, **1613**, абазначаны.

10 (202). АСІНАГАРАДОК, ОСИНОГОРОДОК, в., Пастаўскі. Даных у крыніцах XVI ст. мы пакуль што не знайшлі. № 603, **1613**, абазначаны.

11 (208). АСТРАВЕЦ, ОСТРОВЕЦ, г. п., Астравецкі. **1549**, Островец, м. (102, 205, 207). **1567**, Островец, звестак няма, Віленскі (188, 454, 457, 550 і інш.). **1582**, Островец, м. (51). **1600**, Островец, м., Віленскі (151, 1282—1285 адв.). № 605, **1613**, абазначаны.

12 (206). **АСТРАГЛЯДЫ, ОСТРОГЛЯДЫ**, в., Брагінскі. **1574**. Остроглядовичи, звестак няма, Кіеўскі (139, 19).

13 (81). **АСТРАШЫЦКІ ГАРАДОК, ОСТРОШИЦКИЙ ГОРОДОК**, м., Мінскі. **1590**, Городок Острожчицкий, Острожчичи, Острошицы, м., Менскі (19, 442, 445, 460 і інш.). № 556, **1613**, абазначаны.

14 (205). **АСТРОШЫЦЫ, ОСТРОШИЦЫ**, в., Лагойскі. **1598**, Острожчицы, Острошицы, с., Менскі (13, 165, 167). № 447, **1590**, абазначаны. С. Александровіч спасылаецца на крыніцу, у якой у сапраўднасці фігуруюць не Астрошыцы, а Астрашыцкі Гарадок. Другі польскі гісторык К. Пяткевіч без неабходных аргументаў таксама памылкова атаясаміў гэтае паселішча з Астрашыцкім Гарадком (229, 84, 89, 91, 95—96, 114—115, 192).

15 (209). **АСТРЫНА, АСТРЫНА**, г. п., Шчучынскі. **1586**, Острына, м., Лідскі (111, 67—69). № 62, **1487**, абазначаны.

16 (193). **АЧЫЖА, ОЧИЖА**, в., Чэрвеньскі. **1585**, Очижа, м., Менскі (114, 20 адв.—22 адв.).

17 (204). **АШМЯНЫ, ОШМЯНЫ**, г., Ашмянскі. **1566**, Ошмена, г., Ашменскі (78, 79), № 51, **1481**, абазначаны.

**БАБИЧИ** гл. Барбараў.

18 (14). **БАБРУЙСК, БОБРУЙСК**, г., Бабруйскі. **1594**, Бобруйск, м., Рэчыцкі (97, 676—677). № 212, **1534**, абазначаны.

19 (16). **БАБЫНІЧЫ, БОБЫНИЧИ**, в., Полацкі. **1570**, Бобыничи, звестак няма, Полацкае (44, 1652—1653). **1627**, Бобыничи, м., Полацкае (66, 32). № 535, **1613**, абазначаны.

20 (15). **БАГДАНАЎ, БОГДАНОВ**, в., Валожынскі. **1602**, Богданов, м., Ашменскі (232, 36). № 321, **1563***, абазначаны.

21 (17). **БАГУШЭВІЧЫ, БОГУШЕВИЧИ**, в. Бярэзінскі. **1589**, Богушевичи, м., Менскі (95, 177 адв.—178 адв.). № 465, **1588***, абазначаны.

**БОЛОТНИКИ** гл. Воранава.

22 (2). **БАРБАРАЎ, БАРБАРОВ**, в., Мазырскі. **1558**, Бабичи, с., Мазырскі (26, 85).

23 (3). **БАРКАЛАБАВА, БАРКАЛАБОВО,** в., Быхаўскі. **1599**, Баркулабов, м., Аршанскі (175, 184 і інш.). № 352, **1567***, абазначаны.

24 (18). **БАРЫСАЎ, БОРИСОВ,** г., Барысаўскі. **1600**, г., Аршанскі (141, 134 адв., 190—191 адв., 614 адв.—615 і інш.). № 3, **1396**, абазначаны.

25 (4). **БАСЯ, БАСЯ,** в., Горацкі. **1590**, Бася, звестак няма, Аршанскі (19, 481). № 530, **1613**, абазначаны.

26 (6). **БЕЗДЗЕЖ, БЕЗДЕЖ,** в., Драгічынскі. **1614**, Бездеж, м., Пінскі (13, 209). № 336, **1561**, абазначаны.

27 (7). **БЕЛАГРУДА, БЕЛОГРУДА,** в., Лідскі. **1567**, Белагруд, звестак няма, Лідскі (188, 469).

**БЕЛИЦА** гл. Старая Беліца.

28 (10). **БЕЛІЦА, БЕЛИЦА,** в., Лідскі. **1564**, Белица, м., Лідскі (41, 855—858). № 33, **1486**, абазначаны.

**БЕЛЫЙ ГОРОДОК** гл. Замачак.

**БЕЛЬМАКОВИЧИ** гл. Замачак.

**БЕРЕЗОЯ** гл. Бяроза.

**БЕРЕСТОВИЦА** гл. Вялікая Берастовіца.

**БЕРЕСТЬЕ** гл. Брэст.

29 (11). **БІЮЦІШКІ, БИЮТИШКИ,** в., Ашмянскі. **1572**, Биютишки, звестак няма, Ашменскі (107, 484—486). № 533, **1613**, абазначаны.

30 (13). **БОБР, БОБР,** г. п., Крупскі. **1573**, Бобр, м., Аршанскі (12, 11). № 381, да **1572***, абазначаны.

31 (19). **БРАГІН, БРАГИН,** г. п., Брагінскі. **1574**, Брягин, м., Кіеўскі (139, 17—21).

32 (22). **БРАДЗЕЦ, БРОДЕЦ,** в., Бярэзінскі. **1592**, Бродец, с., Аршанскі (52, 19—22).

33 (20). **БРАСЛАВ, БРАСЛАВ,** г., Браслаўскі. **1566**, Браслав, г., Браслаўскі (78, 79). № 10, да **1424**, абазначаны.

34 (21). **БРЭСТ, БРЕСТ,** г., Брэсцкі. **1565**, Берестье, г., Берасцейскі (85, 103—109). № 2, **1390**, абазначаны.

35 (25). **БЫСТРЫЦА, БЫСТРИЦА,** в., Астравецкі. **1593**, Быстрица, м., Віленскі (97, 443—443 адв.). № 226, **1537**, абазначаны.

36 (24). **БЫХАЎ, БЫХОВ,** г., Быхаўскі. **1598**, м., Аршанскі (46, 686). № 297, **1551—1556**, абазначаны.

37 (8). БЯЛЫНІЧЫ, БЕЛЫНИЧИ, г. п., Бялыніцкі. **1579**, Белыничи, м., Аршанскі (108, 220—222 адв.). № 531, **1613**, абазначаны.

38 (5). БЯРОЗА, БЕРЕЗА, г., Бярозаўскі. **1610**, Береза, м., Берасцейскі (16, 90). № 162, **1507—1525***, абазначаны.

39 (304). ВАВЕРКА, ВАВЕРКА, м., Лідскі, **1570**, Ваверка Великая, м., Лідскі (15, 638). № 372, **1570**, абазначаны.

40 (313). ВАЛКАЛАТА, ВОЛКОЛАТА, в., Докшыцкі. **1583**, Волколата, звестак няма, Ашменскі (110, 1—2 адв.). № 658, **1613**, абазначаны.

41 (317). ВАЛОЖЫН, ВОЛОЖИН, г., Валожынскі. **1614**, Воложин, м., Ашменскі (129, 313—314). № 281, **1551**, абазначаны.

42 (320). ВАРАНЦЭВІЧЫ, ВОРОНЦЕВИЧИ, в. Талачынскі. **1600**, Воронцевичи, звестак няма, Аршанскі (141, 1112—1114 адв.). № 660, **1613**, абазначаны.

43 (319). ВАРОНІЧЫ, ВОРОНИЧИ, в., Полацкі. 1601, Вороноч, Воронич, м., Полацкае (26, 73). № 396, **1563—1573***, абазначаны.

44 (303). ВАСІЛІШКІ, ВАСИЛИШКИ, в., Шчучынскі. **1581**, Василишки, м. Лідскі (93, 15 адв.—16). № 56, **1486**, абазначаны.

45 (314). ВАЎКАВЫСК, ВОЛКОВЫСК, г., Ваўкавыскі. **1566**, Волковыйск, г., Ваўкавыйскі (78, 79). № 58, **1486**, абазначаны.

46 (302). ВЕНЗАВЕЦ, ВЕНЗОВЕЦ, в., Дзятлаўскі. **1583**, Везовец, м., Слонімскі (152, 95, 108). № 390, **1583**, абазначаны; № 653, **1613**, абазначаны. У табліцы і на карце С. Александровіча Вензавец памылкова фігуруе двойчы, Везовец інвентара 1583 г. і Узлавец карты 1613 г. — адзін і той жа населены пункт.

47 (57). ВЕРХНЯДЗВІНСК, ВЕРХНЕДВИНСК, г., Верхнядзвінск. **1577**, Дрыса, м., Полацкае (86, 51—52). № 316, **1562**, абазначаны.

48 (311). ВЕРХНЯЕ, ВЕРХНЕЕ, в., Глыбоцкі. **1589**. Верхнее, звестак няма, Ашменскі (232, 10). № 268, **1546***, не абазначаны; № 654, **1613**, абазначаны. У артыкуле С. Александровіча Верхняе памылкова фігуруе двойчы,

аднак у абодвух выпадках звесткі ў сапраўднасці тычацца аднаго і таго ж населенага пункта.

49 (306). **ВІДЗЫ, ВИДЗЫ**, г. п. Браслаўскі. **1595**, Видзы, м., Браслаўскі (227, 127—129). № 76, **XV**, абазначаны.

50 (308). **ВІЛЕЙКА, ВИЛЕЙКА**, г., Вілейскі. **1588**, Куренец, м., Ашменскі (95, 113—113 адв.). № 652, **1613**, абазначаны.

51 (307). **ВІЛЬЧА, ВИЛЬЧА**, в., Лунінецкі. **1588**, Вельче, с., Ноўгародскі (43, 629—634).

52 (310). **ВІЦЕБСК, ВИТЕБСК**, г., Віцебскі. **1566**, Витебск, г., Віцебскі (78, 79). № 19, **1441**, абазначаны.

53 (309). **ВІШНЕВА, ВИШНЕВО**, м., Валожынскі. **1583**, Вишнев, м., Ашменскі (159, 93). № 439, **1583**, абазначаны.

54 (312). **ВОЙСТАМ, ВОЙСТОМ**, в., Смаргонскі. **1555**, Войстом, м. (103, 408 адв.—409 адв.). **1567**, Войстом, звестак няма, Ашменскі (188, 484, 525, 566 і інш.). № 657, **1613**, абазначаны.

ВОЛКОВЫЙСК гл. Ваўкавыск.

55 (315). **ВОЛМА, ВОЛМА**, в., Дзяржынскі. **1572**, Волма, м., Менскі (87, 41—44). № 423, **1581**, абазначаны.

56 (316). **ВОЛМА, ВОЛМА**, в., Смалявіцкі. **1592**, Волма, м., Менскі (13, 128). № 659, **1613**, абазначаны.

57 (12) **ВОРАНАВА, ВОРОНОВО**, г. п., Воранаўскі. 1591, Болотники, м., Лідскі (50). № 534, **1613**, абазначаны.

58 (203). **ВОСКАТА, ВОСКАТА**, в., Гарадоцкі. **1589**, Оското, с., Віцебскі (96, 587, 678—679). № 604, **1613**, абазначаны.

59 (207). **ВОСТРАЎ, ОСТРОВ**, в., Ляхавіцкі. **1589**, Остров, с., Ноўгародскі (110, 251—253). № 606, **1613**, абазначаны.

60 (318). **ВОЎПА, ВОЛПА**, в., Ваўкавыскі. **1603**, Волпа, м., Ваўкавыйскі (100, 52—53). № 84, **1442—1506***, абазначаны.

61 (300). **ВУЛА, УЛА**, г. п., Бешанковіцкі. **1581**, Ула, м., Полацкае (91, 60—61). № 199, **1530**, абазначаны.

62 (321). **ВЫГАНАШЧЫ, ВЫГОНОЩИ**, в., Івацэвіцкі. **1590**, Выгонощ, с. (113, 112—114). **1599**, Выгонощ,

звестак няма, Ноўгародскі (154, 77—79 адв.). № 661. **1613**, абазначаны.

63 (322). ВЫСОКАЕ, ВЫСОКОЕ, г. Камянецкі. **1567**, Высокое, звестак няма, Берасцейскі (188, 1199). **1572**, Высокое, звестак няма, Берасцейскі (107, 450 адв.—460 адв.). № 85, **1492—1506***, абазначаны.

64 (305). ВЯЗЫНЬ, ВЯЗЫНЬ, в., Вілейскі. **1600**, Вязынь, м., Менскі (141, 542-544, 659 адв.—660 адв., 733 адв.—735 і інш.). № 647, **1613**, абазначаны.

65 (23). ВЯЛІКАЯ БЕРАСТОВІЦА, ВЕЛИКАЯ БЕРЕСТОВІЦА, г. п., Берестовіцкі. **1597**, Берестовица, м., Гародзенскі (115, 188—190). № 536, **1613**, абазначаны.

66 (146). ВЯЛІКАЯ ЛІПА, ВЕЛИКАЯ ЛИПА, в., Нясвіжскі. **1577**, Липа, с., Ноўгародскі (84, 269). № 583, **1613**, абазначаны.

67 (257). ВЯЛІКАЯ СЭРВАЧ, ВЕЛИКАЯ СЕРВЕЧ, в., Вілейскі. **1600**, Сервеч, м., Ашменскі (141, 141—142 адв.). № 629, **1613**, абазначаны.

68 (134). ВЯЛІКІ КУДЗІН, ВЕЛИКИЙ КУДИН, в., Бялыніцкі. **1578**, Кудин, звестак няма, Аршанскі (86, 230—232). № 564, **1613**, абазначаны.

69 (200). ВЯЛІКІЯ АРЛЫ, ВЕЛИКИЕ ОРЛЫ, в., Столінскі. **1631**, Орлы Великие, с., Пінскі (13, 23). № 602, **1613**, абазначаны.

70 (49). ВЯЛІКІЯ ДОЛЬЦЫ, ВЕЛИКИЕ ДОЛЬЦЫ, в., Ушацкі. **1600**, Дольцы Великие, с., Полацкае (141, 967—967 адв.).

71 (338). Вер., ГАЙНА, ГАЙНА, в., Лагойскі. **1597**, Гайна, м., Менскі (13, 157). № 379, **1569—1572**, абазначаны.

72 (77). ГАЛАВАЧЫ, ГОЛОВАЧИ, в., Гродзенскі. **1566**, Головачево, Головачово, м., Гародзенскі (14, 200, 231). № 588, **1613**, абазначаны.

73 (195). ГАЛБЕЯ, ГОЛБЕЯ, в., Пастаўскі. **1575**, Олбея, звестак няма, Ашменскі (150, 429—430). № 599, **1613**, абазначаны.

74 (78). ГАЛОЎЧЫН, ГОЛОВЧИН, в., Бялыніцкі. **1600**, Головчин, м., Аршанскі (64, 261—264). № 399, **1577**, абазначаны.

75 (196). ГАЛЬШАНЫ, ГОЛЬШАНЫ, в., Ашмянскі. **1597**, Гольшаны, м., Ашменскі (115, 155—156). № 326, **1562—1565**, абазначаны.

76 (82). ГАРАДЗЕЦ, ГОРОДЕЦ, в., Кобрынскі. **1598**, Городец, м., Берасцейскі (158, 61). № 322, **1563**, абазначаны.

77 (83). ГАРАДЗІШЧА, ГОРОДИЩЕ, п., Мінскі. **1600**, Городище, с., Менскі (141, 156 адв.—157 адв.). № 428, **1582**, абазначаны. У табліцы і на карце С. Александровіча гэта Гарадзішча, мяркуючы па спасылцы на крыніцу і карце, памылкова атаясамлена з Гарадзішчам Калодзішчанскага сельсавета.

78 (80). ГАРАДОК, ГОРОДОК, г., Гарадоцкі. **1567**, Городок, с., Віцебскі (211, 127). № 559, **1613**, абазначаны.

79 (220). ГАРАДОК, ГОРОДОК, в., Маладзечанскі. **1600**, Печковский Городок, м., Менскі (141, 220—221). № 195, **1530**, абазначаны.

80 (75). ГАРАДОК, ГОРОДОК, в., Глускі. **1597**, Глуск Погорелый, м., Ноўгародскі (184). № 180, **1527**, абазначаны. Аднак С. Александровіч спасылаецца на крыніцу, у якой у сапраўднасці фігуруе Глуск Дубровіцкі, а не Глуск Пагарэлы.

81 (69). ГАРЦІСЛАЎ, не існуе, вер., Гарадоцкі. Даных у крыніцах XVI ст. мы пакуль што не знайшлі. № 554, **1613**, абазначаны.

82 (68). ГЕРАНЁНЫ, ГЕРАНЁНЫ, в., Іўеўскі. **1560**, Геранoны, м., Ашменскі (142, 1296—1335). № 133, **1520**, абазначаны.

83 (28). ГЛІВІН, ГЛИВИН, в., Барысаўскі. **1600**, Гливин, с., Менскі (141, 957 адв.—958).

84 (74). ГЛУСК, ГЛУСК, г. п., Глускі. **1600**, Глуск Дубровицкий, м., Ноўгародскі (141, 144—145, 319—322 адв., 524 адв.). № 163, **1525**, абазначаны.

ГЛУСК ДУБРОВИЦКИЙ гл. Глуск.

ГЛУСК ПОГОРЕЛЫЙ гл. Гарадок.

85 (73). ГЛЫБОКАЕ, ГЛУБОКОЕ, г., Глыбоцкі. **1582**, Глубокое, м., Ашменскі (177, 503—511). **1582**, Глубокое, м., Полацкае (213, 12). № 107, **1517**, абазначаны.

86 (210). ГОЖА, ГОЖА, в., Гродзенскі. **1576**, Ожа, м., Гародзенскі (87, 105—106). № 189, **1529**, абазначаны.

ГОМЕЙ гл. Гомель.

87 (79). **ГОМЕЛЬ, ГОМЕЛЬ**, г., Гомельскі. **1560**, Гомей, м., Рэчыцкі (195, 160—161). № 229, **1537**, абазначаны.

88 (84). **ГОРВАЛЬ, ГОРВАЛЬ**, в., Рэчыцкі. **1571**, Горваль, м., Рэчыцкі (211, 309, 310). № 560, **1613**, абазначаны.

**ГОРОДЕЦ** гл. Давыд-Гарадок.

**ГОРОДНО** гл. Гродна.

**ГОРОДОК ОСТРОЖЧИЦКИЙ** гл. Астрашыцкі Гарадок.

**ГОРОДОК СОЛОМИРЕЦКИЙ** гл. Сёмкаў Гарадок.

89 (76). **ГОРЫ, ГОРЫ**, м., Горацкі. **1597**, Горы, звестак няма, Аршанскі (152, 76—77). № 88, **1508**, абазначаны.

90 (70). **ГРАЎЖЫШКІ, ГРАУЖИШКИ**, в., Ашмянскі. **1592**, Гровжишки, м., Ашменскі (144, 1—1 адв.). № 123, **1518***, абазначаны.

91 (71). **ГРОДНА, ГРОДНО**, г., Гродзенскі. **1566**, Городно, г., Гародзенскі (78, 79). № 15, **1441**, абазначаны.

**ГРУШКИ** гл. Ігрушка.

92 (85). **ГРЭБЕНЬ, ГРЕБЕНЬ**, в., Пухавіцкі. **1600**, Гребень, с., Менскі (141, 77 адв.—80, 289—289 адв., 589 і інш.).

93 (86). **ГРЭСК, ГРЭСК**, в., Слуцкі. **1570**, Греск, м., Ноўгародскі (136, 1). № **474**, **1590**, абазначаны.

94 (45). **ДАВЫД-ГАРАДОК, ДАВИД-ГОРОДОК**, г., Столінскі. **1591**, Городец, м., Пінскі (29, 40). № 127, **1519**, абазначаны.

95 (43). **ДАЛЬКАВІЧЫ, ДАЛЬКОВИЧИ**, в., Лагойскі. **1600**, Дальковичи, м., Менскі (141, 577). № 544, **1613**, абазначаны.

96 (44). **ДАРАВА, ДАРЕВО**, в., Ляхавіцкі. **1561**, Доров, м., Ноўгародскі (184, 72). № 545, **1613**, абазначаны.

97 (50). **ДАЎГІНАВА, ДОЛГИНОВО**, в., Вілейскі. **1590**, Долгинов, м., Ашменскі (19, 484). № 548, **1613**, абазначаны.

98 (65). **ДВАРЭЦ, ДВОРЕЦ**, в., Дзятлаўскі. **1591**, **1592**, **1593**, м., Ноўгародскі і Слонімскі (16, 49—51 і інш.). № 110, **1516**, абазначаны.

**ДЕВЯТКОВИЧИ** гл. Старыя Дзевяткавічы.

99 (46). **ДЗЕРАЎНАЯ, ДЕРЕВНАЯ**, в., Стаўбцоўскі. **1595**, Деревна, м., Менскі (137, 81). № 165, **1525***, абазначаны.

100 (66). **ДЗІСНА, ДИСНА**, г., Мёрскі. **1599**, Дисна, м., Полацкае (115, 462). № 351, **1563—1567***, абазначаны.

101 (48). **ДЗЯЛЯЦІЧЫ, ДЕЛЯТИЧИ**, в., Навагрудскі. **1591**, Долятычи, звестак няма, Ноўгародскі (42, 889—892). № 564, **1613**, абазначаны.

102 (114). **ДЗЯРЖЫНСК, ДЗЕРЖИНСК**, г., Дзяржынскі. **1598**, Койданово, м., Менскі (123, 16—101). № 305, **1558**, абазначаны.

103 (332). **ДЗЯТЛАВА, ДЯТЛОВО**, г. п., Дзятлаўскі. **1580**, Здетель, м., Слонімскі (12, 18). № 301, **1556**, абазначаны.

104 (47). **ДОБАСНА, ДОБОСНА**, в., Кіраўскі. **1580**, Добосна, м., Рэчыцкі (114, 104 адв.—107). № 547, **1613**, абазначаны.

**ДОБУЧЫН** гл. Пружаны.

105 (53). **ДОКШЫЦЫ, ДОКШИЦЫ**, г., Докшыцкі. **1602**, Докшицы, с., Ашменскі (47, 568—575). № 687, **1621**, абазначаны.

**ДОЛЬЦЫ ВЕЛИКИЕ** гл. Вялікія Дольцы.

**ДОЛЬЦЫ МАЛЫЕ** гл. Малыя Дольцы.

106 (54). **ДОМЖАРЫЦЫ, ДОМЖЕРИЦЫ**, в., Лепельскі. **1600**, Домжеричи, с., Полацкае (141, 967—967 адв.).

**ДОРОВ** гл. Дарава.

**ДОРОВО** гл. Доры.

**ДОРОГИ** гл. Новыя Дарогі.

107 (52). **ДОРЫ, ДОРЫ**, в., Валожынскі. **1600**, Дорово, Доры, с., Менскі (141, 376—377).

108 (56). Вер., **ДРУЙСК, ДРУЙСК**, в., Браслаўскі. **1608**, Друйск, звестак няма, Браслаўскі (191, 90). № 550, **1613**, Слободка (?), абазначаны.

109 (194). **ДРУЦК, ДРУЦК**, в., Талачынскі. **1590**, Друцк, м., Аршанскі (19, 481). № 93, **1510**, абазначаны.

110 (55). **ДРУЯ**, ДРУЯ, г. п., Браслаўскі. **1610**, Друя, м., Браслаўскі (147, 2—3). № 70, **1496**, абазначаны.

**ДРЫСА** гл. Верхнядзвінск.

111 (58). **ДРЫСВЯТЫ**, ДРИСВЯТЫ, в., Браслаўскі. **1568**, Дрисвяты, звестак няма, Браслаўскі (83, 138—140). № 105, **1514**, абазначаны.

112 (59). **ДУБРАВА**, ДУБРОВА, в., Маладзечанскі. **1600**, Дубровы, м., Менскі (141, 164). № 398, **1577**, абазначаны.

113 (60). **ДУБРОЎНА**, ДУБРОВНА, г., Дубровенскі. **1607**, Дубровна, м., Аршанскі (49, 80). № 106, **1514**, абазначаны.

114 (62). **ДУДАКОВІЧЫ**, ДУДАКОВИЧИ, в., Круглянскі. **1556**, Дудаковичи, м., Аршанскі (80, 52—53). № 308, **1554—1560***, абазначаны.

115 (61). **ДУДЫ**, ДУДЫ, в., Іўеўскі. **1582**, Дуды, м., Ашменскі (91, 176—177). № 426, **1582**, абазначаны.

116 (63). **ДУКОРА**, ДУКОРА, м., Пухавіцкі. **1606**, Дукоры, с., Менскі (13, 198). № 551, **1613**, абазначаны.

117 (64). **ДУНІЛАВІЧЫ**, ДУНИЛОВИЧИ, в., Пастаўскі. **1590**, Дуниловичи, м., Ашменскі (113, 330—332). № 304, **1558**, абазначаны.

118 (221). **ЕЗЯРЫШЧА**, ЕЗЕРИЩЕ, г. п., Гарадоцкі. **1583**, Озерищи, м., Віцебскі (23, 136). № 214, **1534**, абазначаны.

119 (334). **ЖАЛУДОК**, ЖЕЛУДОК, г. п., Шчучынскі. **1582**, Жолудок, м., Лідскі (114, 22 адв.—25). № 60, **1486**, абазначаны.

**ЖАСЛАВ** гл. Заслаўе.

120 (333). **ЖОДЗІШКІ**, ЖОДИШКИ, в., Смаргонскі. **1593**, Жодишки, м., Ашменскі (24, 208). № 102, **1511***, абазначаны.

121 (335). **ЖУПРАНЫ**, ЖУПРАНЫ, в., Ашмянскі. **1584**, Жупраны, звестак няма, Ашменскі (110, 282—285). № 668, **1613**, абазначаны.

122 (331). **ЖЫРМУНЫ**, ЖИРМУНЫ, в., Воранаўскі. **1528**, Жирмуны, м. (229, 185). **1584**, Жирмуны, звестак няма, Лідскі (110, 282—285). № 669, **1613**, абазначаны.

123 (336). **ЖЫЦІН**, ЖИТИН, в., Асіповіцкі. **1588**, Житин, с., Менскі (123, 120—144, 162—163).

124 (323). **ЗАБАЛАЦЬ, ЗАБОЛОТЬ**, м., Воранаўскі. **1597**, Заболотье, звестак няма, Лідскі (153, 55—61, 63—64). № 224, **1536***, абазначаны.

125 (327). **ЗАЗЕР'Е, ЗАЗЕРЬЕ**, в., Пухавіцкі. **1590**, Зазерье, с., Менскі (12, 39). № 664, **1613**, абазначаны.

126 (165). **ЗАМАЧАК, ЗАМОЧЕК**, в., Чашніцкі. **1580**, Белый Городок, Бельмаковичи, м., Аршанскі (92, 117 адв. —124). № 593, **1613**, абазначаны.

127 (324). **ЗАМОШША, ЗАМОШЬЕ**, в., Браслаўскі. **1588**, Замошье, м., Браслаўскі (111, 177—179). № 665, **1613**, абазначаны.

128 (325). **ЗАНАРАЧ, ЗАНАРОЧЬ**, в., Мядзельскі. **1579**, Занароч, звестак няма, Ашменскі (88, 70 адв.—74). **1598**, Занароч, с. (115, 397—399 адв.). № 349, **1566***, абазначаны.

129 (326). **ЗАСЛАЎЕ, ЗАСЛАВЬЕ**, г. п., Мінскі. **1600**, Жаслав, Жеслав, м., Менскі (141, 135, 490—491, 594 адв.—595 адв. і інш.). № 436, **1582**, абазначаны.

**ЗДЕТЕЛЬ** гл. Дзятлава.

130 (328). **ЗДЗІТАВА, ЗДИТОВО**, в., Бярозаўскі. **1594**, Здитов, м., Слонімскі (149, 278—280 адв.). № 13, да **1430**, абазначаны.

**ЗЕБИН** гл. Зембін.

**ЗЕЛЬВА** гл. Зэльва.

131 (329). **ЗЕМБІН, ЗЕМБИН**, в., Барысаўскі. **1600**, Зебин, м., Менскі (141, 48—48 адв., 335 адв.—336 адв., 546—547 адв.). № 521, **1598**, абазначаны.

132 (330). **ЗЭЛЬВА, ЗЕЛЬВА**, г. п., Зэльвенскі. **1602**, Зельва, м., Ваўкавыйскі (165, 45—46). № 333, **1565**, абазначаны.

133 (100). **ІВАЦЭВІЧЫ, ИВАЦЕВИЧИ**, г., Івацэвіцкі. **1567**, Ивачевичи, звестак няма, Слонімскі (188, 517). **1591**, Ивачевичи, Ивачовичи, звестак няма, Слонімскі (13, 112). № 562, **1613**, абазначаны.

**ИВЬЕ** гл. Іўе.

134 (102). **ІВЯНЕЦ, ИВЕНЕЦ**, г. п., Валожынскі. **1600**, Ивенец, м., Менскі (141, 176—178, 271 адв.—274, 316 адв.—317 і інш.). № 139, **1522**, абазначаны.

135 (72). ІГРУШКА, ИГРУШКА, в., Крупскі. **1584**, Грушки, с., Аршанскі (110, 79—83).

ИГУМЕН гл. Чэрвень.

136 (92). ІКАЗНЬ, ИКАЗНЬ, в., Браслаўскі. **1592**, Икажно, м., Браслаўскі (130, 547—556). № 80, **1504***, абазначаны.

137 (93). ІЛЛЯ, ИЛЬЯ, в., Вілейскі. **1572**, Илья, м., Менскі (87, 41—44). № 393, **1574**, абазначаны.

138 (94). ІНДУРА, ИНДУРА, в., Гродзенскі. **1574**, Индура, м., Гародзенскі (27, 27). № 160, да **1525***, абазначаны.

139 (101). ІЎЕ, ИВЬЕ, г. п. Іўеўскі. **1586**, Ивье, м., Ашменскі (96, 164 адв.—165 адв.). № 314, **1561**, абазначаны.

140 (97). ІШКАЛДЗЬ, ИШКОЛДЬ, в., Баранавіцкі. **1598**, Ишколдь, м., Ноўгародскі (121, 1380). № 407, **1579**, абазначаны.

141 (96). ІШЧАЛНА, ИЩЕЛНА, в., Шчучынскі. **1575**, Ищолна, м., Лідскі (89, 51—52). № 269, **1547***, абазначаны.

142 (123). КАЖАН-ГАРАДОК, КОЖАН-ГОРОДОК, в., Лунінецкі. **1599**, Кожан Городок, м. (154, 77—79). № 574, **1613**, абазначаны.

143 (121). КАЗЯНЫ, КОЗЯНЫ, не існуе, Шумілінскі. Да **1581**, Козяны, замак спалены, Віцебскі (92, 83 адв.—88). № 573, **1613**, абазначаны.

144 (116). КАМАІ, КОМАИ, в., Пастаўскі. **1586**, Комаи, м., Ашменскі (111, 37—39). № 569, **1613**, абазначаны.

145 (103). КАМЕНА, КАМЕНО, в., Лагойскі. **1600**, Камень Хорецкий, м., Менскі (13, 180). № 565, **1613**, абазначаны.

146 (104). КАМЕНЬ, КАМЕНЬ, в., Валожынскі. **1600**, Камень, м., Менскі (141, 17 адв.—18, 101 адв.—102 адв., 582 і інш.). № 141, **1522**, абазначаны.

КАМЕНЬ ХОРЕЦКИЙ гл. Камена.

147 (105). КАМЯНЕЦ, КАМЕНЕЦ, г. п., Камянецкі. **1599**, Каменец, г., Берасцейскі (115, 566). № 38, **1486**, абазначаны.

148 (117). КАПЫЛЬ, КОПЫЛЬ, г. п., Капыльскі. **1582**, Копыль, м., Ноўгародскі (118, 11). № 25, да **1480**, абазначаны.

149 (119). **КАРЭЛІЧЫ, КОРЕЛИЧИ**, г. п., Карэліцкі. **1600**, Кореличи, звестак няма, Ноўгародскі (141, 144—145). № 491, **1594**, абазначаны.

150 (120). **КАСЦЯНЕВІЧЫ, КОСТЕНЕВИЧИ**, м., Вілейскі. **1597**, Костеневичи, звестак няма, Ашменскі (133, 41). № 571, **1613**, абазначаны.

151 (108). Вер., **КІШЧЫНА СЛАБАДА, КИЩИНА СЛОБОДА**, в., Барысаўскі. Даных у крыніцах XVI ст. мы пакуль што не знайшлі. № 566, **1613**, абазначаны.

152 (109). **КЛЕЦК, КЛЕЦК**, г., Клецкі. **1577**, Клецк, г., Ноўгародскі (122, 1687). № 128, **1519**, абазначаны.

153 (110). **КНЯЖЫЦЫ, КНЯЖИЦЫ**, в., Магілёўскі. **1580**, Княжицы, м., Аршанскі (20, 597 і інш.). № 729, **1647**, абазначаны.

154 (112). **КОБРЫН, КОБРИН**, г., Кобрынскі. **1580**, Кобрын, г., Берасцейскі (90, 95). № 22, **1465**, абазначаны.

**КОБЫЛЬНИК** гл. Нарач.

**КОЗЯНЫ** гл. Казяны.

**КОЙДАНОВО** гл. Дзяржынск.

**КОЛОДИЧИ** гл. Холмеч.

155 (115). **КОЛЬНА, КОЛЬНО**, в., Жыткавіцкі. **1600**, Кольно Старое, с., Мазырскі (45, 310—317). № 567, **1613**, абазначаны.

**КОЛЬНО СТАРОЕ** гл. Кольна.

156 (118). **КОПЫСЬ, КОПЫСЬ**, г. п., Аршанскі. **1594**, Копысь, м., Аршанскі (115, 2—4, 24—25). № 401, **1577**, абазначаны.

157 (122). **КОСАВА, КОСОВО**, г., Івацэвіцкі. **1598**, Косово, м., Слонімскі (115, 389—390). № 94, **1510***, абазначаны.

158 (113). **КОХАНАВА, КОХАНОВО**, г. п., Талачынскі. **1595**, Коханово, м., Аршанскі (232, 29). № 495, **1595**, абазначаны.

159 (124). **КРАЙСК, КРАЙСК**, в., Лагойскі. **1600**, Крайск, м., Менскі (141, 80—81, 94 адв.—95, 135 і інш.). № 252, **1540**, абазначаны.

160 (133). **КРАМЯНІЦА, КРЕМЯНИЦА**, в., Зэльвенскі. **1567**, Кременица, звестак няма, Ваўкавыйскі (188, 494, 497, 856 і інш.). № 577, **1613**, абазначаны.

161 (125). КРАСНАЕ, КРАСНОЕ, в., Маладзечанскі. **1593**, Красное Село, м., Менскі (17, 102). № 40, **1436**, абазначаны.

КРАСНЫ СТАН гл. Абчуга.

162 (129). КРОШЫН, КРОШИН, в., Баранавіцкі. **1585**, Крошин, м., Ноўгародскі (17, 5, 33, 35 і інш.). № 111, **1516**, абазначаны.

163 (130). КРУГЛАЕ, КРУГЛОЕ, г. п., Круглянскі. **1571**, Круглая, м., Аршанскі (84, 272—287, 312). № 506, **1596**, абазначаны.

164 (131). КРУПАВА, КРУПОВО, в., Лідскі. **1567**, Крупая, звестак няма, Лідскі (188, 750). № 575, **1613**, абазначаны.

165 (132). КРУПКІ, КРУПКИ, г. п., Крупскі. **1620**, Крупки, звестак няма, Аршанскі (2, 610—613). № 576, **1613**, абазначаны.

166 (128). КРЫЧАЎ, КРИЧЕВ, г., Крычаўскі. **1596**, Крычов, м., Мсціслаўскае (116, 20 адв.—21). № 72, **1499**, абазначаны.

167 (127). КРЭВА, КРЕВО, м., Смаргонскі. **1601**, Крево, м., Ашменскі (191, 82). № 41, **1486**, абазначаны.

КУДИН гл. Вялікі Кудзін.

168 (106). КУНАСА, КУНОСА, в., Нясвіжскі. **1567**, Куноса, звестак няма, Ноўгародскі (188, 505). № 578, **1613**, абазначаны.

169 (107). КУРАНЕЦ, КУРЕНЕЦ, в., Віленскі. **1594**, Куренец, м., Ашменскі (149, 486 адв.—488). № 92, **1509***, абазначаны.

КУРЕНЕЦ СТАРЫЙ гл. Вілейка.

170 (135). ЛАГАЎШЧЫНА, ЛАГОВЩИНА, в., Талачынскі. **1624**, Лаговчин, с., Аршанскі (9). № 579, **1613**, абазначаны.

171 (151). ЛАГІШЫН, ЛОГИШИН, г. п., Пінскі. **1569**, Лагишин, м., Пінскі (195, 161). № 364, да **1569***, абазначаны.

172 (152). ЛАГОЙСК, ЛОГОЙСК, г. п., Лагойскі. **1600**, Логойск, м., Менскі (141, 127 адв.—128, 279 адв.—280, 289 адв.—290 і інш.). № 184, **1528**, абазначаны.

173 (138). ЛАХВА, ЛАХВА, в., Лунінецкі. **1599**, Лахва, м., Ноўгародскі (154, 77—79). № 585, **1613**, абазначаны.

174 (145). ЛЕБЕДЗЕВА, ЛЕБЕДЕВО, в., Маладзечанскі. **1600**, Лебедево, м., Ашменскі (141, 209 адв.—210 адв.). № 260, **1544**, абазначаны.

175 (144). ЛЕБЯДА, ЛЕБЕДА, в., Лідскі. **1585**, Лебеда, звестак няма, Лідскі (40, 468—469). **1603**, Лебеда, звестак няма, Лідскі (100, 69 адв.—70). № 580, **1613**, абазначаны.

176 (174). ЛЕВЫЯ МАСТЫ, ЛЕВЫЕ МОСТЫ, в., Мастоўскі. **1601**, Мосты, м., Гародзенскі (119, 6). № 48, **1486**, абазначаны.

177 (139). ЛЕМНІЦА, ЛЕМНИЦА, п., Талачынскі. **1597**, Лемница, звестак няма, Аршанскі (148, 48—50). № 581, **1613**, абазначаны.

ЛЕПЕЛЬ гл. Стары Лепель.

178 (143). ЛІДА, ЛИДА, г., Лідскі. **1566**, Лида, г., Лідскі (78, 79). № 42, **1486**, абазначаны.

ЛИПА гл. Вялікая Ліпа.

179 (29). ЛІПЕНЬ, ЛИПЕНЬ, в., Асіповіцкі. **1594**, Холва, с., Менскі (12, 62). № 538, **1613**, абазначаны.

180 (147). ЛІПНІШКІ, ЛИПНИШКИ, в., Іўеўскі. **1580**, Липнишки, м., Ашменскі (90, 73—74). № 142, **1522**, абазначаны.

181 (148). ЛІПСК, ЛИПСК, в., Ляхавіцкі. **1584**, Липск, м., Ноўгародскі (194, 73—74). № 323, **1563**, абазначаны.

182 (149). ЛІСНА, ЛИСНО, в., Верхнядзвінскі. **1552**, Лисно, с., Полацкае (176, 3, 47).

ЛОЕВА ГОРА гл. Лоеў.

183 (153). ЛОЕЎ, ЛОЕВ, г. п., Лоеўскі. **1580**, Лоева Гора, м., Кіеўскі (232, 9). Абазначаны.

184 (339). Вер., ЛОСК, ЛОСК, в., Валожынскі. **1550**, Лоск, м. (101, 349 адв.). **1581**, Лоск, звестак няма, Ашменскі (91, 82—82 адв.). **1588**, Лоск, Лозк, звестак няма, Ашменскі (113, 241—243). Абазначаны.

185 (141). ЛОШНІЦА, ЛОШНИЦА, в., Барысаўскі. Каля **1610**, Лошница, м., Аршанскі (18, 18). № 154, **1524**, абазначаны. У табліцы С. Александровіча, як і ў апублікаванай крыніцы, год паказаны памылкова.

прыслухаючими, и з их жонами, детми, маетностями, службами, подачками и повинностями; з данью грошовою, медовою и куничною и з дяклы всякого збожья и со всими иншими доходы и пожитки, яким бы ся кольвек именем в том именью могли названы быти. И теж дала есми ему тое именье с пашнею дворною, з землями тых подданых моих, з боры, з лесы будными, з гаи, с сеножатми, с пробками, с пущами, с хмелищы, з ловы зверынными и пташьими, с озеры, з болоты, з реками, з речками, з зеремены, з бобровыми гоны, ставы, з млыны и з их вымелки, з деревом бортным и з церковью рускою, которая ся в том же именью моем ест, и з наданьем к той церкви земль пашных, лесов, сеножатей и дерева бортного. И со всим потому, яко ся тое именье мое з давных а вечыстых часов само в собе так в межах, яко и в границах и в обыходах своих долгостью и широкостью перед тым мело и тепере маеть и яко есми первей сего именья (а. 334 адв.) // держачы на себе, сама вжывала, ничого вжо в том именью моем на себе самую, яко пры жывоте моем, так и по жывоте, теж на дети, потомков и на всих иншых близких моих не зоставуючы.

То ест имена тых людей двора Довкшицкого:

Грышко Шепелевич, Грышко Сидорович с потужники своими, служба,

Ивашко а Ермол Данилковичы с потужники, служба;

Елхиц Демидович с потужники, служба;

Кузма, Павел а Карп Трухоновичы, служба;

Милко а Миколай Яювцы, служба;

Иван а Оникей Власовичы, служба;

Сенько Васильевич, Созон Соболь, служба;

Борыс Климятич с потужники, служба;

Матфей а Ортей с потужники, служба;

Денис Грыцевич с потужники, служба;

Дашко Якимович с потужники, служба;

Гапон Ганькович с потужники, служба;

Томко Ясевич с потужники, служба;

Ивановая Новикович а Нестер Боланца с потужники своими, служба.

А ку тому дала и даровала есми еще тому ж служебнику своему Петру Сколдицкому самому, жоне, детем и потомком их навечность тые люди свои, там

же ку тому именью Довкшицкому прылеглые, которые есми люди купила была собе навечность же людми (а. 335) // отчизными тамошними а непохожыми за властную суму пенезей своих, то ест за триста коп грошей, в служебника моего в Станислава Садовского.

Тые вси люди ему дала самых з жонами и з их маетностями, з лесов будных и з деревом бортным, з данью грошовою и медовою и со всим потому так, яко я первей того сама, купившы их в Садовского, за листом своим купчым в людих и в пожываньи своем мела и з них всяких служб и подачок, держачы их на себе, вжывала. Так же на себе самому, на детей, потомков и близких моих не зоставуючы.

А то ест имена тых людей купленых:

Иван Гласко, Федько Михалевич, Антон Василевич, служба;

Симон Климятич, Василь Полюк, Корнило Дроздович, Малей а Петр Мядельцы, служба;

Майсей а Грышко Омельяновичы, Малаш а Ивашко Сидоровичы, Грышко Климятич, Олисей Омельянович, служба;

Грышко Борысович, Охромей Мяделец, Иван а Матей прыхожые, Занько Жук, служба;

Павел а Юрко, Охромей Федосевичы, Остапко Мяделец, служба.

Особливе того, просил мене за то тот же служебник (а. 335 адв.) // мой Петр Сколдицкий, иж бых я к тому именью его Довкшицкому, ему от него за службы его даному, зиме и лете у в озере моем томиловском на имя в Мяделе для ловенья на потребу его всяких рыб з неводом и с подволоком и со всяким нашым рыбным половеньем вступ вечыстый мети дозволила; так теж и в бор мой Томиловский, иж бых ему вступу и въезду вечыстого и его жоне, детем и потомком их и подданым Довкшицким на будованье и на иншые потребы их дворные мети не боронила. Я, и в том розумеючы быти ку собе прозбу его слушную, то есми з ласки моее вчинила. И яко в тое озеро, вышей назначоное, так и в бор мой Томиловский обеюх вступов завжды мети дозволила и тым листом моим на вечные часы дозволяем.

С которым именьем, ему от мене даным, дарованым и на вечные часы тым листом моим записаным, вольно ему

будеть самому яко за жывота своего, так и по моем жывоте, поспол з жоною, з детми своими с тым именьем, кому хотячы, тому служыти. И теж волен отдати, продати (а. 336) // даровати, променити, записати и ку своему лепшому а пожыточнейшому обернути, яко налепей сами розумеючы. А я ся вжо сама, Ганна Радивиловна, водлуг того листу моего, ему от мене на все тое именье вышейпомененое даного, вечистыми часы вырекам, детей своих, потомков и всих иншых близких моих от того именья, верху назначоного, преч отделяем. До которого именья также и они вси так, яко и я сама, вечными часы ничого мети не мають.

И на то есмо тому служебнику моему вышейречоному дала сесь мой лист под моею печатью и з написом властное руки моее и теж з написом руки сына моего пана Яна Станиславовича Кишки.

А для лепшое твердости того моего листу жодала есми того его милости князя Миколая Паца — а з Божое ласки бискупа киевского, а ку тому есми жодала его ж милости вельможного пана Миколая Юревича Радивила — воеводы троцкого, пана брата моего, иж бы их милость рачыли к тому моему листу печати свои прыложыти. Их милость для жоданья и прозбы моее рачыли то вчынити а печати свои до того (а. 336 адв.) // моего листа прыложыли. Яко ж его милость вельможный пан воевода троцкий за особливым жоданьем моим, прыложывшы печать свою, рачыл тот мой лист рукою своею властною подписати.

Писан на Ивю.

Лета Божего нароженья тисеча пятсот шестдесятого, месеца ноября, девятого дня.

Hanna Radziwiłowna — Stanisławowa Kiszczyna, ręka, swa.

Nicolaus Radziwil — palatinus trocensis — manu propria etc.*"

И з ласки нашое господарское, водле оповеданья и сознанья пани Станиславовое Кишчыное — воеводиное витебское, которое она перед нами через пана Остафья Воловича — маршалка дворного — в той речы вделала, и

* Ганна Радзівілаўна-Станіслававая Кішчыная ўласнаю рукою.
Мікалай Радзівіл — ваявода троцкі — уласнаю рукою і г. д.

подле того листу ее милости, тому служебнику ее Петру Сколдицкому на тое именье Довкшицкое и люди купленые и на уходы вступ в озеро и в бор Томиловский даного, прыпустившы то ку ведомости нашой господарской, пры том именью, вышей писаном, на имя Довкшицком и людех купленых, к тому двору Довкшицкому прылеглых, и пры входех и вступу в озеро томиловское на имя Мядельское и в бор Томиловский на потребы его домовые водле оного (а. 337) // листу ее милости, на то ему даного, его зоставуем и сим листом нашым то ему вмоцняем.

Маеть он сам, жона, дети и потомки их водле листу паней Станиславовое Кишчыное — воеводиное витебское, на то ему даного, тое именье вышеймененое Довкшицкое и люди купленые со всим, яко ся в собе маеть, на себе держати и того вжывати вечными часы, справуючы и заховываючыся во всем подле того листу пани воеводиное витебское, вышей в сем листе нашом меновите описаного, а нам, господарю, с того они службу земскую военную служыти мають потому, яко и иншые земяне-шляхта в панстве нашом отчызном Великом князстве Литовском службу земскую военную з ыменей своих нам служать.

А на твердость того и печать нашу казали есмо прывесити к сему нашому листу.

Писан у Вильни.

Лета Божого нароженя 1562, месеца февраля, 7 день.

Подпис руки господарское. Ян Гайко, писар (а. 337 адв.) //

*(Метрыка ВКЛ. А. з. 39. А. 332—337 адв. Копія. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.)*

## УРЫВАК З ІНВЕНТАРА МАЁНТКА СКІПАРОЎШЧЫНА (БЯЗКОЎШЧЫНА)*

Інвентары з'яўляюцца гаспадарчымі вопісамі феадальных уладанняў XVI—XIX стст. Яны змяшчаюць больш ці менш падрабязныя апісанні жылых і гаспадарчых будынкаў панскага двара, яго зямельных

* Неіснуючыя цяпер вёска і фальварак Скіпароўшчына (Скіпароўцы) размяшчаліся прыблізна ў 4 км на паўночны захад ад Івянца (Валожынскі р-н).

угоддзяў, сенажацей, дваровага статка, нерухомай маёмасці, спісы гаспадароў у вёсках і мястэчках, памеры іх зямельных надзелаў і г. д. Такім чынам, інвентары з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння гістарычнага мінулага Беларусі. Інвентар маёнтка Скіпароўшчына быў складзены 16 жніўня 1766 г. у сувязі з яго продажам канюшым ваяводства Мінскага Станіславам Адахоўскім Брыгіце з Радзівілаў Салагубавай, генеральшы артылерыі Вялікага княства Літоўскага [1, с. 154—157] .

...З дарогі ад Івянца, паміж парканамі вароты з дошак на бегунах, па правую руку агарод, паміж якім і гуменным парканам другія вароты на бегунах; уязджаючы на дзядзінец, па правую руку падвойныя вароты, на завесах жалезных, жалезнымі цвікамі прыбітыя, гонтавым дахам зверху пакрытыя, пры якіх фортка на жалезных завесах, з клямкай і засоўкай жалезнай. Насупраць гэтых варот праз дзядзінец новы жылы будынак, гонтамі крыты, у які ўваходзячы, лесвіца на ганак шырокі, тарціцамі выкладзены, з драўлянымі калонамі вакол; з гэтага ж ганку, уваходзячы ў сені, дзверы падвойныя, на завесах, з клямкай, ручкай і з дзвюма жалезнымі засоўкамі зверху, гэтыя сені напалову каменнямі брукаваныя; з сяней па правую руку ізба, тарціцамі выкладзеная, да якой дзверы






*Фасад і план першага паверха дома ў маёнтку Скіпароўшчына*

| | | |
|---|---|---|
| I – *ізба* | Сп – *спіжарня* | П – *пакоі* |
| Г – *ганак* | А – *аптэчка* | ⊠ – *печка* |
| С – *сені* | К – *камора* | ⊐ – *камін* |

сталярскай работы, на завесах, з клямкай і жалезным кручком, на прабоях, у гэтай ізбе тры вакна з чыстага шкла ў чатырох шыбах у дрэва апраўленых, у гэтых усіх вокнах рамы сталярскай работы..; у гэтай ізбе кафляная печка паліваная, зялёная, з белымі паясамі, на падмураванню, у гэтай печцы паміж паясамі пруты жалезныя і наверсе краты жалезныя, на кафлях арлы выбіты, пры гэтай печцы комін добрай мулярскай работы, пабелены; з гэтай ізбы, уваходзячы ў камору бакавую, дзверы сталярскай работы аднастворкавыя на завесах, пры гэтых дзвярах замок унутраны крулявецкі з ключом, з клямкай, пад якім ручка жалезная; гэтая камора вымашчана тарціцамі, у ёй ёсць акно адно такое ж самае, як і ў ізбе; з гэтай каморы выходзячы праз ізбу ў сені, па правую руку дзверкі да печкі на жалезных завесах, з жалезнай зашчэпкай, трыма жалезнымі крукамі, да сценкі прыбітымі; насупраць гэтай ізбы праз сені другая ізба, такая самая як першая, да якой дзверы сталярскай работы, на завесах, з клямкай, з зашчэпкай ад сяней і з жалезным кручком унутр на прабоі; у гэтай ізбе падлога з тарціц, вокнаў, такіх, як і ў першай ізбе, з усімі прыналежнасцямі і аканіцамі тры; у гэтай ізбе печка з вялікіх кафляў на жалезе з палівай, пры каторай комінак добрай мулярскай работы белы; з гэтай ізбы па правую руку пакойчык, да якога дзверы сталярскай работы на завесах, з замком унутраным крулявецкім, такім, як і насупраць; убок ад гэтага пакою другі пакойчык... у гэтым пакойчыку... печка кафляная паліваная акруглая... Абодва гэтыя пакоі вымашчаны тарціцамі. Насупраць ганкавых дзвярэй у гэтым жа доме праз сені перагародка, да якой дзверы з тарціц на завесах, з жалезным кручком на прабоях; па правую руку спіжарня, каменнямі брукаваная, да якой дзверы на завесах з жалезнай зашчэпкай; у гэтай спіжарні вакно з жалезнымі кратамі; збоку гэтай спіжарні аптэчка, да якой дзверы на завесах з зашчэпкамі жалезнымі і з засоўкай жалезнай пасярэдзіне; гэта аптэчка тарціцамі вымашчана, пры сценах паліцы з тарціц. З гэтай аптэчкі лесвіца наверх; увайшоўшы пад дах, насупраць лесвіцы ад дзядзінца невялікая зала над ганкам, тарціцамі вымашчаная, да якой дзверы на завесах з зашчэпкай; у гэтай зале

вокнаў у дрэва апраўленых два, з завескамі і вугалкамі жалезнымі, з зашчэпкамі пасярэдзіне. Увесь гэты дом пакрыты гонтамі. Выходзячы з гэтага дома праз дзядзінец, па правую руку кухня, гонтамі крытая, з двума комінамі, выведзенымі вонкі... Ад гэтага будынка праз дзядзінец вялікі сырнік, пад якім малочніца... Дзядзінец з гэтымі ўсімі будынкамі агароджаны вакол старым астраколам. Па краях жылога будынка з аднаго боку сад... з другога агарод... ад кухні па правую руку за парканам сад фруктовы... Выйдучы з дзядзінца, пры варотах стайня і вазоўня... За той стайняй двухпавярховы свіранак, крыты саломай... За гэтым свіранкам стары вялікі двухпавярховы скарбец... пры скарбцы піўніца старая доўгая... Збоку ад гэтай піўніцы свіранак... Побач з гэтым свіранкам бровар з лазняй... Пры бровары студня новая з брусоў, пры студні карыта вялікае для коней. Побач з броварам варыўня... Каля гэтай варыўні па правую руку будынак фальварачны... Пры гэтым будынку паміж парканам вароты з форткай з дошак, на бегунах, з завёрткай. За гэтымі варотамі дзверы з тарціц на бегунах, роўна з варотамі па правым баку адрынка, саломай крытая... Каля гэтай адрынкі стайня вялікая... За той стайняй паміж парканам вароты да гумна. На гэтым гумніску асець руская з токам... з гэтай асеці стадола з токам для складвання збожжа...; ад гэтай стадолы па правую руку адрына вялікая на сена...; параплотаў высокіх добрых пяць, усё гумно агароджана парканам звычайным з бярвенняў. Побач з гэтым гумніскам праз дарогу на Івянец адным бокам у канец агарода, другім бокам у канец дзядзінца ад жылога будынка, за сырнікам, абора добрая, саломай крытая, збудаваная ў квадрат, у якой шэсць хлявоў з варотамі дранічнымі...

*(Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов. Вильна, 1910. Т. 35.)*

*Пераклад і слоўнікавы каментарый*
*Валерыя Шаблюка*

## Слоўнік тэрмінаў

АБОРА — гаспадарчая пабудова для ўтрымання кароў.

АДРЫНА — гаспадарчая пабудова для захавання сена, саломы, сельскагаспадарчага інвентара.

АПТЭЧКА — невялікі пакой дзе захоўваліся розныя трункі, зёлкі, лекі.

АСЕЦЬ /ЕЎНЯ/ — памяшканне з печкай-каменкай для сушкі снапоў.

БЯГУН — драўляны ці жалезны вал, на якім паварочваліся дзверы.

ВАРЫЎНЯ — невялікая пабудова з ачагом для захавання сельскагаспадарчых прадуктаў.

ГАНАК — прыбудова перад уваходам у дом.

ГОНТА — кароткія дошкі для крыцця страхі.

ДЗЯДЗІНЕЦ — пляц перад панскім домам.

ДРАНІЦЫ — трэскі для крыцця страхі.

КАНЮШЫ — ганаровы тытул у Вялікім княстве Літоўскім (раней адказваў за велікакняжацкія табуны і стайні).

КРУЛЯВЕЦКІ — выраблены ў г. Крулявец (цяпер Калінінград).

МАЛОЧНІЦА — памяшканне, дзе захоўваліся малочныя прадукты.

МУЛЯР — каменшчык.

ПАРКАН — тып агароджы з бярвенняў.

ПЕРАПЛОТ /АЗЯРОД/ — збудаванне са слупоў і жэрдак для сушкі снапоў, сена, бульбоўніку.

ПІЎНІЦА — склеп.

СВІРАН — пабудова для захавання збожжа і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

СКАРБЕЦ — гаспадарчая пабудова для захавання адзення, зброі, каштоўных рэчаў.

СПІЖАРНЯ — памяшканне, дзе захоўваліся харчовыя прыпасы.

СТАДОЛА — гаспадарчая пабудова для абмалоту і захавання снапоў.

СЫРНІК /СЫРНІЦА/ — гаспадарчая пабудова для сушкі і захавання сыроў.

ТАРЦІЦЫ — пілаваныя дошкі.

# РЭЦЭНЗІІ

*Алесь Краўцэвіч*

## НОВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ СТАРОГА ЗАМКА Ў ГРОДНЕ

Рэц. на кн.: Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.: Гіст: археал. Нарыс / А. А. Трусаў, В. Е. Собаль, Н. І. Здановіч. — Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 152 с.: іл.

Стары замак у Гродне — унікальны архітэктурна-археалагічны комплекс, які фарміраваўся на працягу амаль тысячы гадоў. З мяжы X—XI стст., калі мыс пры ўпадзенні Гараднічанкі ў Нёман засялілі людзі, і да XX ст. на гэтым невялічкім кавалку зямлі (трохвугольнік прыблізна 120×80×40 м) віравала жыццё, якое пакінула пасля сябе культурны пласт таўшчынёй каля 10 м. Адметнасцю гэтага пласта з'яўляюцца яго высокія кансервуючыя якасці. Пачынаючы з глыбіні 2 м (са слаёў XVII ст. і ніжэй — да XII ст.), у ім выдатна захоўваюцца арганічныя матэрыялы: скура, зерне і, нарэшце, дрэва. Даследчыкі выявілі больш двух дзесяткаў ярусаў драўлянага будаўніцтва.

Але самай адметнай з'явай на Старым замку з'яўляюцца помнікі мураванай архітэктуры. Менавіта пасля адкрыцця на замку руінаў царквы, княжацкага церама, мураванай сцяны XII ст. даследчыкі прыйшлі да высновы аб існаванні ў XII ст. у Гародні надзвычай самабытнай архітэктурнай школы. Мураванае будаўніцтва ў цэнтры Гародні пасля XII ст. можна лічыць нагляднай ілюстрацыяй агульнаграмадскіх працэсаў, якія адбываліся ў Вялікім княстве Літоўскім, а менавіта палітычнай і культурнай арыентацыі на Заходнюю Еўропу.

Новы значны этап мураванага дойлідства — узвядзенне замка Вітаўта ў канцы XIV — пачатку XV ст. — праха-

дзіў пад уплывам новых культурных традыцый, адметных ад візантыйскіх. Замак Вітаўта быў збудаваны ў стылі готыкі.

Праз паўтара стагоддзя ў часы караля Стэфана Баторыя ён быў перабудаваны ў традыцыях Рэнесанса.

Перацярпеўшы неаднаразовыя разбурэнні (найбольш у часы "патопу" ў XII ст. і ў Паўночную вайну), рамонты, перабудовы, архітэктурны комплекс дажыў да XX ст. у значна змененым выглядзе. Амаль не захаваліся замкавыя сцены, моцна перабудаваны палац і ўязная вежа-брама, астатнія вежы знішчаныя. Больш як трохметровым пластом зямлі былі перакрытыя руіны мураваных пабудоў XII ст. Аб іх існаванні ніхто не ведаў да 1932 г., пакуль намаганнямі тагачаснага дырэктара музея на Старым замку Ю. Ядкоўскага яны не адкрыліся свету. Гэта была сенсацыя. Зусім па-іншаму "зайграла" Барысаглебская царква, якая сціпла месцілася за ракой Гараднічанкай непадалёк ад Старога замка. Яна ўспрымалася ледзь не як нейкая недарэчнасць ці выпадковасць у польскім (на думку палякаў) ці летувіскім (па меркаванні летувісаў) горадзе. Адкрыццё праваслаўнай Ніжняй царквы ў дадатак да праваслаўнай Барысаглебскай выдатна паказала, што Гародня — беларускі горад.

Размешчаны вышэй тэкст прашу разглядаць як прэамбулу да рэцэнзіі і адначасова спробу частковай кампенсацыі за адсутнасць у кнізе А. А. Трусава, В. Е. Собаля, Н. І. Здановіч характарыстыкі сучаснага стану аб'екта даследаванняў. Названая кніга ўяўляе сабой вынік шматгадовых археалагічных даследаванняў, якія праводзіла на Старым замку экспедыцыя навукова-вытворчага аб'яднання "Белрэстаўрацыя" між 1980 і 1988 гг. Гэтыя даследаванні выклікалі і выклікаюць нязменную цікавасць як у спецыялістаў, так і ў шматлікіх аматараў беларускай гісторыі, найперш праз унікальнасць самога аб'екта даследавання.

Раскопкі "Белрэстаўрацыі", якімі кіраваў А. А. Трусаў, здабылі значную колькасць самай разнастайнай навуковай інфармацыі: аб мураванай архітэктуры, драўлянай забудове, будаўнічых матэрыялах, побытавай матэрыяльнай культуры, занятках насельнікаў Старога замка.

Звяртае на сябе ўвагу прафесійнасць навуковай апрацоўкі здабытых артэфактаў. Кніга атрымалася кампактнай, інфармацыйнай і багата ілюстраванай — тэкст заняў 77 старонак, ілюстрацыі амаль столькі ж —73. Упершыню за часы даследаванняў Старога замка належная ўвага скіравана на познасярэднявечныя старажытнасці.

Цалкам станоўча ацэньваючы працу, мушу засяродзіцца на некаторых недахопах і праліках, якіх, на жаль, не пазбеглі аўтары кнігі. Унікальны аб'ект патрабуе сур'ёзнага падыходу, разборка павінна быць грунтоўнай і дэталёвай. Аўтар рэцэнзіі загадзя просіць прабачэння за магчымую прыдзірлівасць да аўтараў кнігі, прафесійнасць якіх не выклікае сумненняў.

Але аб усім па парадку. 1. Ва Уводзіны перанесена механічна адарваная частка раздзела "Гісторыя вывучэння Старога замка". Атрымалася, што ў гэтым раздзеле ў апісанні даследаванняў папярэднікаў праводзіцца агульная характарыстыка вынікаў, а пры апісанні раскопак 1981—1988 гг. называюцца толькі імёны ўдзельнікаў і ўскрытыя плошчы.

2. У напісанні тэксту прымалі ўдзел сем даследчыкаў (стар. 16), а на тытул вынесены прозвішчы толькі трох.

3. На стар. 18 аўтары сцвярджаюць, што на Старым замку "комплекс абарончых збудаванняў, культавых і грамадскіх пабудоў" сфарміраваўся ў канцы X — пачатку XI ст., хоць на самой справе гэта адбылося ў XII ст.

4. Графічныя рэканструкцыі замка на 16 стар. (мал. 29) і замка Вітаўта (мал. 39) не зусім адпавядаюць апісанню на стар. 25. У тэксце сцвярджаецца, што "асноўная частка замкавай тэрыторыі мела драўляную забудову", а на рэканструкцыі забудова не паказана. Мал. 39, відавочна, быў перавернуты пад час друкавання фотаадбітка з негатыва і замак атрымаўся паказаны "навыварат".

5. Незадавальняюча выкананы зводны план археалагічных даследаванняў на Старым замку (мал. 13). Ён мае выгляд простай схемы размяшчэння раскопаў і шурфоў. Стары замак — аб'ект са складаным рэльефам, даследаванні праводзіліся на розных узроўнях — ад верхняй пляцоўкі да падэшвы гары. Усе раскопы і шурфы ніверліраваліся адносна балтыйскай сістэмы. Незразумела,

чаму адсутнічае агульны план з нівеліровачнымі адзнакамі, чаму не паказаныя месцы раскопаў 30-х і 1949 гадоў.

6. Распрацаваўшы такую вялікую колькасць шурфоў (больш 40) і раскопаў (6 ці 7 — невядома, бо на плане два раскопы маюць № 5), аўтары не стварылі агульнай нівеліровачнай карціны архітэктурна-будаўнічых аб'ектаў. Напрыклад, цікава было б паглядзець, як брукоўка ў шурфе 7, датаваная даследчыкамі канцом XIV — пачаткам XV ст. (стар. 40), суадносіцца з адпаведным будаўнічым ярусам у раскопе II, датаваным дэндрахраналагічна і г. д.

7. Раздзел "Драўляная забудова замчышча". Аўтары лічаць (стар. 30), што найбольш поўнае ўяўленне аб драўлянай забудове Старога замка XII—XVII стст. даюць матэрыялы раскопу II (1986—1988 гг.). Узнікае пытанне: а што раскопкі З. Дурчэўскага і М. Вароніна? Імі ўскрыта плошча намнога большая і драўлянай забудовы XII—XVII стст. выяўлена значна болей. Што тычыцца XVII ст., то ў раскопе II толькі тры часткова адкрытыя пабудовы адносяцца да гэтага часу. Чаму матэрыялы з раскопу II не ўвязаныя з ранейшымі раскопамі? Увогуле раскоп II заслугоўвае асобнай гаворкі. У мяне да гэтага часу засталіся сумненні ў мэтазгоднасці яго распрацоўкі. На Старым замку не так шмат засталося некранутых участкаў культурнага слою з выдатна захаванай арганікай і лепш іх зберагаць, чым раскопваць малымі плошчамі. Адносна невялікі раскоп II—96 кв. м (на планах — мал. 45—47 — ён мае плошчу 88 кв. м) у працэсе раскопак звузіўся да прыблізна 30 кв. м (гэта добра відаць на мал. 45 і 53), бо не ўдалося захаваць вертыкальнасць сценак.

Даследчыкі вылучылі ў гэтым месцы 22 будаўнічыя ярусы, зрабілі іх апісанне і праілюстравалі трыма фотаздымкамі (мал. 42—44) і трыма планамі (мал. 45—47). У апісанні называюцца пранумараваныя пабудовы, але на малюнках гэтыя нумары адсутнічаюць. Такім чынам, апісанне адарвана ад ілюстрацый.

Пасля першага будаўнічага яруса (пласты 10—12), які даследчыкі датуюць XVII ст. (стар. 30), другі будаўнічы ярус (пласты 12—14) датуецца ўжо пачаткам XV ст. (стар. 31). Дзе падзеліся пабудовы XV—XVI стст.? Ці мог быць

такі працяглы перапынак у драўляным будаўніцтве? Што азначае храналагічны разрыў паміж V (XII ст.) і IV (1389 г.) ярусамі? Ці гэта адлюстраванне вядомых падзеяў XIII—XIV стст.: нашэсця мангола-татараў, эпідэміі сярэдзіны XIV ст.? А можа, усё прасцей і мае месца памылка ў датаванні (спілы, узятыя для дэндрадаты, пераблытаныя і г. д.)? І, нарэшце, як ярусная забудова, выяўленая ў раскопе II, суадносіцца з драўлянай забудовай, адкрытай папярэднімі экспедыцыямі?

8. Стратыграфія. З самага пачатку аўтары зазначаюць, што яны склалі даволі поўнае ўяўленне аб характары культурнага слою Старога замка і яго стратыграфіі (стар. 38). Аднак далей высвятляецца, што гаворка на самой справе ідзе пра стратыграфію толькі раскопа II. Сам раздзел "Стратыграфія і храналогія культурнага пласта" ўяўляе сабой стратыграфію асобных раскопаў і шурфоў. І зноў жа адсутнічае ўвязка з распрацоўкамі папярэдніх даследчыкаў.

9. У раздзеле "Нарыс матэрыяльнай культуры" прыведзена прафесійна апрацаваная калекцыя знаходак галоўным чынам XII—XVII стст. з выкарыстаннем архіўных матэрыялаў. З дробных памылак можна назваць адсутнасць нумарацыі рэчаў на мал. 61, 62, 67, 70, у той час калі ў тэксце (стар. 45, 47) маюцца спасылкі на нумары. На стар. 59 у тэксце названыя 4 арбалетныя балты, а на адпаведным малюнку іх паказана 5 і г. д.

Калі казаць пра агульнае ўражанне ад кнігі, то яна ўспрымаецца не як манаграфія, а хутчэй як грунтоўная археалагічная справаздача. Сур'ёзным недахопам з'яўляецца адсутнасць узаемасувязі з вынікамі працы папярэдніх экспедыцый. Адчуваецца месцамі паспешлівасць, недапрацаванасць, недаведзенасць даследавання і ўсё гэта адмоўным чынам адбіваецца на культуры навуковай работы.

Аддаючы належнае аўтарам за іх вялікую працу, за ўвод у навуковы зварот значнай колькасці новай археалагічнай інфармацыі, мушу зазначыць, што такі помнік, як Стары замак у Гродне, відавочна, заслугоўвае большай увагі і стараннасці.

# РЕЗЮМЕ

*Л. Хмельницкая.* **Витебский церковно-археологический музей**

В статье освещается история создания и деятельности Витебского церковно-археологического музея. Инициатором организации такого музея был известный археолог и этнограф Е. Романов. Активную роль в собрании экспонатов для этого хранилища древностей сыграли также А. Сапунов, Н. Никифоровский, Д. Довгялло. Благодаря их усилиям уже в первые годы существования музея в нем оказались сосредоточены богатые и часто уникальные материалы: старинные иконы, рукописные книги, коллекции монет и медалей. При этом большинство экспонатов сакрального искусства имело отношение к униатскому вероисповеданию. Этот факт и стал причиной прекращения поддержки деятельности музея со стороны православного духовного ведомства. Уже в начале XX в. фонды музея практически перестали пополняться новыми материалами. В 1919 г. собрание древнехранилища было передано Витебскому губернскому музею (теперь — Витебский областной краеведческий музей), а часть экспонатов позднее перевезена в г. Минск.

*В. Поздняков, Т. Бубенько.* **Фибулы древнего Клецка**

Среди находок из раскопок древнего Клецка, центра удельного княжества Туровской земли, выделяется группа подковообразных застежек-фибул, которые важны для определения времени возникновения города. В Клецке найдено 8 фибул, больше, чем в любом другом городе Туровской земли. Три клецкие фибулы изготовлены из железа, имеют спиральнозагнутые концы и ромбическую в сечении дужку; датируются X—XI вв. Три фибулы аналогичного типа изготовлены из бронзы и также тяготеют

к X—XI вв. Одна бронзовая фибула с треугольной в сечении дужкой датируется в пределах X—XIII вв. Не найдены аналоги фибуле с треугольной в сечении дужкой с выступами и с концами в форме усеченной пирамиды. Игла изделия была из железа. Данная фибула изготовлена из свинцово-оловянистой бронзы, которая поступала из Швеции. Находки фибул вкупе с другими данными позволяют датировать возникновение поселения на месте Клецка X в.

### *В. Шаблюк.* Замок в Свержне

Для средневековой Беларуси замки являлись обязательным элементом в структуре населенных пунктов. Многие замки того времени представляли собой высокие образцы фортификационного искусства, были связаны с важнейшими историческими событиями и относятся сегодня к памятникам истории и культуры. Наряду с ними существовали и небольшие, чаще всего деревянные замки, которые просуществовали недолго и в настоящее время сохранились лишь как археологические объекты. К числу таких относится и замок около местечка Новый Свержень (Столбцовский р-н Минской обл.), который сегодня практически не прослеживается на местности. Благодаря археологическим исследованиям и архивным источникам установлено, что замок был основан в первой половине XV в., а к 60-м годам XVI в. уже утратил свое стратегическое значение. Для замковых укреплений были использованы естественные возвышения на пойме Немана, а для укрепления его военных функций насыпан вал и прорыт ров. Данный замок не являлся хозяйственным или административным центром округи, а служил сугубо в качестве оборонительного пункта.

### *Людмила Дучиц.* Каменные кресты

Статья посвящена малоизученной категории археолого-этнографических памятников — каменным крестам на территории Беларуси. Они известны при дорогах, по краям деревень, на кладбищах, на местах битв. Еще и

сегодня крестам носят дары (монеты, лен, цветы, еду). О них рассказывают предания.

Известно о 200 местонахождениях таких памятников, но часть из них была уничтожена в советские времена. Кресты стали появляться вместе с распространением христианства. Они ставились на местах уничтоженных языческих святилищ и при возведении храмов. Самыми древними считаются туровские кресты. Согласно легенде, они приплыли из Киева вверх по Припяти. Ко временам двухверья относятся кресты-идолы (Долгиново Вилейского, Грабовцы Жабинковского, Голошево Толочинского районов). К XII—XIII вв. можно относить кресты, которые стоят на курганах (Зеленка Глусского, Докучино Крупского, Харчичи и Дулебы Березинского районов).

Большое количество крестов известно на позднесредневековых кладбищах (Вята и Дисна Миорского, Слобода Докшицкого районов). На многих каменных крестах есть надписи, знаки, рисунки. Среди таких памятников выделяются кресты в Витуничах Докшицкого, Сокорово Бешенковичского, Вендорож Могилевского, Купятичи Пинского, Стража Кировского районов. Особенно ценны кресты возле Витунич и Стражи. На витуничском кресте схематическое изображение короля-воина, а в Страже — барельефное изображение человека в жупане.

Каменные кресты требуют еще всестороннего изучения, особенно надписи и знаки на них.

## *Э. Левков*, *А. Карабанов, Л. Дучиц, Э. Зайковский, В. Винокуров.* **Культовые камни Беларуси**

На территории Беларуси, особенно в северной и центральной ее частях, широко распространены валуны, среди которых много культовых. Сведения о культовых камнях встречаются в письменных источниках начиная с XVI в. (Хроника Литовская и Жмойтская, Хроника М. Стрыйковского, Литовская Метрика и др.). Большое внимание культовым камням уделяли исследователи XIX—начала XX в. Работу по учету таких памятников проводил Инбелкульт в 20-е годы XX в., но только часть этих сведений была опубликована. В последние десяти-

летия изучением культовых валунов занимаются авторы статьи. На сегодняшний день учтено более трехсот культовых валунов, более ста местонахождений каменных крестов и около тридцати каменных языческих идолов.

Вся разновидность культовых камней подразделяется на 2 типа: культовые валуны и культовые изделия из валунов. Первый тип состоит из пяти классов: магические валуны (фетиши), анимистичные валуны (оборотни), авистичные валуны (дедовики), деистичные валуны (боговики), криптогенные валуны с ямками, выемками, надписями, знаками, рисунками. Культовые изделия из валунов подразделяются на культовые постройки из валунов, каменные кресты и идолы.

Изучение этой группы памятников позволяет глубже понять особенности духовной культуры белорусов.

### *Ю. Гордеев.* **К вопросу формирования гродненской урбанонимики (конец X—30-е годы XX в.)**

Статья посвящена изучению исторических названий улиц, площадей и других элементов урбанонимики одного из древнейших городов Беларуси Гродно. На основе как опубликованных, так и архивных материалов автор прослеживает эволюцию городской топонимики начиная с эпохи средневековья до настоящего времени. При этом особое внимание уделяется происхождению названий улиц и площадей Гродно. Этот вопрос автором рассматривается в тесной связи с развитием планировочной структуры города и ставится в зависимость от изменения политической ситуации.

### *А. Киштымов.* **Экономические условия формирования белорусской нации в конце XVIII—50-х годах XIX в.**

В статье на основании новых методологических подходов и оригинального исторического материала прослежена взаимосвязь экономического развития белорусских губерний в конце XVIII—50-х годах XIX в. и процесса формирования белорусской нации.

Дан анализ феодальной системы землевладения как доминанты социально-экономической жизни белорусов в этот период. Показана эволюция аграрного производства Беларуси, в том числе и возникновение ее новых характерных черт: картофелеводство, расширение производства технических культур, специализация животноводства. Рассмотрен типичный облик быта и агрокультурной деятельности белорусского крестьянина, подчеркнут слабый запас экономической устойчивости крестьянского хозяйства.

Подробно проанализирована такая особенность белорусской экономики, как преимущественное размещение промышленных предприятий в сельской местности. Приведены данные о национальном составе предпринимателей и рабочих Беларуси в первой половине XIX в. Показано развитие путей сообщения и изменения в ориентации, составе и формах белорусской торговли. Охарактеризован ход урбанистических процессов и их место в формировании белорусской нации.

Сделан вывод, что в целом социально-экономические условия конца XVIII—первой половины XIX в. сдерживали процесс развития белорусской нации. Вместе с тем в социально-экономической жизни Беларуси этого периода прослеживается ряд устойчивых признаков, которые в дальнейшем стали типичными белорусскими национальными экономическими чертами.

### *А. Метельский.* **К вопросу об антропогенных и природных границах Витебской земли XII—XIII вв.**

В статье на основании анализа письменных, археологических, лингвистических источников, с привлечением данных топонимии и физико-географического районирования делается попытка реконструкции границ Витебской земли XII—XIII вв.

Анализ вышеперечисленных источников свидетельствует, что границы административно-территориальных единиц, расположенные на северо-востоке современной Беларуси, известные по письменным источникам середины XVI в., в значительной степени повторяют рубежи, которые начали складываться еще в эпоху каменного и

железного века и соответствуют естественным природным рубежам. На этой основе, применяя ретроспекцию, а также отдельные письменные источники, относящиеся к вопросам исторической географии XII—XIII вв. этого региона, автор реконструирует границы Витебского княжества.

В физико-географическом плане Витебская земля XII—XIII вв. располагалась на Витебской и Невельско-Городокской возвышенностях и была окружена со всех сторон низинными районами, которые и являлись ее рубежами.

### *А. Сaганович.* **Беларусь и Немецкий орден (до Кревской унии 1385 г.)**

Статья посвящена борьбе Великого княжества Литовского с Тевтонским орденом от начала экспансии последнего до 1385 г., завершившего классическую эпоху в истории немецкого рыцарства в Пруссии. Задавая контекст белорусско-литовского государства в целом, автор концентрирует внимание на самом малоизученном — событиях, связанных з землями Беларуси. В основу работы легли сообщения орденских хронистов и исследования немецких историков. Определяются основные этапы военного противостояния Великого княжества и Немецкого ордена. Прослеживается большинство известных по источникам походов на белорусские земли и уточняются их обстоятельства. Освещаются некоторые наиболее характерные черты военных экспедиций против "неверных". К статье прилагается сводная хронологическая таблица походов, совершенных контингентами Ордена на территорию Беларуси.

### *М. Спиридонов.* **Беларусь на карте Великого княжества Литовского 1613 г.**

В статье исследуется вопрос о степени соответствия данных карты Великого княжества Литовского, изданной в 1613 г., о населенных пунктах, которые обозначены на

территории Беларуси (в границах Республики Беларусь), действительному положению.

В результате идентификации и локализации населенных пунктов карты 1613 г. установлено, что на территории Беларуси обозначен 341 населенный пункт, или 62,8% всех (543) поселений, отраженных на этой карте. Из 341 поселения 24 (7,0%) обозначены как "города", 291 (85,4%) — как "местечки" и 26 (7,6%) — как "села с панскими дворами".

Репрезентативность данной карты определяется путем сравнения всех ее существенных характеристик населенных пунктов (название, тип поселения, административное и иное значение, административно-территориальная принадлежность) с соответствующими данными источников в основном второй половины XVI в. В частности, установлено, что часть ее сведений о некоторых населенных пунктах не соответствует данным современных ей источников.

Таким образом, карта является насыщенным информацией о населенных пунктах источником. Однако, учитывая значительное противоречие ее данных соответствующим сведениям других источников, использовать ее необходимо только критически.

Органические части статьи составляют четыре приложения: 1 — Карта Великого княжества Литовского 1613 г. Копия. Фрагмент; 2 — Карта: Беларусь на карте Великого княжества Литовского 1613 г.; 3 — Список населенных пунктов Беларуси, которые обозначены на карте Великого княжества Литовского 1613 г., с дополнительными историческими сведениями; 4 — Таблица: Польские названия населенных пунктов Беларуси, которые обозначены на карте Великого княжества Литовского 1613 г.

### *М. Спиридонов.* **Сделки на крестьян усадьбы Докшицы: комментарий и три акта (1557 и 1560 гг.)**

В статье на основе анализа данных архивных источников середины XVI в. рассматриваются факты реализации права собственности феодалов на землю и крепостных крестьян, гарантированного законодательством ВКЛ.

Земельные сделки феодалов свидетельствуют о том, что феодальное право и практика рассматривали крепостных крестьян как неотъемлемую принадлежность имений и полную собственность панов. Поэтому они и были объектом разных имущественных сделок феодалов. Освещаются также некоторые другие аспекты положения крестьянства Беларуси: основные повинности, структура "служб" — единиц обложения феодальными повинностями, превращение крестьян-данников в "людей тяглых", главной повинностью которых была барщина.

В качестве приложений впервые публикуются официальные копии текстов трех договоров ("листов") феодалов о последовательной продаже имения Докшичи Ошменского повета 7 августа 1557 г., 23 апреля 1560 г. и 9 ноября того же года.

# ЗМЕСТ



Навуковае выданне

**З ГЛЫБІ ВЯКОЎ. НАШ КРАЙ**

**Гістарычна-культуралагічны зборнік**

**Выпуск 2**

Рэдактар *В. І. Марціновіч.* Мастак *А. Е. Анкуда.* Мастацкі рэдактар *Л. М. Гаманаў.* Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен.* Карэктар *З. Я. Губашына*

Падпісана ў друк 2.07.97. Фармат 84×108 1/32. Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 12,60 + укладка 0,42. Ум. фарб. адб. 13,23. Ул.-выд. арк. 13,56. Тыраж 1000 экз. Заказ 822.

Дзяржаўнае прадпрыемства выдавецтва "Беларуская навука" Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 1294 ад 16.07.96 г.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў дзяржаўнага прадпрыемства выдавецтва "Беларуская навука" ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.